ББК 84 (4Беи)6
С 99

УДК 882.6—94

М $\frac{8820600000 — 074}{302 (03) — 94}$ 137—94
ISBN 5-340-01314-6



## АД АЎТАРА

*У тваіх руках,*
*паважаны чытач,*
*«Масеева кніга»,*
*створаная з агледзін*
*крыжовай дарогі*
*майго чалавечага лёсу,*
*з назіранняў*
*за літаратурным працэсам*
*на далёкай Бацькаўшчыне,*
*з тужлівых пачуццяў вяртання*
*праз дзесяцігоддзі...*
*Паводле першапачатковай задумы*
*кніга мелася быць*
*у нейкай ступені філасофскай,*
*менавіта Масеевай кнігай.*
*І калі ёй*
*не ўдалося стацца такой,*
*дык асабістай яна сталася*
*ў поўнай меры: на яе старонках*
*аўтар паспрабаваў выказаць*
*сваё патаемнае, чутае душой.*
*Маім адзіным жаданнем*
*было — сцвердзіць сябе,*
*гэта значыць выказаць сябе*
*абсалютна свабодна*
*ў закранутых пытаннях.*
*У кнізе, у яе цэнтры,*
*ляжыць нібы другая,*

*асобная кніга —*
*«біблейскія» вершы і пераклады.*
*Ладна*
*дапоўнілі кнігу лісты —*
*мае і мной атрыманыя.*
*За радкамі бачацца людзі,*
*высвечваецца час,*
*угадваецца і сам аўтар,*
*не важна як —*
*адмоўна ці дадатна.*
*Ён свядомы*
*ў адной далікатнасці:*
*пытанні публікацыі лістоў.*
*І дзеля гэтага*
*ягоным адзіным клопатам*
*было захаванне карэктнасці.*
*Ствараючы «Масееву кнігу»,*
*аўтар песціў думку,*
*што ёю зацікавіцца хтось*
*на далёкай Радзіме.*

*1992*

# АДКРЫЦЦЁ БАЧЬКАЎШЧЫНЫ



## *З МЕНСКУ — У МІНСК*

### 1

Хачу напісаць пра свае нядаўнія адведзіны Мінска, пра сваю сустрэчу з Беларуссю. Хачу — і не магу. Пачаў ужо і тут жа адклаў. Не выходзіць. Не асэнсаваў яшчэ матэрыялу, не ўсё яшчэ адклалася. Паспрабую дзеля гэтага паглядзець на свае адведзіны эмацыянальна. Бяру сённяшні Мінск. Я не пазнаў яго. У маёй памяці застаўся стары Менск — малы, больш утульны, асабісты, беларускі Менск, Менск пачатку 30-х гадоў, *мой Менск*. У ім я вучыўся, марыў, спадзяваўся, жыў у чаканні нечага вялікага, што мае вось сёння ці заўтра здзейсніцца. Я любіў яговыя вуліцы і завулкі. Мне, сялянскаму хлопцу, ён быў зразумелым і ў нечым — родным. Гэта нішто, што ў тым Менску быў я галодным. Я перамагаў свой голад мацнейшай за голад прагай увасобіцца, знайсці сябе, так бы сказаць, у гісторыі. У Менску месцяцца — о святая наіўнасць! — рэдакцыі сталічных газетаў і часопісаў. Я ў кожную з іх занясу свае вершы, і калі не ўсюды, дык хоць у адным з гэтых выданняў з'явяцца мае творы і праз іх з'яўлюся і я, здзейснюся. З вясковай глушы я прыйшоў у беларускую сталіцу менавіта здзейсніцца, калі прызнацца — перад усім у літаратуры.

Праходжваюся па Савецкай, часцей на тым адцінку яе, дзе Дом пісьменніка. Назіраю, як туды ўваходзяць і адтуль выходзяць людзі, думаю — усе паэты і пісьменнікі. Купалу, Коласа, Чарота я па-

знаю — яны амаль такія, якімі я запомніў іх з фатаграфій у маіх школьных падручніках. Яны свяціліся са сцен класаў у нашай сямігодцы.

Ага, вось выйшаў з Дому пісьменніка чалавек у белым вясеннім касцюме, з пухлай, трохі звіслай на бок шчакой, бліснуў пры ўсмешцы залатым зубам, мне сказалі — гэта Сымон Баранавых, рэдактар часопіса «Беларусь калгасная». Я прачытаў ужо ягоную аповесць «Чужая зямля», і мне яна спадабалася. Я ўжо абагаўляю яго.

І што б вы думалі — і па сённяшні дзень ён стаіць у маіх вачах такім жа самым: увесь у сонцы, у белых нагавіцах, з усмешкаю, якая, здаецца, выдала ягоную таямніцу — залаты зуб, і той, абрадаваны, што вызваліўся, бліснуў сваёй залатой іскрынкай. Калі мне пазней давялося разам з Баранавых ехаць у Сібір, у «цяплушцы», усё роўна ранейшы вобраз пісьменніка — радасны, вясёлы — засланяў у мяне ягоны пакутлівы, рэальны вобраз.

Або вось ідзе з кіем стройны, яшчэ малады, удумлівы, з сашчэпленымі моцна вуснамі, Уладзімір Хадыка. На выгляд горды, ёнківае галавой, папраўляючы свае прыгожыя русявыя валасы. А от ягоны светлы вобраз шарэе, калі бачу Хадыку каля грубкі ў бараку ў Новаіванаўскім лагеры. Хворы, ён мёрз і не адыходзіўся — нават уначы — ад гэтага ачага цяпла. Мне чамусьці прыгадваюцца ягоныя радкі: «І ў сэрцы тога не зглушыць, што перасніў я, перадумаў».

Ну, а вось Купала. Іду за ім назіркам усё па той жа Савецкай. Ён ідзе паволі, коратка спыняючыся ля вітрынаў. Тады мне ўдаецца пабачыць яго ў профіль. Для каго-небудзь іншага гэта быў бы звычайны профіль. Для мяне ж гэта быў цуд, які пабачыў я ўпершыню. Мне здалося, што Купалаў профіль павярнуўся да мяне ўсёй Беларуссю. Якое гэта шчасце магчы бачыць цуд!

Якуба Коласа я ўспрымаю выключна пачуццёва. Стаўляў сябе на месца Сымона-музыкі ці на месца Сцёпкі за парогам. Расчулены, чытаючы гэтыя творы, плакаў. На юбілей Якуба Коласа, памятаю, склаў юбіляру свой верш. Праслухаўшы яго ў маім чытанні, жонка Якуба Коласа, побач з якой я сядзеў, узнагародзіла мяне сваім: «Сардэчны верш». Для мяне гэта было больш залатога медалю.

А вось недзе на Савецкай з падвалу, з нейкай кухні, патыхае смачным, дражлівым куродымам. Галодны, уцягнуўшы яго ў сваё нутро, п'янею. Пачаўшыся было на хаду, верш абарваўся, перапыніўся.

Але гэта быў *мой Менск.*

300 грамаў хлеба на дзень, што па картцы належала мне, студэнту, я з'ядаў па дарозе, яшчэ не дайшоўшы да інтэрнату. Ды нішто!

Гэта быў *мой Менск.* Мая сталіца. У ёй пачалі з'яўляцца ў друку мае першыя вершы. Калі пабачыў свой верш, упершыню надрукаваны ў «ЛіМе», здалося мне — падраслі дамы паабапал Савецкай, сталі вышэйшымі.

Адкрытыя лісты Янкі Купалы і Якуба Коласа, у якіх яны каяліся ў сваіх «нацыяналістычных» грахах, загартоўвалі нас, іх аўтары выраслі ў нашых вачах у пакутнікаў за нацыянальнае. А калі Дом пісьменніка на Савецкай апусцеў — там ужо нельга было пабачыць шмат каго з ягоных наведвальнікаў (яны былі перасялены ў іншыя «дамы»),— я адчуў, што *мой Менск* канчаецца. І я спяшаўся жыць. Ішоў туды, куды пайшлі іншыя. Хоць для Беларусі яшчэ нічога я не паспеў зрабіць, ды, апынуўшыся за кратамі, думаў, што і я сяджу за Беларусь. Узвышаў сябе тым, што ў *маім Мен-*



2. Зак. 5347.

*ску* давялося і мне прычасціцца беларускім духам. Ды, вывезены на Калыму, думаў, што ўжо ніколі не пабачу *майго Менску.*

## 2

А от давялося ўсё-такі пабачыць. Праз паўстагоддзя. Не думаў, што такое калі-небудзь можа здарыцца. Проста не дапушчаў такога. Не верылася — шмат было ўціску, здзеку, варожасці і ахвяраў, каб можна было паверыць. Але час апярэдзіў мяне і адчыніў магчымасць вярнуцца... у мінулае? Не, мінулага няма. На двары стаіць новая эпоха, незразумелая мне. Старога Менску, *майго Менску,* няма. Ёсць Мінск, вялікі, прыгожы горад заходнееўрапейскага тыпу, з шырокімі вуліцамі і цудоўнымі плошчамі, але ўжо незразумелы, чужы мне. Я не паспеў яго яшчэ палюбіць — быў паглынуты адным: як буду прыняты я новым Мінскам, маладым пакаленнем і — калі зусім шчыра — новай (а мо старой?) уладай. Але страх мой быў дарэмным — прыняты быў я надзвычай добра, прыхільна, а самымі малодшымі, напрыклад, сябрамі літаратурнага аб'яднання «Крыніца», што існуе пры газеце «Чырвоная змена», нават, сказаць бы, з энтузіязмам.

Адведзіны музеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, гутарка з працаўнікамі музея, напрыклад, сынам Якуба Коласа Данілам Міцкевічам і спадарыняй Тамарай Андрэеўнай Сачанка, мілымі і дасведчанымі людзьмі, адрадзілі мяне і ў нейкай ступені вярнулі ў колішні *Менск.*

Былі вялікай падзеяй для мяне і адведзіны рэдакцый такіх беларускіх выданняў, як «Маладосць», «Полымя», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Голас радзімы», а таксама рэдакцыі рускамоўнай маладзёжнай газеты «Знамя юности». У кожнай з іх адбылася сустрэча з супрацоўнікамі. Закраналіся самыя разнастайныя пытанні, у тым ліку заўсёды роспыты пра жыццё і дзейнасць беларускай эміграцыі, пра маю сціплую асобу. Я быў прыемна ўражаны новым падыходам да беларускай праблематыкі, смеласцю думкі, адкрытасцю. Гавару «смеласцю думкі», бо мяне ж навучылі баяцца, і пачуць самастойную думку было для мяне прыемнай навіной. І гэта натуральна: страх — не лепшы дарадца.

Цікавым быў мой візіт і ў рэдакцыю газеты «Знамя юности». Вынікам сустрэчы было інтэрв'ю, падрыхтаванае супрацоўніцай газеты Галінай Айзенштадт. Неспадзеўкай было для мяне пачуць з вуснаў рэдактара газеты дасканалую беларускую мову. Дарэчы, ад нядаўняга газета дае некалькі разоў на месяц старонку па-беларуску.

Акрыліў мяне і вечар у Доме літаратара. Вершы, якія я там чытаў, успрымаліся (паводле майго адчування) актыўна, дружна, а часам і бурна, як, напрыклад, калі прачытаў верш, што канчаўся радкамі: «Я хачу, каб у нас былі нашы імператары і каралі». Яны ўскалыхнулі аўдыторыю. Вечар дадаў мне ўпэўненасці ў самім сабе, скажу — нават узняў мяне самога ў сваіх уласных вачах.

Але я мусіў бы пачаць гэты свой опус з падзякі майму земляку, пісьменніку Васілю Фёдаравічу Хомчанку, які запрасіў мяне і дзякуючы запрашэнню якога мне ўдалося наведаць сваю Бацькаўшчыну. У гутарках з Васілём мы заглядалі ў сваю маладосць, у стары, ранейшы Менск. У 1936 годзе доля звяла нас у падвальнай камеры на рагу Савецкай і Урыцкага. Тая камера цяпер замураваная, і калі цяпер мы глядзелі на тое замураванае месца, нам здавалася, што і мы замураваныя там навекі.

Абмінуў, не прыгадаў яшчэ я тут дбайнага, умелага, дасведчанага арганізатара майго паломніцтва ў святыя месцы — пісьменніка Барыса Іванавіча Сачанку. Дзякуючы яму я пабываў усюды, дзе хацеў. Шчыра ўдзячны яму за клопат, увагу, разуменне, за ўступнае слова на вечары ў Доме літаратара, за гутарку, якую ён правёў са мной і якая мае быць надрукаванай у часопісе «Маладосць».

Дазволю сабе яшчэ раз вярнуцца да *майго Менску.* Менск — гэта мой лёс, у ім я жыў, паміраў і ў ім цяпер нібы ўваскрос. Але Менск — гэта не толькі мой лёс. Гэта лёс цэлай нашай літаратуры, лёс ейных творцаў, у вялікай колькасці — фатальны лёс. Мінск — гэта, можна сказаць, калыска нашай новай літаратуры і адначасна — ейная Галгофа.

Дык вось з старога Менску, з *майго Менску,* я наведаў новы, малавядомы мне Мінск, я сказаў ужо — прыгожы, шыкоўны горад, які мне трэба яшчэ вывучыць, палюбіць. Ды ўсё ж, калі я хадзіў ці ездзіў па ім — аўтобусам, тралейбусам, метро, машынай,— прыглядаўся, прыслухоўваўся, напрыклад, да суцэльнай *небеларускай* гаворкі, да саміх людзей, добрых, цярплівых, міласэрных і прыгожых, мне неяк міжволі прыходзіла думка — з'ехала некуды Беларусь, тая, што я ведаў, і пытаўся ў сябе самога, ці вернецца яна і калі?..

*1990*

## АДКРЫЦЦЁ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Незвычайная істота чалавек — ягоная здольнасць ужывацца. Пажыве дзе, і глядзі — пушчае сваё карэнне, прырастае, звыкаецца з дадзеным асяроддзем. І няма ніякага дзіва — гэткая ягоная



здольнасць дапамагае яму выстаяць, дзе б ён ні апынуўся. Такая чалавечая якасць асабліва ў добрай нагодзе эмігранту. Страціўшы сваю Бацькаўшчыну, ён змушаны шукаць сабе прыстанішча ў нейкай іншай краіне. Пашанцавала яму знайсці яго, ён не траціць часу дапасавацца да яе і не толькі дапасавацца, а і знайсці ў ёй — наколькі гэта магчыма — сабе другую Бацькаўшчыну. І глядзі — чалавек ужо ўжыўся і на новым месцы, пусціў карэнне: нарадзіў дзяцей, прырос пупавінай, а там — набыў і грамадзянства. Вы — болей як бы не эмігрант. Вы ўжо ўжыліся, як кажуць вучоныя, у інфраструктуру вашай новай Бацькаўшчыны, авалодалі мовай, пазнаёміліся з гісторыяй, культурай і звычаямі вашай прыдбанай краіны, вы спасцігглі псіхалогію невядомага дасюль вам народа, і гэты народ стаўся ўжо для вас блізкім, сваім, вы палюбілі яго, у вас заіснавала з ім гармонія і вы ўжо пачынаеце пакрысе забываць краіну вашага паходжання. Яшчэ мінаюць гады, і затушоўваецца твая старая Бацькаўшчына, ад яе ўжо бадай нічога не засталося ў тваіх пачуццях, ты ўжо выкрасліў яе са сваёй памяці. Ты пражыў ужо паўстагоддзя на новай Бацькаўшчыне, і старая не сніцца табе нават у снах. Ты зачыніў яе.

Але неспадзявана табе выдарылася нагода наведаць сваю старую, забытую ўжо Бацькаўшчыну. Ты ехаў да яе з няпэўным адчуваннем: што цябе сустрэне там? Ты насцярожаны. Ты як бы сам не свой. Ты пакінуў за сваімі плячыма прывычную, знаёмую ўжо табе новую Бацькаўшчыну, у якой засталіся твае дзеці, унукі, праўнукі і на могільніках якой спачываюць ужо твае крэўныя, а тут ты набліжаешся да чагосьці ўжо табе незнаёмага і няпэўнага. Ты разгублены. Але ты ўжо прызямліўся на некалі пакінутай табой зямлі. Не па-

спеў ты ступіць з самалёта на сходкі, як цябе агарнула лагода нейкага нязнанага дасюль паветра. Ты ўдыхнуў яго, і ў цябе закружылася галава, ты на вокамгненне як бы перастаў існаваць. З неабсяжных прастораў тхнула п'янкім водарам скошаная трава. Знаёмая табе з маленства духмянасць сена скаланула тваю душу далёкім успамінам. Яна азвалася нез'яснёнай радасцю і салодка-шчымлівым болем. У бліжняй вёсцы заспяваў певень, нібы прывітаў цябе. Ты пачуў знаёмую табе гамонку, і ты нібы прачнуўся з бясконца доўгага сну. Гэтае «прачнуўся» і было раптоўным адкрыццём заглохлай было ў табе першароднай Бацькаўшчыны. Але чалавек — дзіўная істота. Тут жа, трохі ацверазелы, ты пачаў усведамляць, што ў цябе ж ёсць там, за акіянам, яшчэ адна Бацькаўшчына, дзе ты пакінуў сваіх крэўных, і ты неспадзявана для сябе — распалавініўся, раздваіўся на дзве непрымірымыя палавіны.

О, які гэта боль! Якое засмучэнне агортвае цябе! Ты тут і там. А гэта, можа быць, нідзе. Распалавініцца, значыць — страціць цэласць.

*1990*

## МЫ НЕ МОЖАМ ТАПТАЦЦА Ў МІНУЛЫМ

Няма мовы: наш народ своеасаблівы. Надта своеасаблівы. Адна з рыс гэтай своеасаблівасці — неўспрыманне свае гісторыі, нячуласць да яе. Прыкладам, нашыя гісторыкі даводзяць народу нашаму, што беларус быў некалі слаўным, меў свае гаспадарства — Вялікае княства Літоўскае, што ў гэтым княстве, у гэтай дзяржаве беларус быў сам сабе гаспадаром, панаваў у ім. Прыгадайма Купалаў радок: «Ты жыў, ты панаваў у краі родным». Даводзім таксама беларусу, што ў Вялікім княстве Літоўскім беларуская мова была пануючай, дзяржаўнай, бо на ёй было створана заканадаўства ў выглядзе Літоўскага Статута. Больш таго, час знаходжання беларускага народа ў Вялікім княстве Літоўскім некаторыя нашы гісторыкі ўважваюць «залатым векам».

Пра гэты залаты век пісалі і нашыя слаўныя паэты. Напрыклад, у Алеся Гаруна мы знаходзім:

Ў старыну беларус, не падданы,
Гаспадарыў, быў сам
над сабою.
І далёка у свеце быў знаны
За літоўскай і ляшскай зямлёю.

Янка Купала не менш натхнёна праслаўляў той залаты век:

Ты жыў, ты панаваў у краі
родным,
Сцярог ад чужака й законы
укладаў,
Звон вечавы сход склікаваў
народны,
І сход аб шчасці Бацькаўшчыны
дбаў.

Але дзіўна — усё гэта наш народ, гаворачы словамі Янкі Купалы, нібы кінуў у няпамяць. Забыў. І колькі б мы ні намагаліся ўдзяўбці беларусу ідэю пра ягонае слаўнае мінулае, ён застаецца глухім да свае гісторыі.

Згадайма нядаўна шырока адзначаны 500-гадовы юбілей слаўнага сына зямлі Полацкай — Францішка Скарыны. Не надта ён зварухнуў наша грамадства.

Без асаблівага энтузіязму — прызнайма — паставіўся беларус і да свае дзяржаўнай атрыбутыкі — Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга. Акрамя

энтузіястаў, што горача выступілі за гэтую атрыбутыку, у сваёй масе беларус захаваў сваю спрадвечную інертнасць.

Не ўзняла беларускага патрыятызму і наша прапаганда Кастуся Каліноўскага і Т. Касцюшкі. У гістарычных творах Уладзіміра Караткевіча беларус не пазнае сябе.

Агітуем за адраджэнне, але адраджэння, актыўнага працэсу адраджэння, на жаль, няма. Няма дынамікі. Няма руху. Ёсць статыка. Агулам беручы, беларус як бы выключыў сябе з гісторыі, застаўся па-за ёю.

Больш як 70 год таму Янка Купала ў сваім вершы «Майму народу» пісаў:

Сягоння ўсё спіць і зарастае
зеллем,
Сцярэч свой край няма ні сцен,
ні рук.
Званы вячовы змоўклі,
анямелі,
Ў ярме сагнулі людзі плечы
ў крук.

Не шмат чым адрозніваецца становішча на нашай Бацькаўшчыне і сёння. Канешне, палітычная сітуацыя сёння іншая і, можа, нават не такая безнадзейная, як я яе тут намаляваў. Хачу верыць, што сапраўды не такая безнадзейная: ёсць усё-такі сімптомы нацыянальнага абуджэння, ёсць паварот — хоць яшчэ няўцямны — да ўсведамлення сябе як народа. На гэтае нацыянальнае ўсведамленне працавалі і працуюць — і хвала ім — нашыя гісторыкі, настаўнікі, публіцысты, паэты і пісьменнікі, у прыватнасці той жа Уладзімір Караткевіч. Гэтага нельга адмаўляць. Але глухата, неўспрымальнасць, нячуласць застаюцца і надалей нашай сур'ёзнай праблемай.



Я сказаў, ёсць сімптомы нацыянальнага абуджэння. Так, ёсць. Але не больш. Няма каму будзіць. Няма Правадыра. Правадыра, які падслухаў бы, чым сёння жыве душа беларуская. Падслухаў бы — і павёў. Нам патрэбен Правадыр, патрэбен сённяшні — а не ўчарашні — Кастусь Каліноўскі! Не з-пад шыбеніцы, а Кастусь Каліноўскі з трыбуны беларускага парламента. Каб сённяшняга Каліноўскага пачуў знявераны беларускі народ і пайшоў за ім. Я малюся: «Прыйдзі! З'явіся! Паўстань!», «Паўстань, з народу нашага прарок!»

Толькі такі Прарок можа вывесці нас з «па-за гісторыі», вярнуць у гісторыю. І сцвердзіць сябе ў сучаснасці.

У нас ёсць партыі, але няма сапраўднай, дзейснай партыі ці партый, што, аб'яднаўшы ў сваіх шэрагах шырокія пласты нашага народа, былі б падмогай нашаму сучаснаму Каліноўскаму.

Ці магчымы ў нас такі Каліноўскі? Магчымы. Але тады толькі, калі ён мужна гляне ў вочы сучаснасці, возьме курс, што ўзняў бы наш народ, курс, што выклікаў бы актыўнасць, стваральную дзейнасць, курс, прадыктаваны патрэбамі сённяшняга і заўтрашняга дня.

Мы не можам таптацца ў мінулым. Наш народны фронт «Адраджэнне» — гэта, па сутнасці, пагляд назад, а не наперад. Ён жыве арэолам мінулага. У такім адраджэнні няма самага галоўнага — творчасці. Наша адраджэнне захрасла, задыхнулася ў гісторыі, у тым ліку — у пытаннях рэлігіі. Адраджэнне тады адраджэнне, калі яно творчасць. Архаікай жыць немагчыма.

Загляньма, панове, у вочы сучаснасці!

*1991. Глен-Коў*

## СУМ ПА ДУХОЎНЫМ ПАНТЭОНЕ

Нацыянальнае будаўніцтва пачынаецца з Духу. Не з эканамічнага базісу, а з Духу як жыватворчага пачатку. Без такога пачатку, без Духу як прымату, нельга ўявіць жыцця нацыі. Дух — гэта тое, што цэментуе нацыю і вызначае ейную (адметную) сутнасць. Дух — гэта тое, што актывізуе стваральную дзейнасць нацыі, больш таго, Дух фарміруе нацыю. Дух — гэта (паводле яўрэйскага «руах») павеў, што, як вецер, ахоплівае нас. Гэтым Духам-павевам прычашчаецца нацыя.

Ці ёсць у нас, беларусаў, такі Дух, такі павеў, якім бы мы прычашчаліся? Ёсць. Безумоўна, ёсць. Ён дадзены нам звыш. Мы нарадзіліся з ім, такім, які маем, Духам. Ён, гэты Дух, не набыў толькі ў нас дастатковага гарту. Яго трэба гартаваць. Гартаваць, як тую сталь. Апостал Павел заклікаў «духам палымнець».

Мы яшчэ гэтым Духам не палымнеем. Мы яшчэ чакаем узруху гэтага Духу, што перайшоў бы ў рух.

У нас няма капілкі Духу. Свайго нацыянальнага Пантэона, Тэмпеля, Храма. Ён толькі яшчэ ў зародку. Гаворка ідзе тут не аб каменным, а аб духоўным Пантэоне ці Храме. Без яго цяжка ўявіць нацыянальнае адраджэнне. Наш Пантэон заселены толькі паганскімі багамі, і дзіўна — у нашым адраджэнскім руху заўважаецца апошнім часам паварот да пантэізму, зварот у дахрысціянскую пару (Дзяды, Купалле, іншыя культы). І гэта ў той час, калі мы гаворым аб духоўным адраджэнні нашага народа.

Падчас вайны давялося мне пабачыць на нейкім ушчэнт разбітым вакзале ў Нямеччыне прыбітую высока на сцяне карціну: уся Нямеччына ляжыць у руінах, і толькі над гэтымі руінамі як запэўненне нязломнасці Духу — вобраз-выява Гётэ.

У нашым духоўным Пантэоне няма яшчэ свайго Гётэ. Над нашымі руінамі сімвалам выратавання не ўзняўся яшчэ беларускі Гётэ. У нас яшчэ толькі адбываецца працэс накаплення нацыянальнага Духу, нясмелае заснаванне яго. Наш нацыянальны Дух не набыў яшчэ той палымянасці, аб якой гаварыў апостал Павел. Мы знаходзімся цяпер у пошуках такога стану, пры якім успыхнула б іскра, што запаліла б паходню нашага Духу. Над нашай пакутнай, але прыгожай зямлёй мусіць узняцца Агонь Духу. У гэтым Агні Духу і адбудзецца другое нараджэнне нашай нацыі, яе ўваскрашэнне.

*1992*

## ЮБІЛЕЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ

*(Зблізку ад Коласа і Купалы)*

### 1

Можна смела сказаць, што Я. Колас і Я. Купала адразу ж, яшчэ ў школьныя гады вызначылі ў ладнай меры маю жыццёвую пуцявіну — у нацыянальным і літаратурным сэнсе. Праўда, тое «нацыянальнае» тады не ўсведамлялася: яно было самой існасцю. Заўважу, што калі каго трэба ўсведамляць, дык гэта ўжо не зусім добра само па сабе — такая «ін'екцыя» не заўсёды ўдаецца. І мяне ніхто не ўсведамляў. Я самаўсвядоміўся. І ўсё ж немагчыма ўявіць майго самаўсведамлення без Коласа і Купалы.

Я паставіў Коласа на першае месца. Думаю, што Коласава ўздзеянне на школьнікаў большае, чымся Купалава. А калі вы і самі спрабуеце пісаць,

дык гэта яшчэ тым больш зразумела: у Коласа (празаіка і паэта) ёсць вобразы, сіла ўздзеяння якіх досыць вялікая і прывабная, каб загаварыць маладога летуценніка. Вы можаце ўявіць сябе Сымонам-музыкам з усёй ягонай рамантычнасцю. Больш эмацыянальнага вобраза, чымся Сымон-музыка, цяжка знайсці ўва ўсёй беларускай літаратуры. Дый не толькі ў беларускай. Вы можаце ўявіць сябе, нарэшце, Сцёпкам за парогам (так завецца другая частка Коласавага твора «На прасторах жыцця»). Асабіста я плакаў, чытаючы гэтыя творы, хоць мне цяпер і сорам за тыя слёзы. Сам толькі партрэт Коласа (у чытанках, на сценах у школе) «валодаў» мною цалкам.

Купала дайшоў да мяне пасля і заняў Коласава першае месца, не ведаю чым і як. Кажуць, незагартаваная сталь яшчэ не сталь. Дык вось, Купала гартаваў мяне — пад кожным паглядам. Я не хачу, аднак, сказаць, што з мяне выйшла загартаваная сталь.

Падагульняючы — Я. Колас і Я. Купала былі для мяне болей, вышэй, чым літаратура. Ніводзін з самых вялікіх класікаў свету, якіх я тады ведаў, не прамаўляў да мяне так, як яны. Помню, я зусім холадна ўспрымаў Пушкіна і Лермантава. Першая кніжыца Пушкіна, якую я прачытаў,— «Песни западных славян» — так і засталася незразумелай для мяне, і я дзівіўся, што яе напісаў Пушкін. Пушкін і Лермантаў былі для мяне толькі імёнамі, хоць тое-сёе з іхняга я ўжо чытаў і тады. Без Коласа і Купалы немагчыма ўявіць нашай Бацькаўшчыны, немагчыма пазнаць сябе. Для мяне, як нейкага Сымона-музыкі, што хацеў ляцець у свет,— Колас і Купала былі ўзлётам, песняй, наймацнейшым жаданнем і самім тым светам, у які ішоў, але які быў яшчэ недзе далёка, за даляглядам.



Можна ўявіць сабе маё жаданне пабачыць Коласа і Купалу зблізку (не гавару «жывымі», бо такімі яны былі для мяне заўсёды), калі я апынуўся ў Менску, пра які сніў, як пра Мекку, і які, здавалася мне, выясніць маю долю на шляху Сымона-музыкі. І Менск сапраўды вызначыў маю долю. Але гэта іншая тэма.

Першая, найлепшая нагода пабачыць Коласа і Купалу выдарылася мне ў часе іхніх юбілеяў у сувязі з 30-годдзем літаратурнае дзейнасці, адзначаных адзін па адным, урачыста, шырока. Я і перад тым бачыў ужо іх у Менску, але толькі назіркам: за Купалам аднойчы цёгся па Савецкай, каб разгледзець яго; Коласа ўгледзеў, калі ён ішоў з Акадэміі навук узімку ў высокай шапцы. Але гэта ўсё за сустрэчу я не лічыў.

Дык пра іхнія юбілеі.

Пасля таго як яны адбыліся афіцыйна ў менскім тэатры БДТ-1, юбіляраў пачалі запрашаць «прадпрыемствы і ўстановы». Запрасіла іх і нашая ўстанова — Вышэйшы педагагічны інстытут (ВПІ), спачатку — Янку Купалу.

Актавая зала Галоўнага корпуса універсітэцкага гарадка поўная студэнтамі. Вечар. Я сяджу на сцэне, недзе на апошняй лаўцы. Напярэдзе, за сталом — Купала разам з «галоўкай» інстытута. У сярэдніх радах — выкладчыкі і іншыя, усяго чалавек 35. Я трапіў на сцэну, у прэзідыум, як чалавек, які будзе таксама вітаць юбіляра. Лішніх у прэзідыум не бяруць. Пасля афіцыйных прывітанняў з дакладам пра творчасць юбіляра выступіў акадэмік І. Замоцін. Замест *Янка Купала* ён часамі гаворыць *Янка Ку́пала.* Я сяджу і чакаю свае радоўкі, пакуль пачнуць вітаць ад студэнтаў. Усе, хто на сцэне, нешта мусяць сказаць. Назіраю, як пасля прывітання падыходзяць да Купалы, каб паціснуць яму руку,

вучуся. Некаторыя, відавочна, блізка знаёмыя Купалы, пасля прывітання ў дадатак яшчэ цалуюць яго ў шчокі, абняўшыся, старым звычаем. Я разважаю, ці падыходзіць мне да Купалы пасля вітання, ці не? Не падысці — можа, будзе няветліва. А як падысці, калі баішся? Пра тое, каб пацалаваць яго ў шчокі, пэўна ж, нават і думкі не было. Нарэшце даюць і мне слова. Іду да трыбуны. Замест прывітальнай прамовы дастаю з кішэні верш. Абвяшчаю назву не зусім пэўным голасам: «Янку Купалу», а сам ледзь стаю на нагах. «Што падумае Янка Купала?» Пачынаю, набраўшыся духу, чытаць. Верш — усяго, здаецца, тры звароткі — прачытаўся хутка. Чакаю, замёршы, як сустрэне зала. І вось — энтузіястычныя воплескі (мусіць, болей таму, што я «свой»). У ненаважанасці стаю каля трыбуны, не ведаючы, што рабіць далей: ці падысці да Купалы, ці сесці на сваё месца? Павярнуўшыся тварам да Купалы, але, як укопаны, стаю ўсё яшчэ ля трыбуны. Тады Купала, відавочна, бачачы маю сарамлівасць і страх, узняўся і сам першы працягнуў руку ў кірунку да мяне. Я ўжо смялей, хоць усё яшчэ збянтэжаны, зрабіў тыя колькі крокаў, на якія не ставала адвагі раней. Не глянуўшы ў вочы, пацiснуў Купалу руку, хацеў ужо быў пайсці на сваё месца, як, на немалое здзіўленне прэзідыума, Купала прыцiснуў мяне за плячо і пасадзіў каля сябе. Радасці, гордасці мае не было канца, хоць і прасядзеў я ўвесь час каля Купалы моўчкі.

Прысвечаны Я. Купалу верш быў надрукаваны ў «Полымі рэвалюцыі» (цяпер «Полымя»). У бібліятэцы імя Пушкіна ў Менску на выстаўцы, прысвечанай Купалу, гэты юбілейны нумар быў адкрыты на маім вершы, і я цэлы тыдзень хадзіў туды, каб паглядзець на яго. Як потым я даведаўся, разгарнула гэты часопіс сама Купалава жонка, якая працавала тады ў гэтай бібліятэцы і зладзіла купалаўскую выстаўку.

З юбілею ў ВПІ Купала запрасіў увесь прэзідыум да сябе ў госці. Я. Купала быў заняты гасцямі, і я не меў выпадку загаварыць з ім, хутчэй хацеў пайсці дахаты, але не ведаў як, і ўсё сядзеў, і ўсё чакаў канца. Як бы за ўсе мае пакуты, у канцы я быў шчодра ўзнагароджаны: Купала на развітанне падараваў мне колькі сваіх кніжак з аўтографам.

Колькі часу пасля, калі я быў арыштаваны, памятаю, на допыце ўначы мой следчы Цімафееў, разглядаючы падараваныя мне з подпісамі кнігі, забраныя разам з іншымі маімі рэчамі пры арышце, іранічна папытаўся: «Што гэта, Янка Купала — ваш хросны бацька?» Як я ганарыўся тады гэтымі словамі майго следчага!

## 2

Сустрэча з Коласам была таксама юбілейная. Юбілей Коласа быў ужо не ў актавай зале, а ў нейкай аўдыторыі, меншай за актавую залу. Юбілей быў сціплейшы за Купалаў, і мне здавалася, што Колас, хоць не быў на Купалавым юбілеі ў ВПІ, вычуваў гэтую сціпласць і быў таму як бы не ў гуморы. Мне асабіста было крыўдна за Коласа. Пра юбіляраву творчасць гаварыў усё той жа І. Замоцін і гэтаксама, як і ў выпадку Купалы, імя Коласа вымаўляў не як *Якуб Колас*, а як *Я́куб Колас*. У прэзідыуме было ўсяго колькі чалавек. Я сядзеў з Коласавай жонкай на адной лаўцы, на нейкіх падмостках. Не ўмеў з ёю гаварыць, як і з Купалам у прэзідыуме. Сын Коласа, студэнт БДУ, палыселы ўжо, сядзеў на першай лаўцы доле. Здаецца, ці не ён загінуў у часе вайны пад Смаленскам, і страту яго Колас цяжка перажываў, як гэта відаць з

лістоў ягоных да Броўкі і іншых, апублікаваных у «Полымі».

Пасля казённых прывітанняў я выступіў з вершам Я. Коласу. Калі я прачытаў яго і сеў зноў побач з Коласавай жонкай, яна падзякавала за верш і назвала яго «сардэчным» (верш быў надрукаваны потым у газеце «Літаратура і мастацтва»). Дарма што я цэлы вечар праседзеў з Коласавай жонкай, я нічога не здолеў бы сказаць пра яе: як яна выглядала, якая яна наогул, я толькі памятаю той голас яе, якім яна сказала «сардэчным». Я не чуў, не бачыў яе, я глядзеў увесь час на Коласа, асабліва тады, калі ён чытаў свае вершы, на жаль, казённыя толькі. Але ўсё роўна вобраз Коласа застаўся для мяне ўсё тым жа: недасягальным, неперавершаным, занадта апаэтызаваным, каб ставіцца да яго крытычна. Чытаў Колас трохі піскліва, але лепей, чымся Я. Купала. Калі Купала чытаў, кожны ягоны радок, якраз на самай рыфме, як бы сцякаў з правага, ніжэйшага кутка вуснаў. Купала як бы цягнуў радок і пяяў.

З юбілею пайшлі ціха дахаты. На развітанне Колас пацінуў руку прэзідыуму, у тым ліку і маю, падзякаваўшы за верш.

Той вечар застаўся ў мяне як нейкі развітальны, сумны, апошні. Адчуванне было не юбілейнае — кожны, здавалася, гэта адчуваў, а чаму, ніхто не мог бы сказаць.

Па нейкім часе я сеў у турму, у якой сядзеў некалі і Я. Колас. Колькі разоў я ўспамінаў Коласа, і заўсёды ад гэтых успамінаў мне было лягчэй. Я ўзвышаўся, гарэў і гас, быдай шчаслівы. Шчаслівы, што ведаю гэтага чалавека, шчаслівы ў няшчасці той доляю «пяснярскай каляіны», якая напаткала мяне і за якую даводзіцца расквітвацца.

*1974*



# «ПЕСЕНЬ-ЗОР ЛІРЫЧНЕЙШЫ ПАЭТ»

Пашанцавала мне прысутнічаць на ўрачыстым адкрыцці Другога пленума праўлення СП СССР. Адкрыццё гэта адбылося ў Доме ўрада ў Менску. Калі не памыляюся — у 1935 годзе. Урачыстае адкрыццё дзеля нейкіх прычын палітычнага характару вылілася ў маніфестацыю. Пленум віталі армія, рабочыя, розныя грамадскія арганізацыі, піянеры. Для работы пленума быў абраны Менск менавіта дзеля тых нейкіх палітычных меркаванняў. На пленум прыбылі дэлегацыі пісьменнікаў ад усіх рэспублік. У Менску працавала і выязная рэдакцыя «Литературной газеты». Сталіца рэспублікі была перапоўнена дарагімі гасцямі. Старшыня ЦВК Беларусі Чарвякоў у сваім прывітальным слове прызнаваўся, што нялёгка было Менску прыняць столькі гасцей, размясціць іх у гасцініцах, але ўрад пастараўся зрабіць усё магчымае, каб госці ў беларускай сталіцы пачувалі сябе як найлепш, і прасіў прабачыць, калі што не так, як хацелася б. Янка Купала вітаў гасцей сваім вершам. Цёпла былі ўспрыняты ягоныя радкі:

Прывет вам, вольныя паэты,
На беларускае зямлі.

Надта доўга і суха гаварыў аб дасягненнях беларускай эканомікі старшыня СНК Галадзед. У прэзідыуме сядзелі, апрача Чарвякова, Купалы, Коласа, Галадзеда,— Броўка, Асееў, Ціханаў, Пастарнак, Суркоў, Новікаў-Прыбой і некалькі іншых асоб, якіх я тады не мог распазнаць. Апрача прамоў, чыталіся вершы. Памятаю, Броўка чытаў свой новы твор «Мінеральныя воды». Крычаў, аглушаў радкамі з гэтага твора: «На Мелітопаль! На Мелітопаль!» або такімі радкамі, як «Акалее шакал, а не знойдзе дарогі». Асееў выцягваў шыю, прыслу-

хоўваўся да Броўкавага чытання, хацеў, відаць, зразумець гучную, рэвалюцыйную рыторыку Броўкі. Пастарнак чытаў пераклады з грузінскіх паэтаў, і тыя на запрашэнне перакладчыка ўзнімаліся, каб паказацца публіцы. Я ўпершыню меў магчымасць пабачыць шмат каго з вядомых мне паэтаў і пісьменнікаў, назіраць за імі, маімі кумірамі, валадарамі маіх дум. Звяртаў на сябе ўвагу сваімі паводзінамі прыгожы, як дэндзі апрануты, Іосіф Уткін. Ён не сядзеў на адным месцы, а шпацыраваў у праходах ці выстаўляў сябе, грацыёзна апіраючыся локцем аб сцяну. Ідучы праходам, ён злёгку кульгаў. Мне казалі, ён імітаваў кульгавага Байрана. У сувязі з гэтым мне прыгадаліся радкі з эпіграмы Маякоўскага на Уткіна, дакладней, адна рыфма. Не памятаю цалкам радка, але Маякоўскі смяяўся з патуг Уткіна страчыць агіткі «хламовые, на русский на язык нахрамывая».

Цікаўнасць да Уткіна я займеў, прачытаўшы ягоную «Паэму пра рыжага Мотэлэ». Прыгадваецца адна страфа з гэтага твора:

Счастье по-разному курится,
У разных мест.
Мотэлэ мечтает о курице,
А курицу рабин ест.

Мне гэты твор падабаўся, дарма што хадзілі чуткі, быццам гэты твор напісала ягоная маці.

Але не пра гэта ўсё мая гутарка. Я хачу тут расказаць пра лірычнага паэта «песень-зор», пра беларускага паэта Уладзіміра Хадыку, з якім мне давялося пражыць адну суровую зіму ў Новаіванаўскім лагеры.

Ды найперш скончым з пленумам.

Сваю працу Другі пленум праводзіў ужо не ў Доме ўрада, а недзе ў будынку па вуліцы Энгельса. Не буду прыгадваць пра ўсе даклады, якія былі



прачытаны на гэтым пленуме. Адзначу толькі даклад Андрэя Александровіча пра беларускую савецкую літаратуру. Няма патрэбы гаварыць аб тым, з якіх пазіцый разглядаў Александровіч беларускую літаратуру,— ён карыстаўся ўсё той жа славутай рапаўскай «дактрынай» класавасці і іншай ейнай атрыбутыкай. Досыць таго, што месца ў беларускай савецкай літаратуры Уладзіміру Хадыку не знаходзілася. Пачэснага месца. Александровіч з высокай трыбуны безапеляцыйна заявіў, што паэтычная творчасць Хадыкі не мае сацыяльнага, грамадскага значэння. У прыватнасці, ён даў такую ацэнку зборніку Хадыкі «Радасны будзень», што толькі выйшаў з друку. Хадыка сядзеў прыгнечаны, сумны, маўклівы. Што ён мог сказаць усемагутнаму тады Александровічу?

Уся плённая, таленавітая творчасць выдатнага паэта была закрэслена рукой бяздумнага палітрука ад літаратуры.

Ды засмучанаму, зацкаванаму паэту Хадыку нечаспадзявана прыйшла падтрымка. Адкуль? Не з боку беларускіх калег, а з боку рускага сабрата па пяру.

На наступны дзень, пасля даклада Александровіча, узышоў на трыбуну Мікалай Асееў. Не памятаю ўжо, якая была тэма ягонага выступлення, але ён знайшоў у рамках сваёй тэмы месца для ахаянага свайго таварыша Уладзіміра Хадыкі. Я, казаў ён, уважліва праслухаў цікавы даклад таварыша Александровіча, мяне зацікавіла ў гэтым дакладзе ацэнка творчасці майго беларускага калегі Уладзіміра Хадыкі. Я, на жаль, не знаёмы з усёй творчасцю Хадыкі і не збіраюся гаварыць пра яе. У мае рукі трапіла кніжыца Уладзіміра Хадыкі. Колькі вершаў у ёй захапілі мяне сваёй нечаспадзяванай вобразнасцю. Дазвольце зачытаць хоць некалькі прыкладаў

такой вобразнасці. Вось вам вобраз «молнии». Пабеларуску — гэта маланка. Чытаю:

У небе маланкі сіняй крэйдай ліст пісалі.

У зале апладысменты.
А вось яшчэ адзін прыклад:

І ходзяць ветранымі крокамі
узад і ўперад хмызнякі.

У зале зноў апладысменты. Голас з месца: «Хадыка, пакажыцеся!» Хадыка нясмела ўзнімаецца. Зала ўзнагародзіла яго дружнымі воплескамі. Сваімі калегамі Хадыка быў рэабілітаваны.

Але не быў ён рэабілітаваны дагматычнай крытыкай. За несугучнасць ягонай творчасці сацыялістычнай эпосе, за няздольнасць перабудавацца, за складаную і незразумелую метафарычнасць гэтая крытыка не пакідала яго даймаць сваімі рознага роду абвінавачваннямі. Пад ціскам гэтай крытыкі, каб хоць трохі суцішыць яе, Хадыка «спрабаваў» нават перабудоўвацца. Канечне, толькі дэкларацыйна накшталт (тут і далей цытую з памяці):

Была пара — я марыў быць
вялікім змагаром.
Хацеў я свет перарабіць
і мець свой сад і дом.

І ў доме тым, і ў садзе тым —
ў суценях кроз густых —
прыдбаць з пярсцёнкам залатым
князёўну дзён маіх.

У ладзе вечным мы жылі б —
адна ў адну любосць.
Была б і ягада і грыб,
калі б наведаў госць.

Цяпер ад усяго гэтага ён нібы адмаўляецца, лічыць такую раскошу нерэальнай і прызнаецца:



Я быў сапраўдны плытагон —
зганяў плыты на брук.

Паэт ідзе нават далей: жывучы з князёўнай з пярсцёнкам залатым, ён «як сабака б здох». Але артадаксальнаму крытыку і гэтага было замала. Ён не бачыў у гэтых і падобных радках ніякай перабудовы. І гэта сапраўды так. Сапраўдны паэт, склаўшыся ў адпаведнасці са сваім прыродным дараваннем, не можа перабудоўвацца, ламаць сябе. Не мог перабудавацца і Уладзімір Хадыка. Як яго ні пераконвалі спрасціць сваю паэтычную палітру, адмовіцца ад нібыта залішняй метафорыкі, Хадыка заставаўся самім сабою. Не ішоў і на Купалаў заклік пісаць болей «ад сэрца да сэрца».

Памятаю, Янка Шарахоўскі на абмеркаванні творчасці Пімена Панчанкі, тады яшчэ пачаткоўца, не вельмі прыхільна ставіўся да паэтавай метафорыкі. Ухваляў толькі ягоную «працоўную» метафорыку, такую, як, напрыклад:

А тым часам на заходзе, норму вырабіўшы,
клаўся дзень шырокі, нібы мора.

(Хай мне даруе паэт, калі цытую не зусім дакладна).

Але не забывайма нашага «песень-зор лірычнейшага паэта» Уладзіміра Хадыку. Ужо ў сваім раннім вершы «Гудуць слупы» паэт заявіў пра сваё крэда: «дум жывых і чыстых кроз шукаць». У тым жа самым вершы ён гаворыць пра сябе:

Цяпер жыву, удумлівы і строгі,
як песень-зор лірычнейшы паэт.

Вось гэтага «песень-зор лірычнейшага паэта» і неўзлюбіла дагматычная крытыка. Скончылася гэтая «нелюбоў» — чым жа вы думалі б? — канешне ж, не чым іншым, як арыштам. Як і шмат іншых

майстроў беларускага паэтычнага слова, «песень-зор лірычнейшы паэт» апынуўся ў Сібіры.

Хворы на страўнік, ён пакутаваў страшэнна; нічога з таго, што давалі, ён не мог есці. Не мог пераносіць холаду. Замярзаў. Усю ноч праседжваў ля грубкі ў бараку. Але зацята цярпеў. Запісваў узнікшыя радкі і цэлыя вершы на курыцельнай паперы і зашываў гэта ў каўнер свайго кажуха, якому быў надзвычайна рады, і ўсё захінаўся ў яго. Чачавіцу, якую мне часамі ўдавалася праносіць у лагер (брыгаду, у якой я працаваў, ганялі на працу ў саўгас), Хадыка падсмажваў на блясе і, крохкую, раскусваў яе. Гаварыў, што яна яму не шкодзіць. Сваёй паставай, усімі сваімі паводзінамі, задумны, ціхі, нават у самых цяжкіх умовах, ён заставаўся па сутнасці паэтам «песень-зор», паэтам «дум жывых і чыстых кроз», паэтам «князёўны з залатым пярсцёнкам», да якой яму не суджана было вярнуцца.

*1990*

## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

У Бельску-Падляскім мяне пусцілі з таварнага ў горад — засталіся там бацька і сястра,— і канвой добра ведаў, што нідзе не дзенуся, вярнуся назад. У горадзе тым я хацеў знайсці Беларускі камітэт у надзеі, што ён можа дапамагчы мне ў маёй бядзе і я буду выратаваны ад лагера. У камітэце быў я ветліва прыняты нейкім Жамойдам. Я расказаў яму пра сябе, пра сваё становішча, не ўтаіў таксама, што я беларускі паэт, нядаўні вязень сталінскіх лагераў. Усё гэта, аднак, не мела поспеху — камітэт нічым не змог мне дапамагчы. На развітанне Жамойда падараваў мне кніжку вершаў «Ад родных ніў» Ларысы Геніюш, да таго невядомай мне паэтэсы. З гэтай кнігай я вярнуўся на таварную станцыю, на «свой» транспарт, да бацькі і сястры.



Ужо толькі ў Беластоку ўдалося мне разам з бацькам і сястрою ўцячы з транспарту. Рэдактар газеты «Новая дарога» паэт Хведар Ільяшэвіч прыняў мяне карэктарам у сваю газету.

У вершах Ларысы Геніюш я не знайшоў нічога асаблівага, яны здаліся мне правінцыяльнымі, недасканалымі як паводле паэтычнага майстэрства, гэтак і сваімі адхіленнямі ад нормаў літаратурнай мовы. Што ж тычыцца матываў патрыятычнага зместу, што дамінавалі ў кнізе, дык яны таксама не ўразілі мяне. Я ацэньваў кнігу перш за ўсё з эстэтычнага гледзішча, з гледзішча самой эстэтыкі, якой, як мне здавалася, якраз і не хапала вершам Ларысы Геніюш.

І гэтак яна знікла з поля майго зроку. Яна не існавала для мяне як паэт, аж пакуль я не пазнаёміўся з ёю асабіста. Знаёмства адбылося ў 1944 годзе ў Менску на гэтак званым Другім Усебеларускім кангрэсе. На гэты кангрэс я прыехаў з Беластоку разам з групай дэлегатаў ад Беласточчыны. Я хацеў паглядзець, што гэта за кангрэс, пазнаёміцца з людзьмі, а найболей — пабываць у Менску, у сталіцы, якой я даўно не бачыў, і дзе калісьці я вучыўся, летуценіў, снаваў планы на будучае, і дзе — гэтак неспадзявана — напаткала мяне бяда.

З Геніюш мяне пазнаёміў Хведар Ільяшэвіч, мой апякун і дарадца. Ды сустрэча была кароткай — пад Менскам ужо стаяла Чырвоная Армія, і горад жыў вельмі напружаным жыццём. Трэба было спяшацца пакідаць яго. Спяшалася і Ларыса Геніюш. Не ведаю, як да нас прыстаў паэт Таўлай і паспеў зрабіць калектыўны здымак. На ім фігура-

валі Арсеннева, Ільяшэвіч, Пятрок Шырокаў (Тодар Лебяда), я сам і некалькі іншых асоб, якіх цяпер не магу прыгадаць. Ларыса Геніюш чамусьці не трапіла на гэта фота. Дый не да яго было. У Ларысы Геніюш было столькі рэчаў, што яна не ведала, як з імі быць. Яна папрасіла мяне, ужо знаёмага ёй чалавека, да таго ж без ніякіх рэчаў, узяць у яе цяжкі кажух Кушаля, мужа Арсеннevай. Арсеннева, Геніюш і іншыя паважаныя асобы мелі гарантаваныя месцы на цягніку, а мне з кажухом давялося браць той цягнік з боем. Складаўся транспарт з нармальных вагонаў і цяплушак з шырока адчыненымі дзвярыма. Чутка пабегла, што гэта апошні цягнік, і ў паніцы кожны як толькі мог лез у гэты цягнік. Куды б я ні ткнуўся, у якія б дзверы ні лез, мяне штурхалі ў грудзі назад тыя, хто ўжо дапяў. Праз буфер я пераскочыў на другі, тылавы бок цягніка і, учапіўшыся за кастылі, стоячы на падножцы, ехаў ужо. Цягнік набіраў хуткасць, і я баяўся, што станцыйныя слупы, міма якіх цягнік імчаўся, расквасяць мне галаву. Я, канешне, кінуў той кажух. Цягнік на нейкім пераездзе затрымаўся, і я ўсё-такі ўлез у вагон-цяплушку. Адчуваў сваю віну перад Ларысай Геніюш за страчаны кажух. Думаў, будзе крыўдзіцца на мяне, але нечакана з Прагі яна прыслала мне, яшчэ ў Беласток, віншавальную картку, на якой прыгожая дзяўчынка дае «буські» не менш прыгожаму хлопчыку, з надпісам: «Забыўшыся на кажух».

У 1945 годзе мне пашанцавала з Берліну дабрацца да Прагі: хацеў быць хоць у якой, але славянскай краіне. Не хацелася прабірацца далей на Захад. Думаў, ад Прагі бліжэй дахаты. Я ўсё не траціў надзеі, што маці жыве, і гатовы быў вярнуцца.

Ларыса Геніюш прывеціла мяне добра, старалася дапамагчы, чым толькі магла. Пазнаёміла мяне з некаторымі беларусамі, што былі тады ў Празе, у тым ліку з Забэйдам-Суміцкім, Янкам Станкевічам, Уладзімірам Сядурам (У. Глыбінным), Жарскім, Русаком і іншымі. Пазнаёміла таксама з адной мілай жанчынай-чэшкай, што працавала ў нейкай дабрачыннай арганізацыі. Яе імя было Ружана. Калі Ларыса Геніюш сказала, што я бедны і беспрытульны беларускі паэт, Ружана, замужняя жанчына, была настолькі міласэрнай, што дала мне нават сваю ашчадную кніжку, з якой, дзеля кароткага майго побыту ў Празе, я гэтак і не мог скарыстаць. І па сённяшні дзень, пазнаўшы, наколькі жорсткі свет, дзіўлюся, што ўсё ж у гэтым свеце ёсць такія боскія людзі, як тая чэшка Ружана. Але вярнуся да Ларысы Геніюш. У Ларысы Геніюш жыў я, можа, з які тыдзень, пакуль яна не знайшла для мяне пакойчык, памятаю — на вуліцы Бубеннай. Едучы, бывала, стуль да Ларысы Геніюш трамваем, слухаў з усмешкай, як кандуктар-кантралёр звяртаўся да пасажыраў са сваім нямецка-чэшскім: «фаркартэн-яздэнкі просімо». У Ларысы Геніюш была ў Празе нядрэнная кватэра. Яна жыла тады толькі з сынам, непаседлівым, не надта паслухмяным, зацятым дзевяцігадовым Юркам. Ён знікаў некуды на цэлы дзень, і маці турбавалася, шукала і не знаходзіла, ён прыходзіў толькі надвечар. Маці пыталася, дзе ён быў. Ён коратка адказваў: «Ездзіў». Юрка любіў ездзіць трамваем, ведаў добра горад, ніколі не блудзіў. Мужа дома не было. Я так і не ведаў, дзе ён быў. Разглядаў у ягоным лекарскім кабінеце невялічкую бібліятэчку — у ёй я знаходзіў заходнебеларускія і менскія выданні: часопісы, газеты, кніжкі. Быў Геніюш, наколькі я мог спасцігнуць, чалавекам левага кірунку.

Ларыса Геніюш умела і любіла гатаваць. Стоячы



3. Зак. 5347.

ля пліты, часам сцёбала мяне сваім фартухом, калі я, згададалы, хапаў што-небудзь з патэльні. Аднойчы, стоячы з ёю ля пліты, я пачаў пісаць алоўкам па кафлі — складаў эпіграму на яе. Яна, каб спыніць маю пэцканіну, сур'ёзна загадала мне: «Ідзі ў прыбіральню і там пэцкай». Я пакрыўдзіўся і цэлы дзень не гаварыў з ёю.

За сталом у яе часта былі госці, абавязкова тады — Забэйда-Суміцкі. Забэйда-Суміцкі быў ужо і тады ў гадах. Юрка, седзячы за сталом насупраць яго, чмыхаў, зацiскаў нос, дражніў Забэйду-Суміцкага: «Казёл! Казёл!» У прысутнасці Забэйды-Суміцкага ніхто не важыўся курыць — ведалі, што спявак не церпіць табачнага дыму. Шанаваў горла.

Калі я, бывала, выходзіў з Ларысай Геніюш на вуліцу пагуляць, апынуўшыся на тратуары, яна заўсёды гаварыла: «Масейка, давай пабяжым!» І бегла. Але прабегшы колькі метраў, спынялася, хапалася за сэрца: «Не магу — калоціцца». Але бяжыць зноў. Была яна тады досыць поўная, задыхалася, нібы не хапала ёй паветра. Прыгадваючы гэта, дзіўлюся цяпер, як яна магла вытрымаць сваю катаргу.

Заставацца ў Празе яна быццам не хацела, збіралася адступаць далей на Захад. Быў вызначаны ўжо дзень і час ад'езду. Гатовыя да ад'езду, дамовіліся сустрэцца назаўтра раніцой на вакзале, а калі мы прыйшлі ў вызначаны час на вакзал, яе там не было. Для мяне яна знікла назаўсёды. Але ейны вобраз бачу выразна: адважная, гатовая на ўсё, імпульсіўная, прынцыповая і адначасна — спагадная, міласэрная.

Ларыса Геніюш — жанчына тыпу рэвалюцыянеркі Цёткі. Як паэтэсу, таленавітую, арыгінальную, я ацаніў яе толькі цяпер, угледзеў ейную знаначасць, прачытаўшы зборнік «Невадам з Нёману» і асабліва — некалькі ейных цыклаў выгнанніцкіх вершаў, што пабачылі свет у газеце «Літаратура і мастацтва». Ларыса Геніюш паўстала перада мной на ўсю сваю веліч як паэтэса-грамадзянка. Яна паланіла мяне не толькі сваімі паэтычнымі магчымасцямі, а і не менш сваёй — наперакор усяму — мужнай паставай. Яшчэ з большай зыркасцю вырысавалася гэтая пастава ў ейным унікальным творы-ўспаміне «Споведзь», надрукаваным у часопісе «Маладосць». Перад гэтым творам блякнуць усе дасюлешнія гулагаўскія творы ў нашай беларускай мемуарыстыцы, уключна з Гулагам самога Салжаніцына. Гэта творы аблітаратураныя, і дзеля гэтага яны шмат у чым трацяць сваю аўтэнтычнасць. «Споведзь» Ларысы Геніюш падкупляе сваёй непадробнасцю, маральнай вышынёй і падчас зайздросным бляскам выкладу.

*1990*

## БАРЫС КІТ

Гаворку пра Барыса Кіта, педагога, навукоўца, грамадскага дзеяча, хацелася б пачаць з вядомага ў філасофіі палажэння, што чалавек у вышэйшай ступені ёсць істота гістарычная. Чалавек знаходзіцца ў гістарычным і гістарычнае — у чалавеку. Менавіта такога погляду трымаецца расійскі філосаф Мікалай Бярдзяеў. У сваёй працы «Сэнс гісторыі» ён гаворыць, што чалавека нельга вылучыць з гісторыі, нельга ўзяць яго абстрактна. Паміж чалавекам і «гістарычным», цвердзіць ён, існуе такая глыбокая ўзаемнасць, такое таямнічае ў сваёй першаснове зрастанне, што разрыў іх не-

магчымы. Чалавек так ці інакш здзяйсняецца «гістарычна» і гісторыя — у ім.

Як жа тады здзейсніўся «гістарычна», знайшоў сябе ў гісторыі наш паважаны Барыс Кіт, што ідзе гэтай гісторыяй вось ужо 80 год? Тут нам можа дапамагчы тое, што ў філасофіі называецца гістарычнай памяццю, як спосаб, метад пазнання гісторыі. Вось жа, карыстаючыся метадам гістарычнай памяці, праз якую мы пазнаём сваё духоўнае мінулае, а разам і сучаснае, мы можам прасачыць, прыгадаць, успомніць «гістарычную» пуцявіну чалавека, што дзеяў і дзее ў гісторыі, поўным чынам адклаўся ў ёй, заваяваў, так бы сказаць, сабе месца ў ёй ці, паводле філасофіі Бярдзяева — тварыў легенду. (Гісторыя,— гаворыць Бярдзяеў,— гэта ж і легенда. Бо не дай Божа ўпадобніцца Івану з расійскай прымаўкі, што не помніць сваёй зроднечасці, чытай — з мінулымі пакаленнямі.)

Барыс Кіт нарадзіўся 24 сакавіка 1910 года ў сталіцы імперскай Расіі Пецярбурзе. У гэтай жа сталіцы прайшло ягонае маленства. У ёй жа Барыс Кіт пазнаў і першыя пачаткі навукі. У гэтай хмурай сталіцы ён перажыў дзве рэвалюцыі. Але не гэтыя абставіны вызначылі жыццёвы шлях Барыса Кіта — нейкім, скажам, расійскім чыноўнікам ён не стаўся. Яму быў наканаваны іншы лёс. Яго паклікала Бацькаўшчына. Бацькаўшчына як запавет, як паданне, як легенда, як памяць. Бацькаўшчына-Беларусь глыбока ўвайшла бацькоўскімі каранямі ў падсвядомасць Барыса-дзіцяці. Вытокі яе там, у вёсцы Агароднікі Карэліцкай воласці, Навагрудскага павета, на радзіме яго бацькі. Гэта яна, малая Бацькаўшчына — Агароднікі,— паклікала з Пецярбурга сям'ю Кітаў. Гэта тое «таямнічае зрастанне» з Бацькаўшчынай, з гісторыяй, пра якое мы гаварылі вышэй. Гэта тая легенда, той міт Навагрудку, колішняй нашай гістарычнай сталіцы, той ген, што і спараджае ў нас адчуванне Бацькаўшчыны. Нездарма ж Шэленг сцвярджаў, што міт, міфалогія — гэта першапачатковая гісторыя чалавецтва.



Пагледзімо ж на першапачатковую гісторыю Барыса Кіта. У 1926—1928 гадах Барыс Кіт — вучань беларускай гімназіі ў Навагрудку. У 1928—1933 гадах Барыс Кіт — студэнт фізіка-матэматычнага факультэта ва універсітэце імя Сцяпана Баторыя ў Вільні. Універсітэт Сцяпана Баторыя Кіт канчае з ступеняй магістра ў галіне матэматыкі. І ў гэтым жа 1933 годзе Кіт — ужо выкладчык матэматыкі ў беларускай гімназіі ў Вільні. Але абысціся адной матэматыкай малады настаўнік не мог. Гістарычныя падзеі таго часу — мы маем на ўвазе актывізацыю беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі — захапілі, падхапілі і выкладчыка матэматыкі Барыса Кіта. Яго, як таксама і шматтысячную грамаду беларусаў, паклікала гісторыя ўзяць у ім удзел, здзейсніцца «гістарычна». Дзейнасць такіх арганізацый, як Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД), Таварыства беларускай школы (ТБШ), а перад усім Беларуская сялянска-рабочая грамада (БСРГ), не магла абмінуць, пакінуць збоку нацыянальна настроенага маладога настаўніка. У адпаведнасці са сваімі перакананнямі Барыс Кіт узяў удзел у гістарычным працэсе таго часу. Ён таксама тварыў гісторыю, легенду. Падчас разгрому Грамады і Таварыства беларускай школы польскія ўлады арыштоўваюць маладога настаўніка-рэвалюцыянера першы раз у Навагрудку, другі — у Вільні. Знамянальны шлях — ад Пецярбурга да Лукішак. На гэтым як бы завяршаецца пачатковая фаза рэвалюцыйна-асветніцкай дзейнасці Барыса Кіта. Пачынаецца новая фаза ў гістарычна новых умовах — ува ўмовах ужо аб'яднанай Беларусі. У

1939 годзе ў выніку страты Польшчай сваёй самастойнасці Заходняя Беларусь аб'ядноўваецца з Беларуссю Усходняй, і Барыс Кіт не прапускае гэтага гістарычнага шанцу — зноў бярэцца за сваю асветніцкую і грамадскую працу. У гэтым жа 1939 годзе ён становіцца дырэктарам беларускай гімназіі ў Вільні. Па нейкім часе аднаўляе зачыненую было польскімі ўладамі беларускую гімназію ў Навагрудку. Нарэшце, у 1940 годзе, займае пасаду акруговага інспектара па Баранавіцкай акрузе. Арганізоўвае пачатковыя і сярэднія школы ў Баранавіцкім, Навагрудскім, Слонімскім, Валожынскім і Ваўкавыскім паветах. Аднак з акупацыяй немцамі Беларусі ў 1941 годзе асветніцкая дзейнасць прафесара Барыса Кіта перапыняецца. Больш таго — каб не быць пакараным гестапаўцамі, ён змушаны быў пэўны час туляцца, жыць на нелегальным становішчы.

Ды гісторыя кліча: не здзейсніць сябе «гістарычна» азначала б неіснаванне, і матэматык Кіт, нягледзячы ні на што, зноў бярэцца за сваё — арганізуе ці аднаўляе беларускія настаўніцкія семінарыі ў Паставах і ў Маладзечне. У гэтым жа Маладзечне з ініцыятывы Кіта паўстаў Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут. Аднак ва ўмовах гітлераўскай акупацыі гэтыя навучальныя ўстановы былі заўсёды пад пагрозай. Сам Кіт расказвае: «Безупынныя канфлікты з немцамі, што кіраваліся нацысцкай філасофіяй — навука не для «унтэрмэншаў»,— не давалі магчымасці нармальнай працы гэтым навучальным установам». Нарэшце немцы зачыняюць і настаўніцкія семінарыі, і Гандлёвы інстытут. Самога ж арганізатара гэтых устаноў, Барыса Кіта, арыштоўвае гестапа. Ад расстрэлу Кіта выратоўваюць ягоныя былыя вучні Адам Дасюкевіч і Кастусь Касяк, хоць самі пазней гінуць ад нямецкай кулі.



Пойдзем далей па гістарычных, так бы мовіць, слядах прафесара Барыса Кіта. 1945—1948 гады. Магістр Барыс Кіт — на захадзе, у заходняй Нямеччыне. Выкладае матэматыку ў розных «дыпіўскіх» школах. «Студыюе» ва універсітэце ў Мюнхене. Але гэта пераходны час у Б. Кіта. Гэта — міжчассе. Ды гэтае міжчассе сталася своеасаблівым трамплінам, рыўком у больш бліскучы перыяд дзейнасці. Барыс Кіт апынасцца ў Злучаных Штатах Амерыкі. Тут набірае размах навуковая дзейнасць матэматыка Барыса Кіта. Затрымаўшыся на нейкі час у Саўт-Рывэры (штат Нью-Джэрсі), дзе, дарэчы, ён усталёўвае хіба ці не найбольшы ў ЗША «сэтэльмэнт» беларусаў, Кіт перабіраецца ў Лос-Анджэлес (Каліфорнія), дзе ўладкоўваецца на працу ў славутую амерыканскую фірму ракетных і касмічных даследаванняў — Норт Амэрыкэн Авіейшон. Бярэ ўдзел у працах над даследаваннем і пабудовай першых амерыканскіх міжкантынентальных ракетных сістэм. У выдавецтве «Макмілан» выходзіць першы ў гісторыі падручнік Б. Кіта па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве. Аўтар аналагічнага савецкага падручніка, што выйшаў у СССР пазней, нямала скарыстаў з падручніка Барыса Кіта. У сувязі са спутнікам, першымі поспехамі Саветаў у космасе, ЗША ў тэрміновым парадку ўзяліся за распрацоўку сваёй касмічнай праграмы. Барыс Кіт быў пакліканы ў Вашынгтон у якасці эксперта па ракетах і дарадчыка ў галіне развіцця астранаўтыкі. У гэтай ролі ён бярэ чынны ўдзел у міжнародных з'ездах астранаўтаў, чытае на іх рэфераты з галіны астранаўтыкі. Адначасна працуе над сваёй другой кнігай «Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі» — кніга, што выходзіць пры фінансавай падтрымцы нацыянальнага навуковага таварыства і

універсітэта Мэрыланд. У розных міжнародных навуковых часопісах ён змяшчае свае артыкулы, у якіх распрацоўвае тэарэтычныя пытанні ў галіне астранаўтыкі. У якасці эксперта бярэ ўдзел у перамовах ЗША і СССР з мэтай наладжвання паміж гэтымі краінамі супрацоўніцтва ў галіне касмічных даследаванняў. У сваёй працы Б. Кіту даводзіцца мець дачыненне з такімі дзеячамі ў галіне астранаўтыкі, як фон Браун, фон Карман і інш.

У 1972 годзе Кіт пакідае сваю працу ў Вашынгтоне, пераязджае ў Заходнюю Еўропу, займае становішча прафесара матэматыкі ў еўрапейскім аддзеле Мэрыландскага універсітэта. На працягу васемнаццаці гадоў і па дзень сённяшні Барыс Кіт выкладае матэматыку ў сярод амерыканскіх вайсковых цэнтрах у Еўропе. Тысячы амерыканскіх жаўнераў, афіцэраў і цывільных урадаўцаў былі вышкалены Барысам Кітам.

Прага да ведаў ніколі не пакідала прафесара Барыса Кіта. У паважаным ужо ўзросце Барыс Кіт здабывае ў 1983 годзе пры універсітэце Рэгенсбург дыплом доктара філасофіі. Ён абараніў дысертацыю «Антоні Зыгмунд, ягонае жыццё і ягоны ўклад у развіццё матэматыкі ў XX стагоддзі».

Веды Барыса Кіта прызнаныя і высока ацэненыя. Ён — старэйшы сябра Амерыканскага Астранаўтычнага Таварыства, ганаровы сябра Брытанскага Міжпланетарнага Таварыства, а таксама сябра Дырэктарыята нямецкага Астранаўтычнага Таварыства, сябра Камітэта гісторыі Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж).

Б. Кіту нададзена званне заслужанага прафесара Мэрыландскага універсітэта. Таварыства імя Германа Обэрта (ФРГ) узнагародзіла Барыса Кіта залатым медалём за заслугі ў галіне астранаўтыкі. Імя Барыса Кіта як навукоўца згадваецца ў такіх публікацыях, як «Найбуйнейшыя прадстаўнікі навукі ў Амерыцы», «Хто ёсць хто ў Сусвеце».

Беларускі пісьменнік Барыс Сачанка ў сваім аглядзе дзейнасці беларусаў за мяжой (часопіс «Маладосць», Мінск, 1988) назваў Барыса Кіта буйным вучоным, навукоўцам.

Мы прасачылі такім парадкам гістарычны шлях нашага паважанага Барыса Кіта, паглядзелі, як ён здзяйсняўся «гістарычна», як ён адклаўся ў гісторыі. Праз яго, праз кожнага з нас, шляхам гістарычнай памяці мы пазнаём сваё духоўнае мінулае, сваю духоўную культуру, сваю Бацькаўшчыну. «Кожны чалавек,— гаворыць Бярдзяеў,— гэта вялікі свет — мікракосмас, у якім адбіваецца і знаходзіцца рэальны свет». Адбіўся гэты свет і ў асобе Барыса Кіта.

*1990*


4. Зак. 5347.

# ДУМКІ ЎСЛЫХ



## ГРЭШНЫЯ ДУМКІ НА ТЭМУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Знік носьбіт беларускай мовы — сялянства, а з ім адыходзіць у нябыт і беларускае слова. Беларускае слова жыло, калі сялянства было непісьменным, яно гаварыла на сваёй *прыроднай* мове. Як толькі яно навучылася грамаце, яно пачало здраджваць свайму слову на карысць мовы таго ці іншага суседа. (Такая ўжо наша натура.) Таго пакалення сялянства, якое гаварыла па-беларуску, ужо няма — яно адышло. Сённяшняе пакаленне — гэта ўжо нейкае невыразнае пакаленне: ні сяляне, ні інтэлігенты. Гэтае невыразнае пакаленне ў масе сваёй ужо не гаворыць па-беларуску. Сказаць бы, не толькі не гаворыць, а і не ведае сваёй мовы. Нават пісьменнікі і тыя ў быту не гавораць па-беларуску. Пішуць на ёй, а не гавораць. Яна для іх толькі рабочая мова, пабочная, як бы не родная. Дзіўны феномен, магчымы толькі хіба ў нас, беларусаў. Выходзіць, у нас яшчэ цалкам не склалася нацыянальная інтэлігенцыя, нацыянальная ў поўным сэнсе гэтага слова. Інтэлігенцыя, якая гаварыла б па-беларуску, дбала б пра свае нацыянальнае, задавала б тон. Я не гавару тут пра паасобных, нешматлікіх дзеячаў беларускай культуры, яны ёсць, але яны пакуль што ў загоне і не могуць супрацьстаяць антыбеларускім сілам, як вонкавым, гэтак і ў сваім жа, беларускім асяроддзі.

Можа нехта нават падумаць, што беларус не бачыць патрэбы ў сваёй мове, не ўсведамляе ейнае

неабходнасці. Ну што ж, ёсць людзі і такіх погля-даў, але гэта ўжо або наўмысная прапаганда, палітыка, якая насаджаецца вонкавымі сіламі, або поўнае неразуменне свайго нацыянальнага прызначэння самім жа беларусам.

Беларусу наканавана быць беларусам, нават каб ён не хацеў ім быць, бо — добра ці дрэнна — ён нарадзіўся гэтакім, з'явіўся на свет Божы, і куды б ён ні пайшоў, да каго б ні прыставаў, да якой мовы ці культуры ні далучаўся б, ён усё роўна па прыродзе сваёй будзе заставацца — можа, нават не ўсведамляючы гэтага — беларусам, а галоўнае — яго гэтакім будуць лічыць, не зважаючы на ўсе высілкі прыстасавацца. Выхаду тут іншага няма, як толькі застацца тым, кім ты нарадзіўся.

Праўда, беларус любіць, каб яго папхнулі, загадалі, каб беларускую мову нехта ўвёў ва ўжытак дэкрэтыўна, як гэта было ў дваццатыя гады, у часы так званай беларусізацыі. (Гучыць парадаксальна — беларуса трэба беларусізаваць.) Ага, пачалася палітыка беларусізацыі, я загаварыў па-беларуску, пачалася палітыка русіфікацыі, я не пратэставаў, я пачаў дапасоўвацца да гэтай палітыкі, а то і сам уключыўся ў працэс гэтай русіфікацыі. З'яву, якая сёння запанавала ў пытанні беларускай мовы, нельга вытлумачыць толькі палітыкай русіфікацыі, як нам гэтага ні хацелася б. Палітыка русіфікацыі, безумоўна,згубная, яна зрабіла сваё, адмаўляць гэтага ніяк нельга, але і не прызнаць факта нашай слабасці таксама нельга: мы за сваё не змагаемся, голасу свайго не падаём, баімося — ціхенькія, як бы і не існуем. Але ж мы — існуем! Мы ж — хоць тут здохні — беларусы, у нас жа вунь і рэспубліка называецца беларускай. А што мы робім для гэтай беларускасці? Няшмат. Не пабаюся сказаць — гэта ўжо сапраўды грэшныя думкі,— каб не славутая,



раней сталінская, а цяпер ленінская нацыянальная палітыка, якой урад (хоць фармальна) мусіць прытрымлівацца, магчыма, не было б па нашай неруплівасці нават і тых беларускіх выданняў, якія мы маем на сёння. Прыкладам, пачалі б іх адно па адным зачыняць, я не ведаю, закрычалі б мы, выказалі б сваю нацыянальную волю ці не. Возьмем такі факт. Тыражы беларускіх выданняў абразліва нізкія. У гэтым вінаватыя не толькі нейкі Саюздрук ці нехта канкрэтна, а і мы самі. Чаму б нам не падпісацца масава, прыкладам, на «Маладосць», «Полымя», «Крыніцу», «ЛіМ» ці на тую ж «Звязду» — глядзі, як падскочылі б тыражы гэтых выданняў! Гэта было б сведчаннем нашага (не чыйго, а нашага) клопату пра беларускую мову, культуру. Адно ўжо гэта падняло б наш аўтарытэт як нацыі. Мы ж, што ні гавары, усё-такі нацыя. Што — мы чакаем, пакуль Сакалоў падніме нам тыражы, увядзе ў школу беларускую мову? Не, ён хутчэй зліквідаваў бы і тое, што засталося. Толькі адно яго (і не толькі яго) стрымлівае — усё тая ж афіцыйная нацыянальная палітыка, якой ён мусіць трымацца па свайму становішчу першага сакратара. З прамовай па-беларуску ён не выступіць, як таго вымагала б нават тая ж куртатая нацыянальная палітыка.

Мы прывыклі, каб намі кіравалі, намі загадвалі, сваёй волі не маем мы, ці што? У часы перабудовы і галоснасці яе можна ж было ўжо і выказаць. Дык не — мы маўчым. Адных толькі Гілевіча і «Тутэйшых» нам мала — трэба паказаць свой характар усім, узняцца мусіць увесь народ за сваю родную мову, за сваю школу, за сваё, за беларускае. Пасіўнымі застаюцца ў сваёй масе пісьменнікі, якія мусілі б нават з увагі на сваю прафесію выступіць больш станоўча ў абарону сваёй мовы, сваёй культуры. Пытанне беларускае мовы стаіць проста: або

мы будзем карыстацца ёю — і яна выжыве, або мы занядбаем яе — і яна знікне. Мова, на якой не гавораць,— не мова. Народ, які зракаецца сваёй мовы,— не народ. Народ усведамляе самога сябе, не цураецца сваёй мовы і пры самых цяжкіх умовах.

*1988*

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА МОВУ

**(прыватная думка нелінгвіста)**

Усё свярбіць у мяне язык выказаць некаторыя меркаванні адносна беларускай літаратурнай мовы. Гэтыя меркаванні я даўно хаваю ў сваёй душы, баючыся выказаць іх публічна, у друку, бо могуць упікнуць мяне ў адсутнасці беларускага патрыятызму.

У нас, бывае, хваравіта ўспрымаецца адрозны пагляд на тое ці іншае пытанне, асабліва калі яно тычыцца такой сферы, як сфера нацыянальная. Гэта як нешта святое, чаго нельга чапаць. Устанавіўся нейкі казённы пагляд у гэтай сферы, і барані Божа не пагадзіцца з ім, паддаць яго крытыцы, нават самай лёгкай. Ці гэта тычыцца пытання беларускай дзяржаўнасці, ці пытання беларускай гісторыі, у прыватнасці Вялікага княства Літоўскага — па кожнаму з гэтых і падобных пытанняў усталявалася ўжо зацвярдзелая догма, і парушыць яе пагражае вам ну проста «адлучэннем ад царквы».

Такім дражлівым пытаннем з'яўляецца і пытанне беларускай літаратурнай мовы.

Цяжка аспрэчыць факт, што на фарміраванне беларускай літаратурнай мовы (XIX ст.) мелі ўплыў пісьменнікі польскай культуры, яны надалі беларускай літаратурнай мове свой адметны каларыт, яны, так бы мовіць, асемянілі яе, засеялі шматлікімі паланізмамі ў галіне лексікі, а ў галіне сінтаксісу надалі нашай мове некаторыя неўласцівыя ёй звароты.

У 20-х гадах, у часы беларусізацыі, граматыка Язэпа Лёсіка ўзаконіла гэтыя «асаблівасці» беларускай літаратурнай мовы, і такім парадкам паланізмы набылі сваё грамадзянства ў нашай літаратурнай мове, сталіся нібы ейным арганічным элементам. Канечне, у гэтым часе ў беларускую літаратуру прыйшло новае пакаленне паэтаў і пісьменнікаў, і яно ўнесла ў беларускую літаратурную мову сваю стыхію, надало свой каларыт, часта разбураючы нормы лёсікаўскай граматыкі і такім парадкам набліжаючы беларускую літаратурную мову да вытокаў народнай, вуснай мовы. Але Лёсік са сваёй граматыкай яшчэ не сыходзіў са сцэны.

Ды ў 1933 годзе ўрад БССР адкідае Лёсіка, праводзіць рэформу, гэта значыць спрашчэнне беларускага правапісу, інакш кажучы — русіфікуе яго. Аднак, спрашчаючы, ачышчаючы граматыку Лёсіка, былі ачышчаны і характэрныя рысы беларускай мовы. Калі ў Лёсіка была арыентацыя на варыянт беларускай літаратурнай мовы першага пакалення беларускіх пісьменнікаў, гэта значыць пісьменнікаў польскай культуры, дык «творцы» новага правапісу арыентаваліся на рускую мову. Запанавала, такім чынам, як у першым, так і ў другім выпадку тэндэнцыя, што не магло адмоўна не адбіцца на стане беларускай літаратурнай мовы. Хоць прыродна беларуская мова бліжэй да рускай, чым да польскай, рускамоўны варыянт не менш, як і польскі, пашкодзіў беларускай мове.

Сёння назіраецца спроба адрадзіць лёсікаўскі правапіс. Безумоўна, у ім ёсць што адраджаць, але арыентацыю на яго лічу неправамернай, як і ары-

ентацыю на рускую мову. Надышоў час скарэкціраваць, перагледзець як адну, так і другую тэндэнцыю і стварыць сапраўды беларускую, навукова абгрунтаваную граматыку, якая апіралася б на фактычнае беларускае маўленне, не баючыся, што такая граматыка ўзвяла б у норму ў некаторых выпадках, можа, не зусім арыгінальныя формы, затое яна забяспечыла б адэкватнасць народных гаворак з нормамі літаратурнай мовы. Бо што ж мы назіраем цяпер? Мы назіраем вялікае разыходжанне паміж жывой, вуснай мовай і літаратурнай мовай. Я разумею — гэта нармальна, але ў нас гэта дайшло да крайнасці. Часамі ствараецца ўражанне, што беларуская літаратурная мова на ўзроўні публіцыстыкі лексічна адрозніваецца ад рускай толькі аднымі сваімі паланізмамі. Гэта вядзе да таго, што чытач знеахвочваецца, не хоча чытаць па-беларуску, а то і зусім непрыхільна ставіцца да беларускай мовы як гэтакай, цвердзіць, што ў беларускай літаратурнай мове ёсць шмат такога лексічнага матэрыялу, які ён не разумее, гэта ў першую чаргу лексіка польскага паходжання.

Запазычанні — рэч нармальная і зразумелая, і паланізмы, русіцызмы і германізмы, калі яны набылі ў нашай мове грамадзянства, сталі даступнымі і зразумелымі,— усе такія і іншыя запазычанні робяцца складовай, арганічнай клеткай у арганізме літаратурнай мовы, і я не іх маю на ўвазе. Я маю на ўвазе свядомую арыентацыю на польскую ці рускую мову, арыентацыю, што прадыктавана часта палітычнымі меркаваннямі. Як у нашай гісторыі, гэтак і ў мове, на жаль, усё яшчэ мае месца такая арыентацыя. Арыентацыя — нехта сказаў — гэта наша хвароба, ды надышоў час вылечыцца ад такой хваробы.

Беларуская мова, насуперак сцвярджэнням некаторых «вучоных»,— лінгвістычна самастойная мова, і ў ёй дастаткова сродкаў для выяўлення псіхікі нашай нацыі. Толькі наша мова, не якая іншая — не руская, не польская, блізкая нашаму характару, толькі ёй — мяккай і мілагучнай — адгукаецца наша душа. Беларуская мова самастойна настолькі, наколькі самастойна наша нацыя. Ні больш і ні менш. Мы не можам вытварыць літаратурную мову не падобную на наш народ. У нашай мове ёсць усе «заганы», якія мае наша нацыя. І гэта заканамерна. Таму ж яна родная, свая, лепшая ад любой чужой. Арыентацыя беларускай літаратурнай мовы на такую сваю, «заганную», думаецца, і забяспечыць ёй найбольшы поспех.

*1990*

## ПАЭЗІЯ

Музыка — кажуць — гэта тое, чаго нельга выказаць словам. Паэзія, аднак, спрабуе, хоць і непаспяхова, спаборнічаць з музыкай, спрабуе пры дапамозе слова выказаць невыказнае, спрабуе, як і музыка, спасцігнуць, адтварыць шматстайнасць душы, усю ейную супярэчлівую прыроду, ейную канфліктнасць і драму. У беларускай паэзіі толькі паэзія Максіма Багдановіча (уключна з ягонымі перакладамі) даследавала душэўны вопыт чалавека, заглядала ў недасяжнае, падсвядомае, даставала для нас перлінкі з артэзіянскай студні душы і такім парадкам узбагачала нас эмацыянальна і духоўна. Сучасная беларуская паэзія не займаецца ці бадай не займаецца гэтым. Душэўная дзейнасць чалавека, душэўная драма — гэта як бы забароненая для яе зона. Сучаснаму паэту дастаткова толькі задэк-

ларавацъ сваю гэтак званую грамадзянскую пазіцыю, не надта турбуючыся мастацкім увасабленнем гэтай грамадзянскай пазіцыі. У беларускай паэзіі адсутнічае магутнае «Я» паэта. Дзеля гэтага сучасную беларускую паэзію можна назваць безасабовай паэзіяй. У ёй адсутнічае музыка душы. Я не гавару тут пра адзінкавых паэтаў, што твораць гэтую музыку душы, заглядаюць у адвечнае ў ёй. Але гэтыя адзінкавыя творцы яшчэ не ствараюць клімату ў нашай паэзіі. Яны толькі рыхтуюць грунт для сапраўднай паэзіі, і ў гэтым іх гістарычная місія.

*1990*

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Максім Багдановіч хацеў у сваёй творчасці надрабіць усё, чаго не было ў беларускай літаратуры да яго: паўтарыць, як ён казаў, пройдзенае развітымі еўрапейскімі літаратурамі — класіцызм, рамантызм і нават сімвалізм. Упершыню ў беларускай літаратуры ён даў узоры гэтых кірункаў, надаў нашай літаратуры, так бы сказаць, цывілізаваны, еўрапейскі характар. Да яго ў нас не было гэтых узораў, ён адзін змог запоўніць гэты прагал, гэту пустку ў нашай літаратуры. Ён адзін рэтраспектыўна надрабіў цэлае XIX стагоддзе, прапушчанае нашай літаратурай. За выняткам «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе», да Багдановіча ў нас, па сутнасці, не было літаратуры ў высокім і поўным сэнсе гэтага паняцця, літаратуры як эстэтычнай катэгорыі. Пасля Багдановіча ў нас паўстала літаратура, але пераважна сацыялагічнага зместу. Яна не распрацоўвала экзістэнцыяльных, метафізічных, філасофскіх праблем, не заглыблялася ў нацыянальны эрас, занядбала даследаванне чалавека, адзінага аб'екта літаратуры. Паслякастрычніцкая літаратура, адкінуўшы Багдановіча, пайшла за Купалам і Коласам. Праўда, апошнімі часамі пачынаюць прыглядацца да Максіма Багдановіча, наша крытыка спрабуе вярнуцца да Багдановіча, але вынікаў такога павароту не відаць ды яго і не можа быць датуль, пакуль яна сама не стане на багдановічаўскае разуменне літаратуры.

«Узвышша» некалі дакляравала стварыць літаратуру, якую ўгледзелі б вякі і народы, гэта значыць яно ўсведамляла значэнне для нашай літаратуры Багдановіча. Аднак далей дэкларацыі яно не змагло пайсці, яно не стварыла ўзораў «узвышанскага» мастацтва.

Сёння мы ўсе адчуваем патрэбу ў Багдановічу, але мы інакш узгадаваны і проста не ў стане перабудавацца. Гэта ўжо заданне пакалення, што ідзе ці што прыйдзе.

*1990*

## ЯНКА БРЫЛЬ

Прачытаў ягоную кнігу «Сёння і памяць». У падзагалоўку стаіць: апавяданні, мініяцюры, эсэ. У апавяданнях — роздум над фактам, здарэннем, спроба надаць яму нейкі глыбейшы сэнс. Мініяцюры — гэта аўтаравы назіранні, спасціжэнні з філасофскім абагульненнем, абразком. Эсэ — гэта часцей успамін, падзея і ацэнка яе. Звяртае на сябе ўвагу раздзел у кнізе «Свае старонкі». Тут аўтар прасочвае сваю творчую біяграфію за два гады — за 1980 і 1981. Што ён зрабіў, што ён напісаў, якія

кнігі прачытаў. Аўтар зрабіў вялікую паслугу чытачу: ён можа ўжо не чытаць тых кніг, якія прачытаў Брыль,— у кароткіх, часам трапных азначэннях ён раскрывае іхнюю сутнасць, і такім чынам як бы адпадае патрэба чытаць тыя кнігі зноў. Ты ўжо прачытаў іх вачыма Брыля. У кнізе — падагульненне вопыту, пройдзенага шляху, позірк у мінулае, позірк на самога сябе, самалюбаванне, і яно было б нясцерпным, калі б не ягоная патрабавальнасць не толькі да іншых, а і да самога сябе. Кніга — сведчанне, што ўжо аўтар зрабіў сваё і цяпер з вышыні гэтага зробленага мудра азірае ўсё, што трапляе яму на вочы. Чытач вычувае аўтараву цеплыню, чалавечнасць.

*1990*

## ЗАЎВАГА АДНОСНА ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Ад нядаўняга газета зраклася абавязковага дасюль «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!». І гэта добра і правільна. Чым жа яна замяніла тое недарэчнае «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»? Купалаўскім «людзьмі звацца». Ці добра гэта? Думаю, замена няўдалая. Бо што такое «людзьмі звацца»? Мы ўжо паводле свайго нараджэння — людзі. Далей: мы — нацыя, мы — народ, з сваёй гісторыяй, усведамленнем, ужо двойчы праклaмавалі сваю незалежнасць, і раптам — «людзьмі звацца». Гэта — зніжэнне. Мы ўжо, дзякаваць Богу, вышэй гэтага лозунга. Гэта ўжо анахранізм. Купалаўскае «людзьмі звацца» было выклікана іншымі гістарычнымі абставінамі, і яно працавала, можна сказаць — зрабіла сваё. Сёння ж яно не адпавядае патрабаванням часу, і яго трэба замяніць нечым іншым — у Купалы можна знайсці патрэбнае гасла, больш адпаведны дэвіз.

*1990*

## «DAMAGE» Ў БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Шматмернае англійскае «damage» (дэмідж) у нашым выпадку можна перадаць па-беларуску як пашкоджанне. Ёмкае, яно добра перадае, нават паводле свайго гучання, з'яву, пра якую тут пойдзе гаворка — які damage, якое пашкоджанне спрычыніў нашай мастацкай літаратуры метад сацыялістычнага рэалізму?

Толькі што прачытаў два раманы Івана Чыгрынава — «Апраўданне крыві» і «Свае і чужынцы». «Плач перапёлкі», першую кнігу чыгрынаўскай трылогіі, я чытаў даўно, яшчэ калі яна друкавалася ў «Полымі», і ў мяне аб ёй засталося самае добрае ўражанне, як аб творы, бясспрэчна, таленавітым. Прачытаўшы ж дзве далейшыя кнігі: «Апраўданне крыві» і «Свае і чужынцы», вагаюся даць якую-небудзь адназначную ацэнку гэтым творам. Што Іван Чыгрынаў таленавіты пісьменнік, гэта не выклікае ніякага сумнення. Што ж, запытаецеся вы, прыгаданыя дзве кнігі неталенавітыя? Не, гэтага я не хачу сказаць. Я хачу сказаць, што і такі таленавіты пісьменнік, як Іван Чыгрынаў, не ўбярогся ад радзімых плямаў метаду сацыялістычнага рэалізму. О, колькі такіх прыкладаў у нашай мастацкай літаратуры! Кузьма Чорны — таленавіты пісьменнік, а, напрыклад, ягоны «Лявон Бушмар» — сапсаваны твор, хоць паводле задумы ён мог бы быць надзвы-

чайным творам у нашай літаратуры. Тое ж самае і з ягоным «Трэцім пакаленнем». Тое ж самае і з некаторымі творамі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Івана Шамякіна і шмат іншых — усіх тут не пералічыш. Усе названыя і неназваныя тут пісьменнікі і паэты — людзі адораныя, а з-пад іхняга пяра, побач твораў вартасных, выйшлі і творы з мастацкага гледзішча заганныя, творы-калекі. Ім не давала свабодна дыхнуць ярмо сацыялістычнага рэалізму. Скінуць гэтае ярмо са сваёй песнярскай шыі ў іх не хапала адвагі, і ў выніку — што б мы ні гаварылі — іх таленты зазналі damage, пашкоджанне, якое было нанесена ім сацыялістычным рэалізмам. Ды што казаць — з невялікімі выключэннямі, уся нашая літаратура з такім дэміджам. Сацыялістычны рэалізм наклаў свой згубны адбітак на шмат якія творы беларускай мастацкай літаратуры і гэтым самым збядніў іх мастацкую і духоўную вартасць. Не шмат хто спрабаваў скінуць, вызваліцца з-пад ярма сацыялістычнага рэалізму, накіданага адэптамі марксісцка-ленінскай эстэтыкі, калі наогул можна гаварыць аб якой-небудзь эстэтыцы ў гэтым «вучэнні». Скідалі гэтае ярмо У. Караткевіч, В. Быкаў (падкажыце, калі ласка, хто яшчэ), і ў рэшце рэшт іхні талент, я сказаў бы, іхні звышталент перамог у той час, як іншым пісьменнікам гэтага звышталенту, відавочна, не хапала, іх талент напаткаў усё той жа дэмідж.

Вось жа не абмінуў гэты дэмідж і таленавітага пісьменніка Івана Чыгрынава. Яго таксама душыла ярмо сацыялістычнага рэалізму, і толькі ягоная таленавітасць выратавала яго ад шаблону гэтага рэалізму, дала яму магчымасць узняцца да некаторых, як кажуць крытыкі, мастацкіх абагульненняў. Золата, гаворыць прымаўка, і ў гразі відаць. Але ў цэласці дэмідж зрабіў сваё і тут.

Чытаючы раманы «Апраўданне крыві» і «Свае і чужынцы», я быў захоплены стылістыкай Івана Чыгрынава, ягонай здольнасцю гранічна ясна адтвараць рэаліі. Сваім словам ён часта не толькі адтварае, а і стварае вышэйшую рэальнасць, значыць — дасягае мастацкага ўвасаблення рэчаіснасці. Мы яе бачым, чуем, і яна робіць на нас эстэтычнае ўздзеянне, уцягвае нас. Тут мастацкае слова Чыгрынава працуе, і мы знаходзімся ў палоне чыгрынаўскага эпасу, цягучага, павольнага, але грунтоўнага. Што б мы ні ўзялі — прыроду (Чыгрынаў вялікі майстра ўзнаўляць і адухаўляць яе), сялянскі быт, звычаі, вераванні,— усюды вы адчуваеце пранікліва вока майстра.

Але што найболей характэрна для твораў Чыгрынава, дык гэта псіхалагічная аснова яго кніг. Дзеяння як гэткага, «сабыційнасці» ў раманах Чыгрынава па сутнасці няма, за выняткам, можа, рамана «Плач перапёлкі», ёсць затое псіхалагічная плынь, яна і становіць сабою дзеянне, рухаючую сілу ягоных твораў. Аўтар увесь час засяроджвае сваю ўвагу на псіхалагічным стане сваіх герояў. Героі Чыгрынава самі па сабе не дзейныя, у кожным разе маладзейшыя, у руках Чыгрынава яны — як марыянеткі, ён стаўляе іх, куды яму трэба і дзе яму трэба, і толькі праз псіхалагічны план пісьменнік як бы змушае герояў дзейнічаць. Дзеянне ў іх — гэта ўсё тая ж псіхалогія, думанне, меркаванне, разважнасць. Каб не было ў раманах Чыгрынава гэтага працэсу думання, у іх панавала б статыка. Зрэшты, і псіхалогія чыгрынаўскіх герояў дазіраваная, запраграмаваная — у гэтай псіхалогіі няма стыхійнасці, няма прарыву, хіба толькі ў аднаго адмоўнага героя — Брава-Жыватоўскага, яму

ўсё можна. Галоўным жа героям, блізнятам Зазыбе і Чубару, гэтага права не дадзена. Яны думаюць, псіхалагізуюць як бы ў адпаведнасці з партыйнымі ўстаноўкамі — не больш і не менш, адсюль іх зададзенасць, псіхалагічная лімітацыя. Гэта грэх, бадай, усіх твораў, напісаных паводле вымогаў сацыялістычнага рэалізму, у тым ліку і твораў, напісаных таленавітымі пісьменнікамі, такімі, як наш Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў.

Я ўжо гаварыў аб чыгрынаўскіх героях-марыянетках. Сапраўды, ён пануе над імі татальна, ніхто з іх не скажа нічога лішняга, яны падпарадкаваныя аўтарскай задуме. Пад іх ён нярэдка падводзіць і філасофскую базу, найчасцей, аднак, афіцыйную. Ды як бы там ні было, можна ўсё ж гаварыць пра філасафічнасць раманаў Чыгрынава, пра ягонае, уласцівае толькі яму бачанне свету, пра ўніклівае спасціжэнне рэчаіснасці.

Чыгрынаў імкнецца надаць сваім раманам і выгляд гістарычнасці. Ён паставіў сваіх герояў — сялян і мясцовых партыйцаў — у пэўныя гістарычныя ўмовы, ва ўмовы вайны, і гэта ўжо сама па сабе гісторыя. Але цікава, усе тры кнігі ахопліваюць толькі першы год вайны і часам здаецца, што аўтар топчацца на месцы. Партыйцы-бронь цэлы год імкнуцца наладзіць партызанку і ўсё не могуць. Іхняя дзейнасць выглядае на гульню ў дзейнасць. Каб надаць выгляд гістарычнасці сваім раманам, Чыгрынаў падае (так, як і ў Шолахава) некаторыя аўтэнтычныя дакументы, цытуе іх, а таксама называе канкрэтныя вайсковыя адзінкі, што дзеялі на тэрыторыях, апісаных аўтарам. Але ўсё гэта толькі ілюзія гістарычнасці. Зрэшты, для нейкага дастаткова і гэтай ілюзіі.

У кампазіцыйным дачыненні эпапея Чыгрынава (умоўна назавём яе гэтак) — рыхлая. Праўда, утрымліваюць эпапею ад распаду некаторыя персанажы, вобразы, такі, напрыклад, як прыгожы вобраз ласяняці. Гэта зроблена па-майстэрску.

Манера чыгрынаўскага пісьма — няспешнасць, разважлівасць, псіхалагізм, філасафічнасць — нагадвае манеру пісьма Кузьмы Чорнага. Такіх пісьменнікаў, як Лукаш Калюга, Сымон Баранавых, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў, я аднёс бы да школы Кузьмы Чорнага. Ведаю, што рызыкую спрошчанасцю, але раблю гэта дзеля нагляднасці. Кожны з пералічаных пісьменнікаў мае сваё выразнае аблічча, сваю манеру. Мае яе і Іван Чыгрынаў, якога я тут крытыкую і які можа пакрыўдзіцца на мяне. Усё, што я хацеў сказаць,— гэта пра той дэмідж, які спрычыніў нашай літаратуры сацыялістычны рэалізм, дагматычныя вымогі якога адмоўна адбіліся на таленце не аднаго нашага паэта ці пісьменніка.

Чыгрынаў, як і многія іншыя, аддаў даніну свайму часу, замест яго я мог бы ўзяць для прыкладу любога нашага пісьменніка з ліку старэйшага пакалення.

*1990*

## МОВА

Пад час майго выступлення на сходзе літаратурнай суполкі «Крыніца» пры газеце «Чырвоная змена» нехта запытаўся ў мяне, як і чаму ў далечыні ад радзімы я збярог родную мову. Я тады не даў колькі-небудзь выразнага адказу на гэтае пытанне. Вяртаючыся думкай да пастаўленага мне тады пытання, я прыйшоў да досыць, на першы погляд, парадаксальнай высновы, а менавіта: беларускую мо-

ву (наколькі я ведаю яе) я захаваў, збярог, дзякуючы таму сумнаму факту, што амаль паўстагоддзя я не жыў на радзіме і не быў такім чынам падуладны працэсу асіміляцыі, працэсу дэнацыяналізацыі, які адбываўся і адбываецца цяпер у Беларусі і які ахапіў усе слаі насельніцтва, у тым ліку — і можа, найбольш — інтэлігенцыю. Я, так бы сказаць, вывез з сабою беларускую мову ў ейнай «чысціні», яшчэ не сапсаванай, такой, якой вывучаў яе ў школе, успрыняў ад нашых класікаў, пазнаў інтуітыўна. З такой закансерваванай, зберажонай мовай я і жыў увесь час, ёю карыстаўся, на ёй пісаў, яна была ў мяне адзіным сродкам самавыяўлення. У мяне не было спакусы паддавацца ўплыву блізкай мовы, спакусы, якая заўсёды цяжыць над беларускім паэтам і пісьменнікам. Жывучы вонку Бацькаўшчыны, быў я пазбаўлены моўнай стыхіі, што, канечне ж, не ўзбагачала мае мовы, але затое быў я свабодны ад пабочнага ўплыву і ўчэпіста трымаўся за сваю, вывезеную мову, як за тое адзінае, што засталося ў мяне ад духоўнай спадчыны майго народа.

*1991*

## ЧАМУ ЧАЛАВЕК ВЫКАЗВАЕ СЯБЕ НЯПОЎНА

Звычайна чалавек не запісвае ўсіх сваіх думак. Думае бесперастанку, няма той часіны, каб чалавек не думаў. Ён заўсёды пра нешта думае і, можа, найглыбей — уначы. Нават калі спіць — думае ў снах. Сон — гэта таксама думка. А вось жа не дзеліцца сваімі думкамі, прынамсі, не ўсімі сваімі думкамі. Шмат з іх ён хавае. Думкі, якімі ён



дзеліцца,— далёка не поўныя. Гэта прасеяныя на рацыянальным сіце думкі. Гэта яшчэ не патаемныя думкі. Важна, істотна якраз тое, што думае чалавек, калі ён сам з сабою, калі ён не баіцца, што яго можа падслухаць нехта іншы, калі ён настолькі смелы, што яму ўсё хоць бы што, калі ў ім зараджаюцца не толькі адважныя, а нават і злачынныя думкі. А от запісаць іх, абнародаваць свае патаемныя думкі ён не хоча, баіцца. А як шкада — гэта была б самая цікавая, самая праўдзівая ў свеце кніга. Ніякія Дастаеўскія, Шэкспіры, Дантэ не маглі б спаборнічаць з такой кнігай.

*1991*

## «НОВАЯ ЗЯМЛЯ» ЯКУБА КОЛАСА

Прачытаў яшчэ раз гэты твор — каторы ўжо раз! — і ўбачыў у ім, чаго не бачыў раней: вялікага Якуба Коласа, найбольшага мастака слова, які толькі існаваў у беларускай літаратуры і, баюся, ці заіснуе калі-небудзь наогул. Баюся, што гэта апошняе слова беларуса, якое ён сказаў вуснамі свайго вялікага песняра. Не будзе Беларусі, але — памерлая — яна навечна застанецца ў гэтым творы, як засталіся «Іліяда», «Адысея», «Пан Тадэвуш». Страціць беларус дарэшты ўсе свае нацыянальныя прыкметы, уключна з мовай, але цікаўны патомак знойдзе гэтыя прыкметы ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля» — у ёй знайшоў беларус найбольш глыбокае, найбольш праўдзівае, найбольш таленавітае адлюстраванне свайго характару. Будучы гісторык пашкадуе, што зніклі, як тая Атлантыда, прыгожая зямля — Беларусь і народ, які жыў на ёй. Да болю яму будзе крыўдна, што гісторыя была

такою бязлітасна бязбожнай да беларуса, што ніхто, абсалютна ніхто не прыйшоў на дапамогу яму, калі ён гінуў, знікаў. Чарнобыль спустошыць зямлю нашу, і толькі па «Новай зямлі» Якуба Коласа патомак даведаецца, якою яна была ў сапраўднасці.

*1991*

## ПРА АПАВЯДАННІ ІВАНА ЧЫГРЫНАВА

Чытаю апавяданні Івана Чыгрынава і захапляюся імі — гэта сапраўды мастацкія творы, напісаныя рукой таленавітага майстра. Здаецца, упершыню ў беларускай літаратуры чытаю такія дасканалыя апавяданні. У жанры апавядання я гатовы паставіць Івана Чыгрынава на першае месца, залічыць яго да ліку нашых класікаў. Апрача артыстызму, я вычуваю ў іх наша, нацыянальнае — філасофію, псіхіку, быт, норавы нашага народа. Да гэтага імкнуўся Кузьма Чорны, але шмат сваіх твораў ён папсаваў, намагаючыся задаволіць партыйныя вымогі ў літаратуры.

У малым жанры, у жанры апавядання, Іван Чыгрынаў незраўнаны. У гэтым жанры, думаецца, ён больш дасканалы, чым у жанры эпапеі.

*1991*

## «ПТУШКІ І ГНЁЗДЫ» ЯНКІ БРЫЛЯ

Калі б вы захацелі вызначыць жанр гэтага твора, гэта было б дарэмнай патугай: кніга не паддаецца нейкаму пэўнаму азначэнню — яна ўся ў



фрагментах, у дэталях, у малюнках, рассыпаная, і звязвае яе ў адно толькі асоба аўтара. Больш дакладна — у кнізе пануе свядомасць аўтара, ягонае ego. У кнізе абсалютна ўсё ўспрымаецца праз прызму аўтара — Руневіча. Ён увесь час як бы каментуе рэчаіснасць, якой ён жыў, робіць прысуд над ёй з гуманістычных пазіцый, мы бачым у гэтым каментары талстоўца, мараліста, філасафа і адначасна паэта. Тут цяжка дый немагчыма аддзяліць героя кнігі Руневіча ад аўтара, яны тут зросшыся. Зрэшты, аўтар і не хавае сваёй зроднёнасці з Руневічам, нават падкрэслівае сваю адэкватнасць з ім. І гэта часамі назаляе.

У кнізе ёсць нямала па-мастацку зробленых замалёвак з побыту аўтара ў палоне, трапных характарыстык прадстаўнікоў герэнфолька і іхніх прыслужнікаў. У ёй мы знойдзем таксама апаэтызаваных «грэтхен», нявольніц, што, як і тыя палонныя, мусяць цягнуць лямку ў розных грубэраў. Але дзе б герой твора ні быў, што б ён ні рабіў, у думках, духоўна ён заўсёды дома, на Бацькаўшчыне, і стварэцца ўражанне нейкага паралельнага існавання. Дзеяння, як такога, у творы фактычна і няма — яго заступае працэс думання, успаміны героя. Яны і складаюць, можа, найлепшыя старонкі ў кнізе. Тут аўтар выявіў немалую мастакоўскую здольнасць, назіральнасць, праніклівасць. Наогул, мастакоўская патэнцыя рэдка дзе здраджвае аўтару, за выняткам мясцін, дзе аўтар вымушаны быў лічыцца з прадпісаннямі ідэалагічнага характару.

У стылявым дачыненні твор не аднастайны, не аднародны. Стыль твора рухомы, пераходны: рэпартаж, публіцыстыка і проза, як гэткая. Інакш кажучы, шматслойны, камбінаваны стыль на добрым літаратурным узроўні. Дзеля калейдаскапічнасці кнігі чытаць яе нялёгка, але чытанне аплачваецца.

Шкодзіць кнізе эпілог: ён штучны, вымушаны, пададзены толькі для «закруглення», для біяграфіі, з меркаванняў ідэалагічных. Ён занадта прапагандны.

*1991*

## БАРЫС САЧАНКА

У мяне пад рукамі двухтомнік Барыса Сачанкі, што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1981 годзе з прадмовай Серафіма Андраюка. Два салідныя, па шэсцьсот старонак тамы. У іх — апавяданні, аповесці, раман у навелах, палескія былі. Вялікі набытак няўтомнага аўтара, набытак беларускай літаратуры. Знаёмлюся ўпершыню, хоць прозвішча цікавіла мяне аддаўна. Чытаю і ўцягваюся: лёгка, празрыста, праўдзіва. Бачу, аўтар добры апавядальнік, а гэта ж — што ні кажыце — ужо адно: неаспрэчны дар. Чалавек у Барыса Сачанкі — як чалавек, з усімі ягонымі свомасцямі: адмоўнымі і дадатнымі, ён — просты і складаны. І мне падабаецца просты Сачанка, просты ў лепшым сэнсе гэтага слова. Сачанку нельга, узяўшыся, не чытаць. Ён надзіва чытэльны, і гэта іншая рыса таленту Сачанкі. Ён добра надаваўся б для серыі «Школьная бібліятэка», тым больш што Сачанкава мова даходлівая і стыль — немудрагелісты.

Сачанка тонка адчувае прыроду, узнаўляе яе ў сваім мастацкім слове, тут ён багаты на паэтычны вобраз, нечаканую метафару. Сачанкаву прыроду вы суперажываеце. Уласна, у сваіх адчуваннях Сачанка — паэт. У яго ёсць свая планета — гэта Палессе. Гэтую планету ён добра абжыў. Здаецца, што ягоны талент ад гэтай планеты, што ягоны піетэт жывіцца ёю. Палессе — гэта, можна сказаць, пупавіна творчасці Барыса Сачанкі. Ад сваёй планеты — Палесся — Сачанка ўзнімаецца да вобраза народнай Беларусі.



Пераважная большасць твораў Сачанкі напісана ад першай асобы. Аўтарскае «я» адкрыта прысутнічае ў творы, гэта не перашкаджае, аднак, адрозніваць пазіцыю аўтара ад пазіцыі героя. Да таго ж «я — апавяданне» дае аўтару большую магчымасць заглыбляцца ў псіхалогію, ва ўнутраны свет героя. Самы буйны твор Сачанкі «Чужое неба» — гэта ці не найбольш спавядальны твор пісьменніка. Кампазіцыйна ён складаецца з паасобных твораў-апавяданняў, з «вузлоў памяці». Дарэчы, памяць у Сачанкі — гэта своеасаблівы каталізатар, мастацкі метад, прыём, рухаючая сіла, стымулятар. Сачанка ў палоне памяці. Асабліва прыкметна гэта ў такім ягоным творы, як аповесць «Аксана».

Кагадзе я сказаў, Сачанка — пісьменнік ясны, празрысты. Але ёсць у яго і рэчы кампазіцыйна больш складаныя, як, напрыклад, апавяданне «Сустрэча з чалавекам». Гэта ўжо мадэрнае апавяданне, з заглыбленай, больш скамплектаванай псіхалогіяй. Паводле задумы і выканання, паводле артызму — гэта хіба адно з найлепшых апавяданняў Сачанкі. Я ўжо не гавару тут пра апавяданні-мініяцюры з філасофскім падтэкстам. У іх як бы акумулюецца народная мудрасць.

Цікавыя ў Сачанкі і «жывёльныя» апавяданні, такія, як «Ваўчыца з Чортавай Ямы», «Дзік-бадзяга» і іншыя. Гэтыя рэчы нагадалі мне Джэка Лондана, не ў сэнсе пераймання, а ў сэнсе здольнасці Лондана спасцігаць жывёльныя інстынкты. Чытаючы такія Сачанкавы апавяданні, я дзівіўся «глыбіні» ведаў аўтара пра жывёл.

Хочацца асобна адзначыць тут такі твор Барыса

Сачанкі, як «Дыяруш Мацея Белановіча». Гэта унікальны твор у беларускай літаратуры на гістарычную тэму. Імітацыя стылю летапісца семнаццатага стагоддзя надзвычайная. Атрымліваеш уражанне поўнай аўтэнтычнасці. Часам думаеш, што Сачанку ўдалося недзе адкапаць той «Дыяруш», думаеш, што гэта аўтэнтычны дакумент.

Проза Сачанкі, як мне здаецца, узыходзіць хутчэй да коласаўскай школы ў нашай літаратуры, чымся да манеры Кузьмы Чорнага, хоць Сачанка і гаворыць, што ён любіць Кузьму Чорнага «як нікога з празаікаў свету». Канвенцыянальная, класічная проза Барыса Сачанкі, думаецца, забяспечыць ёй трываласць. Яна будзе мець свайго сталага чытача, як проза, створаная таленавітым пісьменнікам.

У творах Сачанкі як савецкага пісьменніка часоў панавання метаду сацыялістычнага рэалізму не так ужо і шмат з таго, што называецца ідэалогіяй, палітыкай у тым сэнсе, калі яна выпірае, па-мастацку неўматываваная,— у асноўным Сачанка збярог сябе ад яе, хоць там-сям і аддаў ёй даніну.

Карацей, паўтаруся, Барыс Сачанка стварыў цэлы шэраг твораў, якія, думаецца мне, увойдуць у сталы фонд нашай мастацкай літаратуры.

*1991*

## «ЛЁГКІЯ» АПАВЯДАННІ ВАСІЛЯ ХОМЧАНКІ

Кніга Васіля Хомчанкі «Стрэл у акно», у якой, апрача дзвюх аповесцей, змешчана восем «лёгкіх» (назаву іх так) апавяданняў, выйшла, як на Беларусь, досыць высокім, дваццацісямітысячным тыражом. Творы нашых некаторых класікаў выходзяць куды ніжэйшым тыражом. Хоць тыраж — гэта яшчэ, зразумела, не паказчык чытэльнасці твораў Васіля Хомчанкі, ды ўсё ж адважуся дапусціць (доказаў у мяне няма ніякіх), што Васіль Хомчанка належыць да ліку пісьменнікаў, якіх чытаюць. І гэта нягледзячы на тое, што высокая крытыка, наколькі я магу меркаваць, спецыяльна не займалася творчасцю гэтага пісьменніка. Высокая крытыка пераважна займаецца творчасцю пісьменнікаў, якія выбіліся наперад (што зусім зразумела), і часта забывае малых, хоць тыя малыя і працуюць у літаратуры досыць актыўна і становяць ейны, так бы мовіць, асноўны фонд, няхай сабе і не залаты.

Нехта недзе сказаў, што літаратура, якая складалася б толькі з адных класікаў (зразумела, я не супраць класікаў), была б — як гэта ні парадаксальна — беднай, манатоннай, што кожная літаратура абавязана сваім развіццём і меншым, але сумленным працаўнікам. На іх як бы апіраецца айчынная літаратура сваёй вяршыняй.

Чытэльнасць твораў Васіля Хомчанкі, калі яго напраўду чытаюць, абумоўлена, на маю думку, структурнай здольнасцю пісьменніка, яго здольнасцю валодаць формай. Васіль Хомчанка — майстра сюжэта. Хомчанка — пісьменнік-архітэктар. У сваю структуру ён улоўлівае чытача, інтрыгуе, змушае чытаць. Часам фабула ў Хомчанкі голая, не апраненая, без дастатковага мастацкага ўцелаўлення і ўспрымаецца дзеля гэтага як дэтэктыў, як анекдот ці чысты вымысел. З другога ж боку, прыгодніцкі жанр, элементы якога можна заўважыць у такім яго ным творы, як «Пры апазнанні — затрымаць», мо і не патрабуе мастацкай кампенсацыі — яна стрымлівала б дзеянне як галоўную рухаючую сілу ў гэткім жанры. Але нават і



5. Зак. 5347.

ў выпадку твораў з «голым» сюжэтам мастакоўскае вычупцё Хомчанкі выратоўвае іх, і вы даруеце яму тую «галізну», хоць мо такой скідкі і не трэба было б яму даваць.

Але вернемся да «лёгкіх» апавяданняў Васіля Хомчанкі, «лёгкіх» не толькі ў сэнсе іх даходлівасці, а — што асабліва важна — «лёгкіх» паводле сваіх літаратурна-эстэтычных якасцей: незамыславатасць сінтаксісу, музычны лад фразы, лёгкасць выслоўяў, лёгкая, авеяная часам светлашчымлівым смуткам танальнасць, псіхалагічная нескамплектаванасць, неабцяжаранасць якой-небудзь праблематыкай — вось у якім сэнсе я гавару аб «лёгкіх» апавяданнях Васіля Хомчанкі.

«Лёгкія» апавяданні Хомчанкі, змешчаныя ў кнізе «Стрэл у акно», скрозь сюжэтныя, з завязкай і развязкай, аўтар верны і тут, у малым жанры, свайму метаду — завяршаць твор нечаканай, навелістычнай канцоўкай. Вырашальная ў гэтых апавяданнях менавіта канцоўка, яна раскрывае схаваную сутнасць твора, ягоную задуму, філасафічнасць. Паспрабую прасачыць гэта на трох апавяданнях Васіля Хомчанкі. Пачнём з апавядання «Вясёлка над Бесяддзю». Давядзецца коратка пераказаць фабулу апавядання. Героі твора Іван і Сцяпан ідуць з вайны дахаты праз лес, уначы. Ад станцыі да вёскі не так і далёка, але раненаму Сцяпану ісці пехатой цяжка, ды адчуванне роднай прыроды, знаёмага наваколля ўсё ж адраджае яго, але найбольш — хвалюе сустрэча з сям'ёй. Прыйшлі яны ў вёску, калі яшчэ не пачынала нават світаць, а Сцяпан хацеў пераступіць парог свае хаты менавіта раніцай, а не ўначы. Раніцай ён пайшоў з хаты на вайну і раніцай хоча вярнуцца. Салдаты мусяць вяртацца дахаты, як нехта сказаў з ягоных камандзіраў, у той жа самы час, у які яны пакідалі



яе. Сцяпан бачыў у гэтым проста нейкую містыку. І калі Іван адразу ж, як прыйшлі ў вёску, кінуўся да сваіх, Сцяпан, каб дачакацца раніцы, прылёг на сваім двары пад паветкай на сена. Ён хацеў паказацца сваёй сям'і нязводна пры святле божым. Ды ён чуўся блага, рэзаў у сэрцы асколак, цяжка дыхалася, не мог перамагаць болю. «Я ўстану і зайду ў хату. Я не памру. Як гэта я памру? На вайне не забіла, дамоў прыйшоў і памру?»

Ды раніцай, выганяючы пастуху на вуліцу кароў, маці пабачыла свайго сына мёртвым.

Такая вось нечаканая канцоўка. Сюжэтна апавяданне канчаецца смерцю, філасафічна — жыццесцвярджальна. Заключнымі радкамі апавядання Хомчанка супрацьстаўляе смерці несмяротнасць. Перад абліччам сонечнай раніцы, высокага неба, перад абліччам боскай велічы смерць выдаецца «кашчуннай» і несапраўднай. Дазволю сабе зацытаваць заключныя радкі апавядання:

«А раніца была яркая, свежая, хораша свяцілася і добрым водырам пахла напоеная дажджом зямля. Над Бесяддзю ўскінулася, быццам запушчаная каляровая ракета, вясёлка. Адным канцом яна чэрпала ваду з рэчкі, а з другога сцякалі яе фарбы, і так мігцела радасна, весела, што проста дзіка, кашчунна было ў гэтую прыгожую раніцу ўявіць сабе, што пад такім небам і вясёлкай можа быць нейкае гора, а тым больш смерць чалавека».

Лірычныя, размераныя радкі, семантычна выразныя і вобразныя, ствараюць атмасферу непераходнасці ўсяго існага ў гэтым боскім свеце, здымаюць засмучанасць з прычыны адыходу чалавека.

Амаль заўсёды ў сваіх апавяданнях пасля экспазіцыі Хомчанка вяртаецца да прадгісторыі, да мінулага свайго героя, прытым у гэтай прадгісторыі можа быць яшчэ і свая, другая прадгісторыя, і

структурна апавяданне складаецца як бы з трох ступеняў, атрымліваецца трохступеннае апавяданне. Прыкладам такога апавядання можа быць апавяданне «Трава кахання». Перакажам яго сюжэт.

Герой твора Міхалевіч прыехаў з Мінска ў пасёлак Круглянск. Ён прыехаў сюды ў пошуках жанчыны, імя якой Трасцянская Вольга Маркаўна. Пра яе мы ведаем, што яна замужам за хірургам. Міхалевічу паказалі дом, дзе яна жыве. Міхалевіч нязводна хоча спаткацца з ёю, але не ведае як. Хвалюецца, перажывае магчымае спатканне, сумняваецца, што яно можа адбыцца.

Аўтар ужо заінтрыгаваў нас, мы чакаем, што ж тут будзе далей. Але аўтар стаўляе тут кропку, перакідвае нас у прадгісторыю Міхалевіча. У яго, Міхалевіча, вядомага мастака, закахалася дзесяцікласніца Воля, дачка гаспадароў, у якіх ён кватараваў. Банальная, як кажа і сам пісьменнік, гісторыя. Але Міхалевіч, двойчы жанаты і двойчы разведзены, ніяк не адказваў узаемнасцю закаханай у яго дзяўчыне — ён збіраўся ажаніцца з іншай жанчынай і з нецярпеннем чакаў дня вяселля. Нягледзячы на гарачую просьбу Волі застацца ў іх, застацца назаўсёды, Міхалевіч усё-такі пакідае Волю і ад'язджае ў Мінск.

Пісьменнік зноў стаўляе тут кропку. Пачынаецца іншая ступень апавядання — азнаямленне з «прыгожай», як яна названа ў апавяданні, жанчынай, той, з якой Міхалевіч хоча пабрацца. Ад яе ён атрымліваў лісты, калі стаяў у Воліных бацькоў, і тыя лісты заўсёды выбірала з паштовай скрынкі Воля, перадавала іх Міхалевічу, не ведаючы, канешне, пра іхні змест. Ды пабраўшыся з «прыгожай» жанчынай, з ёю ён доўга не жыў, развёўся, як развёўся і з другой, наступнай. І вось, расчараваны, пасля пятнаццаці год Міхалевіч накіроўваецца ў



Круглянск, дзе мы і застаём яго на пачатку апавядання. У ім ажыла памяць пра Волю, пра тую дзесяцікласніцу Волю, з якой, як ён думаў цяпер, ён мог бы быць сапраўды шчаслівым. Гэта тое адзінае, што цяпер засталося ў яго.

Міхалевіч нясмела падыходзіць да агароджанага і добраўпарадкаванага дома на ўскрайку лесу ў надзеі як-небудзь спаткацца з Воляй, цяпер ужо Вольгай Маркаўнай Трасцянскай, жонкай хірурга. Міхалевіч чакае, калі яна выйдзе на двор, каб хоць пабачыць яе, але яе не відаць, і Міхалевіч не ведае, як яму быць. У апавяданні чытаем: «Ён адышоў ад дома, прысеў на бярвенца, што ляжала пад дубам, і слухаў, як з галін мякка шмякалі жалуды ў агрубелую, але ўсё яшчэ зялёную траву, па якой ён тут некалі хадзіў шчаслівы, удачлівы, упэўнены, што яго чакае ў будучыні вялікае каханне».

Гэта тая трава, па якой ён некалі хадзіў з Воляй, закаханай у яго. Гэта «трава кахання», якую аўтар і вынес у загаловак свайго апавядання.

Зноў, як бачым, лірычная, лёгкім сумам авеяная канцоўка. Па сваёй танальнасці яна нагадвае мне канцоўку чэхаўскага «Дома з мезанінам»: «Мисюсь, где ты?» Дарэчы, некаторыя апавяданні Хомчанкі, змешчаныя ў кнізе «Стрэл у акно», у нечым сугучныя Чэхаву: тая ж музычнасць, лёгкасць фразы, настраёвасць, задуменна-настальгічная атмасфера.

Спынюся яшчэ на адным апавяданні Хомчанкі «Сіні сабака». Зноў найперш экспазіцыя: у мінулым пехацінец Максім Дзянісавіч з унукам Ванем ідуць у парк: Максім Дзянісавіч хоча згуляць у шахматы, Ваня — пагуляць у парку з дзецьмі. Ваня не хоча быць разам з дзедам: шахматысты кураць, у іх «там больш коркаў ад бутэлек, чым шышак», гаворыць Ваня. Дзед дае яму рубля, і Ваня

бяжыць у павільён, купляе там марожанае і сто грамаў пернікаў. Да яго падбягае прыблудны сабака,з запэцканымі ў сіняе бакамі. Сабака баяўся людзей, але да Вані ён займеў давер. Ваня частуе яго марожаным і пернікамі, і сіні сабака гатовы ўжо знайсці ў ім свайго гаспадара. Аж раптам ён пабачыў гіцля, чалавека з вяроўкай, ірвануўся і пусціўся наўцёкі. Схаваўся ў нечым двары між парожніх скрынак, бочак, бітай цэглы. Ваня ўсё ж адшукаў яго тут і загадаў яму сядзець, чакаць, пакуль ён не вернецца да яго. Ваню ж трэба было ісці да свайго дзеда.

Аўтар стаўляе тут кропку. Адкідае нас у мінулае Максіма Дзянісавіча. Ды яшчэ перад гэтым мінулым аўтар апавядання садзіць Максіма Дзянісавіча пасля, як ён згуляў у шахматы, на лаўку ў парку, куды шахматыст накіраваўся, каб адшукаць унука. Ён адхінуўся на спінку, у знямозе заплюшчыў вочы, у вушах пачулася нейкае «дзінь-дзінь-дзінь». Максім Дзянісавіч у нейкай паўсвядомасці апынуўся ў сваім мінулым: паранены, ён ляжыць у запалярным снезе. Цёмны дзень. Сонца зімой не ўсходзіць тут. Не паспеў таварыш перавязаць яму раны, як быў забіты тут жа. Лютуе мяцеліца, яго ніхто тут не знойдзе, ён замерзне, памрэ тут. Ды ён чуе нейкі званочак: «дзінь-дзінь-дзінь». А, гэта сабака-санітар. Ён чуе яго. Чуе ягоны брэх... Прыцішаныя людскія галасы. Яго кладуць на насілкі...

Аўтар тут перапыняе дзеянне. Пачынаецца, як у кіно, новы кадр. Ваня знаходзіць дзеда, заснулага ў мроях на лаўцы. Дзед расказвае яму пра свой сонъяву. Ваня вядзе свайго дзеда паказаць сіняга сабаку. Сіні сабака ўсё яшчэ быў у сваёй схованцы, чакаў Ваню. Сабаку забралі з сабой, ды па дарозе дахаты ім сустрэўся чалавек з вяроўкай — бяда: на сабаку не было нашыйніка, нумара, гіцаль хоча адабраць яго. Толькі калі далі гіцлю тры рублі, той адчапіўся ад іх.

У хаце Ваня скажа сваёй бабе: «Гэта во гэты сіні сабака выратаваў дзеда на вайне».

Звычайнае, здавалася б, апавяданне. Нічога асаблівага. Але сваёй чуласцю, сімпатыяй, якой праймаецца чытач да сіняга сабакі, да добрага Вані, да адсутнай у творы бабы, сваёй структурнай арганізаванасцю апавяданне робіць на нас ураганне, мы атрымліваем ад прачытання твора эстэтычнае задавальненне.

Я стараўся пераказаць фабулу, змест разгледжаных апавяданняў, але гэта дае толькі прыблізнае ўяўленне аб «лёгкіх», як я назваў іх, апавяданнях Васіля Хомчанкі. Іх трэба чытаць, улавіць тое, чаго нельга пераказаць,— метафізіку твора.

*1991*

## «СВЕТЛЫ МІГ» ЯНА ЧЫКВІНА

Кагадзе я атрымаў ад паэта Яна Чыквіна з Беластока ягоную кніжку вершаў «Светлы міг», што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1989 годзе. «Светлы міг» для мяне быў нечаканым адкрыццём цудоўнай, гаворачы вобразна, балонкі ў акне нашай сучаснай паэзіі. Як кажа паэт, Муза «прадыктавала яму на вуха словы», што ўрэшце і склалі кніжку «Светлы міг». Яна і для нас светлы міг адкрыцця паэтавага свету. Паэт выхоплівае з суцемкаў глыбінныя пласты нашага быцця, імкнецца «паспрабаваць бяздонне часу», зазірнуць у вечнасць. Паэт гаворыць: «... пад неба ўюся зорнае і вечнасць п'ю глыткамі невялікімі». Ці не адсюль і тая дружба з Музай, што дыктуе паэту на вуха

свае словы? Не кожны можа заслужыць такую даверлівасць высокай Музы.

Паэзія Яна Чыквіна па сутнасці філасофская. Яна вяртае нашу паэзію ў лона еўрапейскай паэзіі, да вопыту Максіма Багдановіча. Экзістэнцыяльна яна адрозная ад нашай сённяшняй паэзіі, калі хочаце — нават запярэчвае яе матэрыялістычную сутнасць, яна ў нашай паэзіі — як бы новая планета, хоць яшчэ і не адкрытая. Паэзія Чыквіна сімвалічная, метафарычная, як і належыцца быць сапраўднай паэзіі. Затрымаемся ж крышку на вобразнай сістэме кніжкі «Светлы міг», загляньма ў паэтычную гаспадарку Чыквіна. У вершы «Май», напрыклад, дадзены цікавы вобраз вясны. Вясна ў Чыквіна «налівае цяпло ў пасудзіну раслін, спаўняе таямніцу маяхрышчэння». Як гэта добра сказана! Гэта нібы паганскае дзейства прыроды. Нязвычны вобраз: «Вясна налівае цяпло ў пасудзіну раслін». Гэтую нязвычнасць надае яму зматэрыялізаванае, нібыта грубое «пасудзіна раслін». Такая «вульгарызацыя» вобраза прадметнасцю — ці не адна з характэрных рыс паэзіі Чыквіна. Вось яшчэ адзін падобны прыклад: «Так калісьці пераліваліся ў вядро юнацтва гадзіны з возера дзяцінства». Але гэтая на першы погляд незвычайнасць, зматэрыялізаванасць, «вульгарызацыя» вобраза прадметнасцю: пасудзіна раслін, вядро юнацтва — толькі яшчэ больш падкрэслівае, гіпербалізуе вобраз, робіць яго больш наглядным, больш даступным. Гэта не зніжае, аднак, ягонай эстэтычнай вартасці.

А вось вобраз таполяў: «У шчырае поле таропка топаюць таполі». Надзвычайная інструментоўка! Ці вобраз месяца ў рэчцы: «Плыве па рэчцы цёплы месяц, Быццам на стол вясельны гуска». Параўнанне месяца з гускай зноў жа нязвычнае, хоць вобраз плывучага ў вадзе месяца добра асацыіруецца з да-



рогай няшчаснай гускі да стала. У Яна Чыквіна нават дождж «Выбіраецца няцвёрдым крокам на бальшак-дарогу і сыпле мокрыя зярняты направа і налева». Пятрусь Макаль у сваёй прадмове да зборніка «Светлы міг» называе падобныя вобразы «зрокавымі зямнымі вобразамі». Бясспрэчна, зазямленне, беларускае зазямленне тут ёсць. Ёсць у Чыквіна і вобразы эстэтычна, так бы сказаць, больш далікатныя, музычныя: «З грацыі кветак музыкай тхне», «Рэчка замірае ў меланхоліі цячэння», «Макі грэюць рукі», у садзе вясной — «пчаліны фэст, як дня благавест».

Ёсць у Яна Чыквіна і вобразы, так бы мовіць, быційна-метафізічнага складу: «Мы — ластаўкі, што ў палёце адчайным крылышкаюць над чужароднаю ім гладдзю вод». Ад назоўніка крылы ўтвораны дзеяслоў *крылышкаць* — цудоўна! Або яшчэ такі вобраз: «Ты адышла, як адыходзіць цень на грані дня і ночы ад прадметаў». Тут бадай што блокаўская сімволіка — «Ты в поля отошла без возврата, да святится имя твое». Зрэшты, цяжка ўявіць паэзію без сімволікі.

Я назваў паэзію Яна Чыквіна еўрапейскай паэзіяй, але ягоная «еўрапейская паэзія» наскрозь прасякнута духам беларускасці, яна еўрапейская і адначасна нацыянальная. Як сказаў Бярдзяеў, культура ніколі не была і ніколі не будзе адцягнена чалавечай, яна заўсёды канкрэтна чалавечая, гэта значыць нацыянальная, індывідуальна-народная, і толькі такою сваёю якасцю яна ўзвышаецца да агульначалавечага. Досыць прыгадаць тут такія вершы Чыквіна, як «Заход сонца ў аколіцы Дубіч-Царкоўных», «Беластоцкая элегія», «Навальніца ў Беластоку», «Ля Белавежскай пушчы», «Гайнаўшчына» і іншыя, каб пераканацца, што еўрапейская паэзія Чыквіна ўзрасла на беларускай глебе,

6. Зак. 5347.

жывіцца ейнымі сокамі, яна прапісана на зямлі, дзе «Дзед круціў пласцінку жорнаў і коўш мукі быў поўны». Але падобную канкрэтыку нельга разглядаць як заземленасць паэзіі Чыквіна. Паэт гаворыць: «Душой імкнуся ўвысь, ляцець абы-куды». Любая матэрыя ў Яна Чыквіна «намагаецца ў мелодыю выліцца».

Ёсць у Чыквіна і матыў дабрадзейнай, так званай вечнай жаноцкасці. Дазволю сабе падаць тут цалкам невялічкі верш Чыквіна:

Ёсць у нашым беластоцкім краі
Незвычайнай прыгажосці жаночыя твары.

Высакароднай прыроды цудоўныя блікі —
Святыя абліччы, каханыя лікі.

Як ад агню, ад іх займаюцца чэрствыя душы
І, згарэўшы датла, стаюцца велікадушнымі.

І ад чараў гэтых мы штораз уваскрэснем,
Абнятыя жарам жаночым, нябесным.

«Абнятыя жарам жаночым, нябесным», «згарэўшы датла», душы нашы становяцца больш шляхетнымі, «велікадушнымі» — ці не такая функцыя паэзіі наогул, паэзіі Яна Чыквіна ў прыватнасці?

Нарэшце, нельга не закрануць вобраза самога творцы, вобраза паэта ў паэзіі Чыквіна. Які ён? Канешне ж, звычайна — мізэрны, адрынуты, бяздомны, распяты на крыжы.

Няма ні славы, ні багацця —
Адно скрыпучае пяро
Тырчыць з чарнільніцы рабром.
І крыж для новага распяцця.

Я вельмі самотны — айчыны не маю,
Матчынай ласкі.

Што гэта — сум па нябеснай Бацькаўшчыне, характэрны для сімвалістаў, ці сум па Беларусі?



Па ейнай матчынай ласцы? Ці настальгія эмігранта?

Гэтак вось, да чаго б ні дакрануўся Чыквін, пра што б ён ні пісаў,— усё ў яго «намагаецца ў мелодыю выліцца». Часам гэтая мелодыя ў сваім намаганні зрываецца, але яна сягае, як кажа паэт, у высь, дадамо — па «глыток вечнасці».

Кніжка вершаў Яна Чыквіна «Светлы міг» — гэта прыгожая мелодыя, немалы набытак нашай айчыннай славеснасці.

*1991*

## СУСТРЭЧЫ

Можа, мне і не трэба было ехаць у Мінск — ад мяне, наяўнага, прысутнага, уражанне хіба слабейшае, чымся ад маёй творчасці. Звычайна пра мяне складваецца думка куда выгаднейшая, калі са мною не сустракаюцца. Пры сустрэчы, асабліва перад высокімі службовымі асобамі ці славутасцямі, я не ўмею думаць, трачу сваё, індывідуальнае. Пры сустрэчы з такімі людзьмі я заўсёды паддаюся, не выяўляю свайго «я», трачу яго на карысць іншага, асабліва, кажу, калі той іншы ў маіх вачах асоба аўтарытэтная, ці — у выпадку жанчыны — прыгожая. Перад прыгажосцю я тушуюся. Стушаваўся я і перад Галінай Тычка: яна прыгожая. Наўзверх яшчэ і разумная. Вярнуўшыся дахаты, шукаю спосабу ёй спадабацца, вярнуць сябе такім, якім яна ўяўляла мяне да сустрэчы, тады, калі чытала мае творы. Карацей — пры сустрэчы я заўсёды прайграю. А от жа кажуць, што на сустрэчы ў Доме літаратара я выйграў. Няўжо?..

*1991*

## ФІЛАСОФІЯ ДАМАРОСЛАГА ФІЛОСАФА

Мяне часта агортвае пачуццё часовасці, і ад таго робіцца сумна. Цябе не будзе, а ўсё застанецца як ёсць, і дзеля таго тое «ёсць» здаецца табе нецікавым, нават прыкрым, менавіта таму, што яно ёсць і застанецца, а цябе не будзе. У цябе крыўда на тое «ёсць», бо яно цябе ашукала: калісьці ты захапляўся ім, быў з ім заадно, зліўшыся з ім, як адно цэлае. Ты ніколі не думаў, што яно пройдзе, не было думкі канца, не было думкі наогул — ты неўсвядомлена прымаў як дадзенае тое «ёсць», а цяпер вось з'явілася свядомасць сыходу. Ад таго «ўсяго» ты пачынаеш аддзяляцца, выпадаць, і ў гэтым выпадзенні ты прыкмеціў жудасную, няўмольную заканамернасць усяго існага, але табе ад гэтага не лягчэй: чалавек у гэтай «заканамернасці» — нішто, памылка. Магчыма, было б лепей, каб яго не было наогул, але тады, без мяне, не было б і таго «ёсць». Якая недарэчнасць!

*1991*

## РАТУЙЦЕ СВЕТ АД СТАРАСЦІ

Калі я цяжка працаваў на фабрыцы, не бачыў Божага свету, я, бывала, зайздросціў пенсіянерам, старым людзям: ідуць яны сабе раніцою, чысценькія, нікуды не спяшаюцца, задаволеныя сабой, мудрыя, у іх ёсць час, яны могуць поўнасцю аддацца сабе, сузіранню цудоўнага сонечнага дня, а ты ў пыле, у трантах, запэцканы, змардаваны, у цёмным сутарэнні не бачыш белага свету; яны не турбуюцца пра заўтрашняе, яны вырасцілі ўжо сваіх дзяцей, а ты няпэўны ў тым заўтрашнім, цябе могуць звольніць з той фабрыкі і ты тады прапаў — у цябе вунь якія яшчэ малыя дзеці...

Цяпер, калі я сам пенсіянер, стары чалавек, я не люблю пенсіянераў, асабліва чысценькіх, акуратных, у адпрасаваных гарнітурах, у святочных кашулях, у начышчаных да бляску чаравіках — ідуць сабе некуды, выглядае, быццам яны запрошаны на вяселле. Яны нікуды не спяшаюцца, і іх цэлыя арміі, яны запаланілі свет, ад іх няма ратунку. Як добра — даруй Божа! — што яны некуды непрыкметна знікаюць, але за імі ідуць іншыя, ад іх цёмна ў вачах, ад іх не збавіцца, яны ідуць і ідуць, ад іх, здаецца, пастарэў свет. О, якая жудасць ад гэтага мноства старых!

Не! Я хачу быць маладым. Працаваць на фабрыцы, але — маладым. Я не хачу бачыць старых!

Ратуйце свет ад іх! Ратуйце свет ад пастарэння!

*1991*

## МАЛЕНЬКІЯ ВЫСЛОЎІ

Хаджу ў парк і заўсёды адтуль што-небудзь прыношу: вобраз, думку, ідэю.

Стаю ў парку, заўважаю — зламалася б ад моцнага ветру адна верхавіна, каб не ўмела гнуцца. Гэтак хіба і з чалавекам.

Гэты дом-палац на высокім беразе затокі заўсёды інтрыгуе мяне сваёю нейкай таямнічасцю: жыве ў ім хто ці не? Вокны ў ім атулены гэтак, што складваецца ўражанне, быццам ён нікім не заселе-

ны, стаіць сабе самотны, загадкавы. Вока праз вокны нічога не можа ўгледзець, што там унутры, усярэдзіне.

Але сёння гэты дом-палац ажыў для мяне. Затока ўсхадзілася сваімі магутнымі, пеністымі хвалямі, гоніць іх у шторме на самы бераг, над якім стаіць дом-палац. Затока адкрылася пагляду ўсёй сваёй узнятай паверхняй, і можна далёка акінуць яе з іскрыстымі, бялявымі скалкамі простым вокам.

У нейкі момант у акне, што на затоку, нечая рука адхінула штору, і я пабачыў... Божа мой, няма ў мяне слоў... пабачыў надзвычайнай прывабнасці жаночую постаць, што, відавочна, толькі што ўзнялася з крэсла і, заварожаная, пачала глядзець на бурныя хвалі, якія каціліся ёй насустрач.

* * *

Думаў над паэзіяй, у прыватнасці — над беларускай, і нечакана, як нейкая формула, высвецілася думка: у мудрагельстве няма і не можа быць паэзіі.

* * *

Мініяцюры Янкі Брыля ў «Полымі» за жнівень месяц нагадалі мне адно выказванне Максіма Багдановіча. Услед за Буало ён сказаў, што добра напісаны санет варты цэлай паэмы. Па аналогіі я сказаў бы, што некаторыя колькірадковыя празаічныя мініяцюры Янкі Брыля вартыя цэлага рамана.

* * *

Возьмеш у рукі Пушкіна, пачнеш чытаць і — Божа мой! — які ты мізэрны перад ім! Любы паэт не павінен забываць, што ёсць Пушкін. Як мала яшчэ Коласа і Купалы!



* * *

Нас наведаў паэт Генадзь Бураўкін з жонкай Юліяй Якаўлеўнай — уручыў мне «Полымя» з падборкай маіх вершаў і ягоным словам пра мяне. Доўга яны не заседжваліся — спяшаліся наведаць яшчэ некага. У гутарцы з маёй жонкай Юлія Якаўлеўна зазначыла, што, пазнаёміўшыся з тым ці іншым паэтам асабіста, дзівішся, наколькі яны не адпавядаюць таму ўяўленню пра іх, якое складваецца пры чытанні іхніх вершаў: «Яны не гэткія».

Прыгадаліся радкі з Пушкіна пра паэта:

И меж детей ничтожных мира,
Быть может, всех ничтожней он.

## *ЖЫЦЦЁ ПА-ЗА КУЛЬТУРАЙ*

Амаль усё сваё жыццё мне, эмігранту, давялося жыць па-за культурай. Я жыў у розных культурах, але ніводнай з іх не спасцігнуў. Колькі б ты ні стараўся ўвайсці ў чужую культуру, у яе, нават пры вялікім намаганні і здольнасці, не ўвойдзеш: у ёй трэба нарадзіцца. Інакш яна заўсёды ловіць цябе на тваёй недасканаласці. І гэта балюча.

Я нарадзіўся ў беларускай — у шырокім сэнсе — культуры, але быў пазбаўлены яе. Адсюль мая недастатковасць і надлом.

## *ПРА АДНО ПАШКОДЖАННЕ*

Гаворка пойдзе тут пра шкоду, якую спрычыніў беларускай літаратуры гэтак званы метад сацыялістычнага рэалізму. Затрымаемся коратка не на ягонай «тэорыі», а на ягонай згубнай *практыцы.*

У нашай літаратуры працавала дый працуе цяпер не так ужо і мала таленавітых аўтараў, з выразным творчым абліччам. Карацей, наша літаратура — не без яркіх індывідуальнасцей. Бяда толькі ў тым, што чым больш была адоранай гэтая індывідуальнасць, тым было цяжэй ёй ужыцца ў беларускай літаратуры: такі адораны творца не ўкладваўся ў рамкі сацрэалізму, і ўсякая спроба выйсці за гэтыя рамкі канчалася несамавіта. Такія таленты, не апладніўшы нашу літаратуру сваім адметным словам, зніклі з яе, апынаўшыся ў засценках НКУС. У беларускай літаратуры было ўтульна *пасрэдным* талентам. Яна расла ці, дакладней, *разрасталася* іхнім коштам. Пасрэдны талент больш паслухмяны, ён лёгка дапасоўваўся да вымогаў сацрэалізму і такім парадкам паспяхова «запладняў» нашу літаратуру падробкай пад літаратуру. Яму лёгка было ўваходзіць у яе, у яго была надзвычайная здольнасць маніпуляваць. Такія таленты якраз і ўзнагароджваліся самымі высокімі прэміямі і адзнакамі.

Але ішлі на кампраміс і значныя таленты. Імкнучыся падладзіцца пад вымогі сацрэалізму, яны губілі свой талент, з-пад іхняга пяра выходзілі творы-калекі, у такіх творах мы бачым скажоны вобраз рэчаіснасці. У іх толькі зрэдку мы назіраем праблескі таленту, у нейкіх там паасобных дэталях. Можна сказаць, уся наша літаратура часоў панавання сацрэалізму стаіць пад знакам твораў-калекаў. У іх, паўтараю, часам ёсць прыкметы таго, што называецца мастацтвам, ёсць паасобныя ўдалыя мясціны, але ў цэласці, у сваёй задуме, яны — творы заганныя: іх знявечыла сацрэалістычная лакіроўка, у гэтых творах мастацтва перад палітыкай адступала на задні план.

Нашая маладая літаратура нібы баялася прыходу магутнага таленту, не дапушчала яго, нібы слабая, баранілася ад яго, ёй лягчэй было жыць з пакладзістымі талентамі. Нашая літаратура нібы баіцца выкліку.

Надышоў час навукова асэнсаваць пашкоджанне, спрычыненае нашай літаратуры сацрэалізмам, не баючыся, што аналіз гэтага пашкоджання збедніць нашую літаратуру. Ад гэтага яна не збяднее, наадварот, падвядзе патрэбную рысу пад выдаткамі і адчыніць шлях да якасна новага развіцця нашай нацыянальнай літаратуры.

*1992*

## *МОВА ЛУКАША КАЛЮГІ*

Як, можа, ні ў кога, у Лукаша Калюгі мова самая адметная, самая своеасаблівая. Нават у Кузьмы Чорнага, блізкага паводле мовы Калюгу, мы не назіраем такой апрычнай, самастойнай лінгвістыкі. Чым жа адрозніваецца беларуская мова Лукаша Калюгі ад звычайнай, агульнаўжывальнай літаратурнай мовы? Якія рысы робяць яе адметнай і наколькі гэтая адметнасць мовы Калюгі служыць яму, як пісьменніку-мастаку? Нарэшце, гэтая адметнасць, гэтая асаблівасць — плюс ці мінус?

Найперш, мова Калюгі — гэта не літаратурная мова ў звычайным сэнсе. Мова Калюгі,— асабістая мова. Але гэта адначасна і мова ягоных герояў. Мы назіраем у Калюгі рэдкую, амаль абсалютную тоеснасць мовы пісьменніка і мовы ягоных персанажаў, зліццё гэтых моў. Вы не можаце сказаць з пэўнасцю, хто гаворыць: аўтар ці персанаж. Мы назіраем *зродненасць* аўтара з ягонымі дзеючымі асобамі. Уражанне такое, быццам у аўтара і няма

сваёй мовы, быццам ён паслугоўваецца мовай таго ці іншага свайго героя. Але гэта ілюзія: за кожным персанажам стаіць аўтар, толькі што мы не заўважаем ягонай прысутнасці. У гэтым якраз і выяўляецца надзвычайная мастакоўская здольнасць Калюгі-пісьменніка.

Мова Калюгі псіхалагічна дакладная. Яна настолькі дакладная, што ў кожнай рэпліцы, у кожным руху, у кожным жэсце вы не заўважаеце фальшу: пісьменнік забяспечвае свайго персанажа ягонай *прыватнай* мовай. Праз гэтую мову раскрываецца духоўны свет героя, ягоная псіхалогія і нават ідэалогія.

Адсюль іншая асаблівасць мовы Лукаша Калюгі — ягоны сінтаксіс. Гэта не той сінтаксіс, да якога мы прывыклі. Гэта Калюгаў сінтаксіс і аднachасна сінтаксіс ягоных дзеючых асоб. Своеасаблівая канструкцыя фразы як найлепш выдае, раскрывае асобу, ейную псіхалогію, яна агаляецца, паўстае перад намі жывой, незамаскаванай мовай агульнай, неперсанальнай. Сінтаксіс Калюгі настолькі адрозны ад агульнага, наколькі адрозніваецца — псіхалагічна, ментальна — абраная ім для даследавання сацыяльная праслойка ад ментальнасці пасрэднага тыпу нашай нацыі. Не забывайма, што ў такіх сваіх творах, як «Нядоля Заблоцкіх» і «Ні госць, ні гаспадар», Калюга ўзяў блізкі яму матэрыял — людзей з уплывамі польскай культуры, псіхалагічна ў нечым адрозных ад стандартнага нашага тыпу. У мове гэтай праслойкі мы назіраем паланізмы, асабліва звароты, хутчэй блізкія польскай мове. І Калюга нічога не мяняе ў моўным ладзе сваіх персанажаў, сінтаксічна аўтар арганічна зросся са сваімі дзеючымі асобамі. І гэта не загана, а, наадварот,— выключная здольнасць пісьменніка ў спасціжэнні абраных ім герояў. Падгані Лукаш Калюга мову сваіх герояў пад агульны, неасабовы сінтаксіс, у ягоных творах мы пабачылі б не жывых людзей, а манекенаў. І не было б пісьменніка Лукаша Калюгі.

Канешне, асаблівасці стылю Лукаша Калюгі могуць і знеахвочваць чытача. Не кожны, узяўшыся чытаць твор Калюгі, дачытае яго да канца. Чытанне твораў Калюгі не лёгкае — запаволенасць, цягучасць, аналітычнасць не даюць магчымасці прабегчы вачыма твор Калюгі, за адзін прысядак праглынуць яго, затое, хто адолее твор Калюгі, той адкрые для сябе нешта новае, дасюль неадкрытае, духоўна ўзбагаціць сябе, адчуе на сабе эстэтычнае ўздзеянне мастацкага слова выдатнага пісьменніка.

*1992*

## ЛІСТЫ



*Дарагі Масей Ларывонавіч!*

Пишу по-русски, чтобы, если кто будет читать, понял все без перевода.

Я — белорусский писатель Василь Хомченко, твой земляк из села Каничи, что в десяти верстах от Костюкович, от Мокрого — в двадцати.

Помнишь ли ты меня? Мы ведь очутились вместе в одной камере на улице Урицкого. Были там еще Янка Неманский, Янка Тумилович, Блохман, еще несколько человек и я, студент-рабфаковец, восемнадцатилетний хлопец. О Тумиловиче, Неманском и тебе я написал воспоминания («ЛіМ» и моя книга «Стрэл у акно»). Тумилович и Неманский погибли. Дочь Неманского живет в Витебске, я с ней дружу. В Союзе писателей был вечер, посвященный жертвам сталинского террора, куда ее приглашали. Сейчас телевидение готовит фильм о Неманском, в котором мы — я и его дочь Лида — будем рассказывать о нем. Я ее водил на Урицкого и показывал, где была та камера.

Сейчас я работаю над книгой документальных рассказов о тех страшных временах, о лагере, в котором я был четыре года. Я получил тогда немного — четыре года и три поражения. Отбывал кару возле Комсомольска-на-Амуре, освободился в апреле 1941 года. Работал в Астрахани грузчиком, в Беларусь не пустили. Перед самой войной пошел в армию и служил в ней до конца 1968 года. Воевал, окончил военно-пехотное училище. Конец войны меня, лейтенанта, командира минометного взвода,

застал в Австрии. С 1947-го по 1951 год учился в военно-юридической академии. После увольнения работал в издательстве «Мастацкая літаратура» двенадцать лет заведующим редакцией прозы. Теперь на вольных хлебах. Вышло много моих книг.

О тебе я всегда помнил, стихи твои тоже помню наизусть. Старался о тебе все узнавать. И только сейчас дали мне твой адрес.

В Минске о тебе хорошее мнение и как о человеке, и как о поэте. Я прочел твои три книги поэзии, прозу даст Саченко, прочту. Многие стихи я знал. Например, «Бацькам» («Родныя, не плачце пры ўспаміне...») я запомнил еще в камере. В книге же под ним почему-то значится, что написан в Новосибирске. Это стихотворение я приписал своему герою в повести о Богушевиче «При опознании — задержать». Помню с тех пор — «Хутчэй зара». Помнят твои стихи и Рыгор Няхай, Алесь Звонак. Они живут, хоть и слабые.

Долю твою я знал, а когда прочел поэмы о себе, о матери, словно получил в сердце рану. Заснуть не мог. Ей-Богу, буду в Костюковичах, попробую найти Бугрова. Хоть поговорю с ним.

Осенью 1945 года приходила в Каничи твоя сестра, рассказала о тебе, о матери. Но, к большому огорчению, я с ней не встретился — уехал в Могилев. Я приезжал тогда в отпуск.

Саченко собирается напечатать твои стихи. А я напишу о тебе подробные воспоминания. Теперь у нас ведь настоящая свобода, слава Богу. Высылаю тебе в этом конверте вырезку из газеты «Знамя юности» — восемьсот тысяч тираж ее. Это о тебе, и там твои стихи.

Заинтересовался тобой и Костюковичский краеведческий музей. Я им о тебе написал. Дал и адрес твой.



Где твои сестры? Дай их адрес.

Масей, приезжай в Минск, соберись с силами. Все расходы на прожитие здесь я беру на себя. Никто тебя ни в чем не упрекнет. С тобой хотят встретиться многие. Тебя здесь знают. Съездим на родину. Если ты получишь это письмо и ответишь, то я вышлю тебе и кое-какие свои книги. Напишу обо всем подробнее. Дай Бог тебе и твоим близким доброго здоровья и долгих лет творчества. Надеюсь на встречу. Помнящий и любящий тебя

*Василь Хомченко*

*2 сентября 1989 года*

*Дорогой Василь Федорович!*

Нежданно-негаданно — твое письмо, да еще вдобавок статья из «Знамени юности»! В кои-то веки? Тут же, дорогой земляк, приношу тебе и Галине Айзенштадт мою самую большую благодарность. Воистину душа возрадовалась. Но это высокий стиль, и он не в состоянии вполне выразить моего чувства признательности.

Ты спрашиваешь, помню ли я тебя. Ну, а как же — помню. Хорошо помню, кроме тебя, еще Янку Тумиловича, Блохмана и других камерников, в частности очкастого профессора Лойку (географа), любителя играть в «килу» (была такая карточная игра). Блохман (он из Дукоры, откуда и А. Червяков), помнишь, не раз просил меня станцевать с ним мазурку Винявского. Помню и по сей день одну строфу из своего шуточного стихотворения, посвященного Блохману:

И говорю я без укора —
не посади тебя в подвал,
из исторической Дукоры
ты всем бы миром управлял.

Но многое забылось. Я удивлен, что ты сохранил в своей памяти мой простой, печальный стих «Бацькам», написанный или, вернее, составленный в памяти конечно же в нашей подвальной камере на углу Советской и Урицкого. Поставил я под ним «Новосибирск» ошибочно. Изменяет память. О твоей дальнейшей судьбе каторжника узнаю вот только из твоего письма: получил четыре года, срок отбывал где-то возле Комсомольска-на-Амуре. Правда, из энциклопедии я уже знал, что ты воевал, окончил военно-юридическую академию, написал много книг. Пришлось мне кое-что из твоего и прочитать: повесть «Стрэл у акно», статью «Армваенюрыст». Прышлі мне, калі ласка, твае кнігі — буду рады прачытаць. Желаю тебе успеха в работе над книгой документальных рассказов. Это очень важно.

Так вот, дорогой Василь (кстати, у меня есть брат, тоже Василь, живет где-то на территории Мокрянского сельсовета, от него ничего не получаю), твое письмо для меня — это целое событие, большая радость, но, признаюсь, читая его, я пролил над ним и немало слез: твое упоминание, что моя сестра (это Дарья) приходила к тебе осенью 1945 года в Каничи в надежде узнать от тебя что-нибудь обо мне, потрясло меня, разбередило старую, неугасимую рану. Сестра Дарья, самая младшая из нас четверых, уже не живет — несколько лет тому назад умерла от тромбоза в Ленинграде. О Бугрове, прошу, Василь, забудь. Но, прости, что я затягиваю письмо. Радует меня, что, как ты говоришь, Саченко собирается напечатать мои стихи и что ты хочешь написать воспоминания обо мне. Кстати, где-то в середине августа я послал свои стихи в «ЛіМ», «Полымя», «Маладосць». Не знаю, как отнесутся к ним редакторы. Между прочим, послал я свои книжки и в Ленинскую.

Теперь о твоем предложении приехать в Минск. Что ж — втайне, про себя, я не раз думал об этом. И я готов приехать, если для тебя не буду помехой. Ты пишешь, что в Минске обо мне неплохого мнения. Это радует и ободряет. Даже мои дети (их трое)... хацелі б паглядзець Бацькаўшчыну іхняга бацькі. Яны шукаюць карані сваіх родзічаў, дарма што нарадзіліся ў ЗША. Але галоўнае, Васіль, твае запросіны. І я ўдзячны табе за твой шляхетны жэст. Мне ж не давялося пазнаць свае Бацькаўшчыны — усё жыццё вонках яе. Дык добра было б зірнуць на зямлю, дзе ты з'явіўся на свет. З'ездзіць, як ты кажаш, на радзіму, значыцца, у Касцюкоўшчыну (якое гора!), засыпаную Чарнобылем. Старэйшая за мяне сястра жыве ў Касцюковічах, але больш года не маю ад яе ніякіх вестак. Быў бы ўдзячны табе, калі б ты змог даведацца, што з ёй. Цябе мне паслаў Бог, Васіль. Дзякую табе за твой ліст, які мяне гэтак усцешыў. Чакаю ад цябе адказу. Буду канчаць свой ліст, такі сумбурны. Павітай пані Галіну, Алеся Звонака, Барыса Сачанку, Рыгора Няхая і ўсіх, усіх. Але досыць, а то заплачу. Высылаю табе асобна кніжыцу перакладаў маіх вершаў па-расейску. Зычу табе ўсяго найлепшага.

*Твой Масей*

*22 верасня 1989 года*

### *Дарагі Масей!*

Пісьмо тваё атрымаў, ішло яно дзён дваццаць. Кнігу тваю яшчэ не атрымаў. Быў вельмі рады твайму пісьму. Даваў яго чытаць многім пісьмен-

нікам. Ад іх табе прывітанні, асабліва ад Сяргея Грахоўскага. Ён і Алесь Звонак вельмі актыўна пішуць пра мінулае. Грахоўскі вельмі добрай пра цябе думкі. Даваў чытаць пісьмо і Г. Айзенштадт. Яе да цябе пісьмо далучаю.

Я напісаў прадмову да тваіх вершаў у «ЛіМ». Павінны даць, чакаю. Прышлю тады газету.

Напісаў у Касцюковічы сястры тваёй Марфе. Пакуль няма адказу, але атрымаў ліст ад краязнаўца Ламінскага У. Р. Ён быў у яе. Цытую пісьмо: «Она со слезами на глазах вспоминала военное лихолетье». Пра цябе сказала: «Если бы мне посчастливилось хотя разок его увидеть, то можно было бы и умирать...»

Так што, калі табе здароўе дазволіць дабрацца да Радзімы, прыязджай. Я ўжо пісаў, што пажывеш у мяне. Абы прыехаў, далей — мой клопат. Цябе хочуць бачыць усе, хто ведаў цябе. На днях пісьменнік В. Адамчык (ён старшыня секцыі прозы) сказаў мне, што хоча абмеркаваць на секцыі твой раман і каб я выступіў. Я з радасцю падтрымаў яго прапанову. «Нам трэба вярнуць усіх у Беларусь з замежжа»,— сказаў ён. Меў на ўвазе творы.

У мяне ўсё ж ёсць такая вера, што мы сустрэнемся. Прывітанне і ад І. Чыгрынава. Як даведаўся, што я напісаў пра цябе прадмову-ўспаміны, ён сказаў: «А ты адзначыў, што я ў рамане пра яго пісаў? Мой Масей Зазыба — гэта ён».

Ну вось і ўсё. Прывітанне тваёй сям'і.

*Васіль Хомчанка*

*30 кастрычніка 1989 года*



*Дарагі Масей!*

У другім, лютаўскім нумары «Маладосці» ідуць твае вершы, пісьмо тваё і адказ Б. Сачанкі на яго.

На днях было пасяджэнне секцыі прозы. На ім было і такое пытанне: «Беларуская літаратура замежжа. Творчасць М. Сяднёва». Я быў дакладчыкам. Вырашылі звярнуцца ў адпаведныя інстанцыі аб выданні анталогіі твораў пісьменнікаў замежжа. Так што, калі гэта будзе зроблена, трапіш у анталогію.

Зацікавіліся табой і ў маладзёжнай рэдакцыі часопіса «Крыніца». Пашлі туды некалькі сваіх вершаў і якую старонку ўспамінаў пра 1936 год, пра арышты ў педінстытуце.

У часопіс «Спадчына» я напісаў артыкулы-ўспаміны пра Цвікевіча А. І. З твайго «Рамана Корзюка» выходзіць, што ты з Цвікевічам сустрэўся ў камеры на Валадарскага.

Я рады, што дайшла і да ЗША мая «Прагулка па парку з пракурорам».

Наконт «Рамана Корзюка». Я б не стаў там будаваць гэтую шпіёнскую лінію, пераход у Польшчу і гэтак далей, а напісаў бы проста аўтабіяграфічны твор пра той час. Падабаецца пра арышты, допыты, суд. Я разумею, што ты зрабіў такую прыгодніцкую лінію, каб захапіць чытача.

Спадзяюся, што ты паспееш напісаць успаміны пра той час. Бывай здаровы.

*Васіль Хомчанка*

*30 студзеня 1990 года*

*15 лістапада 1989 года*

*г. Мінск*

*Шаноўны Масей Сяднёў!*

Гарачае прывітанне з Беларусі!

Турбуе Вас аспірант Інстытута сусветнай літаратуры імя М. Горкага Акадэміі навук СССР — Леанід Пранчак. Другі год запар я вывучаю літаратуру беларускай эміграцыі. Мэта майго даследавання — разгледзець беларускую эміграцыйную літаратуру ў кантэксце ўсёй беларускай літаратуры.

Праца мая рухаецца, на жаль, вельмі марудна. Не хапае матэрыялу. У бібліятэках рэспублікі няма кніг, газет, часопісаў, якія выдаюцца ў эміграцыі. Пісьменнікі беларускага замежжа, іх творчасць па зразумелых Вам прычынах мала вядомы ў Беларусі. Гэты прабел мне хацелася б ліквідаваць.

У сувязі з гэтым звяртаюся да Вас з просьбай даць мне завочнае інтэрв'ю, якое я мяркую надрукаваць у савецкіх літаратурных выданнях, выкарыстаць у дысертацыі і пры падрыхтоўцы даведніка «Пісьменнікі беларускай эміграцыі».

Пытанні, на якія мне хацелася б атрымаць ад Вас адказы:

1. Раскажыце пра свой творчы лёс. Назавіце Вашы асноўныя творы.

2. Як Вы ацэньваеце феномен беларускамоўнага замежжа і яго месца ў беларускай культуры?

3. Творы якіх пісьменнікаў беларускай эміграцыі, на Вашу думку, сталі з'явай у беларускай і сусветнай літаратуры.

4. Ваша думка пра сучасную савецкую беларускую літаратуру. У чым яе адрозненне ад літаратуры эміграцыйнай? У чым падабенства?



5. Чым з'яўляецца для Вас Беларусь? Як і чаму ўдалечыні ад радзімы Вы зберaглі родную мову?

6. Над чым працуеце зараз?

Буду ўдзячны, калі Вы знойдзеце час і палічыце патрэбным адгукнуцца на маю прапанову.

З павагай *Леанід Пранчак*

*Вельміпаважаны спадар Пранчак!*

Даю інтэрв'ю, адказваю на пастаўленыя Вамі пытанні. Адказваю, як магу. Баюся, што некаторыя мае сцверджанні могуць паказацца галаслоўнымі ці надта катэгарычнымі, асабліва сцверджанні, што тычацца савецкай беларускай літаратуры. Гэтыя сцверджанні заснаваныя не на нейкім аналізе, яны — толькі вынік маіх пабочных назіранняў, хутчэй дылетанцкіх. Я ніяк не хацеў бы недаацаніць бясспрэчных поспехаў нашай пакутнай літаратуры. Калі што не так, бяру грэх на сваю душу. Зрэшты, я нічога новага і не сказаў. Паўтарыў толькі агульнавядомыя палажэнні.

Просіце мяне расказаць пра свой творчы лёс? Я часта думаў — можа, гэта і наіўна,— што мой лёс не мог быць інакшым, чымся той, які мяне напаткаў. Ён, думалася, быў прадвызначаны не гэтулькі абставінамі часу, колькі дадзенай мне звыш доляй. Адчуваю, што гэта гучыць так, быццам тут дзейнічала нейкая сляпая сіла, фатум, дэтэрмінізм. Прынамсі, я так часам схільны думаць. Дый сваё пытанне, паважаны спадар Пранчак, Вы сфармулявалі ў плане таго ж фатуму: творчы лёс. І сапраўды, Вашая пастаноўка пытання, думаю, правамерная — лёс згуляў тут сваю ролю. «Пяснярская каляіна», на якую ўступілі многія таленавітыя беларускія песняры, скончылася для іх трагічна. Злы

сталінскі геній умярцвіў іх. Дасталося і мне ад гэтага злога генія. Але хачу сказаць тут не толькі пра злога генія, дэмана, а і пра светлых анёлаў, што ахоўвалі гэтых песняроў, хоць і не ўратавалі іх. Я гавару тут пра такі анёльскі дар, як талент. Колькі іх звялося, неаплаканых нікім! Дык «пяснярская каляіна», відаць, была наканаваная і мне, чалавеку божаму. Яна прывяла мяне і да турмы. Гэта была, так бы сказаць, развязка майго лёсу. Выкажу тут парадокс — арышт замацаваў мяне на «пяснярскай каляіне», канчаткова вырашыў мой творчы лёс. У турме я стаўся паэтам. Турма, канешне, не спрыяе таленту, яна нішчыць яго, але ў турме ў мяне не было цэнзара, у сваёй памяці я мог складаць усё, што хацеў, у мяне была свабода творчасці. Вось у якім сэнсе я гавару, што ў турме я стаўся паэтам. Але трагізм тут заключаўся ў тым, што, маючы творчую свабоду, не меў свабоды фізічнай. Вось Вам і творчы лёс. Я не наракаю на яго, ён быў мне, відаць, прызначаны, і я спаўняў яго, як толькі мог.

Вашае пытанне адносна феномена беларускамоўнага замежжа і ягонай ролі ў беларускай культуры можна разглядаць як надзвычайнае ў палітычнай і культурнай гісторыі Беларусі. Бо ж гэта першая беларуская эміграцыя ў поўным сэнсе гэтага слова. Беларуская эміграцыя дарэвалюцыйных часоў — гэта, сказаць бы, хлебная эміграцыя, яна не ставіла перад сабой ніякіх палітычных мэт і нічога не пакінула пасля сябе. Новая беларуская эміграцыя — гэта ўжо палітычная эміграцыя. Яна лічыць сябе паборнікам ідэі незалежнасці Беларусі, духоўным спадкаемцам урада БНР. Дарэчы, сімвалічна ён існуе яшчэ і цяпер. У часы найбольшага палітычнага і культурнага свайго ўздыму беларуская эміграцыя, можна сказаць, тварыла Беларусь вонках Беларусі. Найбольшае намаганне палітычных кіраўнікоў эміграцыі было скіравана на прапаганду 25 сакавіка 1918 года, калі была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка (БНР), а то і проста вялася прапаганда сярод заходняга свету імя беларуса і ягонай краіны як гэтакай. Карацей, беларускую эміграцыю можна разглядаць як місіянерскую эміграцыю, хоць у яе не хапала сілы і сродкаў для гэтай місіянерскай ролі. Што ж тычыцца літаратуры, культуры наогул, дык і тут яна была ці не ўсё той жа надбудоўкай, хоць, праўда, з другога боку. Літаратуры беларускага замежжа найболей пашанцавала: за мяжой апынулася досыць вялікая група беларускіх літаратараў, што напачатку былі даволі актыўнымі, і здабыткі ў галіне літаратуры найбольш відавочныя. Выдавалася некалькі літаратурных часопісаў, да прыкладу, «Шыпшына», «Конадні», «Сакавік» і іншыя, пры газеце «Бацькаўшчына» быў заўсёды літаратурны дадатак. Была разгорнута выдавецкая дзейнасць твораў беларускіх класікаў, якія былі ў Беларусі пад забаронай. Можна было назіраць своеасаблівы росквіт беларускай культуры за мяжой, у тым ліку ў галіне навуковай, пераважна ў галіне літаратуразнаўства і мовазнаўства. Ды ўсё ж найбольшага поспеху, думаецца, беларуская эміграцыя дасягнула менавіта ў галіне мастацкай літаратуры, хоць гэтымі сваімі дасягненнямі яна абавязаная выключна малому ліку ейных творцаў. Лік гэты можна зрэдукаваць да нейкага абсалютнага мінімуму. І я думаю, здабыткі беларускіх эмігрантаў у галіне мастацкай літаратуры рана ці позна ўвойдуць арганічнай часткай у беларускую культуру.

Вашае, спадар Пранчак, трэцяе пытанне — назваць творы беларускіх эмігрантаў, якія б сталіся прыкметнай з'явай у беларускай і сусветнай літара-

туры,— самае цяжкае для мяне пытанне. Магу з пэўнасцю сказаць, што творы некаторых паэтаў і пісьменнікаў беларускага замежжа становяць сапраўды нешта адметнае і новае ў беларускай літаратуры. Што тычыцца твораў, якія б маглі ўвайсці ў скарбніцу сусветнай літаратуры, дык гэта пытанне выдаецца мне досыць адносным і я не бяруся адказваць на яго.

Пытанне, што становіць сабой савецкая беларуская літаратура? Цяжкае для мяне пытанне. Я не літаратуразнаўца і не крытык, да таго ж я недастаткова азнаёмлены з працэсамі ў сучаснай савецкай беларускай літаратуры. Факт застаецца фактам, што ў сучаснай савецкай беларускай літаратуры працуе не так ужо і мала сапраўды выдатных, высока адораных, таленавітых паэтаў і пісьменнікаў і яны вызначаюць ейны досыць прыкметны ўзровень. Аднак пры ейным неаспрэчным патэнцыяле яна магла б быць значна багацейшай, калі б вызвалілася, нарэшце, ад рознага роду рэгламентацыі, калі б яна перастала — здзіўлю — адлюстроўваць рэчаіснасць, а ўзнялася б да эстэтычна-філасофскіх абагульненняў. Бо ж яна ўся ў надзённым, а не ў вечным (крый ты, Божа, я не супраць надзённага). Яна цягнецца за падзеямі, выконвае службовую ролю, у ёй яшчэ няма ці бадай няма метафізічнай глыбіні, нацыянальнага эрасу. У ёй нямала выдатных твораў і, дзякуючы ім, яна жыве — але і ў іх яшчэ можна назіраць рэцыдывы, як цяпер кажуць, застойных часоў. Літаратура, як вядома, заўсёды ў якасных, а не ў колькасных паказчыках. У ёй мусіць панаваць, калі хочаце, дух арыстакратызму. Але такога культу ў ёй яшчэ няма. Яна адвярнулася ад Максіма Багдановіча, пайшла па дарозе сацыялагізацыі. Нельга тут не адзначыць і такога сумнага факта, як адсутнасць для



пісьменніка надзейнай нацыянальнай базы, нацыянальнага грунту. Мова ў заняпадзе, а як тварыць беларускаму паэту і пісьменніку, калі беларус цураецца свае мовы? Гэта трагедыя.

Цешуся, спадар Пранчак, што ў гэтым сэнсе ёсць пэўны зрух — беларус як бы пачынае ўсведамляць, што па-за беларускасцю ў яго няма шанцаў на поспех, што зрачыся мовы азначае зрачыся сябе. Беларуская літаратура пачынае ачуньваць, набіраць сілы і імпэту, у ёй з'яўляюцца новыя таленты, зацікаўленне творчасцю беларускіх паэтаў і пісьменнікаў усё ж расце. Усё гэта стане парукай вышэйшага эстэтычнага ўзроўню беларускай літаратуры. Без нацыянальнай літаратуры няма народа.

Пытаецеся, чым жа адрозніваецца эмігранцкая беларуская літаратура ад беларускай савецкай літаратуры? Перш за ўсё эмігранцкая літаратура — гэта малая літаратура, хоць, праўда, пісьменнік Васіль Хомчанка лічыць, што «... беларуская літаратура махае двума крыламі: адно крыло ў Беларусі, другое — у замежжы» («ЛіМ», 24 лістапада 1989 года). Дужа цікавае выказванне. Калі ўлічыць літаратуру Заходняй Беларусі, дык, можа, за гэтым вобразным выразам можна прызнаць слушнасць, хоць літаратура Заходняй Беларусі даўно ўлілася ў беларускую літаратуру і як гэтакай яе ўжо няма. Іншая адрознасць літаратуры беларускага замежжа — светаагляднага, адрозніваецца яна таксама і паводле свайго метаду: апрача рэалізму і рамантызму, вы знойдзеце ў ёй неакласіцызм і сюррэалізм. Я назваў літаратуру беларускага замежжа малой, бо ж у ёй працуе ці працаваў усё-такі малы лік творцаў, дый тыя, апрача літаратуры, каб пражыць, мусілі займацца іншай працай, у тым ліку фізічнай. Толькі сталы ейны актыў, нягледзячы на ўсе цяжкасці, трымаў сцяг гэтай літаратуры.

7. Зак. 5347.

Ну, а падабенства літаратуры беларускага замежжа з савецкай беларускай літаратурай, пэўна ж, перш за ўсё ў агульных вытоках. Творцы беларускага літаратурнага замежжа — выхадцы з Беларусі, яны жывіліся сокамі роднай зямлі, палымнелі замілаванасцю да яе, дыхалі ейным паветрам і, як правіла, успрыняцце беларускімі эміграцыйнымі пісьменнікамі і паэтамі было заўсёды абвостраным. Слоў няма, літаратура беларускага замежжа — гэта, можа, адрозная, але адзіная плынь агульнай беларускай літаратуры і яе, эміграцкую літаратуру, трэба і разглядаць толькі ў гэтым кантэксце.

Чым для мяне з'яўляецца Беларусь? Без яе я не мог бы ўявіць сябе як паэта, жыць давялося мне вонках яе, але сама гэтая акалічнасць, можа, нават стымулявала інтэнсіўнасць майго творства ці, лепей — пульс яго, можа, быў дзеля гэтага больш напружаным. А што тычыцца мовы, дык яна была не толькі сродкам, а нечым больш. Душой. Лекамі ў найцяжэйшыя часы. Я прыйшоў з ёй у гэты свет, нідзе з ёй не разлучаўся, яна была маёй духоўнай спадарожніцай. Мова і я — гэта адно. Без яе няма чалавека.

Што пішу? Хачу паспрабаваць сябе ў драматургіі. Пішу драму. Ёсць задума на новую празаічную кніжку. Але гэта — як Бог дасць.

Шчыра дзякую, спадар Пранчак, за інтарэс да мяне, і выбачайце за хаатычны выклад.

Ваш *Масей Сяднёў*

*Вельміпаважаны спадар Пранчак!*

Баяўся за сваё інтэрв'ю — чакаў Вашай рэакцыі. Перагледзеўшы інтэрв'ю пазней, пасля таго, як яго паслаў Вам, быў незадаволены ім і шкадаваў, што змайстраваў яго паспешліва. І, канешне, я дапушчаў, што некаторыя мае сцверджанні выклічуць у Вас нязгоду і пярэчанні. Цікава было б пачуць ад Вас, што менавіта ў маім інтэрв'ю непрымальнае для Вас. Мяркую, што Вы гатовы паспрачацца са мною адносна маіх некаторых заўваг пра савецкую беларускую літаратуру. І не дзіва — я сам гатовы быў бы перагледзець некаторыя свае выказванні пры лепшай азнаёмленасці з цяперашняй савецкай літаратурай. Усё ж трымаюся погляду, што эстэтычны ўзровень нашай літаратуры яшчэ нізкі. Нездарма Дранько-Майсюк узнімаў занядбанае ў нас пытанне формы, адвечнае пытанне — *што* ці *як*. І як жа накінуліся на яго! А дарэмна. Нашаму брату не зашкодзілі б салідныя курсы па эстэтыцы. Яна ж у нас была не надта ў вялікай пашане. Вырашала ўсё тэма. Але гэта між іншым.

Хацеў бы дакінуць пару слоў да ўжо сказанага ў папярэднім лісце пра літаратуру беларускага замежжа. Ейныя творцы жылі ў тарычэліевай, калі можна так сказаць, пустаце, у ізаляваным становішчы, ім не хапала свайго паветра, свае атмасферы, гукаў, колераў, паху сваёй зямлі. Яны жылі тым, чым іх надарыла іхняя старая Бацькаўшчына, яны варыліся, як кажуць, у сваім саку, але тым вастрэйшае было ў іх адчуванне Бацькаўшчыны. І яшчэ адно — у іх не было чытача. Паэт-эмігрант тварыў для сябе, спавядаўся перад самім сабою, шаптаў свае вершы, як малітвы, жыў надзеяй, што гэтыя малітвы некалі будуць пачутыя, успрынятыя.

Але, паважаны Леанідзе, мой ліст, баюся, зацягнецца, а трэба ж яшчэ адказаць на Вашыя пытанні. Перакладчык маіх вершаў на расейскую мову — гэта Вадзім Крэйд, паэт, крытык, літаратуразнаўца, выкладчык у адным амерыканскім універсітэце. З Пецярбурга. Тамара Казевіч жыве ў ФРГ.

Укладваю пару сваіх фотаздымкаў. Я нецікавы і няўклюдны чалавек. Недзе вычытаў, што выйшаў з друку Ваш зборнік вершаў, прышліце, калі ласка, яго — буду Вам вельмі ўдзячны. Таксама вычытаў, што Вы прынятыя ў Саюз пісьменнікаў. Шчыра вітаю Вас і зычу Вам поспехаў у Вашай паэтычнай і навуковай працы. Мне даспадобы Ваша Батлейка, Вашыя вершы з «Паэтычнага сшытка», якія Вы мне ветліва даслалі. Мяне заварожвае іхняя рытміка, музыка, інструментоўка. Я люблю чытаць іх не думаючы. Вельмі цікавы Ваш дыялагічны верш «Вакзал віруе». У якім гэта выданні яны друкаваліся?

Хацеў бы мець трылогію Івана Чыгрынава. «Плач перапёлкі» я чытаў — таленавітая кніга. Добра было б займець і далейшыя кнігі, балазе ёсць там у іх Масей, кажуць, пісьменнік (дарэчы, мой зямляк) браў мяне як прататыпа. Калі Вы не атрымалі маіх кніжак ад Белямука, я мог бы сам даслаць іх Вам. Між іншым, у мінулым годзе я пасылаў свае кніжкі ў Ленінскую бібліятэку. Цікава, ці дайшлі яны, і калі дайшлі — ці іх не выкінулі? Паслаў бы і ў бібліятэку Акадэміі навук, каб меў адрас.

Ну, што яшчэ? Цікавіць мяне, у якім выданні Вы мяркуеце змясціць мае выказванні пра нашу — савецкую і зарубежную — літаратуру і ці гэта магчыма наогул?

Вельмі быў усцешаны, пабачыўшы падборку сваіх вершаў у «ЛіМе». Духоўна акрыяў, як нанова нарадзіўся. Удзячны рэдакцыі газеты, ейнаму галоўнаму рэдактару — паэту Вярцінскаму. Крыху засмучаны быў, што ў двух маіх вершах («Жыжа» і «Следам за песняй») адпалі канцы: у першым дзевяць радкоў, у другім аж чатыры страфы. Але дзе не бывае агрэхаў? Даслаў у «ЛіМ» яшчэ адну падборку сваіх вершаў. Нічога не чуваць пра вершы, якія я даслаў у «Полымя» і «Маладосць». Не ведаю нават, ці яны атрымалі іх.

Адважваюся паслаць Вам свой артыкул «Грэшныя думкі на тэму беларускай мовы». Скажыце, калі ласка, што Вы думаеце пра гэты опус. Ці мог бы ён быць надрукаваным, скажам, у «ЛіМе», калі б апусціць у ім прозвішча высокага кіраўніка?

Але досыць мучыць Вас сваёй асобай, сваёй пісанінай. Гэта недалікатна. Шчыра дзякую Вам за добры ліст, за скарынаўскі і коласаўскі каляндарыкі. Пішыце пра Вашы поспехі, удачы і няўдачы. Буду рады.

Шчыра Ваш *Масей Сяднёў*

*6 лютага 1990 года*

*4 сакавіка 1990 года*

*г. Мінск*

*Паважаны Масей Ларывонавіч!*

Дзякуй за лісты. Я атрымаў іх на мінулым тыдні ажно тры. І ў кожным знайшоў шмат цікавага. Дзякуй за фотаздымкі, адрасы, артыкул. Буду думаць, як распарадзіцца імі, каб быў толк.

Свой ліст пачну з адказаў на Вашы пытанні. Вы пішаце: «Што ў маім інтэрв'ю непрымальнае для Вас?» Шаноўны Масей Ларывонавіч, інтэрв'ю Ваша цалкам прымальнае для мяне. Яно дапамагло мне ўбачыць у Вас не толькі пісьменніка, але і мудрага чалавека, філосафа. Каштоўнасць інтэрв'ю ў тым, што там Вашы думкі і меркаванні. Іншая справа, што з некаторымі сцвярджэннямі я асабіста не зусім згодзен. Канкрэтна: Вы пішаце, што новая беларуская эміграцыя — «першая беларуская эмі-

грацыя ў поўным сэнсе гэтага слова». Мне здаецца, Масей Ларывонавіч, што гэта не зусім так. Бо я першым беларускім эмігрантам у поўным сэнсе гэтага слова лічу Ф. Скарыну. Была палітычная эміграцыя і пасля 1863 года, у часы пілсудскай санацыі і г. д. Але я пагаджуся з Вамі, што эміграцыя, пра якую Вы пішаце, як ніхто іншы тварыла Беларусь вонках Беларусі. Масей Ларывонавіч, Вы пішаце, што сваімі дасягненнямі літаратурная эміграцыя абавязаная выключна малому ліку ейных творцаў. Гэта то так. Але ж нават адзін творца можа стварыць такія шэдэўры, якія ў будучым стануць гонарам усёй нацыі. Так яно і бывае ў сапраўднасці.

Думаю, няварта прыводзіць больш прыкладаў, бо і з гэтых двух бачны характар маіх пярэчанняў. Яны не столькі пярэчаць Вашым думкам, колькі ўдакладняюць і дапаўняюць нейкія дэталі ў Вашых сцвярджэннях. І што самае галоўнае, яны ніякім чынам не могуць паўплываць на лёс усяго інтэрв'ю. У выказваннях пра савецкую беларускую літаратуру Вы маеце рацыю. Згодзен з Вамі.

Дзякуй за дапаўненне да інтэрв'ю ў лісце ад 6 лютага. Яно вартае ўвагі і сапраўды дапаўняе Вашы развагі. Іх, акрамя дысертацыі, я мяркую змясціць ці то ў «ЛіМе», ці то ў «Полымі». Хацелася б зрабіць вялікую публікацыю, дзе па магчымасці прадставіць беларускае замежжа як мага паўней. На жаль, на маю прапанову пакуль што адгукнуліся толькі Вы і Я. Золак. Магчыма, адкажа К. Акула. Маўчаць Н. Арсеннева, М. Кавыль. Добра было б даць інтэрв'ю з рэтраспектыўным аглядам Вашай творчасці. Але кніг Вашых я да гэтага часу не атрымаў. Не дай Бог, згубіліся. Наконт вершаў «Жыжа» і «Следам за песняй». Паспрабую выправіць памылку. Я рыхтую нататку, дзе прыводжу Вашы творы поўнасцю. Хачу змясціць яе ў «ЛіМе», а калі «ЛіМ» не пагодзіцца, то ў якой-небудзь іншай газеце.

На наступным тыдні буду ў галоўнага рэдактара «ЛіМа» А. Вярцінскага з Вашым артыкулам «Грэшныя думкі...» На маю думку, яго трэба неадкладна друкаваць. Такой жа думкі і ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы, дзе я паказваў Ваш артыкул. Як будзе з друкаваннем, пакуль сказаць пэўна не магу. Буду спадзявацца на лепшае.

З павагай да Вас *Леанід Пранчак*

*Шаноўны Масей Ларывонавіч!*

Мінула ўжо даволі многа часу, як Вы наведалі нас, а я, ды і ўся мая сям'я жывём пад уражаннем сустрэчы з Вамі і Вашай мілай дачкой Ірай. Прыязджайце хіба яшчэ!

Не хвалюйцеся, я атрымаў ад Вас і кнігі, і вершы Мікеланджэла, і нарыс «Мой Менск». Вершы, дакладней, Вашы пераклады добрыя. Спадабаўся мне і Ваш нарыс, асабліва экскурсамі ў мінулае, успамінамі пра пісьменнікаў і г. д. Нарыс А. Вярцінскі абяцаў надрукаваць. Знойдзецца месца і для перакладаў. Вялікая падборка Вашых твораў ідзе ў «Полымі». Друкуецца ў «Маладосці» і нашая з Вамі гутарка. У канцы гэтага года ці ў пачатку наступнага будзе здадзена ў набор і Ваша кніга ў выдавецтве.

Працу над анталогіяй я практычна закончыў. Атрымалася нешта каля 25 аркушаў. Можна было б сёе-тое ўключыць і яшчэ, але няма матэрыялаў. Я. Юхнавец праслаў толькі адну сваю кнігу, М. Кавыль — толькі тры вершы. А можа, сёе-тое і згубілася? Ва ўсякім выпадку, прашу Вас, дапама-

жыце мне як-небудзь усё давесці да канца з анталогіяй. Яе можна было б здаць у набор ужо сёлета. Праўда, пакуль я не маю ніякіх біяграфічных звестак пра Я. Юхнаўца і А. Змагара — хто яны, дзе і калі нарадзіліся, вучыліся, працавалі, жылі, якія творы выдалі і г. д. Быў бы Вам удзячны, калі б такія звесткі мне даслалі.

У Мінску маецца быць вялікае свята Ф. Скарыны. На яго мы запрасілі замежных беларусаў, у тым ліку і Я. Запрудніка. Перадайце яму, што мы ў Мінску хацелі б яго бачыць у ТБМ і асабіста. Дзякую за здымкі. Сям'я мая таксама шчыра дзякуе Вам і Іры за турботы.

Вельмі цешымся, што міністрам замежных спраў стаў П. К. Краўчанка. Мяркую, у верасні ён будзе ў Нью-Йорку.

Вось бадай і ўсё, што я хацеў Вам напісаць. Ага, Н. Арсеннева так нічога і не паведаміла мне ды і выдавецтву. Можа, напомніце ёй? Пішыце нам. Усяго Вам добрага. Нізка кланяецца Вам уся мая сям'я.

Ваш *Барыс Сачанка*

*27 ліпеня 1990 года*

*Паважаны Масей Ларывонавіч!*

Вельмі рады быў атрымаць ад Вас два лісты і пакунак з кнігамі. Цяпер у мяне ёсць усе Вашы выданні, за выключэннем аднаго — «На край святла». Дзякую Вам! Прызнаюся, што кнігі Вашы трэба не толькі мне, але і Святлане — яна, як Вы ведаеце ўжо, паступіла ў аспірантуру і збіраецца пісаць кандыдацкую па Вашых творах. Так што калі я Вас недаславіў у нечым, то будзе магчымасць гэта паправіць. Бачыце, што Вам ды і нашай сям'і падараваў гэты 1990 год, а дакладней, Ваш прыезд на Радзіму. Калі да гэтага дадаць, што Вашы творы былі надрукаваны ў «Маладосці», «Полымі» (яно выйшла ўжо, № 11), «ЛіМе», здадзены ў анталогію і асобнаю кнігаю, дык год 1990 Вам запомніцца. Застаецца пачакаць наступнага, каб Вы паўтарылі словы М. Багдановіча: «Я не самотны, я кнігу маю...» Першую, выдадзеную на Радзіме!

Пра Вашы творы чую шмат самых прыемных слоў. І ад загадчыка рэдакцыі Г. Шупенькі, і ад рэдактара кнігі. І ад многіх чытачоў, якім трапіў на вочы часопіс «Полымя». Так што Вы можаце радавацца. Радзіма Вас прыняла, Вы тут свой чалавек. Спадзяюся, што многія Вашы творы ўвойдуць у чытанкі і хрэстаматыі, Вас будуць вывучаць у школах і інстытутах.

Узяўся я прапісваць на Радзіме і творы іншых Вашых калег — здаў у «Полымя» вершы М. Кавыля, Я. Юхнаўца, А. Бярозкі, Я. Золака і іншых. У другім нумары «Маладосці» павінна выйсці падборка вершаў Н. Арсеннევай. Рыхтую я кнігу літаратурных матэрыялаў, дзе належнае месца зойме і М. Сяднёў. М. Сяднёва я не забываю, клапачуся аб ім, як аб сабе. Вядома, чытаю ўсё, што ён мне дасылае. Прачытаў водгук і пра пісьменніка Б. Сачанку. Мушу сказаць, што пра мяне пісалі многія, але каб так — то ніхто. Вы ўбачылі ў маёй творчасці якраз тое, чаго ніхто не ўбачыў. Сцісла, коратка і так ёмка! Дзякую за добрыя словы! Астатнія матэрыялы таксама вельмі цікавыя, цікавыя Вашы разважанні пра літаратуру, а галоўнае, яны свежыя, арыгінальныя. Так можа думаць і пісаць чалавек, які незалежны ад нікога. Нам бывае цяжка сказаць праўдзівае слова, бо кожнага пісьменніка мы ведаем, з кожным сустракаемся, су-

тыкаемся ў штурханіне жыцця. «Масеева кніга» павінна быць цікавая, палмурак дзеля яе закладзены трывалы.

Папрыязджалі хлопцы з Нью-Йорка, я з многімі з іх сустракаўся, расказвалі пра сустрэчы з эміграцыяй. Сёе-тое радуе, сёе-тое засмучае. Шкада, што палітыканства бярэ верх у некаторых выпадках над здаровым сэнсам. Усім нам трэба не забываць, што ў нас адна маці — Беларусь, і дзеля яе трэба рабіць усё, што ў змозе. Тыя, хто прыйдзе пасля нас, не даруюць нам, калі нешта можна было зрабіць добрае, а мы не зрабілі, хоць маглі. Ды пра гэта пагаворым, можа, другі раз, а лепш за ўсё пры сустрэчы. Спадзяюся, што такое здарыцца.

Пра сябе пісаць асабліва няма чаго. Увесь я, як заўсёды, у працы. Шкадую, што гэты год мала пісаў прозу. Хацелася расказаць пра тое, чаго многія не ведалі. Ды і пазнаёміць з творчасцю тых, хто ад нас далёка. Удзячнасці ад некаторых за гэта я не дачакаюся, але сумленне мае чыстае, не буду перажываць, што мог зрабіць такое і не зрабіў. Што клапоціць Вас, што Вы пішаце? Дасылайце новыя свае творы, ведайце, што я з прыемнасцю іх і далей буду чытаць сам і рэкамендаваць да друку. Як сям'я Ваша, жонка, Іра ды і ўсе астатнія дзеці, унукі? У нас у сям'і ўсё добра. Алесь расце, яму прывезлі з Амерыкі дзве соскі, але ён прывык да сваіх, уражання амерыканскія соскі на яго асаблівага не зрабілі. Ён ужо стаіць і надта ж цешыць усю сям'ю.

Пішыце нам, мы заўсёды рады атрымаць ад Вас хоць якую вестку. Усяго Вам самага добрага.

Ваш *Барыс Сачанка*

*19 снежня 1990 года*



*Шаноўны Масей Ларывонавіч!*

Даўно не маю ніякіх звестак ад Вас. Вінавата пошта ці, можа, што-небудзь іншае?

У нас асаблівых навін няма, жывём як і жылі, за выключэннем хіба цяжкасцей, якіх стала больш. Не ў духоўным сэнсе, вядома, а чыста ў бытавым.

Можаце перадаць сваім сябрам, што ў чацвёртым нумары «Маладосці» выходзіць падборка вершаў і аўтабіяграфія Н. Арсенневай, а ў чацвёртым нумары «Полымя» друкуюцца вершы М. Кавыля, А. Змагара і Я. Золака. У бліжэйшых нумарах «ЛіМа» і «Нашага слова» будуць надрукаваны ўспаміны А. Саковіч (І. Рытар). З'явяцца ў «Полымі» вершы Я. Запрудніка, У. Дудзіцкага, Н. Арсенневай, А. Бярозкі і іншых. Падрыхтавана і кніга ўспамінаў, дзе месца М. Сяднёву адведзена самае ганаровае і значнае. Здаў я ў друк і новае выданне «Беларускай эміграцыі» — у ім М. Сяднёву ды і многім іншым дадзена справядлівая ацэнка. Як толькі выйдзе, вышлю.

Што яшчэ? Чакаем карэктур і анталогіі, і Вашай кнігі — вось-вось павінны быць.

Не вельмі пачынаю верыць пошце, таму перадаю Вам «аказіяй» «Дзень паэзіі», «Каласы роднай мовы» і два нумары «ЛіМа». Адзін з іх, калі ёсць магчымасць, перадайце Я. Юхнаўцу. Удалося надрукаваць яго вершы, падборка падрыхтавана яго і ў «Полымі». Зараз рыхтуем з А. Бяляцкім яго кнігу для «Мастацкай літаратуры».

Ваша новая падборка з «Масеевай кнігі» падрыхтавана ў «ЛіМе». Неўзабаве з'явіцца.

Пішыце, не забывайце пра нас.

*Барыс Сачанка*

*1 красавіка 1991 года*

*Шаноўны Іван Антонавіч!*

Збіраўся перад ад'ездам пазваніць Вам, але не выпала. Вярнуўшыся дахаты, усё шкадаваў, што не зрабіў гэтага.

Прыемна мне было спаткацца з Вамі, пабачыць Вас *жывога,* на свае вочы — завочна ж ведаю Вас даўно. Палюбіў Вас адразу, з першай старонкі Вашага твора «Птушкі і гнёзды», які я чытаў яшчэ ў Нямеччыне. Ваш герой захапіў мяне, стаў унутрана дужа блізкім мне. Я пазайздросціў (па-добраму) Вашаму таленту, ён узвышаў мяне.

Цяпер Вашыя «Птушкі...» лятуць з Менску праз акіян у Глен-Коў — не мог забраць іх, як і іншых падараваных мне кніжак (іх набралася, можа, з пуд, а мая грудная жаба не дазваляе мне, на жаль, насіць цяжкі кофэр), дык я, хоць і прыкра мне было, паслаў іх поштай. Хутка мусяць прыляцець. Перачытаю іх зноў з прыемнасцю. Дый даражу Вашым аўтографам. Хацеў бы мець усе Вашыя творы, на жаль, я чытаў толькі некаторыя з іх.

Прыгадваю, як Вы далікатна праводзілі нас (Хомчанку і мяне) з вечара.

Сустрэчы з Вамі, гутарка з Вамі пакінулі ў мяне самы цёплы ўспамін. Перасылаю Вам фатаграфію, не вельмі ўжо якую, але Вы і на гэткай — Вы.

З найлепшымі прывітаннямі і пажаданнямі

Ваш *М. Сяднёў*

*6 ліпеня 1990 года*

*Дарагі Масей Ларывонавіч!*

Атрымаў Вашу прозу, услед за паэзіяй,— шчыра дзякую! Пачаў «храналагічна», з «Рамана Корзюка», учытваюся з цікавасцю. Прачытаўшы абодва раманы, напішу пра ўражанне.



Пра атрыманне «Патушаных зораў» адразу ж напісаў Вам — ці атрымалі?

У «ЛіМе» Вы ўжо, напэўна, бачылі здымак,— як мы з Вамі віталіся пры першай сустрэчы? Прыемна яна згадваецца...

Я ўжо вярнуўся з вёскі на рэшту восені, зіму і пачатак вясны. У вёсцы нядрэнна папрацавалася. Наладжваюся і тут.

Жадаю Вам усяго добрага і яшчэ раз дзякую!

*Янка Брыль*

*3 кастрычніка 1990 года*

*Паважаны, дарагі Масей!*

Улетку, атрымаўшы «Патушаныя зоры», падзякаваў Вам паштоўкай, а пад восень — яшчэ раз за «Рамана Корзюка» і за «І той дзень надышоў». У давяршэнне далейшага знаёмства з Вашым словам днямі з прыемнасцю прачытаў у лістападаўскім «Полымі» добрую падборку вершаў.

Можа, гэта і дзіўна, што я, празаік, буду хваліць больш вершы, аднак жа — калі шчыра — у паэзіі Вашай мне бачыцца больш мастацкай завершанасці, чым у прозе. Спачатку я прачытаў «Рамана Корзюка». Белетрыстычна ён больш дасканалы за другую кнігу. Хоць і хацелася б глыбейшага раскрыцця «хваробы часу» і, можа, шчадрэйшай аўтабіяграфічнасці, не хаваючыся за Рамана. Не надта верыцца ў ходы-пераходы ў Польшчу і назад. Ці не залішняй выглядае стрыманасць у адносінах Рамана і Валі: характары ў іх абаіх моцныя, аднак жа агонь і сталь размякчае. Добра паказана студэнцкае жыццё. Добрая мова. Я ажно падкрэсліў для сябе паасобныя сказы і словы. «І той дзень надышоў» хораша пачынаецца, наогул,

усю першая частка напісана паэтычна, ярка, праўдзіва. Слабей, па-мойму, пайшло далей,— толькі каханне ды самцаванне, то з адной, то з другою, на фоне такіх значных ды страшных падзей. Пра турму герой амаль зусім не згадвае, а тое, што навокал робіцца, аўтар мог бы паказаць з большай шырынёй ды глыбінёй аб'ектыўнасці. Вы мелі на гэта права і свабоду, трэба ж было гэтым пакарыстацца як след, без легкаватай, а дзе і лёгкай скорагаворкі...

Паверце, што мне нялёгка пісаць Вам гэта, ды трэба ж і шчырым быць у адносінах да чалавека і паэта, якога цэніш і паважаеш.

Віншую Вас з надыходзячым Новым годам і жадаю ўсяго найлепшага, па ўзросту нашаму — добрага здароўя, а па прызванню — новых творчых поспехаў!

*Янка Брыль*

*10 снежня 1990 года*

*Дарагі Іван Антонавіч!*

Пасылаючы Вам дзве свае празаічныя кнігі, я загадзя ведаў, што маю прозу Вы пакрытыкуеце,— я свядомы быў адносна недацягненняў у гэтым маім творстве. Але я не думаў, што Вы пакрытыкуеце мяне так — моцна. Ды крытыка ёсць крытыка, і калі яна слушная, справядлівая, яна не раніць, а дапамагае ўсведамляць агрэхі. Успрыняў я і Вашую крытыку, як у шмат чым слушную і справядлівую. Я ж і высылаў Вам свае кнігі менавіта для крытыкі, так што Вы дарэмна турбаваліся, што Вам «нялёгка было пісаць гэтую крытыку». Усё нармальна.

Пагаджаюся з Вамі, калі Вы сцвярджаеце, што ў маёй паэзіі «больш мастацкай завершанасці, чым у прозе». Я і сам схільны так думаць. У малым жанры — лірыцы — я гаспадар, чуюся больш пэўна, і ступень той дасканаласці і завершанасці, думаецца,— большая. У такім жа вялікім жанры, як раман, той упэўненасці ў мяне няма, я ў гэтым жанры недастаткова спрактыкаваны, але гэты жанр доўгі час мяне спакушаў, і я захацеў паспрабаваць свае сілы ў гэтым жанры. Гэтак во і з'явіліся на свет божы мае два, скажам так, раманы: «Раман Корзюк» і «І той дзень надышоў». Першы, як Вы пішаце, Вам спадабаўся больш, чымся другі. «Белетрыстычна,— гаворыце,— ён больш дасканалы». Можа. Але ж гэтая «белетрыстыка» спрычынілася і да пэўных выдаткаў, на якія Вы звярнулі ўвагу і слушна, напрыклад, на тыя ж «ходы-пераходы» Рамана Корзюка ў Польшчу і назад. Слушна — у іх, як вы пішаце, «не надта верыцца». А рабіў я гэта ўсё дзеля той жа зманлівай белетрыстыкі, дзеля фабулы, завязкі, дзеля так званага вострага сюжэта (якім, дарэчы, я не валодаю). Фабула, сюжэт той стрымлівалі мяне і ад «шчадрэйшай аўтабіяграфічнасці», якой бы Вы хацелі, каб яна была ў творы. І слушна. Каб я пайшоў па лініі той «аўтабіяграфічнасці», вынік, магчыма, быў бы лепшы. Але ж я хацеў напісаць раман, сюжэтную рэч, і «аўтабіяграфічнасць — баюся — была б тады на перашкодзе: не было б тады дзеяння, «событийности». А я ж хацеў менавіта дзеяння, руху, белетрыстыкі. Вось яна і падвяла мяне. Яна ж, па-мойму, адмоўна адбілася і на тым, што Вы называеце «залішняй стрыманасцю ў адносінах Рамана і Валі». Сума сумарам, раман атрымаўся аморфным, расцягнутым. Бярэ ён за жывое (калі бярэ наогул), можа, толькі сваёй фактурай, паасобнымі, больш-менш удалымі раздзеламі, сваёй «гістарычнасцю».

«Узяў» ён і аднаго майго крытыка з Аўстраліі, які пісаў, што я нарадзіўся не паэтам, а празаікам і надарэмна патраціў столькі часу і энергіі на паэзію. Гэта, канешне, нонсенс.

Другая мая кніга «І той дзень надышоў» не прэтэндуе на фабулу, на сюжэтнасць, на белетрыстыку. Яна нацэлена не на вонкавае, а на нутраное. Яна асабовая, спавядальная, аўтабіяграфічная кніга (аўтабіяграфіі тут куды больш, як у «Рамане Корзюку»). Гэта, нарэшце, «інтымная» кніга. Галоўны персанаж кнігі не шкадаваў сябе ў раскрыцці свайго «я», як бы да гэтага «я» ні ставіцца — адмоўна ці дадатна. Ён, герой, захацеў «по своей глупой воле» «обнажить» сябе, захацеў быць чалавекам без прыкрас. Ён увесь у самім сабе. На вонкавае ён рэагуе толькі, як Вы пішаце, «легкаватай, а дзе і лёгкай» скорагаворкай. Шчаслівы, ён нават забыў пра турму, у якой сядзеў. Гэта ўжо па-за ягонай увагай. Аўтар кнігі і не стаўляў сабе за мэту паказваць вонкавае, тое, што «навокал робіцца» з «большай шырынёй ды глыбінёй аб'ектыўнасці». У кнізе засяроджана ўвага на духоўным стане персанажа. Плынь кнігі пераважна лірычная, і ў ёй цяжка шукаць нейкай «аб'ектыўнасці». У ёй усё суб'ектыўна. І гэта, думаецца, не загана. Канцэнтрацыя на ўнутраным, на паэтычнасці, блізкай мне, замяніла ў кнізе «белетрыстычнасць» і, думаю, спрыяла лепшай кампазіцыйнай завершанасці твора. Артыстычна кніга «І той дзень надышоў», на маю думку, вышэй за маю першую празаічную кнігу «Раман Корзюк». У ацэнцы кнігі «І той дзень надышоў», як бачыце, мы з Вамі, Іван Антонавіч, разыходзімся. Але ж гэта не нова. Аднак не хачу сказаць, што гэтая мая кніга беззаганная, адно толькі што — лепшая за першую.

У сваім папярэднім лісце Вы пісалі, што на вёсцы вы «нядрэнна папрацавалі». Ёсць нешта новае ў Вас?

Пасылаў Вам віншавальную картку з нагоды свята Нараджэння Хрыстова і ў сувязі з Новым годам. Ці атрымалі? Калі не — дык зычу тут Вам і ўсёй Вашай сям'і ўсяго памыснага — здароўя, поспехаў і ўсякай удачы.

Ваш *М. Сяднёў*

P.S. Складваецца ў мяне пакрысе новая кніга — «Масеева кніга». У яе думаю ўключыць і сваю нататку пра Вашую кнігу «Сёння і памяць». Вашыя «Птушкі...» яшчэ ляцяць — Хомчанка іх толькі цяпер выслаў.

*М. С.*

*28 снежня 1990 года*

*Дарагі Масей Іларывонавіч!*

Толькі што атрымаў Ваша пісьмо ад 11 гэтага месяца. Дзякую! І што гэта Вы прыдумалі наконт таго, што нашы з Вамі адносіны «прыпсаваліся»? Няма нічога падобнага! Я з прыемнасцю ўспамінаю наша знаёмства, дзве сустрэчы-гутаркі, успамінаю час, праведзены над старонкамі Вашай паэзіі і прозы, і добра на душы ад таго, што мы неяк душэўна наблізіліся. Кажу «неяк», бо трэба ж наблізіцца яшчэ лепш. У гэтым сэнсе я рад і ўдзячны майму даўняму сябру Уладзіміру Андрэевічу за пасланую Вам кнігу пра мяне. Спадзяюся, што мы яшчэ калі-небудзь сустрэнемся, пагамонім. А пакуль што з цікавасцю і ўдзячнасцю бачу Ваша слова ў нашым друку.

Што да маіх заўваг па кнігах Вашай прозы, дык я ў сваё апраўданне магу сказаць толькі тое, што

яны шчырыя і асабістыя, на што кожны з нас мае права, а што да шчырасці, дык і абавязак.

Цяпер Вашы кнігі ў Анатоля Вялюгіна, а ён недзе на дачы, куды не пазвоніш, каб спытацца пра ўражанне,— калі-небудзь пры сустрэчы.

Я таксама еду заўтра ў сваё роднае Наднямонне, дзе звычайна летую. Можа, наладжуся на працу.

У нас тут 26—27 гэтага месяца прайшоў Міжнародны кангрэс беларусістаў, з'ява цікавая і значная.

Ці бачылі Вы ў «Полымі», № 12, за мінулы год маю «сагу»? А ці даслаў Вам Васіль Фёдаравіч «Птушкі і гнёзды»?

Ад душы жадаю Вам усяго найлепшага!

*Янка Брыль*

*31 мая 1991 года*

*Дарагі Масей!*

Дзякую шчыра за пісьмо, за добрыя словы пра маю працу. «Птушкі і гнёзды» пісаліся ў перыяд палёгкі пасля другога «хрушчоўскага» (XXII) з'езда партыі, а з друкаваннем гэтай рэчы я трапіў у пачатак наступнага перыяду... Тры варыянты маюцца: рукапіс, «палымянскі» варыянт 1963 года і той, які я Вам даў. Эпілогам рэч трэба было ратаваць...

Асабліва прыемна пачуць і ад Вас слова пра «сагу», рэч найбольш асабістую. Дзякую таксама і за «Сёння і памяць»,— за тое, што кажаце пра яе. Пазаўчора паслаў Вам свой апошні зборнічак «На сцежцы — дзеці». Гэта адзіная мая кніга, якая пайшла без аўтарскай чыткі другой карэктуры (паехаў у санаторый, даверыўся рэдактару, які, у сваю чаргу, «даверыўся мне»), і ў ёй шмат памылак друку, чаго я не люблю.



Цяпер у мяне рыхтуецца да выдання трохтомнік выбранага, павінен выйсці ў пачатку будучага года. А на стале — новая кніга аўтабіяграфічнага характару (адтуль і «сага»), але гэта пакуль што... на стале.

Васіль Фёдаравіч надрукаваў у «Маладосці» (№ 5—6) добрыя апавяданні, вялікі цыкл, пра перажытае ў 30-я гады. Я павіншаваў яго пісьмом адгэтуль, з наднёманскай цішыні, дзе сяджу з пачатку чэрвеня. Пішацца сёлета дрэнна, але не ўпадаю ў адчай, бо ёсць жа і надзея, і вопыт, які кажа, што «год на год не прыходзіцца».

Анатоль Вялюгін таксама ў вёсцы, у іншых аколіцах, і пабачымся мы з ім недзе восенню. Тады і напішу Вам пра яго ўражанне ад Вашых кніг.

Усяго добрага!

*Янка Брыль*

*4 жніўня 1991 года*

*Шаноўны спадару Масей!*

Атрымала Ваш ліст і, на вялікі жаль, толькі адну Вашую кнігу «А часу больш, чым вечнасць». Шчыра дзякую. Было гэта для мяне вялікай неспадзяванасцю, і таму вельмі ўзрушыла. Пра Вас я даведалася дзесяць гадоў таму, аднак вершы Вашыя давялося чытаць значна пазней. Апрача падборкі, што друкавалася ў «ЛіМе», знаёмілася я з кніжкай «А часу больш, чым вечнасць», бо крыху пазней Вы дасылалі яе на адрас «ЛіМа» для Б. І. Сачанкі.

Вершы Вашыя, што друкаваліся ў нашым штотыднёвіку, былі вельмі хораша ўспрыняты грамадскасцю. Шкада, канешне, што былі некаторыя з іх скарочаны. Магчыма, гэта адбылося і не па волі рэдакцыі. Наконт новай Вашай падборкі, што Вы да-

не ведаю, ці чыталі Вы раман Лукаша Калюгі «Пустадомкі», надрукаваны ў леташнім «Полымі»? Там згадваецца адзін вялікі пісьменнік, без прозвішча, аднак па некаторых дэталях я прыйшла да высновы, што аўтар мае на ўвазе Кузьму Чорнага. Выглядае, што і сапраўды крыху бракавала яму нейкіх чыста чалавечых рысаў, прынамсі, так выглядае ў рамане. А ўвогуле, проза Калюгі для мяне і, відаць, не толькі для мяне стала сапраўдным адкрыццём. Узровень, без перабольшвання, можна сказаць,— класічны! I столькі гадоў гэта ўсё хавалася ад чытача.

Эдвард і Дануся перадаюць Вам і Вашай сям'і самыя сардэчныя прывітанні. Будзем чакаць Вашых лістоў. I абяцаем на гэты раз выправіцца і адказваць у час.

Усяго Вам найлепшага!

*Галіна Тычка*

*Мінск, 20 студзеня 1991 года*

*Добры дзень, шаноўны Масей Ларывонавіч!*

Калі я думала над кнігаю пра Вашую творчасць, мне хацелася знайсці нейкі сімвал, нейкую лінію, якая б яднала ўсё ў адно кампактнае цэлае і якая б вынікала з Вашага лёсу, Вашае творчасці.

Пакуль што ў мяне складваецца толькі прыкладна такая схема (на разе яна мяне і не зусім здавальняе, але гэта лепш, чым анічога).

1. Людзі, як рэкі — з гэтае метафары пачаць аповяд пра Ваш складаны лёс.

2. Імя — даецца Богам і прадвызначае жыццёвы шлях асобы. (Дарэчы, пры нагодзе хачу спытацца: Масей — гэта адпаведнік Маісея альбо гэта збеларушчаная форма імя Мацей? Прызнацца шчыра, я



гэтага не ведаю, а, на маю думку, гэта розніца досыць істотная. Паводле сваёй задумы, я, зыходзячы з Вашага імя, хацела б зрабіць адпаведныя паралелі, канешне, наколькі яны будуць мажлівыя).

3. Мадонна — маці — каханая — Беларусь, асноўныя матывы творчасці, пункціры, лятарні, выспы ў моры Вашай паэзіі (бачыце, як не магу знайсці адпаведнага слова!). Можа, я не маю рацыі, але мне падалося, што Мадонна — асноўны ствaральны сімвал Вашае Творчасці.

Вельмі многае хацела я напісаць Вам на гэты раз, але дужа спяшаюся, ёсць магчымасць заўтра адправіць ліст праз Эдварда, які шле Вам найсардэчнейшыя прывітанні. Мы з Данусяй пакуль што сядзім у вёсцы. Хутка, праўда, збіраемся выязджаць у Мінск, тут робіцца надта ж холадна. Хоць восень у гэтым годзе ўвогуле была цудоўная, такая ціхая, светлая, радасная. Я хадзіла і думала, што восень — падобная на старасць і што мне вельмі б хацелася мець такую журботна-светлую, радасна-ціхую старасць, як гэтая сёлетняя восень.

Як там пачуваецца Вольга Філіпаўна? Мяне вельмі ўстрывожыла згадка пра ейную хваробу. Спадзяюся, што зараз усё добра, і Вы разам, і яна побач з Вамі, а не толькі ў Вашых кнігах, ды вершах, ды і, відаць, думках таксама.

Усяго Вам найлепшага. Чакаю Вашых лістоў.

*Галіна*

*19 кастрычніка 1991 года*

*Добры дзень, шаноўны Масей Ларывонавіч!*

Вось бачыце, як хутка бяжыць час. Не паспелі азірнуцца, а на календары ўжо і 1992 год! I я думаю аб тым, як хораша, што гэты Новы год па-

чаўся для Вас з добрых падзей — маю на ўвазе здароўе шаноўнай Вольгі Філіпаўны. Відаць, для шчасця чалавеку ў жыцці патрэбна не так ужо і шмат: адчуванне дому (менавіта свайго ўтульнага, добрага дому), а таксама мець поруч блізкага чалавека, паплечніка, сябра. Ісціна старая як свет, але пакуль зразумееш яе, не заўважыш, як і жыццё мінецца. Не памятаю ў каго: у старажытных грэкаў альбо рымлян ёсць цудоўная легенда пра двух старых: Філемона і Баўкіду, якім за іхнюю дабрыню багі паабяцалі выканаць любое іхняе жаданне, а яны захацелі толькі аднаго — пражыць разам да смерці і памерці ў адзін дзень (гэты сюжэт, здаецца, згадваецца і ў гётэўскім «Фаўсце»).

Шкадую сваю маці, бо мой бацька рана памёр, і зараз яна, яшчэ і не такая старая жанчына (64 гады), выглядае вельмі самотнай і адзінокай, бо мы, дзеці,— людзі іншага пакалення, у нас сваё жыццё і, пры ўсіх добрых нашых узаемаадносінах, мы ніколі не зможам быць для яе таварышам, якім стаў бы чалавек яе веку. Гэтыя ўсе, можа, і не своечасовыя думкі, прыйшлі мне ў галаву пасля таго, як прачытала ў Вашым лісце, што Вольга Філіпаўна, дзякаваць Богу, ачуньвае. Дай Бог Вам абодвум добрага здароўя на доўгія гады і назаўжды заставацца разам.

У нашым жыцці навін асаблівых няма, апроч палітычных, але пра іх пісаць няма сэнсу, бо кожны дзень прыносіць новыя змены, не толькі для нас нечаканыя, але, выглядае, што нават для саміх палітыкаў. Не ведаю, ці здолеем перажыць у Мінску зіму, калі не палепшае сітуацыя, магчыма, прыйдзецца нам з Данусяй кіравацца на вёску.

З вялікай радасцю заўжды атрымліваю Вашыя лісты. І, ведаеце, адразу іх не раскрываю. Прыемна



ўсведамляць, што маеш перад сабой невялічкую таямніцу, сэнс якой зможаш усё роўна зведаць, але раней ці пазней — залежыць ад самога сябе. І так трошкі расцягваеш хвіліны. Гэта вельмі прыемнае адчуванне. Відаць, у кожнага чалавека ёсць такая цяга пазнаць і разам з тым не спазнаць таямніцу. Мусібыць, некаторыя рэчы так і павінны заставацца неспазнанымі, хоць бы чалавеку было іх і надта проста разгадаць. Бо ў адваротным выпадку чалавек робіцца падобным на малое дзіця, што нішчыць цацку альбо жывую якую істоту мучыць, каб спазнаць, што ў яе там усярэдзіне: і спазнае такім шляхам, толькі цацкі ўжо больш няма, яна зламалася.

Перад Новым годам чытала анатацыю ў «ЛіМе» на раман Ваш, што друкуецца ў «Немане». Напісана, па-мойму, няблага. Гэта рабіў Алесь Марціновіч. Мая публікацыя пра Вас, на жаль, не пабачыла свет да Новага года. Спадзяюся, што з'явіцца неўзабаве пасля. Тады разам з ёй прышлю Вам і нумар «Беларускай крыніцы» — орган БХД, куды я перадала неяк пры нагодзе Ваш верш «Пазнанне Бога». Яны яго надрукавалі, праўда, там няма ніякіх звестак пра Вас, хоць я іх і давала.

Шчырае дзякуй за добрыя словы наконт маёй задумы. Неўзабаве думаю ўзяцца за яе непасрэдна. А пакуль... Сёлета нарабілі столькі святаў, што чалавек цалкам расхаладжваецца да працы.

Як Вы адсвяткавалі каляды? Пра што думаеце зараз пісаць, калі, безумоўна, не сакрэт?

Сёння буду заканчваць свой ліст да Вас. Заўтра ў Вас свята: каляды. Думаю, што калі зараз я пажадаю Вам іх шчасліва і радасна адсвяткаваць, то мае думкі і пачуцці здолеюць даляцець да Вас праз акіян да заўтрашняга дня і паспець якраз на куццю.

Усяго Вам і Вашай сям'і найлепшага! А асабліва нізкі паклон шаноўнай Вользе Філіпаўне.

*Галіна*

*5 студзеня 1992 года*

*Даражэнькая Галіна!*

Ай, як усцешаны быў, атрымаўшы Ваш ліст. Думаў, што ўжо Вы забыліся на мяне, аж тут — такі, на дванаццаць балонак ліст! Вялікі дзякуй, Галіна. Ліст цікавы, змястоўны. У ім Вы расказалі пра сябе, пра «няпэўны і трывожны час». Усё зразумела. Гэта і я вычуваю. Таксама, як і Вы, трывожуся. Але ж будзьма спадзявацца, што ўсё гэта неяк перахварэем. Што жыццё наладзіцца, уляжацца, прыйдзе да нейкай нормы і можна будзе больш-менш спакойна займацца творчай працай. Вы яшчэ да таго ж перачуленыя і як маці турбуецеся за Данусю, гадаеце, дзе Вам лепей быць з ёю ў гэты «няпэўны і трывожны час» — у вёсцы ці ў Менску. Гэта сапраўды нялёгкае пытанне. Хіба што супакоіць сябе вечна беларускім: «Ды неяк жа будзе». У вёсцы ж, канечне, лацвей, але ж, як пішаце, «цягне да людзей, да творчае працы».

Прайдуся цяпер па ўсіх пунктах Вашага ліста. Сваімі інтэрв'ю я не надта задаволены. Проста неяк сорамна за іх. Яны наіўныя, інфантыльныя. Цяпер бы я ўжо, памудрэўшы, інакш паставіўся б да іх. Зрэшты, я не здольны на інтэрв'ю раптоўнае, спантаннае. Я хацеў бы мець наперад пытанні і спакойна на іх адказваць. Усе мае інтэрв'ю ішлі па лініі маёй біяграфіі, і я ўжо сам сабе збрыд, адказваючы на біяграфічныя пытанні. Не было літаратурных пытанняў, такіх, як вось Вашыя. Вы шукаеце, Галіна, нейкай іншай формы падачы матэрыялу. Згода, такой формай мог бы быць так званы творчы партрэт, эсэ, любая форма, зручная для Вас. Мне толькі ніякавата, што я гавару тут пра самога сябе. Я надзвычайна рады, што мой літаратурны даробак зацікавіў Вас, што Вы нешта хацелі б напісаць пра мяне. Я гатовы дапамагчы Вам усім, чым магу. Думаю, што перагартаць «лімаўскую» падшыўку будзе цяжка для Вас, што «прасачыць мой творчы шлях» можна і без яе: амаль усё змясцілася ў маіх цяперашніх кнігах, і калі ўсіх іх у Вас няма, я дашлю.

Цяпер пастараюся, наколькі ў мяне будзе змогі, адказаць на Вашыя цікавыя пытанні.

*Першае пытанне:* Якія падзеі апошніх гадоў найбольш узрушылі мяне — падзеі літаратурныя, палітычныя, як на Беларусі, гэтак і вонках яе?

*Адказ:* Перабудова, галоснасць, паварот да нацыянальнага, да вытокаў, да ўсведамлення сябе як нацыі, карэнны зрух у пытанні свабоды творчасці, у плане асабістым — магчымасць далучэння мае творчасці да беларускай нацыянальнай літаратуры, нарэшце — магчымасць адведзін Бацькаўшчыны. Што да падзей міжнародных — падзенне камунізму ў краінах Усходняй Еўропы, канец халоднай вайны.

*Другое пытанне:* Хто мне асабліва даспадобы з беларускіх пісьменнікаў і сучасных?

*Адказ:* Не згадваючы Коласа і Купалу — Алесь Гарун, Багдановіч, Пушча, Вольга Куртаніч, Валянціна Аколава, Пісьмянкоў, Кузьма Чорны, Мележ, Адамчык, Пташнікаў, Быкаў, Лукаш Калюга, Мрый, Кудравец, Чыгрынаў.

*Трэцяе пытанне:* Ці зайздрошчу я выдатным паэтам і пісьменнікам і з якой прычыны?

*Адказ:* Зайздрошчу таленту, боскаму дару. Та-

лент прасвятляе мяне, узвышае, робіць мяне шчаслівым. Хацеў бы сам быць такім талентам.

*Чацвёртае пытанне:* Ці мела ўплыў на развіццё майго таленту эміграцыя, і калі так — станоўчы ці адмоўны?

*Адказ:* Мела. Станоўчы — быў я самім сабою, меў абсалютную свабоду творчасці, пісаў-складаў свае вершы без аглядкі на нішто, я быццам існаваў па-за часам, быў толькі заняты сабою, толькі прыслухоўваўся да самога сябе, я нават не разлічваў, што маё творства дойдзе калі-небудзь да чытача, для мяне важна было толькі адно: адтварыць найбольш дасканала тое, што я адчуваў. Мастацкасць — гэта адзіны крытэрый, з якім я падыходзіў да свайго твора. Адмоўны ўплыў — адсутнасць чытача, асяроддзя, канкурэнцыі, залішняя засяроджанасць на сабе, адсутнасць свае культуры, адзіноцтва, эміграцыйная грызня.

*Пятае пытанне:* Чаго мне не хапала ў жыцці — як у сэнсе матэрыяльным, гэтак і духоўным?

*Адказ:* У сэнсе матэрыяльным — бядотнасць, неўладкаванасць, клопат пра заўтрашні дзень, у духоўным сэнсе — адсутнасць здаровага, нармальнага грамадства, закінутасць, цяжкасць спасціжэння чужой культуры, адсюль — духоўнае збядненне, нягледзячы на шырокія магчымасці ўзбагаціць сябе здабыткамі розных культур. Ды не зважаючы на ўсё гэта, я зберагаў сябе ад духоўнай здзічэласці нястомнай працай над сабою як у сэнсе літаратурным, гэтак і ў сэнсе агульнаадукацыйным.

*Шостае пытанне:* Ці лічу я сябе шчаслівым? Калі б можна было пачаць жыццё спачатку, што б я хацеў змяніць у сваім лёсе?

*Адказ:* Пры ўсім маім няшчасці я ўсё ж шчаслівы, думаецца, што тое шчасце зароблена не мною самім, а што яно мне дадзена. І ў гэтым сэнсе я нічога не хацеў бы мяняць у сваім лёсе. Недаставала толькі, можа, кахання. Але гэтая нястача папаўнялася паэзіяй. Яна была, можа, нават пэўным стымулам у маёй творчасці.

*Сёмае пытанне:* Ці веруючы я?

*Адказ:* Мне, хрысціяніну, дадзенае святаром біблейскае імя Маісей часам хочацца ўспрымаць як не нешта выпадковае, а пасланае звыш, ці што. Здаецца, гэтае імя прадвызначыла мой лёс, зберагло мяне. Я не магу сказаць, што я няверуючы. Я пабаяўся б гэта сказаць.

*Пытанне восьмае:* Чаго б больш за ўсё на свеце я жадаў для сябе, для Беларусі, для свету?

*Адказ:* Для сябе — заставацца і надалей з падманнай уявай прыгожага, узнёслага; для Беларусі — каб яна стала Беларуссю, каб наш народ усвядоміў сябе нацыяй з гістарычнай місіяй, каб ён быў здольны абараніць сябе, быў свядомы адносна сваёй мовы, сваёй гісторыі, каб беларускі паэт не быў у яго нечым непатрэбным; для свету — міру, духоўнага ўзвышэння, гармоніі.

*Пытанне дзевятае:* Што мяне змушае перакладаць?

*Адказ:* Дзеля суперажывання стану прыгожага, дзеля спасціжэння таямніцы творчасці вялікага мастака, дзеля таго, каб зарадзіць і сябе творчай энергіяй, нарэшце — каб пазнаёміць чытача-беларуса з вяршынямі іншых літаратур, дзеля прэстыжу беларускай літаратуры як гэткай. Я не ўзяўся б перакладаць рэч, якая мне не падабалася б.

*Масей Сяднёў*

*6 снежня 1990 года*

*Вельміпаважаны Анатоль Паўлавіч*[1]

Рады быў пазнаёміцца з Вамі пад час майго побыту ў Менску, шкадую толькі, што — коратка, на хаду. Але і так Вы паспелі — шчыра дзякую — абрадаваць мяне Вашым намерам надрукаваць маю кніжку «І той дзень надышоў». Вось і жыву, Анатоль Паўлавіч, надзеяй пабачыць яе ў Вашым паважаным часопісе. А калі б яна з'явілася і ў нейкім маскоўскім выдавецтве, радасць была б падвойнай.

Быў бы ўсцешаны, калі б Вы знайшлі магчымасць даць хоць невялікую падборку і маіх вершаў. Ці не замнога я ўжо дамагаюся?

Быў прыемна ўражаны — Ваш «Неман» прыслаў мне пяць сваіх нумароў за гэты год. Гэта далікатна. Вялікі-вялікі дзякуй. Цяпер я пабагацеў. Прачытаў у першым нумары Вашае «Заложнікі Чарнобыля» — праўдзіва, пафасна, смела, робіць уражанне.

Быў бы ўдзячны Вам, калі б Вы маглі прыслаць мне што-небудзь з Вашых твораў — адбылося б знаёмства на вышэйшым узроўні. Зычу Вам і Вашым супрацоўнікам здароўя, плённай працы і ўсяго самага найлепшага.

З прывітаннямі Вам *М. Сяднёў*

*18 жніўня 1990 года*

*Добрага дня Вам, дзядзька Масей!*

Атрымаў Ваш шчыры добры ліст, дзякуй за цёплыя словы, за тое, што знайшлі час і напісалі. У наш век страшэннай перагружанасці непатрэбнымі абавязкамі гэта вялікая раскоша — пісаць лісты, хоць і вялікая радасць — атрымліваць іх. Можа, таму мы так здзіўляемся тым «неразумным» інтэлігентам мінулага, якія трацілі час на эпісталярыю.

Я часта ўспамінаў тыя кароткія сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў і шкадаваў за іх тлумнасць і немагчымасць інтымнай гаворкі. Урэшце, Вы гаворыце праўду: пісьменнік павінен чытаць пісьменніка, гэта таксама гаворка і, мусіць, не меней важная.

Я прачытаў Ваш раман, Вашы вершы, нешта паспеў сказаць Вам, хаця больш засталося ў душы, у адчуваннях, што часта ўспамінаецца і добра думаецца.

Каб Вы мелі трошкі большае ўяўленне пра Кудраўца, высылаю свой двухтомнік. Я з пісьменнікаў марудлівых, прычын таму багата, але іх не пераробіш. Прачытаеце — будзеце мець сваю думку, рады буду пачуць яе.

Цяпер пра справы. «Неман» хоча, як я ўжо гаварыў, надрукаваць і раман, і падборку вершаў, і тым хоць у нейкай долі паправіць тое, што не было зроблена дзесяць, і дваццаць, і шмат гадоў назад. Гэта бяда нашай абкрадзенай гісторыі, нашай абкрадзенай долі, нашай замоўчанай літаратуры. Вырашаецца пытанне з перакладчыкам. Адабраны для перакладу і вершы. Будзем глядзець: што паспее першае — тое пастараемся даць.

Такія планы, такія спадзеўкі, хоць арыентацыя рэспублікі ў бок рыначнай эканомікі паставіла новыя жорсткасці і праблемы. Культура была ў ролі прасіцелькі, якой дасталіся аб'едкі. Сітуацыя не змянілася, а абвастрылася яшчэ болей. Але будзем спадзявацца на лепшае.

Прашу даравацъ, што пішу ліст з пэўным запазненнем. Чарнобыльская бяда зачапіла і маю сям'ю: вось ужо цэлы год ваюем за жыццё ўнучкі — пяцігадовага маленькага чалавека. Лейкоз. Сітуацыя

[1] А. П. Кудравец.

ўвесь гэты час на мяжы надзеі і роспачы. Той месяц яна з маці ляжала ў клініцы — яшчэ адзін месяц цяжкай барацьбы за жыццё. Усё гэта цяжка не толькі дзіцяці, а і ўсім кругом. Але што рабіць: трэба жыць!

Вялікі дзякуй за прывітанне, якое далікатна перадаў, прыляцеўшы са Штатаў, Г. Бураўкін.

Добрага здароўя Вам, Вашым блізкім ва ўсіх Вашых планах і памкненнях!

*Анатоль Кудравец*

*18 кастрычніка 1990 года*

*Дарагі Анатоль Паўлавіч!*

Прачытаў Вашыя выбраныя (у двух тамах) творы. Перад Вашымі творамі я прачытаў быў выбранае Івана Чыгрынава, Барыса Сачанкі, тры кнігі Васіля Хомчанкі і «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля, наўзверх кнігу Калесніка пра яго. Гэта дало мне магчымасць, казаў той, зірнуць на нашу прозу. Праўда, я ўжо быў трохі азнаёмлены з творамі Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Шамякіна. Але чытаў іх даўно, і ў мяне засталося толькі самае агульнае ўражанне ад іхніх твораў. Мушу, аднак, зазначыць, што «Людзі на балоце», «Подых навальніцы» І. Мележа, «Мёртвым не баліць» В. Быкава, «Сэрца на далоні» І. Шамякіна з'явіліся для мяне, эмігранта, пэўнай падзеяй — я адкрыў з майго далёка пасляваенную беларускую прозу.

От жа адкрыў я і Вас, Анатоль Паўлавіч. Адкрыў Ваш светлы, пачуццёвы талент, дужа блізкі мне і зразумелы. (Мо таму, што я, як і Вы, *мугулёўскі* чалавек?) Адразу ж мяне паланіла Ваша таленавіта-лёгкае нявымушанае, паслухмянае Вам пяро. Музычнасць Вашай фразы надае ёй часам



проста размераны, рытмічны лад. Карацей — мяне прыемна ўразіла Ваша стылістыка. Вас лёгка і прыемна чытаць. А гэта ж надзвычайная якасць, асабліва калі ўзяць на ўвагу, што беларусу, што адвык ад свае мовы, проста нялёгка чытаць па-беларуску. Недзе я прачытаў (ці не ў «ЛіМе»), як адна нашая жанчына не магла адолець нат адной старонкі В. Быкава — ад напружання ў яе забалела галава і яна чакала, пакуль не перакладуць Быкава на рускую мову. Жарт жартам, а мова — гэта часта амаль усё. Вашая мова, напрыклад, не засмечана паланізмамі, вельмі моднымі ў нас. Вы ж усцерагліся ад іх, нягледзячы на тое, што Ваш раман «Пасеяць жыта», калі не памыляюся, пабудаваны на заходнебеларускім матэрыяле. Амерыкі не адкрыю, калі скажу, мова ж — гэта першая прыкмета таленту.

Я назваў Ваш талент светлым. От жа Вашая аповесць «Раданіца» засведчыла пра гэта. У чытача Вы адраджаеце забытую, ды не да канца забытую Раданіцу. Я перажыў яе нанова, моцна, светла, як некалі ў маленстве. А ўсё ж, дзякуючы Вашаму светламу, таленавітаму пяру, тое вечнае, што спасцігаецца і ў Вашых іншых творах, прысутнічае ў «Раданіцы» найбольш выразна. Вашая «Раданіца» свеціцца ў мяне сваімі карцінамі, малюнкамі.

Упадабаў я і Вашыя апавяданні. У іх пазнаю Бацькаўшчыну: дыхаю ейным паветрам, гляджу на ейнае сонца, перада мной адкрываюцца ейныя прасторы, я ўдыхаю ейны водыр, чую пахі ейнай зямлі, словам — нібы знаходжуся дома. Божа мой, які Вы добры знаўца сялянскага быту! Вашыя апавяданні датклівыя, лажацца на душу.

У кампазіцыйным дачыненні яны вызначаюцца сваёю канцоўкай, дакладней — адсутнасцю канцоўкі. Чытачу даецца магчымасць самому знайсці

9. Зак. 5347.

яе, падумаць над ёй. Вашыя апавяданні, калі я добра зразумеў, кампазіцыйна свабодныя — Вашая ўвага засяроджана на плыні апавядання, на псіхалогіі персанажа, а не, як, напрыклад, у Васіля Хомчанкі, на кампазіцыі як гэтакай. Для мяне Вашыя апавяданні маюць яшчэ і немалое пазнавальнае значэнне — я пабачыў у іх Беларусь пасляваенную. Кінуліся мне ў вочы такія апавяданні: «Другі варыянт», «Мікола вярнуўся», «Марута і Зіна», «Цітаўкі», «У нас вяселле», «Авохці мне».

У рамане «Пасеяць жыта» Вы застаецеся ўсё тым жа майстрам. Ён, можа, толькі больш, чым апавяданні, «ідэалагізаваны», з філасофіяй Ігната Сцяпанавіча. Сцэна, у якой міліцыя бярэ Стася і Любаміра, здалася мне не надта пераканаўчай, а мо мне так толькі здалося.

Добра адчувае сябе ў Вас прырода — Вы вобразна адтвараеце яе. Колькі новых, цікавых тропаў — не адзін паэт мог бы пазайздросціць. Гэтыя тропы я хацеў быў тут выпісаць, так яны прасіліся.

Адным словам, «дзядзька Масей» меў задавальненне, чытаючы Вашыя творы, і шчыра ўдзячны Вам за прыемнасць, якую Вы мне падаравалі. Часта думаю пра Вас, Вы такі ж і ў сваіх творах, як на фотаздымку ў Вашым двухтоміку. Спадзяюся, што мой папярэдні ліст Вы атрымалі. Наогул, пісьмы ідуць, асабліва цяпер, дужа доўга, а «ЛіМ» дык наогул чамусьці не ідзе: за гэты год яшчэ ніводнага нумара не атрымаў, хоць і я падпісаўся на гэтае выданне. Доўга ідзе і «Неман» — няма яшчэ 11-га і 12-га нумароў.

Буду рады, калі Вы, разумею — надта заняты чалавек,— адгукнецеся хоць некалькімі радкамі. Тым жа часам зычу Вам усяго самага найлепшага.

З прывітаннямі Ваш *М. Сяднёў*

*27 лютага 1991 года*





Бачыце, і мой адказ не надта паспяшае, хоць сам я нібыта і спяшаюся, бягу, і бег мой падобен бегу па ленце эскалатара, якая плыве насустрач. Толькі сабраўся з часам і сеў за стол, каб сказаць «дзякуй» за Ваш такі цёплы і шчыры ліст, як прыйшоў Ваш наступны ліст, і цяпер я адказваю на той і на другі. А найперш прашу даравāць за затрымку, бо, акрамя нерастаропнай пошты, як адбітка нашага часу і ладу, ёсць тут і мая доля віны.

Хачу сказаць пра дабро і цяпло, што чуюцца ў кожным Вашым слове, гэта тое нязмушанае, лагоднае і шчырае, што жыве і ў кожным слове Вашага рамана. Я чытаў яго па-беларуску, чытаў з задавальненнем і радасцю за кожны малюнак і за кожнага чалавека ў межах гэтага малюнка. Усё гэта такое праўдзівае, непасрэднае, народнае, тое, чым жыў люд наш і што складала яго сутнасць і яго адметнасць. Цывілізацыя наклала металічны глянец на ўсё, у многім падмяніўшы і натуральную сутнасць. І толькі знаёмячыся з такімі творамі, творамі з быту і ў быце, з жыцця і аб жыцці, жыцці нявыдуманым і непрыхарошаным, з болем пачынаеш адчуваць, як шмат мы страцілі, пераробляючы свет і чалавека.

Спакою не даюць думкі пра чужую волю, якую штодзённа і штоміг стараюцца навязаць чалавеку, каб ён не быў самім сабой, а быў некім — нечым ценем ці ценем нечай ідэі. Дзякуй Вам за тое, што Вы засталіся сабой — і ў душы, і ў слове.

Чытаў я раман і па-руску, у перакладзе А. Ждана. Хачу прызнацца, што і тут твор пакінуў прыемнае ўражанне. А. Ждан — чалавек добра прафесійны, сам празаік, здаецца, мсціслаўскі, добра адчувае і слова і кампазіцыйныя законы жанру. Ён

беражліва абышоўся з тэкстам, захаваў унутраную танальнасць рамана, замілаванасць жыццём, і ўсё гэта, як у Вас, на мяжы праўды і слязы. Ва ўсякім выпадку мы плануем надрукаваць раман у гэтым годзе, можа, у 8—9 нумарах, і Вы самі зможаце ацаніць гэтую працу. Ведаю па сабе, што прывыкнуць да новай інтэрпрэтацыі твора цяжка, а тым болей да другой мовы, і страты тут абавязковыя, але... калі адысці трошкі ўбок... Словам, усё наперадзе.

Шчыра дзякую за добрыя словы пра мае творы. Чалавек я вясковы, і душа мая там, з тымі гаротнымі прыгожымі людзьмі. Усё гэта было заўсёды, а цяпер, пры сталым розуме, абвастраецца яшчэ болей. Мусіць, сваё даюць гады і настальгічная памяць дзяцінства і юнацтва.

Калі ўсё будзе ісці нармальна, то пад канец гэтага года «Мастацкая літаратура» выпусціць маю новую кніжку «Смерць нацыяналіста». Гэта дзве невялічкія аповесці і апавяданні, усё навеянае рэаліямі нашага няпростага жыцця. Калі задумка стане фактам рэальнасці, то і дзядзька Масей зможа пазнаёміцца з ім бліжэй.

Я вельмі ўдзячны за словы спагады ў сувязі з хваробай нашай маленькай Анюткі. Мы робім усё, каб перасіліць хваробу, і маем надзею, што гэтак і будзе. Усе патрэбныя лекі ў нас маюцца, у тым ліку і прывезеныя са Штатаў. Але калі будзе ў тым пільная патрэба, то мы пакідаем дараваную вамі магчымасць папрасіць дапамогі.

На гэтым дазвольце і скончыць маё невялікае пасланне.

Здароўя і светлага настрою Вам!

Ваш *Анатоль Кудравец*

*26 сакавіка 1991 года*



*Добрага дня Вам, дзядзька Масей!*

Здаецца, ці даўно мы сустракаліся ў Мінску, вялі душэўныя перамовы, потым выйшлі на перапіску, і вось, дзякаваць Богу, ёсць плён нашых намаганняў. Карыстаюся нагодай і добрай згодай Лідзіі Савік, каб скараціць час знаходжання пакета ў дарозе. Ход пошты цераз акіян заўсёды быў цяжкі, а цяпер, у час разрухі, ён можа расцягнуцца да бясконцасці.

Словам, перадаю часопісы з творам Масея Сяднёва ў перакладзе на расейскую мову. Цікава будзе ведаць, да якой думкі Вы прыйшлі пра саму публікацыю, пра пераклад рамана і адаптацыю яго для часопіса.

Страты, безумоўна, ёсць, і перш за ўсё моўныя, але хачу сказаць, што першыя водгукі ў нас добрыя. Як і ўвогуле арыентацыя часопіса ў бок гісторыі, гісторыі даўнейшай і больш блізкай, ацэньваецца чытачамі як справа патрэбная і неабходная.

Мы шукаем шляхоў, каб зрабіць «Неман» жывым мастком паміж мінулым і будучым, мастком паміж беларусамі, якіх лёс параскідаў па ўсім свеце, і Беларуссю — нашай спакутаванай зямелькай, над якой хоць і з вялікай цяжкасцю, але ўсё ж прабіваецца святло незалежнасці. Калі да гэтага дадасца адчуванне нацыянальнай годнасці і трывогі за будучыню,— нешта будзе. «Масток» жа нам бачыцца ў выглядзе паслядоўных і шырокіх публікацый (там абавязкова бачыцца і паэзія дзядзькі Масея), а таксама перапіскі з беларускімі зямляцтвамі, гаворак на старонках часопіса пра жыццё і праблемы эміграцыі, яшчэ шмат што іншае з гісторыі і сённяшняга. Мы ўжо зрабілі і паслалі ў набор цэлы выпуск пад дэвізам: «Куды не трапіць беларус...», па выхадзе з друку абавязкова вышлем і

Вам. Можа, у дзядзькі Масея ёсць якія свае меркаванні па гэтых праблемах, парады, было б цікава пачуць іх.

З глыбокай павагай *Анатоль Кудравец*

*18 снежня 1991 года*

*Добрага дня Вам, дзядзька Масей!*

З вялікай прыемнасцю прачытаў я атрыманы ад Вас ліст. Не ведаю, у чым справа, у чым прычына, але Вашы пісьмы і чакаюцца мной надта, і чытаюцца з тым сардэчным хваляваннем, якое дадае цяпла і радасці. Што ёсць *нешта* на свеце, не магу сказаць што, але яно родніць людзей, прымушае думаць пра іх, перажываць за іх, баяцца за іх здароўе, і ўсё гэта як пра самых родных па крыві. І вялікі акіян, што раздзяляе нас, і тыя многія тысячы кіламетраў не з'яўляюцца ніякай перашкодай, а, можа, наадварот, абвастраюць пачуцці і патрэбу ў перамовах, хай і на паперы, хай і не так часта. Бо ў сапраўднасці гавару з Вамі я нашмат часцей, можа, кожны дзень, можа, і па некалькі разоў на дзень, бо гэта той выпадак, калі Ваша — жыццё, паэзія, проза, Ваш лёс і ўсё, што стаіць за ім, стала маім, яно жыве ўва мне і напамінае пра нязмернасць сілы чалавека, калі ў ім жыве любоў да роднай зямлі, да роднай песні. Тады чалавек не можа не спяваць — ці свае песні, ці песні матчыны, бо яны таксама яго ад самага нараджэння.

Я ўдзячны Вашай смеласці, калі Вы напісалі ліст у «Неман» і даслалі свае кніжкі. Бо без гэтага мне цяжэй было б гаварыць з вамі ў Саюзе, ды магло б і наогул не адбыцца гэтай гаворкі. Я б Вас проста не *ведаў*. І якая б гэта была страта для мяне.



Я перадаў Вашы цёплыя словы пра пераклад Вашага рамана Алегу Ждану, ён быў узрадаваны, можа, яшчэ і таму, што было гэта прылюдна, прасіў перадаць Вам самыя найлепшыя пажаданні.

Рыхтуем мы валізку Вашых вершаў. Узяўся перакласці іх Міхась Шэлехаў, добры паэт, добры перакладчык, народжаны на Палессі і яры прыхільнік славянскага, праўда, трохі марудзіць з перакладамі, але мы пацiху падганяем яго. З паэтаў, хто трапіў у вымушаную эміграцыю, ён перакладаў для «Немана» Салаўя і пераклаў добра. Як хутка будзе пасоўвацца справа, я паведамлю, як і пра тое, калі будзе надрукавана падборка.

Пра нашы беларускія справы пісаць надта не хочацца, бо ўсё гэта перажываецца тут і ідзе не так, як трэба. Засілле былых партапаратчыкаў не зменшылася, а ў многім яшчэ болей узмацнілася, бо, карыстаючыся былой уладай, яны цяпер пазахоплівалі эканамічна важныя вузлы і вузельчыкі і дыктуюць свае парадкі. І няма розніцы паміж дэмакратамі і партакратамі, бо ўсе яны з адной і той жа кампаніі, а пажаліцца няма каму, ніхто не пачуе. Усе скупыя капейкі з'ядае армія, міліцыя, КДБ, яшчэ кінуць костку «гегемону», а культура, літаратура — падыхайце, і чым гэта хутчэй адбудзецца, тым будзе лепей. Але нічога, можа, як-небудзь выжывем, і калі-небудзь хто-небудзь успомніць добрым словам і нас.

Але... Спахапіўся, што, не хочучы таго, нібы скарджуся на тое, што ёсць, нібы гэта самае страшнае з перажытага намі і да нас. Страшнае, але, мусібыць, не самае з таго, што было і што будзе. Адмераны пясок лёсу перасыпаецца так хутка, што бярэ страх ад адчування, што за драбязой паўсядзённасці не паспееш зрабіць тое, дзеля чаго воляй Бога ты і з'явіўся на гэтай,

як бы там ні было, такой прыгожай і роднай зямельцы.

Хачу сказаць вялікі дзякуй за лекі для Анюткі, яны прыйшлі вельмі ўпору. Болей нічога не трэба, можа, і іх хопіць для заканчэння курса лячэння, потым, гавораць і дактары, што ў яе ўзрост такі, калі хваробы лягчэй адступаюць пад націскам прыроды, лекаў і спагады.

Прыміце самыя шчырыя пажаданні дабра і здароўя Вам і Вашым блізкім ад ўсёй нашай сям'і, а разам з гэтымі пажаданнямі і сум, што знаходзімся мы, як у розных галактыках, і гэтак цяжка, нават гаворачы пра добрае і добрае, зірнуць адзін аднаму ў вочы. Хочацца спадзявацца, што такая магчымасць у нас яшчэ ёсць і калі-небудзь яна спраўдзіцца.

Будзьце здаровы! Ваш ва ўсім

*Анатоль Кудравец*

*25 лютага 1992 года*

## *Паважанаму спадару М. Сяднёву!*

Дарагі спадару, сардэчна дзякую за Ваш мілы ліст да мяне ад 7 снежня мінулага года. Перш за ўсё мне вельмі прыемна асабіста пазнаёміцца з выдатным беларускім паэтам. Ваша паэзія, з якой я знаёмы па кніжках «Патушаныя зоры» і «Ачышчэнне агнём» (яны маюцца ў маёй хатняй бібліятэцы), самай высокай пробы. Рады быў таксама сачыць за Вашай паездкай па Беларусі і чытаць сёетое пра Вас у «ЛіМе». На жаль, мне невядома Ваша проза. Але тыя старонкі, што апублікаваў «ЛіМ» апошнім часам,— эстэтычна цудоўныя і сведчаць пра Вашу вялікую патэнцыяльную творчую асабовасць.



Бедная наша Айчына, якая мусіла адракацца ад такіх талентаў.

Што тычыцца кароткай нататкі ў «Энцыклапедыі паўшэхнай», то зрабіў я, вядома, па свайму меркаванню, таму што — як пісаў у лісце Запруднік — даныя патрэбны былі вельмі хутка (таго патрабуе рэдакцыйная праца ў выдавецтве). Маю надзею, што ў агульным аспекце, у агульным падыходзе да Вашай творчасці не памыліўся ў ацэнцы. Учора яшчэ раз гаварыў-перапытваў рэдактуру ў варшаўскім выдавецтве наконт артыкулаў пра нашых эмігранцкіх пісьменнікаў, дык усё нармальна: будзе пра Вас, Арсенневу і Салаўя.

У сувязі з паслабленнем палітычнага жыцця і выездамі нашых адсюль у Заходнюю Еўропу ці Амерыку ёсць магчымасць шырэй і глыбей пазнаёміцца з творчымі здабыткамі беларусаў, расцярушаных па свеце. За гэтым таксама ідзе прагнасць і навуковага аналізу. Пісаць пра Вашу творчасць не тое, што хочацца з нутраной, эстэтычнай патрэбы. Пісаць мусова з маральных наказаў!

Але навукова-літаратурны аналіз патрабуе шырокіх ведаў, многіх фактаў і спакойнага погляду на прадмет. Шмат чаго, як Вы самі ведаеце, нам тут недаступна. Яно ёсць там, на Вашым кантыненце. Шкада, для прыкладу, сабранай бібліяграфіі па культуры і літаратуры, але ж не апублікаванай БіНіМам. З гэтага не вынікае, што мы тут нічога рабіць не будзем. Толькі робіцца тое памалей.

Калі б Вы хацелі апублікаваць нешта сваё новае ў «Ніве» беластоцкай — пішыце, прысылайце на мой адрас ці проста ў рэдакцыю — будзем рады.

Паважаны спадару! У лісце Вы падаеце дату свайго нараджэння: 1913! Хоць у іншых даведніках усюды я сустракаў 1915 год. Дзе памылка?

10. Зак. 5347.

Калі ў Вас ёсць лішнія экземпляры сваіх твораў, якіх у мяне няма,— прышліце, калі ласка!

Я ж высылаю Вам сваю кніжыцу, што выдалі мне ў Мінску,— лічачы на Вашу паблажлівасць у адносінах да слабейшага чырыкання маёй Музы.

З прыязню да Вас

*Ян Чыквін*

*Беласток, 5 лютага 1991 года*

*Добры дзень,*
*паважаны Масей Ларывонавіч!*

Піша Вам Святлана Сачанка. Перш за ўсё — вялікі дзякуй Вам за цёплыя словы ў мой адрас, выказаныя Вамі ў апошнім лісце. Было вельмі прыемна даведацца, што Вы так высока ставіце маю працу. Вы хацелі, каб я паведаміла Вам менавіта, пра што я збіраюся пісаць у сваёй будучай дысертацыі па Вашай творчасці. З радасцю падзялюся з Вамі сваімі планамі.

Ваша творчасць мне вельмі імпануе. Арыгінальная творчая манера, высокая культура творчасці, жывая, яркая вобразнасць і да таго ж (лічу самае галоўнае ў Вас) — майстэрства ў перадачы звычайных, будзённых з'яў, уменне ўбачыць іх вачамі першаадкрывальніка. Гэтыя якасці Вашых твораў — і празаічных, і вершаваных, не могуць не прывабіць. Можна лічыць Вас адным з лепшых сучасных беларускіх пісьменнікаў. Творы Масея Сяднёва дапамаглі мне перагледзець і змяніць маю жыццёвую філасофію, бо, чытаючы іх, пачынаеш разумець, што ў жыцці асноўнае і чаго трэба трымацца. У Вас такі па-юнацку чысты, светлы погляд на жыццё, рэчы і падзеі. Вы дапамагаеце вярнуцца ў юнацтва і свайму чытачу, дапамагаеце з поспехам. А такі зварот заўсёды радасны, відаць, карысны таксама. Вашы творы лёгка чытаюцца. Я люблю чытаць Вас, Вы натхняеце мяне на творчасць, на тое, каб заставацца самім сабой, быць вольнай і незалежнай, нягледзячы на ўціск людзей, абставіны.

Вось таму, калі з'явілася магчымасць выбраць пісьменніка для таго, каб даследаваць яго стыль, то я, нягледзячы ні на што, не вагаючыся, выбрала Вас. Тэма маёй будучай кандыдацкай фармулюецца так: «Мова твораў Масея Сяднёва як мастацкая сістэма». Гэтая тэма была зацверджана вучоным саветам інстытута. Цяпер я атрымала права працаваць над абранай тэмай. Праца будзе складацца з некалькіх частак: «Правапіс Масея Сяднёва», «Моўна-выяўленчыя сродкі». У выніку павінна атрымацца сістэмнае апісанне Вашай мовы, як мовы аднаго з прадстаўнікоў творчай эміграцыі. Пэўна, у рэшце рэшт прыйду да пэўных высноў, адной з якіх будзе тая, што мова Вашых твораў выгадна адрозніваецца ад мовы сучаснай беларускай літаратуры і што многія словы, выразы Масея Сяднёва можна шырока выкарыстоўваць як сродак «ажыўлення», «асвяжэння» нашай цяпер даволі ўбогай агульнапрынятай афіцыйнай мовы. Ваша мова надзвычай багатая, даследаваць яе цікава (буду аналізаваць амаль усе Вашы творы), і я спадзяюся, што ўсё будзе добра, тым больш што навуковым кіраўніком прызначаны член-карэспандэнт АН Беларусі, акадэмік М. В. Бірыла. Гэта выключна талёнавіты вучоны, ён прыхільна ставіцца да Вас і Вашай творчасці.

Пішыце, Масей Ларывонавіч, як жывеце Вы. Мы ўсе з нецярплівасцю чакаем лістоў ад Вас. Ся-

мейства Сачанкаў дасылае Вам шчырыя прывітанні, пажаданні здароўя, шчасця, плёну. Новых Вам творчых поспехаў.

*Святлана[1] і астатнія Сачанкі*

*15 ліпеня 1991 года*

*Добры дзень,*
*шаноўны Масей Ларывонавіч!*

Піша Вам Савік Лідзія Сямёнаўна — памятаеце, нас пазнаёміў Васіль Фёдаравіч Хомчанка ў час Вашага прыезду ў Мінск у маі 1990 года? Тады я Вам гаварыла, што хацела б напісаць рэцэнзію на Ваш раман «Раман Корзюк». Потым я прачытала «І той дзень надышоў» — раманы захапілі мяне надзвычайнасцю тэматыкі, даступнасцю і прыгажосцю беларускай мовы, лірызмам і асабліва былі мне на карысць сваёй інфармацыйнасцю, таму што я даўно чытаю лекцыі пра рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў (спецкурс у Мінскім педінстытуце, перад настаўнікамі ў абласных інстытутах удасканалення настаўнікаў ды і наогул перад самымі рознымі аўдыторыямі). Таму, прачытаўшы Вашы раманы, я адкрыла для сябе шмат новага і цяпер Вашу творчасць і жыццёвы шлях я таксама ўключаю ў свае лекцыі, асабліва калі я перачытала Вашу цудоўную паэзію, зрабіла выпіскі — і зразумела глыбей словы Я. Брыля, калі ён на сустрэчы з Вамі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі (памятаеце, было шмат народу?) сказаў у захапленні: «Які паэт!»

---

[1] Святлана Сачанка — аспірантка Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі.



І вось, думаючы напісаць рэцэнзію на «Рамана Корзюка», я так да яго і не дайшла, выліўся ў мяне артыкул пра Вашу паэзію, якой я не толькі зачаравана, але і лічу, што мы шмат страцілі, так позна ўведаўшы яе! Артыкул свой я аддала ў «ЛіМ», але не ведаю, калі яго надрукуюць. Таму я вырашыла паслаць Вам адзін экземпляр, каб Вы не думалі, што мае размовы тады ў Хомчанкі былі пустымі словамі. Скажу больш таго — мяне настолькі захапіла Ваша творчасць, што я б з вялікай ахвотай напісала б пра Вас кнігу ці хаця б нарыс жыцця і творчасці, бо і артыкул гэты пісаўся з захапленнем, матэрыялу і роздуму ў мяне засталося шмат, бачыце, не разгледжаны раманы,— проста для публікацыі ў газеце ён і так атрымаўся завялікі. Вашы кнігі я здабывала з цяжкасцю — брала іх і ў Алеся Баркоўскага (Вы з ім маеце перапіску), некаторыя раннія зборнікі даваў мне Б. Сачанка, і цяпер, уважліва перачытаўшы Вашы кнігі, магу сказаць, якія яны таленавітыя. Вашы зборнікі паэзіі, раманы, дзякаваць Богу, ужо ўведзены ў адкрыты фонд нашай Нацыянальнай бібліятэкі і іх кожны свабодна можа прачытаць. Але я лічу, што ўсё ж мала пра Вас ведаю, няма ў мяне ўсяго, што Вы напісалі, няма ніякіх матэрыялаў пра Вас (літаратуразнаўчых, крытычных), якія, магчыма, выходзілі за мяжой, для таго, каб напісаць нарыс жыцця і творчасці. Таму, можа б, Вы што прыслалі, бо я востра адчуваю, што многае пра Вас і Вашу творчасць не ведаю. Вось у адным з апошніх пісем да Алеся Баркоўскага Вы пісалі, што працуеце над «Масеевай кнігай» — гэта ж вельмі цікава,— а калі яна да нас дойдзе? Ды і шмат іншае, што Вамі напісана і пра Вас напісана трэба было б ведаць. Усё тое, што ў нас друкавалася ў сувязі з Вашым прыездам і што Вы даслалі пасля прыезду («Маладосць»,

«ЛіМ»), у мяне сабрана, але адчуваю, што гэтага зусім недастаткова.

Масей Ларывонавіч! Не падумайце, што мяне захапіў усеагульны ажыятаж пакланенння перад усім замежным, што ў нас, звыклых да крайніх шараханняў, пануе цяпер у краіне (хоць гэта і зразумела пры нашым цяжкім існаванні). Мне вельмі падабаецца Ваша творчасць, душу кранула Ваша паэзія, Ваш лёс, Ваша любоў і памяць пра нашу няшчасную Бацькаўшчыну, і я адчула ў Вас родную беларускую душу і вельмі ўдзячна Вам, што Вы ёсць, што Вашы кнігі прынеслі мне столькі радасных, цёплых і адначасна тужлівых хвілін, і я не магла не адгукнуцца на іх сваім добрым словам, вось гэтым артыкулам. Пісаўся ён лёгка, бо было пра што пісаць, але ў ім не сказана і сотай долі таго, што заслугоўвае Ваша творчасць. Чакаю Вашага адказу — як Вы глядзіце на тое, каб напісаць нарыс жыцця і творчасці Масея Сяднёва? Артыкул гэты, калі будзе магчымасць у Вас, можаце надрукаваць, калі Вы што ў ім не прымеце ці я ў чым памылілася, даруйце, гэта з-за маёй недасведчанасці. Прашу прабачэння за доўгі ліст, шмат хацелася Вам сказаць, але прачытайце ўсё гэта, і мы з Вамі пагаворым далей больш грунтоўна.

Як Вы цяпер сябе адчуваеце, як Ваша здароўе? Як пішацца, што новага сярод беларусаў замежжа? Дарэчы, Вы мо чулі — у нас створана згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», дык я з'яўляюся сакратаром гэтага згуртавання, старшыня — Яўген Лецка, прэзідэнт — Васіль Быкаў.

Наогул, цяпер ствараецца ў нас шмат розных згуртаванняў і партый, але гэта пакуль што мала дапамагае, становішча ў краіне надзвычай складанае, калі мы пераадолеем гэты цяжкі крызіс — Бог ведае. Будзем усё ж спадзявацца на лепшае.

Пішыце, чакаю адказу. *Л. Савік*[1]

*14 мая 1991 года*

*Шаноўны спадар Масей!*

Атрымаўшы праз Алеся Баркоўскага магчымасць напісаць Вам ліст, я з радасцю раблю гэта. Тым больш што ёсць нагода перадаць Вам яго з беларусамі з Кліўленда, якія зараз гасцююць у Мінску.

Прызнаюся, што мне вельмі хацелася напісаць Вам. Памятаю першую сустрэчу з Вамі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзе нас пазнаёміў Барыс Сачанка. Ён паабяцаў разам з Вамі зайсці ў наш архіў-музей літаратуры і мастацтва. Але, на жаль, у Вас было мала часу і больш грунтоўнае знаёмства не адбылося. Вельмі шкадую. Але пасля мела магчымасць прысутнічаць на сустрэчы ў Доме літаратара і была вельмі ўражана. Жывучы так далёка ад роднага краю, Вы захавалі вострае пачуццё радзімы. Здавалася, што Вы нікуды на ад'язджалі. Вашы думкі, Ваша сэрца тут — на Беларусі.

Я цешуся, што мы тут ужо можам вольна чытаць тое, што створана талентам беларусаў па-за межамі Бацькаўшчыны. Ваша творчасць — гэта каштоўны здабытак беларускай літаратуры. Мы ўжо маем многія Вашы зборнікі. Але хацелася б, каб тут, на Беларусі, былі і Вашы рукапісы, фотаздымкі, пісьмы і іншыя матэрыялы, якія характарызуюць творчую і чалавечую асобу. Наша ўстано-

---

[1] Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі, крытык.

ва займаецца зборам і захаваннем архіваў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Хацелася б, каб і Ваша імя было сярод іх. Трэба ўсім нам клапаціцца пра захаванне сваёй спадчыны. Я займаюся гэтым ужо больш як дваццаць гадоў. Заўсёды шчыра радуюся, калі сустракаю падтрымку. Таму і ад Вас чакаю разумення і спагады ў справе папаўнення беларускіх архіваў дакументамі тых людзей, хто жыве па-за межамі, а найперш Вашымі. Жадаю Вам добрага здароўя і поспехаў у добрых справах.

З павагаю

*Ганна Сурмач* — дырэктар
Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея
літаратуры і мастацтва Беларусі

*Мінск, 12 жніўня 1991 года*

*Добры дзень, шаноўны спадар Масей!*

Вельмі ўзрадавала мяне добрая вестка ад Вас. Сардэчна дзякую за цёплы ліст. Прызнаюся, што чакала яго. Добра, што нашы думкі супадаюць у справе захавання Вашай спадчыны. Нашым агульным клопатам, спадзяюся, гэта справа будзе неяк уладкавана, і мы будзем мець тут, на нашай агульнай Радзіме, Вашы рукапісы і іншыя матэрыялы з Вашага асабістага архіва. Удзячна, што Вы ўжо зрабілі добры пачатак. Усё, што Вы даслалі, безумоўна, вельмі цікавае і патрэбнае для нас.

У архіве-музеі мы захоўваем рукапісы пісьменнікаў і паэтаў, кніжкі, пісьмы, фотаздымкі, друкаваныя матэрыялы. Адным словам, усё, што характарызуе творчую асобу. Так што мы будзем прымаць у свае сховішча тое, што Вы палічыце патрэбным нам перадаць.

Ведаю, што ў бліжэйшы час да Вас збіраецца



ехаць Лідзія Сямёнаўна Савік. Мы з ёй добра знаёмыя. Можа, Вы б даверылі нешта праз яе пераслаць для нас? Яна таксама потым тут магла б у нас карыстацца гэтымі матэрыяламі.

Вядома ж, вельмі хацелася бачыць Вас самога. Калі збярэцеся на Радзіму яшчэ раз, буду спадзявацца на сустрэчу з Вамі. Тут у Вас многа добрых сяброў і чытачоў.

Сардэчна віншую Вас, Ірэну і ўсю Вашу сямейку з надыходзячым Новым годам і калядамі, жадаю моцнага здароўя і добрага настрою.

З павагаю *Ганна Сурмач*

*6 снежня 1991 года*

*Добры дзень, шаноўны спадар Масей!*

Вельмі многа добрых слоў чула пра Вас ад Лідзіі Сямёнаўны Савік. Вярнуўшыся з Амерыкі, яна многа расказвала пра сваё падарожжа. Ёй усё вельмі спадабалася. З вялікай цеплынёй гаварыла пра Ваш гасцінны дом і яго шчырых і сардэчных гаспадароў. Цікава чытаць Вашы вершы, але і вельмі важна, калі і сам творца адкрываецца перад намі як асоба, як чалавек у сваім штодзённым жыцці. Мяне заўсёды дзівіла, як Вам удавалася ў чужым асяродку так захаваць у сабе беларускасць. Вядома ж, і многія іншыя пачуваюць сябе там беларусамі. Але ў Вас гэта неяк па-другому, больш глыбока. Вы стварылі нейкі такі беларускі астравок у тым замежным акіяне, кавалачак радзімы, і стараецеся ізаляваца ад уплываў чужога побыту. Дай, Божа, Вам здароўя, каб яшчэ так трымацца доўгія гады.

Мяркую, што Вы атрымліваеце інфармацыю з Беларусі і ведаеце, як тут у нас ідуць справы. Ёсць настрой працаваць, будаваць сваю дзяржаўнасць,

але і многа сумненняў. Не ўсё ладзіцца, як трэба. Таму і блытаемся ў шматлікіх праблемах, найперш эканамічных. На днях ізноў узняліся цэны на прадукты. Просты люд галее дзень ад дня, а разумнага падыходу да эканамічных пытанняў пакуль што не назіраецца. Развал, спекуляцыя, крадзеж — усё тое, што заўсёды характэрна для пераломных момантаў у гісторыі. Ці ўдасца суладаць з усім гэтым негатывам? Зацягваецца справа з рэферэндумам. Цяперашні парламент не здольны кіраваць у інтарэсах народа, але адмовіцца ад улады не захоча. Здаецца, што наперадзе яшчэ большыя цяжкасці. Будзем спадзявацца на лепшае, тым больш што ў нас зараз ёсць такі выдатны шанец на нацыянальнае адраджэнне. І гэта дае сілы.

Што ў Вас новага? Хочацца пабачыць надрукаванымі новыя старонкі «Масеевай кнігі». Спадзяюся таксама, што Вы не забудзеце і пра наш архіў-музей, які чакае ад Вас новых паступленняў Вашых рукапісаў і іншых матэрыялаў, бо хацелася б, каб у нас былі звесткі для літаратуразнаўцаў, якія, безумоўна, будуць цікавіцца і матэрыяламі пра аднаго з найлепшых беларускіх паэтаў, якім мы ўсе Вас лічым.

З павагаю і найлепшымі пажаданнямі Вам і Вашай сям'і

*Ганна Сурмач*

*12 ліпеня 1992 года*

*Паважаны спадар Масей Сяднёў!*

Усе часткі «Беластоцкага сшытка» атрымаў, і першая ўжо выйшла з друку. Пачынаючы з 29-га нумара, кожны тыдзень будуць друкавацца паасобныя артыкулы (апошні з'явіцца ў «Ніве», нумар



35, які выйдзе 1 верасня гэтага года — на 78-ю гадавіну з дня Вашага нараджэння).

У рэдакцыйным і літаратурным асяроддзі зацікаўленне Вашымі ўспамінамі вялікае. Упершыню можам шчыра і адкрыта даведацца пра той час, які з-за ідэалагічных прычын замоўчваўся або асвятляўся аднабакова. Я Вам сардэчна дзякую за тое, што Вы згадзіліся задаволіць маю просьбу.

Артыкул Лідзіі Савік дашліце нам, можа, выкарыстаем яго ў «Ніве».

Камплект «Нівы» з Вашымі ўспамінамі дашлём Вам. Калі будзе жаданне, можам даслаць і некалькі камплектаў, толькі напішыце.

Прыміце найлепшыя прывітанні.

Рэдактар «Нівы» *В. Луба*

*Беласток, 19 ліпеня 1991 года*

*Высокапаважаны спадар Масей!*

Меў я гонар адчуць цяпло ад поціску Вашае рукі падчас нядаўніх адведзінаў паэтам Сяднёвым роднага Менску. Але тады кепска ўяўляў сабе, што, хто стоены за гэтым прозвішчам (мабыць, я не адзіны «грамацей-вучоны» з беларусаў, недавучаны і цёмны ў распазнанні скарбаў нашых духоўных, думкі балеснае беларускае, якая не пала на калені нават у самыя трагічныя, здавалася, безнадзейныя часіны). І вось прачытаны, дакладней, пакуль што толькі перагортаны кнігі Вашыя. Наколькі глыбей, даляглядней разгарнулася вачам маім краіна Беларусь — вабная, хрысталюбная, вячыстая. Істотаю маёй усхваляванай, прасветленай завалодаў моцна — назаўсёды несамавіты творца-маляр Масей Сяднёў, да таго ж мой нязвыклы зямляк (рос я і гадаваўся ў дзетдоме, працаваў доўга ў Чэрвені...).

Прыміце ж, калі ласка, сціплую маю кніжачку пра Скарыну як довад сардэчнага прызнання да Вашае Прыгожае, Мудрае Асобы.

Сардэчна *Аляксей Каўка*[1]

*Кастрычнік 1991 года*
*Масква-Мінск-Лондан.*

*Даражэнькі Васіль!*[2]

Табе там добра ў тваёй Іслачы, а я тут сумую без цябе, толькі і падтрымка, што лісты — твае і лісты ад іншых, пераважна ад Сачанкі, а таксама ад маіх двух унукаў. Тыдзень таму атрымаў ліст ад Галіны Тычкі з пытаннямі пра маю асобу, яна, як выглядае, збіраецца нешта напісаць пра мяне. Сядзіць з дачкой недзе на вёсцы. Турбуецца. Прысылала паштоўку і наша Жанна. Штосьці не чуваць нічога ад Шупенькі. Але досыць пра ўсё гэта. Як табе добра ў тваёй Іслачы, дык і сядзі, тым больш калі там табе добра пішацца. Атрымаў, нарэшце, «Полымя» з тваімі трыма апавяданнямі, а паіменна: «Падмена», «Крывы цень», «Ася». Добрыя апавяданні. Коратка выкажу сваю думку пра іх, калі ты ўжо лічыш мяне нейкім крытыкам. Як і заўсёды, стаўка ў цябе на вострую фабулу, на сюжэт, на завязку з навелістычнай канцоўкай. «Ася» — гэта прыгожая навела, лепшае з трох апавяданняў. Думаю, што можна было б абысціся без аплявухі (яна антыэстэтычная тут), хоць, канешне ж, Ася — шэльма і, можа, заслугоўвае яе. Востры сюжэт, інтрыга, вымысел, як вядома, характэрны для прыгодніцкага жанру, і элементы гэтага жанру можна знайсці ў гэтых тваіх апавяданнях. Будова

[1] Доктар гістарычных навук.
[2] Хомчанка В. Ф. — празаік.



твора на вострым сюжэце можа межаваць нават з анекдатычнасцю. Апавяданне «Падмена», каб не ягоная дакументальная канцоўка, магло б успрымацца як нешта падобнае на анекдот, на чысты вымысел. І нават я шкадаваў, што ты сваёй фактурай — выпіскай з крымінальнай справы — разбурыў гэты вымысел. Я хацеў бы ўспрымаць гэты твор менавіта як апавяданне, а не як, скажам, сапраўдны факт. Але ў сэнсе архітэктонікі — гэта надзвычайна стройна пабудаваны, артыстычна завершаны твор. У жанравым дачыненні твае апавяданні дзівосна суіснуюць на мяжы як бы голага, праўдзівага факта і вымыслу, і гэта робіць іх пераканаўчымі. Твор з вострым сюжэтам як бы не патрабуе нейкага асаблівага мастацкага ўцелаўлення. Дзеянне, сюжэт тут замяняе ўсё, і ты дасягнуў у гэтым мастацтве пэўнай віртуознасці, хоць тут і існуе заўсёды небяспека збіцца на голую інтрыгу. Ты сваім мастакоўскім чуццём аберагаеш сябе ад гэтага. Цікава, што ў тваіх апавяданнях ёсць і тое, што называецца палітыкай. Добра, што яна ў тваіх апавяданнях уматываваная, інакш, ты ж ведаеш — яна часам і падводзіць пісьменніка. Закончу сваю «крытыку» агульным сцверджаннем: пачаўшы чытаць цябе — не кінеш. І гэта дзякуючы тваёй кампазіцыйнай здольнасці.

*М. Сяднёў*

*16 снежня 1990 года*

*Дарагі Васіль!*

Прачытаў тваю ваенна-марскую кнігу «Вяртанне ў агонь». Для мяне, чалавека не вайсковага, яна мае вялікае пазнавальнае значэнне: я пазнаёміўся з армейскім жыццём — баявым і бытавым. У пры-

ватнасці, з баявымі дзеяннямі на моры пад час вайны. У цябе незвычайная здольнасць апісваць гэтыя дзеянні. Вычуваецца аўтарава дасведчанасць ува ўсім, інакш кажучы, аўтар ведае матэрыю. Ёсць тут і моманты з асабістага дазнання. Дык першае, што звяртае на сябе ўвагу,— гэта твая не абыякая, а зайздросная здольнасць апісваць падзеі. Метад апісальнасці ляжыць у аснове кнігі. Ён дазваляе табе заглянуць і ва ўнутраны свет тваіх галоўных герояў, асабліва жанчын. Ты — майстра па жанчынах. Нейкай асаблівай канфліктнасці ў кнізе і няма, хоць кампазіцыйна кніга задумана як канфліктная, я маю на ўвазе самую фабулу. Кніга інтрыгуе, і дзеля гэтага чытаецца з цікавасцю і нават з напружанасцю, але канфлікту ў глыбейшым сэнсе, калізій тут няма — канфліктнасць тая замаруджваецца, а то і здымаецца бесперапынным вяртаннем з сённяшняга ў мінулае. Трагедыя дэсантнікаў увесь час засланяецца сённяшнім і дзеля гэтага аслабляецца, сённяшняе затушоўвае трагедыю дэсантнікаў, сённяшняе атрымалася мацнейшым. Метад перакідкі падзей, па-мойму, тут увесь час тармозіць, зацягвае тэму дэсанта. Перапынкі ў развіцці тэмы дэсантнікаў могуць жа, з другога боку, выклікаць у чытача напружанне: а што ж будзе далей з імі, але, чытаючы кнігу, я забываў іх, быў паглынуты сённяшнім герояў, а не дэсантам. Такое ўражанне склалася ў мяне, можа, таму, што я чытаў кнігу з перапынкамі (няньчыў унукаў). Ты ўвесь час на працягу ўсё ж досыць вялікай кнігі як бы знарок зацягваў канец, раскручваў яго досыць павольна, але гэта, кажу, аніяк не зніжае чытэльнасці тваёй кнігі. Сакрэт тут — у тваёй здольнасці маніпуліраваць падзеямі, у тваёй здольнасці апісваць, у дэталях, у самой атмасферы. Стаўка на сюжэтнасць і вымагае здольнасці канструяваць, валодаць механікай кампазіцыі. І гэтай механікай ты валодаеш дасканала, ты — добры архітэктар. Гэта механіка прысутнічае і ў тваёй кнізе «Пры апазнанні — затрымаць». Багушэвіч у ёй амаль вонках кнігі, але кніга добрая, чытаецца з напружаннем. Але калі параўнаць гэтыя кнігі, дык «Пры апазнанні — затрымаць», можа, лепшая за «Вяртанне ў агонь». Але абедзве кнігі чытаюцца з вялікай ахвотай, як рэдка якія ў беларускай літаратуры. Ты «увлекательный романист», як аднойчы мой следчы на допыце сказаў пра Міхася Зарэцкага.

*М. Сяднёў*

*1991*

## *Добрай раніцы, добры дзень, добры вечар Вам, Генадзь Серафімавіч!*[1]

Шчыра дзякую за ліст, за цёплае слова ў ім, за пажаданні добрага здароўя, за прыхільнасць да мяне, да маёй сціплай асобы. Баюся, Генадзь Серафімавіч, каб Вы мяне не пераацанілі — жонка мая, напрыклад, не верыць, што я магу выклікаць добрае ўражанне ў людзей, і калі я прачытаў ёй Ваш ліст, яна была здзіўлена, сказала, што я ў Вашай асобе натрапіў на добрага чалавека, інакш ацэнка была б іншай, добрыя людзі, такія, як Вы, на ейную думку, ніколі не гавораць дрэнна пра людзей. Значыцца, добрыя якасці, якія Вы мне прыпісваеце, па сутнасці належаць Вам. Яно так і ёсць. Але не будзем спрачацца. Пры наступнай сустрэчы мы ўсё ўдакладнім.

---

[1] Шупенька Г. С. — крытык, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Радуюся, што мая кніжка хутка пойдзе ў вытворчасць. Цэнзуры там няма на яе?..

Будзьце здаровы, з найлепшымі прывітаннямі адданы Вам —

М. Сяднёў

*19 жніўня 1990 года*

*Шаноўны Уладзімір Андрэевіч!*[1]

Вялікі дзякуй за Вашую кнігу «Ростані волі». Я адкрыў для сябе цэлы новы кантынент беларускай паэзіі. Прызнаюся, раней я думаў што, калі не лічыць Васілька, Машары, Танка, Арсенневай, нічога асаблівага не становіць сабой тая заходнебеларуская паэзія. Аж сабраная Вамі ў кнізе «Ростані волі», яна зрабіла на мяне вялікае ўражанне сваёй рэвалюцыйна-нацыянальнай сутнасцю. Значэнне яе, з гледзішча на ейную актыўную ролю ў змаганні за сваё, нацыянальнае, можа, куды большае, чымся значэнне паэзіі 20-х гадоў у самой метраполіі. Заходнебеларуская паэзія змагалася, усходняя ў ладнай меры бурапеніла. Шкада, што заходнебеларуская паэзія сур'ёзна не даследавалася, уважалася нейкай пабочнай з'явай у той час, як яна становіць сабой адзіны працэс беларускага нацыянальнага адраджэння. Вам належыцца вялікі дзякуй, што Вы ўзнялі, нібы з небыцця, цэлы архіпелаг беларускай паэзіі. У Вашай кнізе «Ростані волі» ажылі галасы вялікай плеяды беларускіх паэтаў.

Прыміце мае найлепшыя пажаданні і прывітанні.

Ваш *М. Сяднёў*

*21 красавіка 1991 года*

[1] Калеснік У. А. — крытык, літаратуразнавец, прафесар.



*Добры дзень,*
*шаноўны дзядзька Масей!*

Шчыра дзякую за дасланую кніжку і ліст. Увогуле надта не спадзяваўся на адказ. Тое, што Вы не «пан», бачна з артыкула Б. Сачанкі («Маладосць», № 11, 1988). Лёс; канечне, згуляў з Вамі злы жарт, але на гэта і ёсць яго вялікасць Лёс!

Я нарадзіўся ў 1953 годзе ў Асятрова на рацэ Лене. Мову вывучаў самастойна. Сям'я жыве ў Мінску. Я працую ў Якуцку капітанам на судне пад час навігацыі. Зіму праводжу ў Мінску. Цікаўлюся беларускай літаратурай. Збіраю кнігі на беларускай мове, а таксама на іншых мовах пра Беларусь. Іх недзе ў мяне 2000 асобнікаў.

Сабраў усе выданні, якія выдалі ў Народнай Польшчы. Таксама быў там па запрашэнню ў тым годзе. З Вашае кніжкі таксама бачна, што Вы там былі (1943 год). Выпісваю «Ніву». Яна даходзіць нават на Якуцк. Потым пазнаёміўся з Гаем Пікарда з Лондана. Ён мне трохі дасылае замежнай (эмігранцкай) літаратуры, а таксама «Беларус». Вось з гэтай газеты я і ўзяў Ваш адрас. Канечне, я б з вялікім задавальненнем атрымаў бы яшчэ што-кольвек з Вашых твораў. Асабліва «Рамана Корзюка». Якіх беларускіх аўтараў Вам даслаць? Ці пішаце Вы мемуары? Таксама ў мяне нічога няма Арсенневай. Дзе Вы былі на Калыме? Ці засталіся ў Вас сваякі на Беларусі?

Чакаю ад Вас ліста яшчэ на Якуцк. Спадзяюся, што да 14 лістапада адказ яшчэ дойдзе.

З павагай да Вас

*А. Баркоўскі*

*Якуцк, 3 верасня 1989 года*

*Глыбокапаважаны Масей Ларывонавіч!*

Я быў вельмі рад атрымаць ад Вас ліст і патрэбныя дакументы, на падставе якіх паскорыўся ад'езд да Вас Лідзіі Савік. Дзякуй Вам вялікі. Слава Богу, што ў рэшце рэшт усё скончылася даволі паспяхова, у чым вялікая заслуга самой Ліды Сямёнаўны. Прызнаюся, на яе паездку мы ўскладаем вялікія надзеі і будзем чакаць плённых вынікаў, бо сур'ёзнае вывучэнне беларускай літаратуры, створанай за рубяжом, у нас толькі яшчэ пачынаецца.

Некаторыя мае калегі і я таксама пабывалі ў Злучаных Штатах, але гэта былі кароткачасовыя паездкі па іншых справах, што не давала магчымасці пазнаёміцца з літаратурнымі матэрыяламі і самімі беларускімі пісьменнікамі. Я, напрыклад, прыязджаў у Амерыку восенню 1990 года, але ў Нью-Йорку прабыў усяго два дні. Крыху больш наша група знаходзілася ў Правідэнсе і Філадэльфіі. Так што мы чакаем звароту Ліды Савік, узбагачанай і новымі ведамі і новымі матэрыяламі. Прывітанне ёй ад усіх нас.

Я вельмі ўдзячны Вам за добрыя словы ў мой адрас у сувязі з маімі выказваннямі ў нашым друку ў абарону здаровага сэнсу, калі размова ў нас тут заходзіць пра людзей, якія апынуліся на Захадзе, і пра літаратуру, створаную там. Усведамляю, што я не заслужыў сваімі сціплымі ўчынкамі такіх высокіх слоў удзячнасці, хоць, не буду таіцца, яны мне дужа прыемныя.

Я чытаў Вашу паэзію і знаёмы з раманамі «І той дзень надышоў» (па нью-йоркскаму выданню) і «Раман Корзюк». Усё, што прачытана мною, мне дужа спадабалася.

На вялікі жаль, мне не давялося сустрэцца з Вамі ў час Вашага прыезду ў Мінск і пагаварыць. Аднак мне хацелася б з мэтай глыбейшага ўжывання ў Вашу творчасць даведацца ад Вас пра некалькі момантаў, звязаных са зместам Вашых раманаў. Калі будзе Ваша ласка, прашу паведаміць мне ці праз Ліду Сямёнаўну, ці пісьмова, у якой ступені аўтабіяграфічныя Вашы раманы, дзе і ў якіх момантах Вы палічылі патрэбным адступіць ад асноўнай канвы Вашага рэальнага жыцця. І ў сувязі з гэтым, у якой ступені гістарычна верагодныя ў рэчаіснасці 30-х гадоў зарубежныя эпізоды ў рамане «Раман Корзюк»? У рэшце рэшт для даследчыка мастацкага твора не так і важна, дзе ў яго змесце аўтарская творчая «фантазія», а дзе рэальныя жыццёвыя факты. Але ўсё гэта мяне цікавіць у гістарычным плане.

Калі Вы прыедзеце ў Мінск, я хацеў бы прасіць у Вас дазволу на сустрэчу з Вамі.

Дазвольце пажадаць Вам усяго самага найлепшага, а перш за ўсё — моцнага здароўя, шчасця, поспехаў і новых творчых удач.

Ваш *В. Каваленка*[1]

*10 лютага 1992 года*

[1] Каваленка В. А. — дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, крытык.

# З МАЙГО ДЗЁННІКА

(1991)



*23 жніўня.*

Пры жыцці застаюся пастолькі, паколькі перамагаю свае хваробы. Але як доўга *буду* я перамагаць? Відаць, пакуль *Буду.*

Мучыць беларускае пытанне — што з яго будзе, калі будзе што наогул?

Наша літаратура існуе (калі існуе) як бы па-за народам: пісьменнікі і паэты пішуць, а народ іх не чытае. Бяздарныя паэты і пісьменнікі? Не — тут, відаць, пытанне мовы, *беларускай мовы.* На ёй нічога не хочуць чытаць. Яна зрабілася нібыта *чужой* для беларуса.

Прыслала ліст Святлана Сачанка. Хваліць «высокую культуру» маёй творчасці, маё «майстэрства перадачы звычайных, будзённых з'яў», бачыць у мяне «па-юнацку чысты, светлы погляд на жыццё», «жывую, яркую вобразнасць».

Пісьмянкова звярнулася да мяне з просьбай напісаць нешта пра Міколу Гваздова. Таленавіты быў паэт, ды загубілі. Рыхтуюць падборку ягоных вершаў для часопіса «Беларусь».

Завязалася перапіска з Янам Чыквіным. Цудоўны паэт. Прыгожы чалавек.

Здуру задумаў пісаць дзённік. Каму ён патрэбны? Дый гэта не ў маёй натуры — дзённік пісаць. Спакусіла мода, ці што? Дзённікі пішуць часам, каб надаць сабе нейкую значнасць. І пішуць іх якраз нязначныя людзі. І яшчэ — пачаў чалавек пісаць дзённік, ведай — ён (чалавек) канчаецца.

*24 жніўня.*

Запрошаны на дзень народзінаў прафесара Нью-Йоркскага універсітэта Зоі Юр'евай, маёй знаёмай яшчэ па Беластоку. З гасцей будзе нейкі Яршоў, рэлігійнік, і дзеля гэтага настрой у мяне сапсаваўся: не люблю рэлігійнікаў, асабліва такіх, як Надсан.

*25 жніўня.*

Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Цікава — прадыктавана гэта ўнутранай, нацыянальнай неабходнасцю ці гэта было толькі наследаваннем іншым рэспублікам, у прыватнасці такой рэспублікі, як Украіна?

*28 жніўня.*

Дзіўна, камуністы — не нацыяналісты, а камуністы абвясцілі Беларусь самастойнай. Для чаго? Каб утрымацца пры ўладзе і надалей у гэтай ціхмянай рэспубліцы?

Васіль Хомчанка напісаў мне, што артыкул Лідзіі Савік пра маю паэзію надрукаваны ў «ЛіМе». Я рады і ўдзячны ёй — яна добра ўчыталася ў мяне і, па сутнасці, першая на Бацькаўшчыне загаварыла пра маю творчасць. Хвала ёй. Яна хацела б напісаць нат цэлую кнігу пра мой даробак. Хай не знікне ў яе шляхетная «хэнць»! Але мне неяк не па сабе, што мяне хваляць. Гэта мяне раззбройвае, адбірае *мяне* ад *мяне.* Не дай, Божа, мне прыняць пахвалу сур'ёзна — тады мяне ўжо не было б.

Цяпер мне ўсё няважна: літаратура, нацыянальнае пытанне, грамадская справа, палітыка — я хачу акунуцца ў *прыватнае.* Нічога няма вышэй *прыватнага.*

*29 жніўня.*

Скончылася (мая) творчасць і — скончылася радасць. Публіцыстыка, якой я цяпер займаюся,— гэта не творчасць. Можа, і творчасць, ды не тая.

*30 жніўня.*

Пустата ў душы. Проста страшна, што чалавек можа быць такім ніякім. Праз душу праходзяць толькі нейкія абрыўкі ўспамінаў, але душа застаецца нядзейснай, прапускае іх, як рэшата ваду.

У снах, як, дарэчы, і ў жыцці,— мізэра, нягеглыя выверты. У памяці гэтыя сны не трымаюцца. Сярод такіх сноў толькі часам — як радасць і хаценне — жанчыны, заўсёды прывабныя.

*1 верасня.*

Было б наіўна думаць, што людзі, якія вядуць дзённік, пішуць у ім праўду, *поўную* праўду. Не. Гэта тычыцца і майго дзённіка.

*7 верасня.*

Прачытаў у Франсуа Марыяка: «Нават найлепшыя з найлепшых не могуць адны, без нечыёй дапамогі, навучыцца любіць».

Я ўсё жыццё шукаў такой дапамогі і не мог знайсці. Страснае хаценне гэтай дапамогі, хаценне знайсці некага, было па сутнасці тым пачаткам, з

якога паўставала мая паэзія. А каб я знайшоў таго «некага», ці не перапынілася б крыніца майго натхнення?

*13 верасня.*

Жывём у трывозе. Жонка чакае аперацыі. Аперацыя складаная, рызыкоўная. Скаланула мяне ейнае: «Прыйшло маё...» Якая гатовасць да ўсяго! Кажа: «Спадзяюся на дапамогу Божую». Ніколі не турбаваўся гэтак за ейнае жыццё. Дзеці ўстрывожаныя таксама, але ў іх сляпая вера ў хірурга, у тэхніку, у навуку.

*15 верасня.*

Сумна. Нікога няма. Няма сябра. Няма аднадумца. Страшэнны песімізм — што да беларускага пытання. А што да гісторыі — дык не ратуе і Ермаловіч[1]: ён блізу нічога не мог супрацьставіць крыўднаму пагляду на беларусаў, як на падбіты народ у Вялікім княстве Літоўскім. Ермаловічава доказнасць дзяржаўнасці беларусаў дужа ценькая. Пануючым паглядам усё ж застаецца, на жаль, абэцэдаршчына.

Прачытаў у Спінозы, што эмацыянальныя людзі не здольны думаць абстрактна.

*16 верасня.*

Усё-такі я паддаўся сёння — купілі дзве магілкі. Жонка дамагалася гэтага даўно, але я ніяк не паганджаўся з ідэяй набываць сабе пры жыцці магілку — баяўся нават думаць пра гэта. І вось — зміры ўся: купіў. Няўжо *яна* блізка? Оля,

[1] Гісторык,
аўтар кнігі «Старажытная Беларусь».



жонка, усё дапякала мяне: у людзей ёсць хата, а што ў цябе? Не дбаў! Але вось, нарэшце, забяспечыліся і хатай. Толькі не хочацца ў яе перасяляцца.

*19 верасня.*

Зала Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Вялізны — на ўсю сцяну — габелен мастака Кішчанкі на тэму Чарнобыля зрабіў вялікае ўражанне на прысутных. Гэта падарунак ад урада Рэспублікі Беларусь Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Было сказана прачулае слова пра гаротную Беларусь. Жудасным сімвалам гэтай гаротнасці і быў надзвычайны твор Кішчанкі. Прамаўляў і сам Генеральны сакратар ААН.

Пазнаёміўся на прыняцці ў Беларускай місіі з дыпламатам У. Шчасным. З намі (са мной і жонкай) ён гутарыў не менш гадзіны — расказваў пра палітычныя абставіны ў Беларусі, пра змены, якія там адбыліся. Прыемна мне было даведацца, што спадар Шчасны — перакладчык з англійскай, значыць, і літаратар. Падараваў яму свае кніжкі.

У Аб'яднаных Нацыях адчуў і сябе нацыяй.

*20 верасня.*

Не ў Еўропе, а ўсё жыву Еўропай і шмат трачу на гэтым. Відавочна, што трэба жыць там, дзе жывеш, дзе ты ёсць — выйграеш больш.

*27 верасня.*

Пра сваю літаратурную працу і не думаю. Засланіла ўсё тое, што мае адбыцца,— аперацыя жонкі.

*28 верасня.*

Таня і Вова з сем'ямі наведалі нас. Хацелі бачыць маці перад аперацыяй. Было тлумна (унукі і

11. Зак. 5347.

ўнучка хадзілі на галовах, гулялі, біліся), але прыемна. Нат весела. Было ўсведамленне прадаўжэння свайго роду. Оля была рада такому сямейнаму збору, хоць сум у ейных вачах праступаў выразна. А мяне не пакідала адчуванне сваёй бездапаможнасці і нікчэмнасці.

*2 кастрычніка.*

Гэта серада. З аўторка на гэту самую сераду ўжо не спаў, трывожыўся, баяўся за Олю — ці вытрымае *пад нажом.* І вось настала тая серада. Аперацыя прызначана на дзевяць гадзін раніцы. У шпіталі я ўжо быў з Ірай а сёмай. Калі забралі Олю з ейнага пакою ў аперацыйны *рум*, я правадзіў яе, везеную на адмысловым уладжанні, да самых дзвярэй таго страшэннага *руму*, дзе мае вырашыцца ейны лёс — пытанне жыцця ці смерці. Чалавек, што вёз-каціў яе, махнуў мне рукой, каб я адстаў. І я адстаў. Яе паглынуў той *рум* і яе як бы не стала. Жудкае адчуванне: ці вернецца адтуль жывой у гэты свет з таго свету. Яна не існавала на гэтым свеце шэсць гадзін — была на тым, толькі ёй вядомым. На гэтым свеце яна прачнулася не хутка, праз чатыры гадзіны, але нас не пазнала: усё яшчэ была на *тым* свеце.

*5 кастрычніка.*

Адпружанне. Оля вяртаецца пакрысе з таго свету ў гэты. На душы ўсё неспакойна, невыразна: у ёй нічога няма, апрача трывогі. Якая трывога? Што Олі няма ў хаце? Што яна ў шпіталі? Так. Але нешта і яшчэ — хісткасць свайго існавання, няўпэўненасць. Усё абясцэнілася. У тым ліку — літаратура, мой занятак ёю. Не пішу, значыць — не існую. Толькі жыву.



Васіль Хомчанка прыслаў ліст і ў ім: «Бел-чырвона-белы лунае над Домам урада». Бел-чырвона-белы сцяг лунае, а беларускія часопісы спыняюць сваё існаванне. Няма нічога больш недарэчнага, як нічым не забяспечаная незалежнасць. Палітычна ўсё можна пракламаваць, у тым ліку і незалежнасць, але калі гэтая пракламацыя голая, не апіраецца на рэальнасць, невялікая цана такой пракламацыі. Так што тое «лунае» не надта цешыць.

*8 кастрычніка.*

Закінуў усё: літаратуру, ліставанне, працу над драмай, рыхтаванне да друку кнігі. Відаць, да сваёй літаратурнай працы мне ўжо не дайсці — зашмат зазнаў бяды. Няўжо ўсё і прыпынілася? Нецікава!

*10 кастрычніка.*

Мне сёння не да дзённіка. Дзённікі пішуць пераважна задаволеныя сабою людзі, у мяне ж — бяда, і да дзённіка не цягне, лічу гэты інтэлігентны занятак пустым марнатраўствам, я нават неўзлюбіў людзей, што пішуць дзённікі, гэта — хлусы.

*15 кастрычніка.*

Недзе прачытаў, што хворыя людзі звычайна лагаднеюць, робяцца больш боскімі, мая ж жонка і хворая крычыць на мяне, выказвае сваю незадаволенасць мною.

*22 кастрычніка.*

Калі жонка пасля аперацыі вярнулася са шпіталю дахаты, тыя, што перад тым гэтак шкадавалі яе, былі цяпер як бы расчараваныя фактам яе павароту: ім не хапала больш моцнай навіны — трагічнага канца.

У сваёй літаратурнай творчасці я імкнуўся як мага ўдасканаліць нашу «недасканалую» мову, і ў гэтым «удасканаленні» яна зрабілася для мяне роднай мовай. Ніякай іншай я ўжо не магу паслугоўвацца.

*12 лістапада.*

Я ўсё жыццё прыслухоўваўся да сябе, да свае душы, і цяпер я не ўмею слухаць іншых. Якая страта!

*9 снежня.*

Беларусь, Расія, Украіна ўтварылі садружнасць з цэнтрам у Мінску, Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Ці не фантастыка гэта?

Адліў, адыход мора — смутак, расчараванне. Прыліў — радасны зварот страчанага.

# СКРЫЖАВАННІ



## НА СКРЫЖАВАННІ ДАРОГ

Ляжаць дарогі гэтыя вякамі,
на іх надзьмулі сіверы пяску.
Адна ідзе на вёску Белы Камень,
другая — на Іркуцк...

Дубовы крыж аброс кругом травою,
пад ім, як скіф, мой любы дзед спачыў.
Успомніў я, як цяжкаю ступою
ішоў ты, стомлены, праз даль начы.

Навокал глуха... З торбай за плячыма
за ім цягнуліся дзесяткі чарадой.
І даль у цемені абмацвалі вачыма
і пра пакінуты задумваліся дом.

Мой любы дзед! Усё жыццё ты марыў
бяду адвечную пазбыць.
Ды ўсё з табой яна гасціла ў пару,
дзе б ты, асуджаны, ні быў.

Яна вяла цябе ад Гомеля дарогай
і прывяла туды, дзе казачны Байкал,
у лес стагодні на аблогі,
дзе ты прыстанішча шукаў.

Знаць, не судзіла шчасця табе доля.
Хадою стомлены, ты занямог...
Цябе мы пахавалі ў чыстым полі
на скрыжаванні дзвюх дарог.

Прайшлі гады...
Дзе ты хадзіў тайгою,
там, як чарот, растуць жыты.
А твае гора з вечнаю тугою
на цёмным дне схаваў Іртыш.

І шкода мне, што ты цяпер не ўстанеш,
не будзеш мяць травы зялёны шоўк.
Над намі радасць новая вітае,
яе сягоння ўсюды б ты знайшоў.

І ад Дняпра, ад Нёмна да Байкала
зямля аб шчасці знойдзеным шуміць.
Цябе сягоння кліча Белы Камень,
ды толькі крыж твой згорблены маўчыць.

*25.02.1935*

## НА ВУЛІЦЫ[1]

Сягоння рана ты ішла
хадою ціхай па ваду.
Ты невясёлаю была
ад неадчэпных нейкіх дум.

Развесяліць цябе мне чым?
Якія словы я знайду?
Вядро ўраніла ідучы
ты ад трывожных нейкіх дум.

[1] З альманаха «Аднагодкі», Менск, 1936.
Пад рэдакцыяй К. Чорнага і П. Глебкі.
У альманаху бралі ўдзел П. Панчанка, У. Краўчанка
і шмат іншых, цяпер вядомых паэтаў і празаікаў.
Гэтага альманаха я ўжо не ўбачыў — быў арыштаваны.



Тады к табе я завярнуў
і усміхнуўся на хаду,
у вочы ласкава зірнуў —
і знікла хмара тваіх дум.

Пыл закруціў віхор круты,
затрос вяршаліны садоў...
Ты лёгка з вёдрамі вады
пайшла прыгожаю хадой.

*1935*

## МАІМ БАЦЬКАМ

Цярплю мароз і холад я, і дўю,
няма дзе прытуліць самотнай галавы.
Ніхто мяне на свеце не шкадуе —
адзіныя ў мяне ёсць толькі вы.

Ды я сябе ніколькі не шкадую,
і колькі б я душой сваёй ні гас,
сцярплю я ўсё — мароз і дўю,
ды толькі не сцярплю, калі я страчу вас.

*Марыінск, лагер, 1937*

## ПЛАЧ ЯРАСЛАЎНЫ

Ігар у паходзе знемагае, слаўны,
а ў Пуціўлі плача горна Яраслаўна,
бы тая зязюля рана-рана гукае няўцешна,
смуткуе і плача,
працінае сэрца слязою гарачай:

12. Зак. 5347.

«Птушкай па Дунаю палячу я,
у рацэ Каяле памачу я
рукавок свой я бабровы,
твае раны ім абмыю,
накладу на раны,
каб суцішыць раны».
У часіне гэтакай нявеглай
Яраслаўна зварачаецца да ветру:
«Ветрыку, вятрыска,
ну пашто, зацяты, ашалелы,
гоніш ханскія ты стрэлы?
Ці не досыць табе будзе
імі біць у выяў маіх грудзі?
Нізка ходзіш ты й высока,
узлятаеш пад аблокі,
па тваёй пакоры
караблі бягуць у моры,
дык ці мала з цябе, ветру?
Знаю, ты — магутны, смелы,
адвярні ад мужа майго стрэлы!»
Яраслаўны плач-мальба не ціхне,
да Няпра звяртаецца ў Пуціўлі:
«Непру, Непру, мой Славуце,
памажы маёй пакуце.
Ты праз горы сілай маладзецкай
да зямлі прабіўся палавецкай.
Мірна твае хвалі
Святаслававы чаўны гайдалі,
з дапамогай сілы твае шматвяковай
даплылі да стану Кабякова.
Жывым майго мужа, любы сыне,
плыняю спагаднай прынясі мне.
Ці ж у твае воды сінія замала
гарачыя слёзы я раняла?»
У мальбе пакорнай і бясконцай
Яраслаўна моліцца да сонца:



«Сонца, сонейка,
зямельцы наскай
свеціш ты гаючай ласкай.
Ды чаму ты промнем агнявістым
спапяляеш усё чыста —
ні травінкі, ні расінкі ў полі,
смагі нашы воі не могуць спатоліць.
Сонейка, прыкрыйся цёмнай хмарай,
уратуй ад спёкі майго Гаспадара.
А ці накіруйся да свайго заходу,
дай ты нашым воям прахалоду».

*1991*

## СОНЦА

Сонца зніжалася, але было яшчэ бліскотным і сляпіла вочы. Ды ўжо было віднò — ідзе няўхільна на спад, ніжэй і ніжэй. З бліскотнага, прамяністага рабілася спакойна-чырвоным. Толькі яшчэ па краях успыхвала. Нарэшце, заспакоенае, ішло прыкметна долу. На яго ўжо можна глядзець адкрытымі вачыма. Круг яго, наліты чырванню, асядаў, датыкаўся ўжо краю зямлі. Пад ім шугала, быццам хто надзімаў яго кавальскімі мяхамі, полымя, быццам гэта была кузня і ў ёй стаялі малатабойцы, чакалі, калі прыйдзе да іхніх рук сонца, каб схапіць яго кляшчамі і пакласці на кавадла для свайго вырабу.

Ува ўсе бакі расплывалася ў небе чырвань, і мне здавалася — гэта ад мук канае сонца на кавадле і пасылае нам апошнія развітальныя знакі свайго існавання.

*1990*

## ЯНА

Я перакананы — у гэтым доме жыве яна. Што яна сапраўды тут, сведчаць белыя, як чысты снег, пульхныя папяровыя істужкі, якімі ачэплена разложыстае дрэва пры саменькай дарозе насупраць ейнага дому. Я іду паўз гэтае дрэва раніцою. З ягоных галін звісаюць, як белыя лілеі, заспакоеныя істужкі. Тут такі звычай: чапляць белыя істужкі на галіны дрэў, калі ў доме мае адбыцца нейкая ўрачыстасць — дзень народзінаў ці вяселле. Гэтыя істужкі і ўзбудзілі ў мяне шчымліва-прыгожае пачуццё: у гэтым доме яна спраўляла свой дзень народзінаў. Я не дапушчаю, што тут спраўлялася вяселле, яно не выклікала б у мяне рамантыкі. Гэта было б нешта ўжо скончанае. Не, тут увечары і да позняй начы спраўляўся дзень народзінаў нейкай, абавязкова прыгожай дзяўчыны. Ёй мо васемнаццаць ці дваццаць год. Вось і дае яна знаць вонкаваму свету, такім прахожым, як я, што ў гэтым доме жыве яна, трохі гордая, быццам недаступная, але пякельна зваблівая і *гатовая.* Уся ў чаканні. Цяпер жа, пасля начной весялосці, калі нават істужкі на дрэве звіслі ў стомленасці, яна пэўна спіць у адным з пакояў гэтага прыгожага дома. І сонныя рысы ейнага твару такія, што ты не хацеў бы больш нічога, як толькі дакрануцца ейных і ў сне спакуслівых вуснаў. Здаецца, яна не спіць, а ў сваёй ціхамірнасці жыве тым, што *было.* Для мяне ж яшчэ не знятыя з дрэва істужкі гавораць пра нечае прыгожае існаванне, недаступнае мне, але прынаднае. Ад гэтага мне трохі сумна, але гэты сум патрэбны мне, як лекі, ён узвышае мяне. І ці я іду, ці еду, я не магу не зірнуць на ейны дом: там — *яна.*

*1991*



## ПАРАД ДУШ

Нядзеля. Добрая, сонечная пагода. Зіма была хоць і кароткая, і цёплая, яе, можна сказаць, і зусім не было, але ўсё-такі яна доўга трымала чалавека ў ягоным закрытым жыллі, і вось сёння, у першы дзень вясны, рушылі людзі ў парк, вынеслі свае душы на прыволле, вызвалілі іх з клеткі, у якой іх доўга трымалі,— снуюць туды і сюды, глядзіш — быццам гэта вялікі парад душ, кожны вынес сваю *любімую* на свет Божы, як бы на паказ іншым. Але пры сустрэчы, кінуўшы кідкі погляд адна на адну, гэтыя душы разыходзяцца, кожны яшчэ трымае сваю ў насцярожанасці, не дае ёй адгукнуцца сустрэчнай душы, сказаць ёй: «Добры дзень». Ну і тая, сустрэчная душа, канешне, таксама не расслабілася — пайшла сваёй дарогай. А ідучы на гэты парад душ, кожная ж хацела сустрэцца, размаўляць, а можа, і палюбіць адна адную. Дык не — заціснутая ў маленькім вузялку, душа тая не можа расслабіцца, адпусціцца.

Што ж не пушчае яе быць душой? Гордасць? Усведамленне сваёй вышэйшасці?

Але няма вышэйшых душ, ёсць толькі нізкія.

*1991, Глен-Коў*

## КАЛЯНДАР

Калі ў мяне не было ніякага календара — ні адрыўнога, ні настольнага,— мне было добра: мне не трэба было глядзець у каляндар, каб даведацца, якое сёння чысло, я жыў як бы па-за часам, свабодны, каб рупіцца, як называецца дзень, у якім я жыву. Тыя дні міналі неўпрыкметку, час нічым у

мяне не вымяраўся і не вызначаўся — ён быў часам сам па сабе, для мяне ён не існаваў.

Цяпер жа ў мяне на сцяне адрыўны каляндар, і мне клопат з ім: я мушу зірнуць на яго, якое сягоння число, менавіта число, а не дзень. Число (сама лічба) набывае для мяне нейкае сімвалічнае значэнне. Число глядзіць на мяне цэлы дзень, аж пакуль увечары не адарву тое число-лісток з календара. Але мне здаецца, што, адрываючы лістоклічбу з календара, я адрываю, выкрэсліваю і адзін дзень з майго жыцця. Мала таго, я заглядваю ўжо ў наступны дзень-лісток, што там, у тым лістку, мне хочацца ўжо і яго адарваць. Я падлічваю, колькі дзён засталося да канца месяца, мяркую, калі пачнецца наступны месяц, я спяшаюся жыць, каляндар падганяе мяне, і ў гэтай гонцы — няўхільная думка: колькі ж тых дзён засталося табе.

Не, лепей жыць без календара, не падлічваць дні, не глядзець на число.

*1992*

## Біблейска-іранічныя вершы

### ТВОРЧАСЦЬ

Стварыўшы неба і зямлю,
задаволены, Бог сказаў: *гэта* добра.
У небе запаліў святла ліхтар,
каб гнаў з зямлі ён цемру,
каб кіраваць начой і днём,
выразна аддзяляць святло ад цемры.
І Бог усклікнуў: *гэта* добра.
Зямлю ў зяленіва ён апрануў,
развёў на ёй жывёл, звяроў усякіх.
І дрэва, што прыносіць плён,
ён пасадзіў. Таксама не забыў
ён гадаў пасяліць на цвердзі земнай,
сказаўшы: а *гэта* добра.
Нарэшце Бог, паводле вобліку свайго,—
у творстве сваім найвялікшым —
стварыў на цвердзі земнай чалавека.
Ды толькі не падумаў ён, на жаль,
ці *гэта* добра.

*1991*

### АДКУЛЬ МЫ ПАЙШЛІ

І стварыў Бог жанчыну з рабра чалавека,
каб яму аднаму не было сумна.
І назваў Бог тую жанчыну Евай,
што па-беларуску азначае: Жыццё.

Строга наказаў Еве Бог не есці пладоў
з дрэва пазнання дабра і зла.
Але тое дрэва ў Эдэме
Было такое прыгожае і прынаднае!
А тут яшчэ і змей падначыў:
«Не бойся — еш».
І не ўцярпела Ева: пакаштавала ад таго дрэва.
Мала таго — і мужа свайго спакусіла пакаштаваць.
Голыя — у раю ж — яны пазналі адзін аднога.
І захацелі адзін аднога — саграшылі.
За грэх гэты Бог выгнаў іх з раю,
сказаўшы Еве: за непаслухмянасць будзеш
у муках страшэнных
раджаць дзяцей.
І Ева раджала.
Адсюль во і пайшлі мы,
непаслухмяныя дзеці.
Як толькі Бог церпіць нас, неслухаў?

*1991*

## ШМАТСТАЙНАСЦЬ

Некалі на зямлі была адзіная мова,
адзіны дыялект, і людзі добра разумелі
адзін аднога.
У адзінстве і паразуменні яны пабудавалі
у зямлі Сэнаарскай вялікі горад і вежу
да самых нябёс.
Ды Богу не спадабалася аднастайнае адзінства:
ён стварыў свет шматстайным.
Узяў і змяшаў там мову, каб не разумелі
мовы іншага. Рассеяў іх па ўсім свеце,
і яны перасталі будаваць горад.
Вежа распалася. Але замест адной,
адзінай мовы з'явілася на свеце
шмат моваў, у тым ліку і беларуская.

*1991*

## РАСКАЯННЕ

Калі на зямлі пачалі размнажацца людзі,
нарадзіліся ў іх, зразумела, і дочкі.
Сыны Божыя ўгледзелі гэтых дачок чалавечых
і знайшлі, што яны надта прыгожыя.
Бралі іх у жонкі сабе, хто якую ўпадабаў.
Сыны Божыя ўваходзілі да дачок чалавечых,
і тыя раджалі ім.
І ўгледзеў Бог, што пачалася распуста чалавекаў,
што яны толькі і думаюць, каб задаволіцца.
І сказаў, нарэшце, Бог:
змяту чалавекаў з твару зямлі,
я раскаяўся, што стварыў іх.
Толькі ці не спозненае гэта раскаянне?

*1991*

## ВЕЧНАЕ ПЫТАННЕ

Ева нарадзіла Каіна і сказала:
набыла я чалавека ад Госпада.
Але гэты «чалавек ад Госпада»
забіў свайго брата Авеля.
Няўжо і забойцы пайшлі ад Госпада?
Як гэта страшна!

*1991*

## БОЖАЯ МІЛАСЦЬ

Бог усё ж быў міласцівы
да дачок чалавечых:
загадаў Ною ўзяць і іх
у каўчэг да сябе,
каб яны не загінулі ў патопе.
Інакш — што рабілі б тады
сыны Божыя?

*1991*

## МАЙСЕЙ-ВАЯКА

Калі ты выйдзеш на вайну супраць ворага твайго
і пабачыш коней, і калясніцы, і народу
болей, чым у цябе, то не бойся іх,
бо з табою Госпад, Бог твой...
Няхай не аслабне сэрца тваё,
будзь цвёрды духам, страху не паддавайся,
бо Госпад Бог ідзе за табою, каб кінуцца ў бойку
за цябе з ворагам тваім і выратаваць цябе.

А як жа тады з запаветам: не забі!

*1991*

## МАЙСЕЙ МІЛАСЭРНЫ

Калі будзеш жаць на полі тваім
і забудзеш сноп на полі,
не вяртайся ўзяць яго —
няхай ён застанецца
прышламу, удаве, сіраце,



каб Госпад, Бог твой, благаславіў
цябе ў справах тваіх.

А ў нас не толькі сноп —
цэлыя палі застаюцца снапамі засланыя.

*1991*

## МАЙСЕЕВЫ ЗАКОНЫ

Вуснамі свайго памазанніка Майсея Бог апавясціў
цэлы кодэкс законаў-пастановаў.
Сярод іх закон пра нявольнікаў,
закон пра пашкоджанне чалавеку,
закон пра кражу, закон пра ўдоваў і сірат,
закон пра дзяўчыну і шмат іншых законаў.

Напрыклад, у законе пра дзяўчыну сказана:
калі хто спакусіць неабручоную дзяўчыну
і пераспіць з ёй, мусіць узяць яе
сабе ў жонкі.
Закон гэты паўсюдна ў нас парушаецца:
спакусяць, пераспяць, а ў жонкі не бяруць.

У законе пра ўдоваў і сіратаў сказана:
ні ўдавы, ні сіраты не крыўдзіце.
Калі ты крыўдзіш іх і яны паскардзяцца мне,
Я пачую іхнюю скаргу, і гнеў мой паўстане,
і засяку я мячом вас, і будуць жонкі вашы
і дзеці вашы ўдовамі і сіратамі.

А ў нас у Беларусі за пакрыўджаных
удоваў і пакрыўджаных сіратаў

ніхто не пакараны, на галовы крыўдзіцеляў
не апусціўся меч кары. Скаргі ўдоваў
і сіратаў не даходзяць да неба.

*1991*

## ЛЕСВІЦА

Біблейскі Якаў убачыў у сне лесвіцу.
Яна, стоячы на зямлі, датыкалася
сваім верхам неба.
Па ёй спушчаліся і ўзбіраліся назад
Божыя ангелы.

Добра, што гэта быў толькі сон.
Калі б гэта было на самай справе так,
па лесвіцы ўзабраўся б на неба не адзін хам.

*1991*

## САЛЯНЫ СЛУП

Калі Бог вырашыў знішчыць — за грахі —
Садом і Гамору разам з насельніцтвам,
ён усё-ткі дбаў, каб праведнікі
засталіся жывымі.
Гэтак праз сваіх ангелаў ён наказаў
Лоту і ягонай жонцы ўцякаць
з Садому і Гаморы, але нагадаў,
каб, уцякаючы, не спыняцца
і не аглядацца назад.
Жонка Лотава, уцякаючы, усё ж агледзелася



і невідочна ўвасобілася ў саляны слуп.
Я не веру ў гэта:
я ўвесь час аглядваюся назад і — не слупянею.

*1991*

## АБРАЗАНЦЫ

Аўрааму Бог сказаў:
зраблю цябе бацькам мноства народаў.
Толькі ты і ўсе патомкі твае пасля цябе
мусіце строга трымацца майго запавету:
абразаць пры нараджэнні дзіцяці
скрайнюю мужчынскую плоць.

Цяпер я разумею, чаму сёння нашы жанчыны
наракаюць на абразанцаў.

*1991*

## СПАГАДЛІВАЯ САРА

У Сары, жонкі Аўраама, не было дзяцей —
не раджала. Так захацеў Бог.
І Сара сказала свайму мужу:
ты ведаеш, я не магу раджаць,
вазьмі маю служанку і ўвайдзі ў яе.
Дала яму сваю служанку, егіпцянку Агар.
І Аўраам увайшоў у яе. Служанка зацяжарала
і нарадзіла яму сына Ізмаіла.
Надзвычайная гісторыя.

Сучасныя нашы Сары, на жаль, не такія
спагадлівыя.

*1991*

## РААЎ

Цікава: блудніцы карыстаюцца ў свеце
нейкімі асаблівымі прывілегіямі.
Нават у Госпада Бога яны маюць ласку.

Ісус, сын Навін, неяк сказаў сваім
двум юнакам: ідзіце ў дом адной
блудніцы (Рааў) і выведзіце
адтуль яе і ўсіх ейных.
Горад Іерыхон, у якім яна жыла,
і ўсё ў ім спалілі агнём.
Рааў жа, блудніцу, і дом бацькі яе,
і ўсіх ейных Ісус пакінуў у жывых,
і яна, як сказана, жыве і па дзень сённяшні
сярод Ізраіля.
Слоў няма: Рааў не выдала ворагу двух
божых пасланнікаў, юнакоў,
і такім парадкам яна як бы заслужыла
такую спагаду. Ды ўсё ж заслугі блудніцаў
цэняцца яксьці асабліва.
Можа, за іхнюю ласку да іншых?

*1991*

## РУФ

Які шчаслівы быў той Вооз —
прыйшла ўначы, ля ног лягла!
О, каб і мне вось гэткі лёс —
начная засвяцілася б імгла!

*1991*

# ПЕРАКЛАДЫ



## *МІКЕЛАНДЖЭЛА*
*1475—1564*

Падаю тут у сваім перакладзе з нямецкай мовы 15 вершаў (пераважна санетаў) Мікеланджэла. На жаль, не ведаю італьянскай і рабіў пераклад з перакладу, з нямецкай мовы. Канешне, не лепшы спосаб знаёмства з паэзіяй вялікага майстра. Але я настолькі быў зачараваны Мікеланджэла-паэтам, што не мог устрымацца, каб не паспрабаваць — хоць з перакладу — перадаць нешта з ягонай паэзіі і па-беларуску.

У некаторых выпадках я свядома — дзеля большай экспрэсіўнасці — парушаў схему рыфмоўкі, а то і перакладаў верш прозай. Спадзяюся ўсё ж, што мой пераклад хоць у нейкай ступені дасць чытачу ўяўленне пра цудоўную паэзію Мікеланджэла.

Даследчык творчасці Мікеланджэла Готлеб Рэгіс даў такую характарыстыку паэзіі вялікага фларэнтыйца:

«У нешматлікіх і дзеля гэтага малавядомых вершах Мікеланджэла можна лёгка заўважыць якасці, што характэрны і для ягоных карцін і статуй. Шчырае здзіўленне перад прыгажосцю, глыбокая замілаванасць прадметам свайго кахання, лёгкі, шчымлівы сум з прычыны расстання, боль дзеля недастатковасці жыцця, адсюль меланхолія, імкненне вызваліцць сябе з зямных путаў. У той час, як у сваіх вершах Мікеланджэла з нечуванай адкрытасцю выказвае свае захапленне перад прыгажосцю і магутнасцю жаночага пачатку, у сваіх іншых мастацкіх творах ён аддае перавагу мужчынскаму прынцыпу».



Некаторыя з перакладзеных тут вершаў Мікеланджэла напісаў у апошнія дні свайго жыцця, калі ўжо цела ўступала вечна нязгаснаму духу.

* * *

Вярні мне час, калі свабодны й смелы,
сляпой я жарсці ход даваў.
Калі на свеце ўсё я бласлаўляў
і быў гатоў абняць свет цэлы.
  Дай Ты маёй душы і крокам анямелым
той гарт, што я калісьці знаў.
Пашлі мне чар і зваблівасць уяў,
калі я уваскрэсну зноў душой і целам.
  Але, Амур, у жарсці тваёй вечнай,
заўжды салодкай, небяспечнай,
дай мары маёй іншай збыцца:
  калі на беразе другім я апынуся,
забыўшы ўсе твае спакусы,
паходняй іншага кахання асвяціцца.

* * *

Я тысячы разоў не толькі пераможан —
смяртэльна ранен быў тваёй стралой.
Пашто ж цяпер, калі блішчу я сівізной,
падманваеш мяне ты жарсцяю бязбожнай?
  Ты ведаеш, не быў з табой я асцярожным:
і сэрца забіраў маё ты і спакой.
Нізрынуць шпагаю сваёй
ты пагражаў у хвілі кожнай.

Амур, ты той, каго я вінавачу,
пашто пасля маіх усіх няўдачаў
ты цэліш у мяне свой стрэл пусты?
Агню ён не запаліць. І нягодна
паддацца мне тваёй мане нязводнай.
Пашто ж маю душу дарэмна спакушаеш ты?

* * *

Я ў поглядзе магу чытаць тваім,
такім знаёмым мне і свойскім:
хоць шчэ душа твая жыве усім зямным,
дый яна святлом асветленая боскім.
І калі нехта з выглядам геройскім
красу аблае словам злым,
пагардай я адказваю такім
і не лічу іх у сямействе боскім.
Высокаму, нябеснаму падобна
усякая зямная прыгажосць,
яна над светам злым — як перамога.
І той, хто ў зіхатлівасці нязводнай
пабачыць можа цуд, любосць,
той узвышаецца да Бога.

* * *

Ад клопату зямнога збаўлены, я, грэшны,
узрос душою, Валадар мой. Сціхлі раны.
Як карабель той стомлены, Табою кіраваны,
ад шторму я спакой знайшоў нарэшце.
На цяжкай і пакутнай сваёй сцежцы
я не заўсёды быў Табе аддany.



Цяпер у боязі, усхваляваны,
чакаю ад Цябе я добрых весцяў.
Судзі, о Валадар, мяне не надта строга —
надмернай ласкай свецяць Твае вочы,
усім прабачыў Ты усё дазвання.
Змывае кроў Твая бясчэсце духу злога,
і калі буду да Цябе ісці, ахвочы,
падмогу дай і поўнае мне дараванне.

* * *

Я не жыву — грахі мае жывуць.
Маё жыццё — як не маё. Падман.
Я праз яго іду, як праз туман.
Заблуканаму, вочы засціць муць.
Свабода, што нявестай зваў
я,— жудзь! —
была нявольніцай маёй. Нібы ад ран,
смылела сэрца. Дні, як караван,
бяздумныя мае у нікуды ідуць.
Як гляну, нібы ў люстра, я назад —
імчаліся яны без цугляў, як хацця,
не мог я стрымліваць іх на скаку.
О Божа, не карай, свой не муці пагляд:
куды б ні мчаліся яны без варацця —
іх шлях быў да Цябе. Падай жа мне руку.

* * *

Палючы пал спаліў мяне,
ды паддаюся зноўку я мане:
гару і палымнею, і на дне
застаўся толькі попел ад мяне.

На горане усіх маіх пакут
у момант у адзін, у міг,
ахопленыя полымем, як спрут,
ўміраюць рэшткі сноў маіх.
І як нябёсы бляск агню
пагасяць у мяне, вуглём
раскаленым я кінуты ляжаць,
чакаць, пакуль любоў падкіне мне
якогась паліва, каб увачавідкі
нанова полымем успыхнуць зноў.

* * *

Ніяк не бярэ пад увагу
мае палкія заляцанні дзяўчына,
толькі смяецца з мяне,
мяккая на выгляд, ды сэрцам цвярдая.
Я не скажу табе, любая,—
хто чакае на другога, той сам сабе шкодзіць.
Але віна тут мая:
той, хто выгляд прымае за сутнасць,
застаецца найчасцей расчараваным.

* * *

То кіне мяне ў жар, то ў холад —
і мукі гэтыя павінна зносіць маё сэрца.
З пякельна-змрочнаю надзеяй
я спасцігаю будучыню у сваім мінулым.
Хвілін шчаслівых кароткацечнасць
гняце маю душу, бядой згінае.
За лёс, што мілы мне і адначас нямілы,



за ўсё благое й добрае
ўдзячны я табе, Ўсявышні.
Спасціг я, стомлены: благаславенне
і шчасце у жыцці — не больш,
як хуткабежныя часіны,
і толькі смерць нас вызваляе ад усіх пакутаў.

* * *

Ужо і смерць падглядвае мяне,
а я атрутаю жыўлю ўсё маё сэрца.
Калі ж грахоў маіх спакуса праміне?
Няўжо я назаўжды застыў у паняверцы?
Не маю ўласных сіл змяніць сябе,
жыццё сваё, і звычай, і каханне.
З сабой і Вышнім у няспыннай барацьбе
не ведаю ўжо болей я адхлання.
Але душа мая ўсё да Цябе імкне,
я прад табой ў заўсёдным утрапенні
і толькі аднаго хацеў бы я, нягодны:
яшчэ прад тым, як Ты смяротнае з мяне
адымеш, дай, прашу я, запэўненне,
што прыйдзе да Цябе душа мая нязводна.

* * *

Тут шчасце сэрца маё паланіла,
тут любасць і суцеху я знайшоў.
Яна мне тут здзяйсненне сноў
і пэўнасць у каханні падарыла.
Пароднены ўжо з ёй, якаясь сіла
тут ад мяне забрала яе зноў.

Пакінула яна мяне без слоў,
застаўся я адзін, пануры і пахілы.
    Прыходжу часта я сюды у скрусе,
саджуся на скалу, дзе я сваю
дзяліў з ёй радасць, ёй зачараваны.
    Цяпер, пакінуты, у змрок малюся
і нібы той бальзам я п'ю
гарачую атруту з маіх ранаў.

* * *

Пад цяжкасцю грахоў маіх і летаў
стаміўся я і ў жарсці злой застыг.
Смерць наступіць гатова ў кожны міг —
спакутванае сэрца сведчыць мне пра гэта.
    Ўжо песня лебядзіная мая адпета,
час, негатовага, мяне насціг.
З вышыняў Нейчы голас ловіць слых —
то набліжэння верная прыкмета.
    Душу маю Ты йшчэ, як след, не справіў,
яна шчэ не зрабілася яскравай,
хоць і гатовая да вечнага спачынку.
    О Божа, каб лягчэй было ёй перабрацца
у ціхасць гойную Тваіх палацаў,
малю я — скараці туды сцяжынку.

* * *

Не толькі смерць, а страх прад ёй,
прад ейнай звабна-д'ябальскай рукой,
што ў кожны міг схапіць цябе гатова
ці падманіць надзеяй новай,—



не толькі гэта ўсё: страшней,
што не ўваскрэснеш ты
з адвечнай нематы
і падманіць сябе ўжо нечым,
бо там, дзе смерць,— Амур там гасіць свечы.

* * *

Калі ты, спадарыня, пранікліва ўзіраешся ў мяне
сваімі цудоўнымі вачыма, бачу я сябе ў іх такім,
як ёсць, зморанім і пакутным.
Адначасна й ты адбіваешся ў маіх — такой, якой
ты ёсць
прыгажуняй-зоркай. Зоркі ў небе — сёстры твае —
плачуць, што ў тваіх цудадзейных вачах
паказваюся я
такім няўклюдным, а ты — прыгажуня — у маіх
такіх непрыгожых.
І я чую, як холад, строгі пагляд тваіх вачэй
гоніць мяне з іх. Злітуйся.

## *ГРАФІНІ ВІТОРЫІ КАЛОНА*

Калі натхненне завалодае табой,
з грубога ты матэрыялу сячэш найперш
мадэль і ў гэтым першым, папярэднім нараджэнні
даеш ты ёй жыццё, яшчэ недасканалае.
    Але ў другім бярэ ўжо сваё слова
зубіла й малаток. З іх цудадзейных рук
вырастае ва ўсёй сваёй красе, ажыўлены тварцом,
твор дасканалага і несмяротнага мастацтва.

У свет мадэляй пачатковай я прыйшоў,
сваёй мадэляй. І набудзе завяршэнне
яна, недасканалая, калі праз Вашы рукі пройдзе.
Я толькі спачування Вашага прашу
за твор свой. Кàрай для мяне было б
вялікаю, калі б яго Вы ўздумалі адкінуць.

## *ДА СПАДАРЫНІ ВІТОРЫІ КАЛОНА*

То на назе маёй правай, то левай
прайшоў я між грахоў і паўстрыманнем.
Шукаючы ратунку, я надвярэдзіў сваё сэрца.
Як тая зорка, падаючы, згарэўшы, падае ў бездань,
гэтак і я шлях свой губляю.
Я ўручаю Вам белы аркуш паперы,
каб Вы накрэслілі мне словы выратавання:
як маю душу на апошняй ейнай пуцявіне
магу я ўберагчы ад спакусы новага хацення.
Пішыце ж! Прыклад Вашага жыцця падкажа мне
найпрыгажэйшую дарогу да нябёсаў.

# *ЛІСТЫ*

*Найдаражэйшы Мікаэл*[1], як Вы і хацелі, я шлю Вам кароткі ліст з падзякай за Ваш доўгі і добры ліст, з тым, каб Вы яго атрымалі яшчэ перад тым, як Вы накіруецеся ў Норвічанскі універсітэт. Лічу патрэбным нагадаць Вам, што Вы паэт з вялікім уяўленнем: Вашы вочы гавораць мне, што менавіта Вы паэт, найдарожшы Мікаэл, і, часам, я смяюся, усведамляючы сваю адрознасць ад Вас, але, як я ўжо гаварыла Вам, чаму не, гэта ж не шкодзіць. Мікаэл, я дзякую Вам за Вашу прыгожую картку з Нортфілда: я разумею Вашу вялікую радасць быць у такім цудоўным месцы! Я люблю «Белую капліч-ку», такую чыстую, такую далікатную, з ейнымі белымі вокнамі і блакітным дахам,— магчыма, калі Вы адчуваеце сябе стомленым, патрабуеце спакою, Вы адчыняеце дзверы гэтай капліччкі, уваходзіце туды на часінку і адпачываеце. Я люблю зялёныя лужкі з прыгожымі дрэвамі, асабліва тое дрэва, якое ў цэнтры, яно вышэйшае за іншыя дрэвы, яно быццам добрая маці або старэйшы брат, хто ахоўвае свайго сына або малодшага брата.

О, так, я люблю белае, надта люблю, Вы можаце ўявіць сабе, Мікаэл, наколькі важны для мяне

---

[1] Гэтак звяртаецца да мяне — Масея — аўтар лістоў, італьянка Аніе Карлеці, напісаных па-ангельску. Пераклад гэтых трох лістоў мой.

Ваш камплімент, Вы — вялікі паэт, а мая ангельская мова такая бедная, але я спадзяюся, Вы разумееце маю найлепшую інтэнцыю. Я пішу шмат далёкім сябрам, але пісаць па-ангельску гэта не так лёгка для мяне. Я буду рада атрымаць Вашую кнігу «Ачышчэнне агнём», я ўдзячна Вам за Вашую ідэю прысланць яе мне. Я думаю, што гэта вялікае перажыванне выпусціць у свет сваю кнігу, ці ж няпраўда?

«Ачышчэнне агнём» — гэта такая прыгожая назва: я люблю агонь больш за ўсё зімою, калі мы забываем пра халодныя, дажджлівыя дні, але ў кожным з нас ёсць агонь, ён ёсць у музыцы, у добрай кнізе, у самім жыцці.

Які Ваш найбольш улюбёны элемент, Мікаэл? Агонь, напэўна? Мой элемент — гэта паветра. Я люблю свежае паветра, я патрабую паветра, я люблю яго дотык. Паветра для мяне найбольш важны элемент на гэтай зямлі.

Мікаэл, Вы вельмі занятыя сваімі выкладамі ва універсітэце, але, я думаю, Вы знаходзіце час для сябе самога, чытаць кнігі, думаць, слухаць Моцарта або вандраваць у цудоўным лесе... Вы бачыце, я сню, я ўся ў марах...

Цяпер час канчаць мой ліст, я збіраюся ісці на канцэрт. Заўтра я ўзнаўляю сваю працу, два тыдні адпачынку не так шмат. Тут усё спакойна: здаецца, сонца зажмурыла вочы ў здзіўленні перад кветкамі, птушкамі, людзьмі. Летні час — свабодны час. Мы рады быць свабоднымі.

Глыбокае пасланне радасці пасылаю Вам, жадаю Вам спакою і лагоды ў Вашым сэрцы.

*Аніе*

P. S. Заўважаю, я не адказала Вам на Вашае пытанне адносна маёй работы, магчыма, таму што



я была на адпачынку. У наступным лісце я адкажу Вам. Хачу даведацца, ці будзеце Вы ў Еўропе. Калі Вы зможаце прыбыць у Францыю, я буду рада бачыць Вас.

*Найдарожшы Мікаэл,* вялікі дзякуй за Ваш апошні ліст на белай паперы, Вы ведаеце, белы і блакітны — гэта найбольш мае любімыя колеры. Я вельмі шчаслівая думаць, што атрымаю Вашыя кнігі. На самай справе, гэта ж цікава пасля доўгіх месяцаў працы пабачыць Вашыя ідэі, думкі на белай паперы і думаць: цяпер мае думкі, мае ідэі могуць дасягнуць многіх людзей — могуць яны мяне зразумець?

Мікаэл! О! Так, Вы паэт! Канешне, я іншы чалавек, і Вы ведаеце гэта. Вы пытаецеся ў мяне, ці я магу прыняць Вас, як... Я адкажу Вам — я прымаю Вас як сябра, якога я пазнала з гутаркі між намі і па Вашых лістах. Магчыма, Вы будзеце ў Манака, магчыма, мы сустрэнемся. Найдарожшы Мікаэл, калі гэткая сустрэча будзе магчымай, я буду шчаслівай гутарыць з Вамі (...па-ангельску! О! ля! ля!). Фатаграфія, якую я Вам паслала, зроблена ў садзе майго бацькі ў Манака. Я цэлы дзень знаходжуся ў Манака, працую там, у канцы дня я вяртаюся ў маю маленькую кватэру ў Ментон (адзін кіламетр ад Манака). На жаль, у мяне няма тэлефона, я чакаю, калі яго мне паставяць. Але ў Манака ў майго бацькі тэлефон ёсць, і Вы можаце туды званіць. Але часта я не дома, іду на лекцыі. Найлепшы час — паміж 11 і 12 у аўторак, сераду і пятніцу.

Вам падабаецца мая фатаграфія? Я шлю Вам іншую, зробленую ў доме маёй маці Вы можаце па-

бачыць на ёй дом маці, дзяцей, маю любімую Еву, спераду — гэта мой кузен і яе муж.

Мікаэл, Вы маеце рацыю, калі пішаце мне, каб я пісала — я люблю пісаць. Магчыма, будзем калі-небудзь гаварыць пра гэта. Як доўга Вы будзеце ў Мюнхене? Паедзеце Вы ў Італію, як і ў мінулым годзе?

Сёння субота, я люблю суботы, гэта свабодны час, прыемна думаць, што заўтра будзе нядзеля, таксама свабодны час.

Мая праца часам цікавая, часам — не. Мае вучні — гэта пераважна дарослыя людзі. Гэта французы, ангельцы, італьянцы, яны хочуць ведаць італьянскую ці французскую мову, размоўную толькі мову. Я хацела б выкладаць ім італьянскую ці французскую літаратуру, але гэта немагчыма. Пераважна яны працуюць у банках, і яны хочуць як мага хутчэй навучыцца гаварыць, некаторыя мае вучні ходзяць да майго бацькі ў Манака, і я там з імі займаюся, часам я іду да іх, у той ці іншы банк. Я вучу таксама дзяцей, і праца з імі мне вельмі падабаецца. Некаторыя з іх мусяць трымаць экзамен, і я дапамагаю ім у падрыхтоўцы да экзаменаў. Як Вы бачыце, гэта не манатонная праца (няўпэўнена, ці гэты мой ангельскі сказ правільны). Я хацела б пісаць па-французску ці па-італьянску, але... Я люблю такую неманатонную працу, але, канешне, я мушу шмат працаваць. Я ніколі б не працавала ў школе, я не мела б там свабоды дзеяння. Я цікаўлюся больш псіхалогіяй, чымся выкладамі.

Нялёгка пісаць, калі словы, сказы, ідыёмы скачуць у тваёй галаве, і ты не ведаеш, як гэта ўсё спалучыць, напісаць гарманічны сказ.

Мікаэл, сонца цяпер павярнулася, і свежае паветра цячэ ў мае вокны, маленькая птушачка заспявала, машыны мінаюць — куды яны імчацца: дахаты? да шчасця? ці мо чакае іх якоесь засмучэнне? Але кожны, думаю, можа знайсці ў сваёй душы нешта прыгожае.

Мікаэл, час канчаць мне свой ліст. Магчыма, праз некалькі тыдняў Вы будзеце тут у суботу ці ў нядзелю.

Жадаю Вам супакою ў Вашым сэрцы і ласкавага ветру вакол Вас, нават калі прырода дрэмле, гэты ласкавы вецер дзее, толькі мы не заўсёды адчуваем яго...

Добрай Вам нядзелі —

*Аніе*

*Дарагі Мікаэл,* гэта канец дня, сонечнага дня, сапраўдны дзень вясны з цёплым і блакітным небам, з музыкай птушак, шчаслівых з свайго лёту, свабоднага і бестурботнага.

Шчыра дзякую, найдарожшы Мікаэл, за Ваш прыемны ліст на белай паперы... Вы знайшлі для мяне надзвычайныя словы, Вы ўяўляеце мяне нагэтулькі беззаганнай, што я часамі смяюся, таму што не такая ўжо я, дзякаваць Богу, беззаганная. Але Вы маеце рацыю, я люблю ўявіць сябе гэтакай, толькі я мусіла б быць больш актыўнай. Я спрабую чытаць, сустракацца з добрымі людзьмі, пазітыўнымі людзьмі — на тэлебачанні, у газетах мы бачым толькі негатыўныя рэчы, а, як вядома, негатыўнае выклікае толькі негатыўнае. Але Вы, Мікаэл, ведаеце: калі Вы паспрабуеце ўсміхнуцца некаму засмучанаму, той, засмучаны, напэўна, адкажа Вам таксама ўсмешкай. Але калі той нехта і не ўсміхнецца вам, гэта яшчэ не значыць, што Ваш дзень страчаны: знойдзецца нехта іншы, хто адкажа Вам усмешкай, і Вы адчуеце ў сваім сэрцы не-

шта падобнае сонцу. Галоўнае — гэта надзея, спадзяванне. Спадзяванне — гэта для мяне найбольш важная рэч. О, Мікаэл, я ўжываю часта слова «рэч», а ўсё таму, што мая ангельская мова бедная.

Дарагі Мікаэл, хоць мая ангельская мова і бедная, я паспрабую адказаць на Вашае пытанне адносна майго «шматгадовага цярпення». Гэта нялёгка вытлумачыць Вам, але я была вельмі хворай у гэтыя апошнія гады, я зведала поўнасцю боль пакутаў, пакуты сэрца і цела, але найбольш пакуты сэрца. Я звярнулася да аналіста, добрага аналіста, практыкавала восем гадоў, лячыла сябе. І вось ужо мінула тры гады, як я знайшла спакой і лагоду ў маім сэрцы, што дало мне магчымасць пачаць зноў сваю працу. Мікаэл, Вы спазналі пакуты ў канцлагеры, у іншыя перыяды Вашага жыцця, і Вы ведаеце, што значыць страшэнна пакутаваць. Я думаю, Ваша спакутаванае сэрца ў стане зразумець мае пакуты. Пакуты мяняюць чалавека. Магчыма, такая змена вядзе, аднак, да далейшых пакутаў, да пажыццёвых пакутаў, іншых, магчыма, такія змены прыводзяць да шчаслівага жыцця.

Дарагі Мікаэл, я сказала Вам, што мне цяжка вытлумачыць Вам маё мінулае жыццё, але Вы можаце быць упэўненымі, што цяпер я знайшла спакой у маім сэрцы, хоць маё адзіноцтва часамі нялёгкае для мяне.

Як і ўсе, я патрабую кахання. У маім сэрцы столькі любові! Столькі спадзяванняў!

Я люблю маю працу з вучнямі, з дарослымі, люблю пісаць. Калі б мая ангельская мова не была такой беднай, я магла б напісаць Вам ліст даўжэйшы і лепшы. З Вашага ліста на белай паперы я пазнала Вас, Ваша ўнутранае жыццё, Ваш пошук шчасця. Мне падабаецца той факт, што Вы любіце Моцарта — музыка надзвычайная штука, і я пачала вучыцца спяваць. Я заўсёды спяваю, і я спадзяюся, пасля некалькіх лекцый я змагу спяваць лепш.

Як і Вы, я люблю летуценіць. Я думаю, што гэта дадзена толькі чалавеку. Я думаю, што зямное жыццё — гэта толькі невялікі прамежак і што канчальна мы пазнаем жыццё толькі ў касмічным свеце.

Ці думаеце Вы, Мікаэл, што пасля гэтага свету будзе іншы? Цяпер час ісці спаць — птушачкі таксама паснулі, неба блакітнае. Маленькі месяц, срэбныя зоркі свецяцца праз цемру. Добрай ночы, Мікаэл, спіце спакойна, сніце цудоўныя сны.

*Аніе*

Пытаеце, што я буду рабіць падчас майго адпачынку? Я не маю адпачынку дзеля маёй адмысловай працы. Я не працую ў школе, я працую для сябе, самастойна, і дзеля гэтага нялёгка займець адпачынак. Але ў першыя два тыдні ліпеня я не буду працаваць і буду ў Манака, буду чытаць, адпачываць, рыхтавацца да наступных заняткаў. Калі Вы цікавіцеся маёй працай, я скажу пра яе больш у маім наступным лісце. А калі Вы, Мікаэл, возьмеце сабе адпачынак?..

# ЦЯПЕРАШНІМІ ВАЧЫМА



## ДЗЕСЯЦЬ ДЗЁН У МЮНХЕНЕ

Захацеў было вярнуцца ў мінулае — паехаў у Мюнхен, дзе я некалі пражыў немалую часціну свайго жыцця. Увечары, каб ніхто мяне не пазнаў, абышоў знаёмыя мне раней мясціны. Агледзеў таксама той дом, дзе я некалі жыў разам са сваёй сям'ёй. Усё ці бадай усё тут засталося такім, якім было калісьці. Але ўсё яно цяпер не радавала мяне, хутчэй — засмучала. Тое мінулае, тое калісьці азвалася шчымлівым болем. І я зразумеў — у мінулае нельга вярнуцца, нельга вярнуцца ў тое, што было.

* * *

Не выглядаў ужо для мяне, як раней, і Англійскі парк у Мюнхене — на мяне ён павеяў нейкім усяленскім смуткам, як вавілонскае стоўпатварэнне: парк быў перапоўнены людзьмі розных нацыянальнасцей і рас, пераважна моладдзю. Яна б'е ў бубен, спявае, гандлюе. Чуеш чужую музыку, у тым ліку афрыканскую, а скрозь гэта ўсё — страчанасць, сум. Праз весялосць — сум. Яна нечага шукае, але не знаходзіць. Надыдзе вечар, і яна схлыне. І парк не будзе помніць яе, стоптаны ёю. Дзе тыя жывыя німфы, што некалі панавалі ў гэтым парку? Куды яны адышлі?

14. Зак. 5347.

* * *

У Тыятынэркірсе ішла якраз служба. Калі я бываю ў Мюнхене, я ніколі не мінаю яе — хаваюся ў ёй ад свету. Цяпер яна поўная людзьмі, старымі і маладымі. Адчуў яднанне немцаў — у Бозе — і яднанне як нацыі, як народа. На вокліч святара адказвалі малітвенна дружна, як адно цэлае. І міжволі падумалася: калі такое яднанне наступіць у нас, беларусаў?

* * *

Адсюль, з Нямеччыны, думаю пра сваю Беларусь, і якой жа ніякай, даруйце, яна выглядае адсюль! У ёй няма яшчэ свайго Духу, свайго розуму, інтэлектуальнай моцы, веры ў сябе. У вачах маіх яна заслоненая Чарнобылем. І гэта не песімізм, гэта — замілаванасць да яе.

* * *

Мае думкі пераважна адмоўныя. Я не ўмею сцвярджаць, толькі — адмаўляць. Я — адмоўны чалавек.

* * *

Цяпер у Нямеччыне забастоўка. Цікава, немцы і ў забастоўцы дысцыплінаваныя: абвясцілі яе — і яны бастуюць, загадалі перапыніць — і яны не спыняюць. Класічныя выканаўцы загадаў!



* * *

Усюды цяжка, але тут, у гэтай краіне, яшчэ цяжэй утрымліваць сваю самастойнасць, суверэннасць: вялікая спакуса паддацца ўплыву добраўпарадкаванай краіны пагражае табе. Страціў гэтую суверэннасць — і цябе няма.

* * *

Фактычна я не ведаю ніякай мовы, апрача беларускай. Англійскую, нямецкую нібы і ведаю — нават перакладаю з гэтых моў,— але застаюцца яны для мяне чужымі, малазразумелымі. Ды што там англійская, нямецкая? Нават расейская застаецца ўжо на ўзбочча. Я застаюся фактычна толькі з адной мовай — беларускай. Яна сталася ўжо маёй доляй.

* * *

Возера Штанберг. Гэта недалёка ад Мюнхена. Набярэжная застаўлена лаўкамі. Яны ўсе занятыя старымі. Божа мой, колькі тут старых! Толькі зрэдку прадэфіліруюць маладыя дзяўчаты ў ультракароткіх сукенках. Жудасны кантраст: тыя, што адыходзяць, і тыя, што пруць ваўсю! Я паглынуты ўсім тым, што бачу, але праз гэтае «бачу» мігцяць у падсвядомасці вобразы-постаці і засланяюць тое, што бачу,— мігціць мой літаратурны Менск: Сачанкі, Савік, Хомчанка, Тычка, Чыгрынаў, Андраюк, Брыль, Каржанеўская. Я ўжо не на возеры Штанберг, я ў нейкім іншым вымярэнні — плыву. Думкі лёгкія, не творчыя, і мне з імі добра, такімі.

* * *

Не думаў, што мая знаёмая Анналіза такая рашучая, адважная, хуткая, вострая, гатовая загаварыць з кім хочаш. У мяне нават варухнулася непрыязнасць да яе. Зрэшты, яна грае. Гэтай ігроюгульнёю засланяе сябе сапраўдную. У яе, жанчыны, ёсць і нешта — кінулася толькі цяпер — ад мужчынскага характару. Ды я магу і памыляцца. Я нявялікі знаўца жанчын: маё захапленне імі пазбаўляе мяне такой здольнасці.

* * *

Цяпер ужо пэўна: у Іспанію не палячу. Баюся туды ляцець — не веру самалёту.

* * *

Перад ад'ездам пайшоў на канцэрт у Геркулесзалу. У праграме Давід, Бетховен, Моцарт, Вагнер. Магічнае ўздзеянне музыкі. Пад уплывам яе перастаю быць ранейшым. На перапынку чытаю ў праграме, што сказаў пра сябе Бетховен: «Я выношваю свае думкі доўга, часам вельмі доўга перад тым, як іх запісаць. Абраная мной тэма не пакідае мяне — часамі застаецца праз гады. Перад маімі вачыма паўстаюць вобразы, я іх бачу, чую, гатовы схапіць іх рукамі, яны плывуць, як ліццё, і мне застаецца іх толькі запісаць. У паэта гэта перадаецца ў слове, у мяне — у гуку, тоне. Запытаецеся, адкуль я бяру свае ідэі? З пэўнасцю не магу адказаць. Яны прыходзяць непаклікания. Яны ўзнікаюць у мяне пад час прагулкі, у ночнай цішы, раніцою, у лесе, на прыродзе, ператвараюцца ў гукі; тыя гукі-тоны звіняць, бунтуюцца, гамоняць, аж пакуль не застынуць у нотах».

* * *

Чытаю далей у праграме пра Моцарта: «Ці не мусяць змоўкнуць усякія прамовы, усякія словы перад музыкай, перад узнёслым тонам, перад тым Нешта, што цябе заварожвае, вабіць, забірае ўсяго. У гэтым Нешта няма нічога выразнага, нічога такога, што можна было б вытлумачыць рацыянальна, і дзіву даешся — адкуль яно ўзнікае, адкуль гэты чар музыкі Моцарта, што вось ужо дзвесце год зачароўвае нас. Здаецца, што зышоў сам Бог Апалон. Тут чысціня, узнёсласць духу, тут пераадоленне сілы цяжару. Тут нічога няма рэвалюцыйнага: усё грубае адчужана, знята лёгкай рукой. Чыя тут перамога? Смерці над жыццём? Жыцця над смерцю? Гэта антычны трыумф прыгажосці над недастатковасцю, у выніку чаго недасягальнае робіцца дасягальным, дасканалае ўзвышаецца на апалонавых крылах. Мы ў палоне найбольш чалавечага, найбольш гуманнага».

* * *

Хацеў наведаць іншыя канцэрты — гэта мая жарсць,— але ў мяне не хапае ўжо часу: мне трэба вяртацца дахаты. Дні мае ў Мюнхене абрываюцца. Я не паспеў ужыцца ў знаёмае мне мінулае. Не паспеў зведаць нязведанае. Вунь далёка на даляглядзе ўзвышаюцца перада мною — я бачу іх з трынаццатага паверха — магутныя горы, дзе-нідзе яш-

чэ заснежаныя. Яны клічуць мяне вярнуцца да іх. Вяршынямі, здаецца, ківаюць мне, дрыготкія ў сонечным бляску. Гэта быў бы час маіх вандровак у гарах, майго роздуму і ўзвышэння. Але ў мяне няма ўжо часу.

Змоўкнуць для мяне званы касцёлаў у Мюнхене. Не ўчую музыкі арганаў. На Пляцы Марыі з далоні не буду карміць галубоў.

Шкада.

*1992*

## *ГЕРМАН ГЕСЭ.*

## *ПРА МАСТАЦКУЮ ТВОРЧАСЦЬ*

Герман Гесэ (1877—1962) — выдатны нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі, аўтар цэлага шэрага вядомых раманаў, зборнікаў вершаў, даследаванняў, у тым ліку творчасці Дастаеўскага (Blick inc Chaos),— выказаў у сваіх творах нямала цікавых думак і спасціжэнняў пра мастацкую творчасць.

Падаю тут у сваім перакладзе з нямецкай некалькі такіх выказванняў:

Мастацкая творчасць — гэта не апісанне жыцця, а згушчэнне, абагульненне, засяроджанне на выпадковым, але тыповым і сапраўдным.

Ці паэт робіць на нас уздзеянне, залежыць не ад якойсьці асобнай прыкметы — ад тэхнікі або разумнасці ці густу,— а ад таго, з якой сілай і дасканаласцю ён выказвае адметнасць свайго характару.



Мастацкі твор — гэта не толькі змест. Чым больш па дарозе да мастакоўскай алхіміі змест будзе ператвораны ў форму, лінію, мелодыю, тым больш будзе твор дасканалым.

Паэт бярэ чытача не тым, што ён спявае яму аб прыгожых рэчах, а выключна тым, што пры дапамозе магіі сваіх слоў ён выказвае сябе, сваю сутнасць, якой бы яна ні была — прыгожай ці непрыгожай, добрай ці нядобрай.

Творца мусіць любіць не публіку, а чалавецтва, большая частка якога не чытае яго твораў, але тым не менш патрабуе іх.

Зважайце, калі пішаце, на праўду, а не на прыгажосць, тады тая прыгажосць прыйдзе сама па сабе.

Паэтычнае, мастацкае адлюстраванне душэўнага стану, нават калі яно і не зусім дакладнае, усё ж куды больш праўдзівае, чым калі гэта робіцца пры дапамозе чыста інтэлектуальнага аналізу.

Хто спрабуе сваё стаўленне да шматграннага свету выказаць паэтычна, куды лепш гэта можна зрабіць менавіта паэтычным спосабам, а не спосабам інтэлектуала.

Заданне паэта не столькі ўказаць дарогу, колькі натхняць на пошукі яе.

Няма мастацтва там, дзе аўтар хоча быць арыгінальным цаной зразумеласці і яснай формы.

Мастацкая творчасць існуе не дзеля ідэй.

Карыкатура мусіць быць геніяльнай, інакш яна не мае сэнсу.

Паэт ёсць тое, чым ён ёсць, а не тое, чым ён мог бы быць.

Зарабляць хлеб паэзіяй — найцяжэйшая рэч: гэта шкодзіць таленту, калі ён толькі ёсць.

Калі вы ўзялі ўдзел у грамадскім жыцці і тым больш сталіся славутым, дачыненні паміж Вамі, паэтам, і светам складаюцца амаль толькі з непаразуменняў.

Які прыгожы і шляхетны Сусвет — варта толькі адчуць ягоны хаос, як вамі завалодае паэтычнае натхненне.

Стаўляючы перад сабой нейкую пэўную мэту, нельга наогул напісаць добры верш.

Успамінаць, захоўваць успаміны — гэта самая шляхетная функцыя паэта.

Таямнічасць паэтычнага Генія ў тым, што самыя звычайныя, самазразумелыя рэчы і з'явы набываюць у ягоных руках такую сілу і прыцягальнасць, што цалкам апаноўваюць намі.

Лірыка — гэта адлюстраванне свету ў паасобных «я», рэакцыя гэтых «я» на навакольны свет, гэта скарга, роздум, водсвет усвядомленага адзіноцтва.

Пісаць вершы «толькі з пачуцця» — чысцейшая выдумка, такога не бывае. Выбар формы, мовы верша і г. д.— усё гэта ідзе не ад пачуцця, гэта — вынік развагі, роздуму, меркавання. Паэты з малым талентам наследуюць гатовыя формы несвядома, яны не ведаюць, што яны робяць. Майстры лірыкі ад Піндара да Рыльке пісалі не «цалкам з пачуцця», як яны гэта называлі, а ўпарта працавалі над вершам, творча перааапрацоўвалі існуючыя законы і формы. «Цалкам з пачуцця» пішуць вершы толькі закаханыя паэты.

Калі верш, каб быць дзейсным, патрабуе амузычання, падтрымкі з боку кампазітара, невялікая цана такому вершу. Аднак таленавіты кампазітар, калі надарыцца нейкая нагода, можа і з такога верша зрабіць нешта прыгожае. І — наадварот: калі верш сам па сабе здольны рабіць уздзеянне, ён заўсёды знойдзе свайго чытача, і гэта ўжо запарука таго, што яго не можа сапсаваць кампазітар. Інакш кажучы, чым больш своеасаблівы, больш арыгінальны верш, тым больш цяжэй працаваць над ім кампазітару; такі верш супрацьставіцца яму. І — чымся прасцейшы верш, агульнікавы, тым лягчэй кампазітару.

Лірычны паэт, як я яго разумею, у часе творчага ўздыму пры дапамозе сваіх сродкаў клапоціцца не толькі як найлепш выказаць свае думкі і пачуцці, для яго яшчэ адчыняюцца пракаветныя скарбы міфічнай, рытмічнай, маляўнічай мовы, той мовы, якая ідзе нібы не ад яго, але патрэбная яму, якая скіроўвае яго часам туды, куды ён не думаў. Яго мова — гэта не толькі інструмент, але і магутная творчая сіла, мацнейшая за яго самога. Як толькі ён абраў патрэбнае яму слова, пры дапамозе якога ён меркаваў выказаць толькі нешта абмежаванае, сваё, суб'ектыўнае, з гэтага слова ўзнікае папярэ-

джанне, цэлая віхура асацыяцый акустычнага, аптычнага, зваблівага характару. І тое, што атрымалася ў вершы, што адрозніваецца ад рацыянальнага тэксту і становіць сабой нешта незвычайнае, непаўторнае, якраз тое, што ніколі не ідэнтычна з пачатковай задумай аўтара і што найбольш — свядома ці падсвядома — падкупляе, прываблівае нас.

Тое, што паэт гэтак дбайна дабірае слоўка да слоўка ў свеце, які заўтра можа быць зруйнаваным, робяць таксама і анемоны, і прымулы, і іншыя кветкі, якія цяпер растуць на лузе, што можа быць атручаны заўтра хімічнай паліўкай. Ды, не зважаючы на гэта, будуюць яны свае лісточкі і чашачкі, з пяцьма ці шасцьма пялёсткамі, гладкімі ці зубчастымі, але заўсёды прыгожымі.

Небяспека багемы для маладых людзей з больш чым пасрэднымі здольнасцямі заключаецца ў тым, што іхні талент мацней іхняга характару. Сёння багема хоць яшчэ і зманлівая рэч, але яна ідзе ўжо на спад — яна зрабілася ўнутрана немагчымай формай для людзей мастацтва, і той, хто з яе не можа выбрацца, засеў у ёй, ён больш не Геній, не рэвалюцыянер, а няшчасны д'ябал, што не мае дастаткова сілы і розуму, каб збудаваць сабе вартае чалавека жыццё.

Прычына таго, што толькі рэдкія паэты могуць жыць са сваёй працы, у той час як тысячы журналістаў асаблівай бяды не маюць, заключаецца ў тым, што дзевяноста працэнтаў з таго, што народ выдаткоўвае на духоўныя запатрабаванні, ён выдаткоўвае на газеты. Канешне, гэта таксама папас, дзе народ можа знайсці сабе спажыву. І праўдападобна ёсць сярод гэтых журналістаў шмат чэсных і



добрасумленных людзей, але яны ніяк не ўсведамляюць таго, што яны і іхнія газеты будуюць мур, які аддзяляе народ ад сапраўднай духоўнасці.

Для нашага брата рэдактары ў кожным выпадку ворагі, нават і тады, калі яны маскіруюцца пад добрых рэдактараў. Іх не цікавіць, што мы пішам, яны хочуць, каб мы пісалі пра тое, што яны нам рэкамендуюць.

Ёсць нямала калектывісцкіх думак і настаўленняў, але няма калектывісцкай паэтычнай творчасці.

Будучыня не належыць тым, хто адмахваецца, не бачыць наяўнай небяспекі. Усвядоміць небяспеку, прорву, якая нас можа паглынуць, зрабіць яе бачнай — гэта адно з заданняў літаратуры.

Усюды, дзе паэт пажынае пахвалу або папрок, дзе яго паважаюць або высмейваюць, усюды гавораць, звычайна, не пра паэтавы думкі і мары як гэтакія, не пра верш у цэласці як эстэтычную катэгорыю, а толькі пра самае мінімальнае, што адкрылася непадрыхтаванаму чытачу. Гэта тлумачыцца часткова адноснай складанасцю паэтычнай мовы, а найболей — адсутнасцю густу і агульнай культуры.

Нельга разглядаць добрую, праўдзівую мову як самамэту. Яна добрая і праўдзівая тады, калі яна становіць сабой прыклад дакладнага, праўдзівага адлюстравання думак і пачуццяў аўтара. Дзеля гэтага надасабовая спрадвечная народная мова заўсёды такая прыгожая. Што сёння сярэдні немец дрэнна ведае нямецкую мову — гэта не таму, што яна недастаткова апрацаваная (у гэтым недахопу ня-

ма), а таму, што такому немцу не хапае нечага больш істотнага — здольнасці па-сапраўднаму моцна адчуваць яе.

Што людзі апавядаюць адзін аднаму пра свае перажыванні і што шмат з перажытага застанецца ў іх навечна, такая звычка ніколі не знікне, пакуль на зямлі будзе існаваць жыццё. І заўсёды сярод гэтых людзей будуць такія, для якіх перажытае будзе выразам і сімвалам спрадвечнага сусветнага закону, будуць такія, якія ўбачаць у часовым вечнае, у зменным і выпадковым Божы промысел і Божую дасканаласць, і дзеля гэтага не мае асаблівага значэння, як назаве паэт свой твор — раманам, адкрыццём, гісторыяй свае душы ці яшчэ як.

Кожны сапраўдны твор — верш, карціна ці што іншае — гэта не грамадская справа, а жыццядайная функцыя творцы, крыніца, што струменіць, пульс, што б'е. Такой функцыяй нельга ніколі ахвяроўваць, толькі — калі гэта жыццёва важна.

*1991*

## НАВАЛІС.
## ПРА ТРЫ СПОСАБЫ ПЕРАКЛАДУ

Наваліс не даў колькі-небудзь разгорнутай характарыстыкі сваіх спосабаў перакладу. Гэта толькі паспешныя заўвагі, якія ён рабіў для сваіх тэарэтычных прац. Гэта толькі спроба асэнсаваць такую нялёгкую праблему, як пераклад. Ды ўсё ж заўвагі Наваліса, думаецца, не пазбаўлены значэння і сёння, калі на тэму перакладу існуе ўжо немалая літаратура.



Наваліс разглядае тры магчымыя спосабы перакладу: літаральны ці, як ён кажа, граматычны пераклад, пераклад-змяненне, пераапрацоўка і пераклад-міф.

Літаральны ці граматычны пераклад — гэта, паводле Наваліса, пераклад у звычайным сэнсе. Ён вымагае ад перакладчыка толькі навуковасці, эрудыцыі і не шмат здольнасці.

Пераклад-змяненне, пераапрацоўка, калі ён мусіць быць дасканалым, патрабуе вышэйшага паэтычнага ўзроўню. Ды тут падсцерагае і небяспека — змяняючы, пераапрацоўваючы, перакладчык можа лёгка скаціцца і да пародыі, як, напрыклад, ямбічны пераклад Гамера Бюргерам ці пераклад Гамера на французскую мову Попэнам. Сапраўдны перакладчык у такім разе мусіць быць сам таленавітым майстрам, мусіць так ці інакш перадаць сутнасць цэласці, мусіць быць паэтам паэта з тым, каб, чытаючы пераклад, мы адначасна адчулі і аўтара арыгінала.

У падобным становішчы, гаворыць Наваліс, знаходзіцца геній чалавецтва ў дачыненні да паасобнага чалавека.

Пераклад-міф, пераклад-легенда, байка звычайна выконваецца ў высокім стылі. Ён становіць сабой не што іншае, як параспеў дадзенага твора. Ён дае нам не сам твор, а толькі ягоную ідэю, сутнасць. Наваліс зазначае, што ён не ведае прыкладаў такога перакладу. Сустракаюцца толькі пераклады, дзе паэзія і філасофія знаходзяцца ў цесным адзінстве. Часткова грэцкая міфалогія, цвердзіць ён, можа служыць прыкладам такога перакладу нацыянальнай рэлігіі. Навейшыя Мадонны, на думку Наваліса, гэта таксама такі ж міф.

Не толькі кнігі, кажа Наваліс, але і ўсё астатняе можа быць перакладзена пры дапамозе гэтых трох спосабаў, зазначым — неразгорнутых, і таму не ўсюды выразных.

## ІЕГАН ПАЎЛЬ

*1763—1825*

У свой час Іеган Паўль карыстаўся вялікай, большай чым Гётэ, папулярнасцю сярод інтэлектуальнай эліты ў Нямеччыне, быў у модзе. Паварот да яго прыкметны і цяпер. Герман Гесэ, напрыклад, лічыць яго, побач з Дастаеўскім, найбольшым знаўцам падсведамага ў чалавеку. Аднак сведамае і падсведамае ў Іегана Паўля зраўнаважваецца, ён агітуе за душэўную збалансаванасць, гармонію, за ўзаемадзеянне ведаў і інтуіцыі.

Падаю тут у сваім перакладзе некалькі выказванняў Паўля, якія ён называе мудрасцю. Яны не маюць часовасці, знаходзяцца па-за часам. Узяты яны з ягонай кнігі «Вечная вясна».

### ПАЭТ

Калі я чытаю верш і не бачу ў ім паэта як чалавека, усе ягоныя намаганні выставіць сябе вялікім для мяне непераканаўчыя. Зноў жа, калі паэту ўдалося паказаць толькі жывога, *голага* чалавека, у такім ягоным творы я не маю патрэбы: штодзённае, *жывога* чалавека я магу пабачыць і на кірмашы. У сапраўднага паэта верш — гэта рака, дзякуючы празрыстасці якой мы бачым не толькі зямлю, па якой яна плыве, а і ейную глыбіню з адбіткам у ёй нязмернага неба.



### ЧАЛАВЕК БЕЗ ПАЭЗІІ

Чалавек, які кіруецца ў жыцці толькі розумам, без унутранай іскры паэзіі звычайна кіруецца толькі патрэбамі свайго жывата, ён забяспячае сябе, так бы сказаць, вонкавым: для яго восень прыносіць свой вялікі плён, ён бачыць, напрыклад, гай, увесь у фарбах, але ён не чуе ў ім спеву птушак, для яго ён мёртвы, як і паўночнаамерыканскія лясы. Але калі ў цябе ёсць паэтычны дух, здольны да творчасці, не той, што ў іншых толькі на паперы, а ў тваёй душы, тады ты жывеш у тым свеце, дзе пануе вечная вясна, тады ты чуеш спеў усюды, і нават калі тваё жыццё павеяла лістападам, ты ў ім адчуеш ціхую радасць, што ідзе невядома адкуль, як усё роўна напрадвесні, калі яшчэ холадна, але вакол сябе ты ўжо чуеш патаемныя, радасныя згукі.

### ЖАНОЧАЯ ВАБНАСЦЬ У СУЖЭНСТВЕ

Спадзяванне ўтрымаць шлюб толькі адной фізічнай вабнасцю без уліку таго, што называецца розумам, які ўжо сам па сабе звязвае і трымае, азначала б: звіваць вянок толькі з саміх кветак, без сцябла.

### МАСКАВАННЕ НАМЕРАЎ

Чалавек выдае сябе найбольш тады, калі спрабуе маскаваць свае намеры.

## *ЛЁС*

Кожны чалавек мае свой, дадзены яму звыш, *воблак*, які суправаджае яго да самай дамавіны. Кожны ідзе пад сваім *воблакам*. Ён стаіць паміж чалавекам і праўдай. Пачарнеў твой воблак, спахмурыўся — спахмурыўся і ты. Пад ягоным ценем табе і дзень здаецца ноччу. Прасвятлеў воблак, набух святлом, глядзі, ты ўжо і сам прасвятлеў. Твой воблак стаіць над табой да скону. Ступіў ты ў сваю дамоўку, і воблак пакідае цябе, адыходзіць, і толькі тады перад табою адкрываецца сапраўднае поле праўды і дабрачыннасці.

## *ДАЛІКАТНЫ ЧАЛАВЕК*

З чалавекам далікатным, пачуццёвым дастаткова пабыць толькі адну часінку, як ты адчуеш і сам цеплыню. Гэтак адчувае сябе кволая канарэйка, калі да яе дакранаюцца цёплымі рукамі.

## *ХВОРЫ ПАЭТ*

Ужо напалавіну разлучаны з жыццём, хворы паэт злёг у ложак. Цёмная ноч ахінае яго. Толькі далёкія зоры стаяць на небе. Ён уявіў сабе, як будзе адбывацца яго пахаванне. Ён чуў званы, якія суправаджалі каго-небудзь у ягоную апошнюю дарогу. Сваіх жа пахавальных званоў, як памрэ, ён не будзе ўжо чуць. Будзе ляжаць у труне бледным і ніякім. Здарылася, што адной начы пачалі званіць званы на ўсіх званіцах. Яго скаланула думка: гэта ж землятрус і таму гэтак звоняць званы. Засаромеўся паэт свайго ранейшага смутку і адчаю. Падужэўшы сэрцам, пачаў пытацца ў самога сябе: «Калі зямля звальваецца ў апраметную, калі здрыгануўся свет і тысячы жыхароў загінула ў разяўленай пашчы, пашто я тады гэтак турбуюся сваім мізэрным існаваннем?»

Землятрус, аднак, гаюча падзеяў на знябытага паэта, і пахвальныя званы па ім яшчэ маўчалі.

## *АДЗІНОТНАСЦЬ ДУШЫ*

Калі ты ў баі, у якім бяруць удзел тысячы, калі ты чуеш няўмоўкны звон зброі, сам гарыш адвагаю змагання, ты не адчуваеш адзінотнасці: вакол цябе, побач цябе людзі. І ўсё ж ты — адзін. Нікога з табой. Адна-адзіная свінцовая куля, што трапіла ў твой мозг, зацьміла шалёны шквал змагання, адкінула цябе ў бездань, ты ляжыш, як пустэльнік, цябе агортвае адзінота, па-за тваёй замкнутай свядомасцю замоўк свет, бубен смерці зламаў тваю свядомасць. Але калі табе здалося, што ты ўбачыў такіх жа, як і ты, пустэльнікаў-адзінотнікаў ці нават зварушлівую плойму туману, нейкае фата-маргана, што ў сапраўднасці не што іншае, як праява законаў прыроды, тады твая адзінотнасць болей ужо не адзінота, а тое цэлае, што аб'ядноўвае ў адно вялікае, тады ты не пустэльнік, у цябе ўзнікае адчуванне прыналежнасці. Ты ўжо не адзін, а з Тым, Хто з усімі і адначасна разам з табой.

*1992*

# ЛІСТЫ

*Дорогой Масей!*

Получил Ваше письмо от 23-го. С тех пор, как прочел роман, мысленно возвращался к нему. И еще раз хочу сказать — не из одного дружеского расположения, а, как могу, объективно,— что роман хорош. В смысле литературной техники многое меня не устраивает. Но в книге есть какая-то душа — ее настрой, ее мелодия остается, даже когда сюжет начинает забываться... Есть какая-то память сердца. Бывает, что прочитал книгу и через некоторое время забыл почти все — имена героев, подробности, ход событий, но общий тон, характер чувства, какой-то «звук» души остаются в памяти сердца на годы и на десятилетия. В этом смысле книга Вам удалась.

Если бы жили мы не в эмиграции, а на родине, к тому же в нормальной стране, то стоило бы заняться вторым изданием романа («І той дзень надышоў»), может быть, чуть-чуть сократив, добиваясь большей чистоты слога. Но в эмиграции — другое дело. Читателя у нас почти нет. Я вообще восхищаюсь Вашей верностью своему призванию. Ведь с белорусскими книгами в эмиграции еще жестче и туже, чем с русскими. Трудно продавать, трудно заставить библиотеки покупать их. Но у меня есть *полная* уверенность, что в историю белорусской литературы Вы войдете. Фактически, уже вошли.

В СССР сейчас время судорог. Но система начнет еще больше крошиться. Даже если будет временно хуже, не будет это долго. Жизнь свое возьмет. Люди будут шажок за шажком отвоевывать свободу, хотя она не столь уж многим нужна. Перемены будут и в Белоруссии — не такие, как сейчас, а более ощутимые. Я уверен, что будут печатать Ваши стихи. А со временем и до прозы дело дойдет. Нет у меня в этом сомнений.

Всего наилучшего. Дружески — *Вадим*[1]

*28 июля 1989 года*



*Дорогой Масей!*

Письмо Хомченко произвело на меня огромное впечатление. Такие письма — раз в жизни. Поскольку я ничего не знаю о Хомченко, то, читая его письмо, я, разумеется, думал только о Вас и Вашей литературной судьбе. И мне было в высшей степени приятно, что Вас знают на Родине, ценят, помнят как хорошего человека и крупного поэта. Он, между прочим, пишет: «Саченко собирается напечатать твои стихи». Будет, конечно, кстати во всех отношениях, если В. Ф. Хомченко выполнит слово и напишет о Вас воспоминания. Другая отличная новость — что краеведческий музей заинтересовался Вами. Хорошо было бы послать им и русский сборник Ваших стихов. Не забудьте послать им с автографом. Между прочим, полтора месяца назад в «Литературной газете» напечатана была очень сильная статья одного белорусского писателя (фамилию не запомнил) о последствиях Чернобыля. И в связи с этой трагической темой в этой статье упоминались и Костюковичи.

---

[1] Вадзім Крэйд — рускі паэт, крытык, прафесар універсітэта штата Айова, перакладчык на рускую мову вершаў М. Сяднёва, якія выйшлі асобнай кнігай «Очищение огнем».

Мне кажется, что теперь в Минске Вам — зеленая улица. Можно, наверное, уже теперь договариваться с каким-нибудь тамошним издательством о публикации книжки Ваших избранных стихотворений, для которой я бы на Вашем месте выбрал бы лучшее из шести книг и так бы, может быть, и назвал — «Из шести книг».

Если бы Вам здоровье, Вы смогли бы съездить в Минск, и думаю, что это была бы своего рода «триумфальная поездка». Судя по тону письма, Василь Хомченко пишет сущую правду: «С тобой хотят встретиться многие». Так что теперь самое время вылечиться и действовать. Читая это письмо, искренне радовался за Вас. Вот только бы здоровье.

С самыми лучшими пожеланиями *Вадим.*

*3 октября 1989 года*

*Дорогой Масей!*

Рад письму от Вас — и стихам. В письме много хороших новостей: подборка в журнале «Полымя», отрывки из «Мосеевой книги», продвижение книги, диссертация по Седневу. Обо всем этом мне слышать исключительно приятно, ибо я не только Ваш переводчик, но и болельщик в литературе. Мне нравится самый дух Ваших стихов и Вашей прозы. Вы дожили до признания, и, я думаю, это признание будет шириться.

О Ваших библейско-иронических стихах: в них есть Ваша интонация, Ваша личность. В каждой вещи есть Ваше отношение, Ваша индивидуальность, искренность, простота, непосредственность.

Передавайте сердечный привет Ольге от меня и Веры. Желаю Вам обоим здоровья и благополучия.

Дружески — *Вадим*

*25 февраля 1991 года*

# ЛЁС БЕЛАРУСКІХ ПАЭТАЎ



# СПОЛАХІ ДАЎНІХ ЗАРНІЦ



«Заступніка, свайго патрона,
не маем сення мы, паэты».

*Язэп Пушча*

Усім вядома, як ажыццяўлялася на практыцы гэтак званая ленінска-сталінская нацыянальная палітыка, як яна ўплывала на нацыянальную культуру наогул і на беларускую — у прыватнасці. Вядома таксама тая творчая «свабода» ва ўмовах СССР, аб якой так любілі гаварыць бальшавіцкія пісакі, вядомы, нарэшце, той «росквіт» нацыянальных культур, да якога прывяла гэтая па сутнасці прыгонная палітыка. Сталінская дагматычная формула, што культура павінна быць «нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу», ставіла, такім чынам, творчую асобу ў пэўныя рамкі, выйсці з якіх было немагчыма і, больш таго, небяспечна. А марксісцкая метадалогія выносіла канчатковы прысуд над творчай індывідуальнасцю, у выніку чаго адбывалася страшэнная ніверліроўка і спусташэнне. Карацей кажучы, свабоды творчасці ва ўмовах савецкай улады не было і не магло быць, што ў адносінах да нацыянальных культур праводзілася яўная вялікадзяржаўная палітыка, што аб нацыянальнай самабытнасці не магло быць і гутаркі, што, у рэшце рэшт, нацыянальная палітыка Савецкага Саюза — наскрозь хлуслівая. І бяда таму, хто меў адвагу гаварыць аб гэтым, мець у гэтых адносінах свае меркаванні і погляды — яго чакала «патаемнае знікненне».

Аб гэтым красамоўна гаворыць лёс большасці беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, працаваўшых у Савецкай Беларусі і засуджаных катамі НКУС на пажыццёвую катаргу, засуджаных толькі за тое, што яны жадалі сумленна працаваць на карысць свайго народа, на карысць сваёй Бацькаўшчыны.

Аўтар гэтага артыкула быў знаёмы з некаторымі такімі паэтамі і пісьменнікамі, сачыў за іх палітычна-грамадскай дзейнасцю і разам з імі зведаў пакутнае існаванне зняволеных, жах і тэрор бальшавіцкіх засценкаў, аб якіх рэдка хто мае дастатковае ўяўленне. Таму лічу нялішнім спыніцца на гэтым больш падрабязна. Разам з гэтым я маю намер, наколькі мне тое ўдасца, зрабіць літаратурныя зарысоўкі гэтых паэтаў і пісьменнікаў.

Але перад гэтым я хачу спыніцца яшчэ на адной акалічнасці, а іменна — якая палітычная атмасфера панавала ў моманце, калі адбываўся другі спецыяльны пагром беларускіх працаўнікоў, прайшоўшы ў Беларусі пад сцягам барацьбы з так званай «нацдэмаўшчынай». Праўда, гэтая барацьба ніколі не спынялася, але больш масавы характар яна прыняла ў 1936 годзе. Па загаду вышэйшых урадаў НКУС у гэты момант сфабрыкаваў нацдэмаўскую арганізацыю, існаваўшую як быццам на тэрыторыі Беларусі, і распачаў з ёй бязлітасную барацьбу. Арыштоўвалі ў кожную ноч пісьменнікаў, артыстаў, настаўнікаў, студэнтаў і нават вучняў. У гарадах і вёсках панавалі трывога і здзіўленне. Гэты момант міжвольна напамінаў сабой сярэдневяковую інквізіцыю. Можна было лёгка заўважыць, як парадзелі рады студэнтаў Вышэйшага педагагічнага інстытута і Дзяржаўнага універсітэта ў Менску. У Доме пісьменніка панаваў адчай. Аднойчы раніцай, не далічыўшыся ў сваім саюзе Цішкі Гартнага, Міхася Зарэцкага, Алеся Дудара, Тодара Кляшторнага, Янка Купала жахліва вымавіў: «Божа мой, што гэта робіцца?!» Сказаўшы гэта, Янка Купала выказаў, бадай, думкі ўсяго народа.



### *ПРАДЧУВАННЕ*

Ад'язджаючы ў Менск з роднае вёскі, дзе я правёў летнія вакацыі, я знаходзіўся ў нейкім трывожным прадчуванні. Маёй душой апанаваў глыбокі сум. Мне было чагосьці шкада. Здавалася, што я пакідаю самае роднае і прытым пакідаю назаўсёды — пакідаю тое, без чаго я — не чалавек. Маці і сям'я вельмі чулліва, як ніколі раней, развіталіся са мной.

Станцыя. Я ў цягніку.

Цягнік падыходзіў ужо да Менску. Нешта падобнае на страх адчуў я ў сабе, убачыўшы з акна вагона дзесяціпавярховы Дом урада, які грозна і імпазантна ўзвышаўся над горадам...

Студэнцкае жыццё хутка змусіла мяне аддацца яму. Але навукі не ішлі мне ў галаў. Я цэлымі днямі сядзеў у бібліятэках горада і глядзеў, як працавалі другія. У маёй душы спелі вершы, якіх бы ніхто і ніколі ў той час не надрукаваў. Больш таго, прачытаць іх каму-небудзь было б вар'яцтвам.

Аднойчы ўсё ж я прачытаў паэту-камсамольцу Аркадзю Куляшову дваццаць сваіх вершаў, напісаных мною на вёсцы. Уважліва зірнуўшы ў твар, Куляшоў даў мне рэцэпт: «Табе, братка, трэба лячыцца! Ты захварэў на небяспечную хваробу».

Я шчыра падзякаваў Куляшову і, як апечаны, пайшоў ад яго. На душы ў мяне было прыкра. Я лаяў сябе за тое, што расслюнявіўся перад ім. Потым праз некалькі дзён я прачытаў гэтыя вершы Платону Галавачу. У яго я знайшоў падтрыманне.

15. Зак. 5347.

У маіх вершах Платону Галавачу спадабалася «ўзвышанае, журботнае». У яго было такое перакананне, што мастацкі твор без гэтага — як без душы.

Праходзіць паўтара месяца. У інстытуце ідзе «чыстка» студэнтаў. Ад свайго сябра студэнта Гваздова, засуджанага і высланага ў Нарымскі край, я атрымаў ліст, у якім ён, між іншым, пісаў, каб я яму прыслаў гальштук. Гэта мяне вельмі здзівіла. Навошта яму патрэбен гальштук — яму, які адбывае штодзённую катаргу? — падумаў я. А потым я здагадаўся, што гэтыя словы трэба разумець у пераносным сэнсе. Гальштук ён прасіў для таго, што нічога больш не застаецца, як павесіцца. Ад такой думкі я зжахнуўся. Я падумаў — і мяне чакае такі лёс. Хоць думаць так не было, здаецца, падставы.

Праходзіць яшчэ некалькі трывожных дзён. Ідуць арышты. Арыштоўваюць «ворагаў народа». У газетах друкуюцца судовыя працэсы.

Чытаю Рамэна Ралана «Жан-Крыстоф». Але са старонак тэтае кнігі наперакор таму, аб чым там пісалася, паўставалі, як жывыя, вобразы арыштаваных ужо студэнтаў. Усё ж такі я неяк чытаў... Месцамі кніга мне страшэнна падабалася, і гэта я запісваў у сшытак. Увечары я пайшоў у тэатр глядзець оперу «Яўген Анегін». У часе антракту я расказаў адной студэнтцы аб нечуваных жудасцях, якія перажывае інстытут. Пасля оперы, выходзячы з тэатра, яна на развітанне моцна пацiснула мне руку, і я адчуў яе спагаду і прыязнь.

У дванаццаць гадзін я вярнуўся дахаты і моцна заснуў. З нейкай цудоўнай яснасцю мне прысніўся сказ з «Жан-Крыстофа»: «Спаткаліся, як два блукаючыя свяцілы, у бясконцым прасторы і разышліся, можа быць, назаўсёды».

Літаральна ў гэты ж час мяне разбудзілі агенты НКУС, арыштавалі і павязлі ў турму.



## У ТУРМЕ

Я быў амаль упэўнены ў тым, што мяне заўтра выпусцяць з турмы і я, як ні ў чым не бывала, з'яўлюся ў інстытут на заняткі. Нават ніхто не будзе ведаць, што я быў у астрозе. О, якая наіўнасць! Якая сляпая вера ў справядлівасць органаў НКУС! Яны аб'ектыўна падыдуць да справы?! Яны вырашаць усё, як мае быць?! О, не! Па адна-му таму, як мяне тут сталі ўтрымліваць, я зразумеў (хоць і позна), што адгэтуль выхаду няма. Ад такога ўсведамлення мне зрабілася жудасна. Значыцца, усе мае надзеі на жыццё прапалі.

У камеры я быў адзін, і варта да мяне адносілася з усёй строгасцю турэмнага рэжыму. Свет зачыніўся для мяне. Я мог размаўляць толькі з самім сабою, але гэта магло прывесці да вар'яцтва. Мне зрабілася вельмі шкада сваіх бацькоў. Адзіным маім жаданнем было тое, каб яны не так хутка даведаліся аб усім. Я не хацеў атручваць іх і без таго цяжкое жыццё. Апрача гэтага, я знаў, што ў калгасе, дзе яны працавалі, да іх будуць адносіцца, як да бацькоў, сын якіх з'яўляецца «ворагам народа».

На допыты мяне бралі, як пачынала цямнець, і трымалі заўсёды да 10 гадзін раніцы, так што ў камеру я прыходзіў стомлены, разбіты, знерваваны. Заснуць жа ў камеры было немагчыма: цэментная падлога яе была настолькі гарачай, што па ёй нельга было прайсці босаму, узмоцнена білася сэрца. З нагрэтай парашы ішоў нясцерпны смурод. Нягледзячы на тое, што была восень, дні здаваліся мне вельмі доўгімі. Траплялася, што я чуў сялянскія галасы, якія даносіліся да мяне з турэмнага двара. Сяляне-калгаснікі, відаць, прывозілі бульбу для турмы. Мне хацелася крыкнуць да іх, каб яны ведалі, што тут, у каменным катуху, гарачым і брыд-

кім, знаходзіцца іх сын, адарваны цяпер ад іх. Асабліва сумным здавалася мне ржанне коней. Я тады шаптаў: «Косю, вазьмі мяне, занясі туды, дзе я бываю толькі думкаю». І ўспаміналася дзяцінства, калі я ганяў у поле на начлег табуны коней.

Аднойчы, як звычайна, мяне вялі ад следчага да камеры. У вузкім калідоры нечакана я сустрэўся з Цішкам Гартным, якога вялі на допыт. Ад здзіўлення я спыніўся, чаго, зразумела, рабіць было нельга. Наогул, такія сустрэчы былі нёдапушчальны. У даным выпадку была памылка. Я крыкнуў:

— Добры дзень, дзядзька Гартны!

— Молчать! — крыкнуў праваднічы.— Кто он Вам? — і паставіў мяне тварам да сцяны. Я стаяў да тых пор, пакуль не замоўклі крокі Цішкі Гартнага.

Праз хвілін дзесяць пасля гэтага мяне вельмі ганялі на паўторным допыце.

— Откуда знаете Гартного? — спытаўся следчы.

Я адказаў:

— Я ведаю яго як беларускага пісьменніка — і не больш гэтага.

— Гм-м, «белорусского»... А лично знакомы?

— Не,— адказаў я.

— Отведите в камеру! — сказаў ён праваднiку, адчыніўшы дзверы свайго пакоя.

Кожны дзень прыносіў нечуваныя навіны... Скончыў самагубствам Чарвякоў, скончыў самагубствам Галадзед. Арыштаваны народны камісар земляробства Бэнэк, народны камісар асветы Чарнушэвіч. Галоўнакамандуючы Беларускай ваеннай акругай Убарэвіч, сакратар ЦК камсамола Беларусі Аўгустайцыс, арыштаваны паэты Чарот, Александровіч, Хадыка, Дудар, Кляшторны, Маракоў, Звонак, арыштаваны пісьменнікі Галавач, Зарэцкі,



Скрыган, Баранавых, Знаёмы,, Мікуліч, Шашалевіч і г. д. Турма набівалася біткам. На допыты цягаюць дзень і ноч і б'юць.

Праходзіць цэлы год, а «нацдэмы» яшчэ сядзяць, чакаючы суда.

Знаходзячыся ўжо ў другой камеры разам з А. І. Цвікевічам, я атрымліваю, нарэшце, «обвинительное заключение».

Значыцца, хутка суд. Боязна і радасна. З абвінавацчага акта вынікае, што кіраўнікамі арганізацыі з'яўляюцца «ворагі народа» — Цішка Гартны, Зарэцкі, Чарот і Дудар. У гэты час Гартнага ў жывых ужо не было, ён памёр у Магілёўскім доме вар'ятаў. Сумна і балюча.

Праз тры дні пасля атрымання абвінаваўчага акта мяне выклікаюць на суд. Судзіць будзе Вярхоўны Суд Беларускай ССР. Пацалаваўшыся, я развітаўся з дарагім Цвікевічам, які чакаў яшчэ вырашэння свайго лёсу.

З прыгаворам Вярхоўнага Суда БССР, атрымаўшы шэсць год пазбаўлення волі і тры пазбаўлення выбарчых правоў, я разам са сваімі сябрамі апынуўся ў этапнай камеры, дзе сустрэўся зноў з многімі пісьменнікамі.

## *НА КАТАРЗЕ*

Мы ўсе хацелі як найхутчэй вырвацца з турмы. Яна нам абрыдла да апошняга, высушыла нас, забрала нашы сілы, зрабіла нас падобнымі да мерцвякоў — белымі і худымі. У часе прагулкі ў турэмным двары мы хісталіся, як цені. Галовы кружыліся ад бяссілля. Вочы, прывыкшыя да цемры ў камеры, не маглі глядзець на свет — мімавольна зліпаліся і

міргалі. Не даўшы добра агледзецца, нас зноў загнялі ў камеры, зноў цемра рэзала вочы. Цела прасілася на падлогу (лoжкаў у нас не было). Страшэнна хацелася есці. Разбураліся мускулы, за кошт якіх, здаецца, ішло жыўленне. Таму адзіным нашым жаданнем было — вырвацца на працу з гэтага «могільніку жывых». Усё ж там — воля, прастор і, можа, лепшае ўтрыманне. А працы мы не баяліся.

Кожны дзень з нецярпеннем мы чакалі начальніка са спісамі прызначаных на этап. І ён кожны дзень з'яўляўся, але нас не выклікаў, абяцаючы выклікаць на наступны дзень. Часта траплялася, што здружыўшыхся сяброў разлучалі, і адзін з іх, астаючыся, даходзіў да вар'яцтва — так хацелася пакінуць гэтыя тыфозныя матрацы. Будучае нас не цікавіла.

Праз ноч цягнік ішоў на Магілёў. Ніяк не верылася, што нас вязуць: перад гэтым мы крыху заснулі, і выклік на этап з'явіўся для нас нечаканым. Але настрой паправіўся. Выказваліся розныя згадкі адносна таго, куды нас павязуць далей. Адны гаварылі — у Караганду, другія — у Рыбінскі лагер, трэція — у Нарымскі край, чацвёртыя — на Калыму і г. д. І заўзята спрачаліся.

З Магілёва нас павезлі на Оршу. Тут фарміраваўся эшалон двое сутак. На працягу ўсяго гэтага часу нас не кармілі, але абяцалі выдаць рацыён да Масквы пасля таго, як усё будзе наладжана. Крымінальнікі крычалі на ўвесь голас і страшэнна лаяліся, палітычныя сядзелі, замазаўшы рот,— ім забаранялася патрабаваць, яны маглі толькі ветліва прасіць.

Нарэшце паравоз цяжка крануўся з месца, і мы паехалі з Оршы. Стаяла цудоўная пагода беларускай глыбокай восені.



Праехаўшы Свярдлоўск, мы пабачылі першую зіму. Апрануты мы былі вельмі дрэнна: тое, што было на нас, знасілася, а другога мы прыдбаць не маглі. Вагоны не ацяпляліся, так што холад нас катаваў даволі неміласэрна, з суровасцю НКУС, як жартавалі некаторыя з арыштантаў. За час дарогі мы настолькі змарнаваліся, што былі дужа рады, калі прыехалі ў горад Марыінск Новасібірскай вобласці, дзе меркавалі нас выгрузіць і накіраваць у Іванаўскія канцэнтрацыйныя лагеры. Але перш за ўсё мы павінны былі трапіць у так званы «Распрэд». Нас загналі ў нейкую «ліцейку» без падлогі і столі, з каменных сцен сцякалі чыстыя кроплі вады. Людзей тут было столькі, што не было месца сесці. Уначы, калі засыналі, усё было пераблытана — нельга было зразумець, дзе ногі, дзе галава, дзе рукі. Было толькі нейкае «месіва», прычым гэтае «месіва» было ў заўсёдным руху. Гэты рух быў падобны руху чарвей у ямє. Калі каму-небудзь патрэбна было прайсці да парашы, яму неабходна было ісці па жывому масту. Параша прадстаўляла сабой паўбочку, ля яе заўсёды хто-небудзь ляжаў, абхапіўшы кругом рукамі, і грэўся. Гэта — «загадчык парашы». Адзіным нашым заняткам было «лушчыць» вошай, якія былі ўсюды: у кашулі, у вопратцы, у шапцы і нават у анучах. Нуда заядала ўсіх. Толькі часамі «ўкраінска-беларуская капэла» ратавала сваімі песнямі ад смяртэльнага смутку. Але не ўсіх. Пад гукі «Як умру, то поховайтэ» на руках Звонака і Мікуліча памёр малады беларускі паэт Міхась Багун.

Прасядзелі мы тры тыдні ў «ліцейцы», а ў студзені месяцы пры 45-градусным марозе нас пагналі ў Іванаўскі лагер, які знаходзіўся ад Марыінску на адлегласці 60 кіламетраў. Вецер ледзяніў шчокі — яны рабіліся белымі. Ісці было немагчыма. Ззаду

падганялі больш слабейшых прыкладамі ў плечы. У многіх ногі былі абкручаны анучамі — яны служылі абуткам, у выніку — пальцы адмярзалі і немагчыма было перасоўвацца. Галовы абвязвалі рознымі шматамі, каб абараніцца ад ветру і марозу. Гналі нас дзень і ноч, і раніцай, калі мароз зрабіўся яшчэ больш злейшым, прыгналі ў Іванаўскі лагер. Адразу ж нас павялі ў лазню, чаму мы вельмі былі рады. Але ў лазні настолькі было холадна, што страшэнна было раздзявацца. У раздзеўшыхся скура падобна была да гусінай. Цёплай вады давалі па аднаму апалоніку аб'ёмам у тры літры. Халоднай таксама не хапала.

У бараках сцены былі абледзянелыя, але на гэта не звярталася ніякай увагі. Лічылася, што для арыштаваных і так будзе добра. Усяго зняволеных у гэтым лагеры было 1500 чалавек. З першых жа дзён мы даведаліся, што людзі тут паміраюць ад голаду і холаду, як мухі. Таму лагер насіў назоў «трупярні» (зразумела, сярод зняволеных). Хлеба давалі тут менш, як у турме, а супу — «баланды» — паўтара літра на дзень. На працу хадзілі рэдка — вясной нас планавалі адправіць на Калыму.

Маладых, больш-менш здаровых, вясной назначылі на этап, у тым ліку і мяне. Ну што ж, дзякуй Богу і за гэта. Рух — усё, мэта — нішто. Заставацца ў «трупярні» раўназначна смерці. Мінаем Новасібірск, Томск, Краснаярск, Іркуцк, Улан-Удэ, Чыту, Хабараўск і пападаем ва Уладзівасток — на бераг Японскага мора. Тут у мяне склаўся верш, які пачынаўся так:

Нязбыўнае, цяжкае, ціхае гора,
з табою на свеце я жыць не магу.
Прывёз я на бераг Японскага мора
і смутак, і роспач, і боль, і тугу.



Сапраўды, сум з'ядаў маё сэрца па далёкай Бацькаўшчыне. Мяне нічога тут не цікавіла: ні мора, ні горы, ні неба.

Хутка нас пагрузілі на параход «Трансбалт». Усяго нас было 7500 чалавек. Быў шторм, і мы пасоўваліся слаба. У труме было вельмі цесна, мучыла смага. Але вады давалі вельмі мала. Запасы прэснай вады былі, гаварылі нам, невялікія. У той час, калі мы праязджалі праз японскія воды, усе хацелі папасці ў рукі японцаў. Яшчэ перад гэтым мы чулі, што такога роду факты былі ў сапраўднасці.

З бухты Нагаева нас павезлі па шашы на Калыму. Траса гэта пралягала паміж гор і балот больш як на 800 кіламетраў. Гледзячы на яе, здзіўляемся, якую вялікую сілу патрэбна было затраціць, каб выканаць такую працу. І ўсё гэта было зроблена рукамі зняволеных. Яна трымалася на іх касцях. Але ехаць, як быццам, і добра. Едзем здабываць золата.

Быў ліпень месяц 1938 года. Прамывачны сезон. «Залатая гарачка» завалодала галовамі ваенізаванага начальства. Трэба як мага больш здабыць золата. «Кожны грам золата — удар па фашызму»,— чыталі мы на плакатах. Нас, палітычных, называлі таксама «фашыстамі». Кожны дзень мы, «фашысты», працавалі па шаснаццаць — васемнаццаць гадзін. Над намі стаялі прарабы, дзесятнікі, брыгадзіры і не давалі разагнуць спіны, кулакамі прымушалі выконваць «тэхнічныя нормы», якія называліся зняволенымі «трактарнымі» па той прычыне, што выканаць іх было немагчыма нават асілку. За невыкананне гэтых нормаў расстрэльвалі або саджалі ў турму, якая называлася «Серпантынкай». Адзін назоў гэты наводзіў жах на зняволеных. «Серпантынка» гэта была на Калыме агульнавядо-

май. Гэта — месца смерці. Там пад лязгат заведзенага трактара расстрэльваліся тысячы зняволеных і некуды вывозіліся на трактарных санях, высока абабітых дошкамі.

Кожны дзень перад тым, як пайсці на працу, нам чыталі смяротныя прыгаворы. Яны былі заўсёды прыблізна такога зместу:

«За систематическое невыполнение технических норм, за контрреволюционную агитацию в забое среди заключенных, за порчу инструментов и механизмов, за подготовку к побегу такой-то и такой-то (ідзе пералічэнне) приговорены к высшей мере социальной защиты — расстрелу. Приговор приведен в исполнение (ідзе дакладна дата)».

— Слышали?! — пытаецца нкусіст. — Шагом марш на работу! — і сотні арыштантаў праходзяць праз вароты. У забоі бачыш, што на працу не з'явілася цэлая брыгада. Значыцца, была і — не была.

## *ВЫЗВАЛЕННЕ*

Пяць гадзін раніцы. Прагудзеў тонкі, прарэзлівы гудок. Голас яго раніў у самае сэрца — трэба было паднімацца і ісці ў забой на працу. Нічога больш непрыемнага няма на свеце, чым гэты д'ябальскі гудок. Пачуўшы яго, праваліўся б на месцы. Зноў чакае тое самае, што і ўчора, зноў будуць лезці вочы на лоб ад непасільнай працы. Смяртэльна не хочацца пакідаць ложак. Каб паспаць яшчэ хоць адну гадзіну, аддаў бы ўсё на свеце. Моцна баляць рукі, яны быццам наліты свінцом — цяжкія і нечым набраклыя. Хочацца іх выцягнуць уздоўж цела і патрымаць у такім становішчы хоць адну хвіліну — так яны, здаецца, лепш адпачываюць. Але



днявальны, старэнькі, з адмарожанымі нагамі, слабы, вінаватым голасам будзіць:

— Уставайце! Уставайце! Хутка развод,— і калі хто не ўстае, ён падыходзіць да яго і штурхае ў галаву. Злосцю закіпае сэрца. Здаецца, выцяў бы старога, але ўстрымліваешся толькі таму, што ён не вінаваты.

— Уставайце! Уставайце! — скрыпіць яго голас.— Прыйдзе староста — будзе горш.

Цяжка, як пабіты, паднімаешся і, калі выканаў учора норму, ідзеш за «баландой» (супам). Прастаяўшы некалькі часу ў чарзе, атрымліваеш паўлітра «баланды», выпіваеш яе нагбом і ідзеш на развод, які пачынаецца ў шэсць гадзін. Брыгадзір у гэты час выганяе палкаю са сталовай спазніўшыхся, не паспеўшых выпіць «баланды». Але арыштант не хоча развітацца з міскай гэтых памыяў і на хаду стараецца з'есці іх. Брыгадзір, падскочыўшы да такога суб'екта, спрытна выбівае з рук міску, і тая коціцца па падлозе.

— Становись по пятерке! — грозна крычыць брыгадзір, зорка праглядаючы «сваіх» людзей, трымаючы ў руках лом.

— Где Захарчук?

— У сталовай,— адказваюць зняволеныя.

Брыгадзір, як шалёны, кідаецца да сталовай і гоніць адтуль Захарчука, які, падбегшы да свае брыгады, становіцца ў апошнюю пяцёрку крайнім. Брыгадзір, сціснуўшы лом, выперазаў яго па спіне. Той паваліўся.

— Брыгада Сабурава, стройсь! — грыміць нарадчык.

Усе людзі Сабурава падыходзяць да лагерных варот. Палічыўшы, выпускаюць з лагера, і канвой з сабакамі гоніць іх у забой — здабываць золата.

З забою на абед я прыйсці не мог — ногі мяне

не няслі першы раз у жыцці. Усю сваю энергію я аддаў чырвонаму золату. Ну, значыцца, усё. А злосная мяцеліца засыпае вочы і, здаецца, плача хаўтурную песню.

Мы свое отбаяли до срока,
Журавли, застигнутые вьюгой.
Нам на родине далекой
Темный лес звенит своей кольчугой,—

раптам мне ўспомніліся словы Клюева.

Як «дахадзягу», мяне перавялі ў маламоцную брыгаду. «Дахадзяга» — гэта значыць чалавек, які дайшоў да апошняга, абяссілены чалавек, які больш не патрэбен вытворчасці. Ім мала хто цяпер цікавіцца, але працаваць ён усё ж такі павінен, толькі на так званых лягчэйшых работах. Такую лёгкую работу я атрымаў у саўгасе, які займаўся нарыхтоўкай сена. Тут я павінен быў касіць увесь летні час. Але лета тут праходзіць даволі хутка. Дый ці можна гаварыць наогул аб леце на Калыме?

Калыма ты, Калыма,
Дзіўная планета:
Дванаццаць месяцаў зіма,
Астатняе — лета,—

іранізуюць арыштанты. І дарэчы. Не паспееш агля-нуцца, як бачыш — раптоўна наступіла зіма, з вялікімі марозамі і завеямі. Для «дахадзягі» калымская зіма — смерць. Рэдка хто з іх яе пераносіць. Тут, больш як дзе-небудзь, дзейнічае закон натуральнага адбору. У часе зімы працуе спецыяльна некалькі брыгад трунароў і магільшчыкаў. Работы для іх хапае. Амаль кожны дзень раніцай выносяць з барака па некалькі чалавек мёртвых і закалелых. Вечарам перад сном некаторыя наглыя і агрубелыя людзі пыталіся ў такіх «дахадзяг»:

— Ну, Захарчук, ці прачнешся ты заўтра?.. Калі не, дык давай развітаемся.



Жудасна было слухаць такія словы.

Я ніколі не думаў, што дажыву да вясны. Але, дзякаваць Богу, дачакаўся яе прыходу — маруднага і нясмелага. Снег растаў, і вызваліліся ад лёду горныя рэкі, якія сваім шумам напаўнялі вялікія прасторы. У гэты час зусім нечакана я атрымаў паведамленне аб тым, што я этапіруюся ў Менск на новае следства. Радасці маёй не было канца. Я даўно б згадзіўся сесці ў турму зноў, каб толькі мяне вывезлі з гэтага, выклятага Богам, месца. Я нават дапускаў сабе думку, што мяне могуць вызваліць наогул. Як бы там ні было, я еду на «мацярык», а гэта ўжо вялікае шчасце. Многія з арыштантаў нават зайздросцілі мне, усе жадалі мне ўсяго найлепшага.

Толькі праз чатыры месяцы я быў дастаўлены ў Менск. У камеру мяне пасадзілі разам з крымінальнымі. Начальнік, паглядзеўшы на маю фігуру, канечне, падумаў, што я — не палітычны.

Сяджу месяц, другі, трэці — на допыт не выклікаюць. У чым справа? Няўжо ў іх змянілася думка наконт маёй вінаватасці? Аднак гэта хутка высветлілася. Мяне выклікаюць на допыт і абвінавачваюць зноў у тым самым, у чым абвінавачвалі і раней, пяць гадоў таму назад. Вось гэта дык штука. Не, падумаў я, хутчэй праваліцца зямля, чым зменіць сваю сутнасць НКУС.

Новае следства вялося восем месяцаў. Суд быў назначаны слуханнем на 26 чэрвеня 1941 года.

Дваццаць жа трэцяга чэрвеня пачаліся «манеўры», як нам тлумачылі калідорныя бесперапынныя выбухі ў горадзе. Але няцяжка было зразумець, што гэта сапраўдная вайна.

## *КУЛАЦКІ ПІСЬМЕННІК*

Беларускі пісьменнік Сымон Баранавых вядомы мне такімі сваімі творамі, як «Чужая зямля», «Межы», «Пастка», «Новая дарога» і іншымі. Паходзячы з сялянскай сям'і, Сымон Баранавых добра разумеў вясковае жыццё, людзей зямлі, іх псіхіку, іх патаемныя думкі. Зямля яму як бы гаварыла: глядзі, чым я жыву, я пакажу табе свае таямніцы, як сыну, які мяне любіць; глядзі, якая я знаёмая і ў той жа час незнаёмая, старая і ў той жа час — новая. І Баранавых гэтую мову разумеў — яна была для яго роднай.

У звязку з гэтым мне прыпамінаецца так званая тэорыя аўтагенных вобразаў прафесара Пераверзева, згодна з якой кожны тварэц знаходзіцца пад уладай уражанняў таго асяроддзя, з якога ён паходзіць. Тэорыя гэтая лічылася антымарксісцкай, антыленінскай, бо, прытрымліваючыся яе, нельга было дапусціць, што, скажам, сялянскі пісьменнік можа зрабіцца пралетарскім, буржуазным, савецкім, а граф Аляксей Талстой — «товарищем» Сталіна. Бальшавіцкія літаратурныя крытыкі заўсёды называлі Баранавых кулацкім пісьменнікам. Адзін крытык у артыкуле аб творчасці Баранавых, падкрэсліваючы яго дробнабуржуазную ідэалогію, пісаў: «Калі С. Баранавых пойдзе па шляху выкарчоўвання капіталістычных рэштак у свядомасці, тады семафор у пралетарскую літаратуру для яго будзе адчынены». Пастаноўка пытання, як бачыце, зусім акрэсленая.

Баранавых не паддаўся лячэнню крытыкай, ён заўсёды заставаўся верным самому сабе. Пасля аповесці «Чужая зямля», дзе «з замілаваннем апісваюцца заможныя, кулацкія гаспадаркі, добрыя коні, каханне маладых людзей і зусім не паказана работа партыйнай і камсамольскай арганізацый», Баранавых піша раман «Межы», у якім таксама «адсутнічае кіруючая роля пралетарыяту». Не, відаць, з Баранавых не зробіш пралетарскага, савецкага пісьменніка! Яго нельга нават залічыць у спадарожнікі. Гэта, бачыце, проста безнадзейны чалавек. Быць яму ў кулацкіх пісьменніках! Дзівак, мае талент, а жыць не хоча. Гэта ж, падумаць толькі, да гэтага часу ён не бачыць тых «зрухаў», якія адбыліся і адбываюцца ў сацыялістычнай вёсцы і ўва ўсёй народнай гаспадарцы. Ну і спагоніць жа на ім сваю злосць ваенізаваны, «з боепрыпасамі», як казаў Гартны, крытык Бэндэ. У «Полымі рэвалюцыі» ён змесціць артыкул у тры друкарскія аркушы. Ён яму «сківіцы паправіць...». А пасля артыкулаў Бэндэ вядома, што бывае,— пасля яго артыкулаў, пасля яго канчатковага прысуду заўсёды ўмешваецца НКУС. Усё роўна нездабраваць хлопцу...

Нягледзячы на гэта, Баранавых усё яшчэ рэдагуе літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс «Беларусь калгасная», вакол якога гуртуюцца сялянскія паэты і пісьменнікі. Але хутка сталася бяда. У адным з нумароў гэтага часопіса «кулацкі пісьменнік» Баранавых змясціў аповесць таксама «кулацкага пісьменніка» Міколы Нікановіча «Журавіны», якую знайшлі антысавецкай (добра, што яшчэ не контррэвалюцыйнай), і нумар канфіскавалі. Тут рэпутацыя Баранавых зусім пахіснулася, але, бачу, Баранавых ходзіць, дзякаваць Богу, яшчэ па вуліцах Менска.

Неўзабаве з'явілася Пастанова ЦК КПБ(б) аб ліквідацыі ўсіх літаратурных згуртаванняў ці, інакш, груповак і стварэнні Саюза савецкіх пісьменнікаў. Распусціў сваё згуртаванне Баранавых, і «Беларусь калгасная» зачынілася, распусціў Кузьма Чорны «ўзвышэнцаў», і часопіс «Узвышша» за-

чыніўся. Зачыніліся часопісы «Маладняк» і «Чырвоная Беларусь». Усіх літаратурных аднаасобнікаў Сталін загнаў у калгас — Саюз савецкіх пісьменнікаў.

Блізкія Баранавых пісьменнікі, сустракаючыся з ім, жартавалі:

— Ну дык, Сымон, калі ты пойдзеш у калгас?

— Але чаго вы хочаце?.. Цяпер жа мы ўсе ў калгасе — гаспадарку сваю я зліквідаваў і з гэтага часу больш не кулак.

Нягледзячы на гэта, Сымон Баранавых лічыўся пісьменнікам, які жыў сваёй уласніцкай псіхалогіяй. Вёска перабудавалася, а яе прадстаўнікі ў літаратуры трымаюцца старых поглядаў, жывуць яе патрыярхальным жыццём, хаваюць у сэрцы яе «добрыя і вольныя часы». Яны не бачаць трактароў, камбайнаў, малатарак і г. д. Адным словам, старая вёска нібы памерла, адышла ў нябыт, а яе ідэолагі застаюцца жыць.

Трагедыя сялянскіх паэтаў і пісьменнікаў і заключалася якраз у тым, што яны не маглі, застаючыся вернымі сабе, пагадзіцца з разбурэннем вёскі калгасным ладам, не маглі і не хацелі прыстасоўвацца да новых умоў, да ўмоў, якія былі ім варожымі і не адпавядалі іх душэўнаму складу. Гібель вёскі павяла за сабою гібель яе верных і да канца адданых ідэолагаў. Аб гэтым сведчыць творчасць Ясеніна, Клюева, Клычкова — у расейскай літаратуры, Сымона Баранавых, Пушчы, Калюгі, Нікановіча і іншых — у беларускай.

Усе яны так ці інакш загінулі.

1936—1937 гады з'явіліся ракавымі для беларускай літаратуры. Лепшыя яе прадстаўнікі былі арыштаваны. Сымон Баранавых таксама не пазбавіўся гэтай катастрофы, гэтага трагічнага знішчэння.



Амаль з усіх пісьменнікаў і паэтаў, з якімі прыходзілася мне жыць, Сымон Баранавых быў найбольш сімпатычны, як чалавек. Трымаўся ён заўсёды адасоблена, што давала магчымасць некаторым легкадумным людзям разумець яго з дрэннага боку і называць яго часамі жартам, а часамі сур'ёзна — кулаком. Ён проста не хацеў балбатаць, як другія. Ён усё аб нечым думаў, як заўсёды думае аб сваёй гаспадарцы дбалы гаспадар. Ён не любіў, калі яму хто-небудзь перашкаджаў у гэтым. Але я ніколі не бачыў яго злосным — характар яго быў залаты. Баранавых імкнуўся заўсёды што-небудзь мець, прыдбаць і дапамагчы другому. Апошняе асабліва выяўлялася тады, калі хто-небудзь адпавядаў яго жыццёвай філасофіі. Тады ён быў як апякун, як бацька.

Не ведаю чаму, але я яму вельмі спадабаўся. Гэта, мусіць, таму што ў нас не было прынцыповага разыходжання. Са мною ён мог гутарыць беспералынку. Помню, едучы ў вагоне ў канцэнтрацыйны лагер, ён ад Масквы да Уладзівастока расказваў мне свой новы раман «Калі ўзыходзіла сонца». Я дзівіўся, з якой падрабязнасцю ён перадаваў сюжэт рамана — раздзел за раздзелам, частка за часткай. І колькі дзеючых асоб! Фабула рамана была настолькі складанай і цікавай, што слухаць яе ход было найлепшым задавальненнем. Гэта было адзінай уцехай у нашым цяжкім становішчы. Сама назва «Калі ўзыходзіла сонца» была сімвалічнай. Яна азначала, як чалавек, змагаючыся ўсё жыццё за свой ідэал, памёр за некалькі гадзін перад яго ажыццяўленнем, памёр якраз тады, калі ўзыходзіла сонца яго надзей.

Міхась Зарэцкі займае ў беларускай літаратуры зусім асобнае месца. Я не бяруся вызначыць яго ролю як пісьменніка, тым больш — не збіраюся разглядаць яго, так сказаць, творчую прадукцыю. Для гэтага я не маю пад рукамі дадзеных ды і нагогул гэта не ўваходзіць у маю задачу. Мне хацелася б уваскрасіць яго постаць так, як яна прадстаўляецца мне сягоння — мне, які мала ведаў яго асабіста, але перанёс уплыў яго мастацкага ўздзеяння. Мне здаецца, што ніхто з беларускіх празаікаў не захапляў мяне так, як Міхась Зарэцкі, ніхто так не адпавядаў майму эстэтычнаму густу, як ён. Будучы вучнем сямігадовай школы, я ахвотна чытаў Зарэцкага і адчуваў у ім сілу, якая была мне мала даступна, але мела дастатковую ўладу, каб не выпусціць з свайго свету чараў. У Зарэцкага была здольнасць валодаць душой чытача. Прынамсі, я гэтую яго якасць зведаў поўна і не без карысці.

Мая ўвага да Зарэцкага павялічылася яшчэ больш тады, калі я прачытаў у газетах, што яго творы «Голы звер» і «Падарожжа на новую зямлю» — шкодныя. Мая цікавасць узрасла. Чаму гэта так? — пытаўся я сам у сябе. Значыцца, у іх ёсць нешта добрае,— думаў я. Можа, гэта было ўсё і наіўна, але гэта так. Я стараўся дастаць гэтыя творы і прачытаць іх. Цікава было ведаць, у чым заключалася іх шкоднасць, якім спосабам Зарэцкі змог дасягнуць таго, што рэдактары перад надрукаваннем не заўважылі гэтай шкоднасці. Помню, чытаючы «Падарожжа на новую зямлю», я быў здзіўлены тым, што нічога не знайшоў забароненага. У гэтай кнізе ішла гутарка аб тым, як аўтар і народны камісар земляробства Беларусі Прышчэпаў



наведалі некалькі беларускіх хутароў, арганізаваных па ініцыятыве камісара. Сяляне гэтых хутароў, па словах аўтара, жылі добра, заможна, захоўвалі звычаі сваіх продкаў. Што ж дрэннага ў гэтым? Дзіўна! Можа, не зусім пасаваў раздзел кнігі «Вечар, поўны лірыкі і летуценняў», бо і сапраўды тут лірыкі даволі. Але, здаецца, і тут шкоднага нічога няма. Толькі пазней я даведаўся, што «Зарэцкі ідэалізаваў сталыпінскую ідэю землеўпарадкавання». Ах, вось у чым справа!

Усе вучні сямігадовай школы прачыталі гэтую кнігу, нягледзячы на тое, што яна была забаронена. Попыт на яе ў сілу гэтага павялічыўся. Водгукі аб кнізе былі самыя найлепшыя — яна адпавядала ўсведамленню чытачоў, паходзячых у большасці з сялянства. Я знаходзіў у ёй тое, чаго пазбавілася ўжо ў той час сялянства. Гэта былі гады калектывізацыі сельскай гаспадаркі, гады наступу на так званыя дробнабуржуазныя элементы вёскі. Сяляне засталіся без уласнасці — усё было абагулена. Кніга Зарэцкага падагравала якраз пачуцці ўласнасці, напамінала селяніну-калгасніку аб яго мінулым, поўным, здаецца, невыказнай радасці і замілавання. Чытаючы гэтую кнігу, мімавольна аддаешся рамантыцы зусім яшчэ нядаўна кануўшага ў нябыт жыцця.

Так уздзейнічаў Зарэцкі на маладое пакаленне. Ён не даваў забыць таго, што ў нас вытручвалася рознымі метадамі выхавання, узгадоўваў лепшыя якасці душы.

Другі «шкодны» твор Зарэцкага «Голы звер» меў таксама не меншую папулярнасць сярод моладзі. Крытыкі параўноўвалі яго з «Красным деревом» расейскага пісьменніка Пільняка, называлі Зарэцкага апалагетам кулацтва і мяшчанства. Моладзь, нават і камсамольцы, шукалі гэтую забаро-

неную кнігу, каб прачытаць яе. Начамі сядзелі над ёй. Абменьваліся думкамі і знаходзілі, што кніга сапраўды цікавая, захапляючая — узяўшыся чытаць, ніколі не кінеш. Асабліва падабаўся герой кнігі Яроцкі — гэты спакуснік і беларускі Мефістофель.

Пазней «Голы звер» мне напамінаў «Запіскі курносага Мефістофеля» Віннічэнкі. Бывала, знаходзячыся ў школьнай бібліятэцы, толькі і чуеш: «Голы звер» Зарэцкага ёсць? Дайце мне «Голага звера». Калі гэтыя кніжкі знаходзіліся ў шафе забароненых твораў, вучні іх кралі адтуль і чыталі. Ніякія меры перасцярогі не памагалі.

Толькі зборнік Міхася Зарэцкага «У віры жыцця» не папаў у спіс забароненай літаратуры. Кніга гэта не выходзіла з рук — лісты яе, як кажуць, зусім былі зачытаны. Другія яго творы, як «Ракавыя жаронцы», «На чыгунцы», раман «Сцежкі-дарожкі» таксама мелі яшчэ «хождение». Міхась Зарэцкі меў вялікі лік чытачоў. Яго чыталі ахвотней, чым каго-небудзь іншага з беларускіх празаікаў.

У мяне асабіста засталося вялікае ўражанне ад Зарэцкага. Яно і па сягонняшні дзень жыве ў маёй душы. Чытаючы яго, я мог забыцца аб шэрай штодзённасці, жыць тым, чаго не было зараз у наяўнасці, але што было калісьці, раней. У гэтым, мне здаецца, сіла таленту Зарэцкага, у гэтым яго творчая асаблівасць. Яго пагляд на мінулае сцвярджаў яго непрыязнь да сучаснага. Сам аўтар мне ўяўляўся вельмі прыгожым, далікатным чалавекам, з чыстай душой і вачыма анёла. Я думаў, што брудная рэчаіснасць яго заўсёды можа зламаць, заставіць замоўкнуць. Але нічога падобнага! Гэтай бруднай рэчаіснасцю ён і не жыў. Чым яна была брудней, тым чысцейшай была яго душа ў пошуках



прыгожага па-за зямным светам. Зарэцкі быў рамантыкам.

Жывучы ў Менску, я часта мог бачыць Зарэцкага. Калі я пабачыў яго ўпершыню, я пазнаў у ім таго самага чалавека, якога ведаў ці ўяўляў раней. Так, гэта той самы чалавек. Адно толькі мяне здзівіла — увайшоўшы ў Доме пісьменніка ў кабінет пачынаючага аўтара, я застаў яго голячым сабе бараду перад кавалкам разбітага, калісьці вялікага люстра. Мой уваход ніколькі яго не патрывожыў.

У гэты час ён друкаваў у «Полымі» свой раман «Крывічы», які потым, калі Зарэцкі захацеў выдаць яго асобнай кніжкай, быў канфіскаваны. Свету гэты раман, можна лічыць, не пабачыў. Ён толькі больш умацаваў погляд на Зарэцкага як на чужароднага савецкай уладзе пісьменніка.

Некалькі пазней Міхась Зарэцкі напісаў новы раман «Вязьмо», даўшы магчымасць глядзець уладам на аўтара некалькі прыхільна. Акрамя гэтага, Зарэцкі напісаў у гэты час некалькі п'ес, адна з якіх мела быць пастаўленай Беларускім дзяржаўным тэатрам у Менску. Усюды красаваліся афішы прэм'еры. Але якраз у гэты час, у 1936 годзе Зарэцкага арыштавалі і зрабілі адным з правадыроў нацдэмаўскай арганізацыі, існаваўшай як быццам на тэрыторыі Беларусі. Арышт Зарэцкага быў немалой падзеяй часу. Мне здавалася, што цень Зарэцкага вечарамі блукае ў пакоях фабрыкі-кухні ў горадзе Менску, дзе ён часта перад арыштам куціў, чуючы, напэўна, сваю пагібель.

І ў НКУС Зарэцкага чыталі. Самі следчыя, маючы ў сябе ўсе творы, пакланяліся таленту іх аўтара, называлі яго «увлекательным белорусским романистом». Але гэта ніколькі не перашкаджала мучыць яго на допытах, дамагацца ў яго таго, чаго ён і не сніў.

Міхаць Зарэцкі быў «бяльмом на воку» ў пагромшчыкаў беларускай культуры. Каб пазбыцца яго, прыйшлі славутыя і з вялікім вопытам хірургі з Камісарыята ўнутраных спраў. Для нас толькі добра не вядома, чым скончылася гэтая аперацыя. Але, напэўна, яна была смяротнай.

## *ЯЗЭП ПУШЧА*

У школьнай бібліятэцы на стале ляжала маленькая кніжачка «Дні вясны». Ярка-зялёны колер яе кідаўся ў вочы. Зацікавіўшыся ёю, я звярнуўся да старога бібліятэкара:

— Дайце мне, калі ласка, «Дні вясны».

— Вы іх і без гэтага маеце,— сур'ёзна адказаў бібліятэкар, указваючы гэтай заўвагай на маю маладосць.

— Не, вы мне дайце «Дні вясны» Язэпа Пушчы.

— Ну, гэта справа іншая,— усміхнуўся стары і даў мне ў рукі «Дні вясны».

Па дарозе дахаты, не звяртаючы нінавошта ўвагі, я чытаў першы верш гэтай кніжкі:

Зялёны шум лясны
Змятае сум з кустоў.
Праходжу дні вясны
Пад воплескі лістоў...

Прачытаўшы гэтыя радкі, я вольна і глыбока ўздыхнуў. Мне стала нейк лягчэй ісці — так, як быццам я ішоў пад музыку. Я падняў вышэй галаву і ўбачыў вакол сябе ў пышным росквіце вясну: чарэшні цвілі белым цветам, зелянела на сонцы маладая трава.

Праходжу дні вясны
Пад воплескі лістоў,—



дэкламаваў я сам сабе. Мінуўшы хату, я пайшоў далей, у поле: мне хацелася не заглушыць чым-небудзь выпадковым свой прыемны настрой. У полі я нікога не сустрэну, у полі — дні вясны.

Чытаючы Пушчу і бадзяючыся па лугах, я не заўважыў, як сонца апынулася на захадзе. Гэтая непрыемнасць прымусіла мяне вярнуцца дахаты.

Каля варот бацька распрагаў каня, толькі што прыехаўшы з поля. Ён быў запрацаваны і злосны на мяне за мой святочны і, можа быць, гультайскі настрой.

— Накормяць цябе гэтыя кнігі,— буркнуў ён, убачыўшы ў мяне кніжку. Увечары, калі маці запаліла печ, бацька спаліў мае «Дні вясны», бачачы ў гэтым корань зла.

На другі дзень я ўзяў у бібліятэцы другі зборнік вершаў Язэпа Пушчы «Песні на руінах». Я не мог устрымацца, каб не чытаць прыемныя мне вершы. На гэты раз на стале зборнік не трымаў — ён заўсёды быў у мяне ў кішэні.

Аднаго разу бацька, будучы ў добрым гуморы, спытаў у мяне, якую ён спаліў кніжку (ён быў непісьменны). Я адказаў:

— «Дні вясны» беларускага паэта Язэпа Пушчы.

— Сваволькік ты,— крыху падумаўшы, з журбою сказаў бацька і глыбока зірнуў мне ў вочы.— Глядзі, каб так не згарэлі і твае дні вясны.

Праз нейкі час бібліятэкар, сустрэўшыся са мною, загадаў мне вярнуць кнігі Пушчы. На маё пытанне, чаму — ён адказаў, што ўсе творы Язэпа Пушчы забаронены, лічацца контррэвалюцыйнымі. Кнігу «Песні на руінах» я ў бібліятэку не здаў, а ўкраў там яшчэ адну. З гэтага часу Пушча зрабіўся для мяне, як кажуць, уладаром маёй душы.

Першае маё знаёмства з ім пакінула ўва мне

глыбокі след. Дрэнна было толькі тое, што немагчыма было знайсці ў правінцыі ўсе яго творы. Гэтаму спрыяла яшчэ забарона, якая была накладзена на кнігі паэта.

У Менску, куды я прыехаў з вялікімі надзеямі на будучае і агнём у сэрцы, Пушчы ўжо не было — ён быў высланы ў Сібір. Мне не прыйшлося бачыць гэтага чалавека. Ён назаўсёды застаўся для мяне нейкай загадкай. І зараз, калі я ўспамінаю аб ім, яго постаць мільгае перад маімі вачыма зусім блізка і ў той жа час далёка. Яе бачу я часам выразна, а часам цьмяна, але недзе, у імгле, яна заўсёды жыве для мяне.

У студэнтаў да творчасці Язэпа Пушчы заўсёды праяўлялася вялікая цікавасць, асабліва ў студэнтаў літаратурных факультэтаў. У бібліятэцы Менскага педагагічнага інстытута Пушча быў увесь, але пад забаронай. Бібліятэкарка, культурная жанчына, што ведала асабіста амаль усіх расейскіх сімвалістаў, вельмі высока цаніла паэзію Пушчы і часта з архіва давала чытаць яго знаёмым і больш надзейным студэнтам. У такім выпадку яна, разгарнуўшы зборнік «Песні на руінах», чытала заўсёды адзін і той жа верш, які канчаўся такім радком: «Да таго ён дзікі, да таго ён прыкры»,— і артыстычна жмурыла вочы. Здавалася, што яна да яснасці ўяўляла пругана, які з дзікім крыкам лётаў над касцямі ў пустыні.

Асаблівы інтарэс быў у студэнтаў да часопіса «Узвышша», дзе былі змешчаны апошнія творы Язэпа Пушчы: «Лісты да сабакі», «Снежаньская свежасць». Гэты часопіс хутчэй можна было знайсці дзе-небудзь у маленькай, закінутай бібліятэчцы горада. Знайшоўшы камплект часопіса ў адной з такіх бібліятэк, я праседжваў над ім дні і ночы, вывучаючы яшчэ нядаўна мінулае жыццё. Мне цікава



было, апрача ўсяго іншага, праверыць на творах Пушчы тую крытыку, якая была аб іх у той час.

Жыццё, суровасць і закон,
З табой ніяк я не паладжу —
Душа не хоча быць званком
Твайго і рогату і плачу,—

пісаў Язэп Пушча, адчуваючы свой разлад з рэчаіснасцю, якая яго прыгнятала і якая ставілася да яго з няўмольнай жорсткасцю,— прыходзіў у разлад з «савецкім рэалізмам».

У святле гэтага зусім зразумелае пытанне паэта:

Хто ты, паэзія мая,
На тле зруйнаваных святынь?

Або:

Дружбакоў, таварышаў не маю,
Я сёння ўсім чужы.

Не маючы з кім гутарыць, Язэп Пушча ідзе на «пляц народны» з надзеяй знайсці там блізкіх людзей, якія б яго зразумелі:

Пабягу на пляц народны
І душу сваю раздам.

Толькі ж і на пляцы пануе цішыня, якую ахоўваюць «сталінскія сокалы».

На пляцы ж маўкліва, ціха—
Падманіў я сам сябе...
...Ах, дарэмна я паверыў,
Што так сёння можна жыць.

Язэпу Пушчу больш нічога не заставалася, як толькі звярнуцца да сабакі — жывёлы, якая яго, можа, лепш зразумее і якая можа адна толькі не здрадзіць:

Ну, хадзем, хадзем, мой мілы,
Разам костку абгрызем.

Крытыкі ж, спрытнейшыя за сабаку, папярэджвалі: не, не атрымаеш нават і косткі.

І крыж усё той жа самы,
Нават з тым жа і Хрыстом.
Не спяваюць толькі псалмаў
І заветную сутонь.

І не заспяваюць,— дадавалі вышэйпамянёныя барзапісцы.

Аб «днях вясны» Пушча цяпер не спявае. Яны мінулі назаўсёды. Хараство палёў, аб якім ён пісаў, пракопчана дымам трактара:

Пад гэты звар'яваны выкрык
Ліняе палёў хараство...

Пры арышце ў мяне агенты НКУС забралі «Крывавы плакат», «Песні на руінах» Пушчы і «Матчын дар» Гаруна. Гэтыя кнігі былі далучаны да маёй справы ў якасці абвінаваўчага матэрыялу, у якасці «вещественного доказательства». На допытах мяне абвінавачвалі за тое, што я чытаю і распаўсюджваю гэтыя творы. Яны стараліся адабраць «Матчын дар», абакрасці душу і сэрца.

У турме я сустрэўся з А. І. Цвікевічам, які быў прывезены з Сібіры, дзе ён бачыўся з Язэпам Пушчай. Цвікевіч расказаў мне аб цяжкім жыцці паэта ў далёкім выгнанні. Паэт і на чужыне заставаўся верным сваёй Бацькаўшчыне, яго сэрца насіла (а можа, яшчэ і носіць) сум па ёй:

Ах, не муч мяне гэтак, чужына,
Гатоў воўчым яхам завыць.



## СЭРЦА ПАЭТА

Сэрца паэта... Чытач, мусіць, чакае нечага рамантычнага, прыгодніцкага, незвычайнага і ўзнёслага. Чытач хоча адпачыць і забыцца, паляцець на крыллях фантазіі ад звыклага, штодзённага і пажыць у свеце мар, пачуццяў і хваляванняў. Так, я Вас разумею. Вы не памыліліся. Сэрца паэта абяцае многа. Для яго нічога не каштуе перанесціся ў іншы свет, калі зямля, на якой жыве, робіцца нязноснай, калі стан рэчаў не адпавядае яго паняццям, прыходзіць у разлад з яго «я», прымушае пагадзіцца або замоўкнуць. Апошняе раўназначна смерці, і сапраўдны паэт, каб пазбавіцца яе, пачынае будаваць незямное жыццё. І гора яму!

Беларускі паэт Уладзімір Хадыка апынуўся прыблізна у такім становішчы. Як сапраўдны мастак слова, ён не мог крывіць душой. Ён нічога не мог хаваць ад людзей: не спадабаецца — значыць не спадабаецца, усім адразу кідалася ў вочы яго непрыязнь або спагада і захапленне. Аб выніках сваіх паводзін ён ніколі не турбаваўся — ніякага разліку, ніякае праекцыі на асабістае будучае. Будзь што будзе — праўда даражэй за ўсё.

Гэта тупыя і халодна разважлівыя людзі заўсёды імкнуцца не аступіцца, патрапіць у тон аднагалосага хору, каб забяспечыць сабе сытае і спакойнае жыццё, каб унікнуць супярэчнасці з вышэйстаячымі, маючымі ўладу. Яны лічаць сябе задаволенымі, калі гэтага дасягаюць. На шляху да гэтага яны ні з чым не лічацца, шчырасць іх можа зраўняцца хіба толькі з шчырасцю падхалюдзіных. Яны дзівяцца людзям другога складу, у іх уяўленні яны — вар'яты, людзі, якія не ўмеюць жыць і не хочуць. Гонар? Гэта — глупства! З ім далёка не заедзеш...

З ім будзеш сядзець без хлеба і солі, жонка заўсёды будзе лаяць, а дзеці — галадаць, горш таго — пападзеш яшчэ ў бяду. Слава? Таксама — глупства! Што мне да таго, як будуць пра мяне думаць нашчадкі? Напляваць... Галоўнае — добра пражыць на зямлі! А там... хоць і трава не расці! Формулай іх жыцця зрабілася: «плюй на ўсё — шануй здароўе!». І жывуць сабе такія людчыкі бяспечна і лагодна, жывуць за кошт адвагі і «вар'яцтва» другіх, за кошт іх парываў, грэючыся на іх перагарэлым попеле, карыстаючыся іх «культурным угнаеннем». Улады да такіх адносяцца прыхільна. Затое яны вельмі «любяць» другіх, яны ўстанаўліваюць над імі такую апеку, у выніку якой яны гінуць.

Савецкая ўлада ў Менску ўстанавіла такую апеку над паэтам Уладзімірам Хадыкам, гэтым беларускім Пастарнакам, як неафіцыйна і зайздросцячы называлі яго літаратары.

Стройны і прыгожы, з русай прычоскай, маўклівы і задумлівы, ён рабіў на мяне вялікае ўражанне. Ведаючы паэта па яго творах і не ведаючы асабіста, я лічыў яго недаступным для сябе. Ён быў для мяне ідэалам. Гледзячы на яго, мне прыпаміналіся словы з яго верша:

І ў сэрцы тога не зглушыць,
што перасніў я, перадумаў...

У кулуарах гаварылі, што гэта найлепшы паэт, а ў крытыцы і на літаратурных сходах называлі песімістам, неграмадскім чалавекам, які не знайшоў з пралетарыятам супольнай дарогі, не змог пазбавіцца інтэлігенцкай абмежаванасці і замкнёнасці. У друку аб ім гаварылася толькі тады многа, калі трэба было палаяць. У такім выпадку ўсе імкнуліся яго «перабудаваць». На агульных сходах пісьменнікаў пачэсныя крытыкі накідваліся на яго, як сабакі, ад якіх цяжка адчапіцца.

Паэт марыў аб лепшым жыцці і зусім не думаў ці мала думаў аб тым, што існуе партыя і Сталін. Ён стварыў уласны свет вобразаў, у якім яму было добра і ўтульна. Чакай жа, мы цябе выжанем на панадворак, разбурым тваю салаўіную клетку, каб ты больш у ёй не сядзеў. Мы цябе перабудуем так, што ты ніколі больш не ўздумаеш адбудоўвацца. У адказ на гэта паэт пісаў, іранізуючы:

Я разабраў свой дом стары,
я папаліў гнілыя сцены...

Чаго ж вы да мяне чапляецеся? Але гэта не выратоўвала становішча. Апошні зборнік вершаў паэта «Радасны будзень» крытыкай адзначаны быў таксама адмоўна.

Над Хадыкам быў пастаўлены крыж. У канцы 1936-га ці ў пачатку 1937 года (добра не памятаю) Уладзімір Хадыка быў арыштаваны і засуджаны на дзесяць год пазбаўлення волі.

У канцэнтрацыйным Іванаўскім лагеры, Новасібірскае акругі я разам з ім прабыў зіму 1937—1938 гадоў. Духам Хадыка быў нязломны. Трэба было толькі дзівіцца яго самаўпэўненасці і самаахвярнасці. Нягледзячы на страшэнныя ўмовы, Хадыка шмат пісаў. Некаторыя ж вершы гінулі пасля таго, як яны былі каму-небудзь прачытаныя. Хадыка мужна пераносіў усе цяжкасці лагернага быту. Толькі часамі ў яго вырываліся словы: «Трэба хутчэй прыдумаць які-небудзь канец». Цяжка было зразумець гэтыя яго словы.

На чыгунцы паўз Байкал Хадыка знайшоў сабе канец. Вялізная глыба скалы, адарваўшыся, прыдавіла працуючага на катарзе паэта. Яшчэ аднаго адданага сына страціла Беларусь.

Горш за ўсё сядзець у вялікай камеры — людзей хоць адбаўляй, гарачыня, няма дзе ні легчы, ні добра сесці. Каб прайсці да парашы, трэба кожнага прасіць падняцца, некалькі разоў каму-небудзь наступіць на нагу ці руку, перанесці на сабе за гэта моцную лаянку або атрымаць «па храпе». У такой камеры няма ні ладу, ні парадку. Зняволеныя заўсёды сварацца, абражаюць адзін аднаго, а ў часе раздачы супу ці хлеба даходзіць да боек. Хто б вы ні былі: акадэмік, прафесар, пісьменнік, народны камісар, рабочы, калгаснік — нішто не прымаецца пад увагу, нішто не можа застрахаваць вас ад абразы самага ніжэйшага гатунку з боку сваіх жа братоў. У дадзеным выпадку дзейнічаў закон барацьбы за існаванне. У гэтай барацьбе пераможцамі былі, зразумела, найбольш моцныя — тыя, хто меў нахабнасць, спрыт, вялікі кулак і вялікае горла. Звярыныя інстынкты гэтых людзей маглі прывесці ў жахлівы стан старонняга назіральніка.

Крыху лепш існаваць у невялікай камеры. Людзей тут менш, а значыцца, лягчэй дайсці да згоды. Таму зусім натуральна імкненне кожнага зняволенага трапіць з вялікай камеры ў малую.

Знаходзячыся ў вялікай камеры, дзе было больш як дзвесце чалавек, я чакаў таго часу, калі яе расфарміруюць. Гэтага патрабаваў рамонт вокан. Большай за гэтую камеру ў турме не было наогул. Значыцца, у якую б ні прызначылі,— будзе вальней. Гэта — па-першае, па-другое, абрыдлі людзі, з якімі жывеш доўгі час, нічога цікавага ў іх не знаходзіш, з кожным з іх усё перагаворана, кожнага з іх ведаеш, як самога сябе, і таму зацікаўленасць да іх праяўляецца пастолькі, паколькі яны існуюць.

Аднойчы адчыняюцца дзверы і ўваходзіць начальства са спісамі ў руках. Вычытваюць, каго ў якую камеру накіраваць. Кожны зняволены напружана чакае, калі вычытаюць яго прозвішча.

— Сеўрук — у 29-ю камеру.

— Сяднёў — у 94-ю...

Праз некаторы час падводзяць нас, пяць чалавек, да дзвярэй 94-й камеры. Затаіўшы дыханне, чакаем, пакуль дзяжурны адчыніць гэтыя дзверы. Хто тут? Можа, ёсць знаёмыя? Свабодная? — паўставалі ў галаве адно за адным такія і ім падобныя пытанні.

— Слухайце! Каго буду выклікаць, адзывайцеся! — адчыніўшы дзверы, сказаў дзяжурны.

Мы насцярожыліся.

— Сяднёў!

— Я!

Сказаўшы гэта, я ўвайшоў у камеру № 94. Не паспеў зрабіць і трох крокаў, як да мяне знекуль падышоў чалавек, амаль высокага росту, крыху згорблены, у сінім, накшталт жаночага, каптане і ў пенснэ. Узіраючыся ў мяне сваімі выразнымі вачыма, падаючы мне сваю руку, ён сказаў:

— Цвікевіч Аляксандр Іванавіч.

Я збянтэжыўся — я ніяк не чакаў спаткацца тут з Цвікевічам, якога ніколі не бачыў, але аб якім чуў і якога чытаў, навучаючыся ў інстытуце.

— Мне пра вас расказвалі,— пачаў Аляксандр Іванавіч.— Хадзеце да майго ложка, я вельмі рады, што маю з кім гутарыць, вы, напэўна, многа чаго ведаеце, мне цяпер з вамі не будзе сумна.

— Дзякую вам, Аляксандр Іванавіч.

Аляксандр Іванавіч дапамог мне атрымаць ложак побач — зняволены, які быў суседам Аляксан-

дра Іванавіча, без спрэчкі ўступіў мне сваё месца. Неяк адразу мы шчыра разгаварыліся. Нягледзячы на тое, што я мог бы быць яго сынам, ён адносіўся да мяне, як да зусім сталага чалавека, сачыў за маім кожным словам і, здавалася, вывучаў мяне. З першых слоў я пачуў да яго сімпатыю і прыхільнасць. У нашых адносінах не было таго, што часта стрымлівае людзей ад вызначэння сваіх сапраўдных думак. Нягледзячы, паўтараю, на розніцу ўзростаў, нас звязвала нешта агульнае, чаго нельга сказаць аб арыштантах наогул. Калі я сказаў Аляксандру Іванавічу, што арыштавана многа беларускае моладзі за нацыяналізм, што лепшыя беларускія паэты і пісьменнікі знаходзяцца таксама за кратамі, ён раптам неяк ажывіўся, вочы яго засвяціліся неспакойным агнём, а твар, заўсёды строгі, расплыўся ва ўсмешцы.

— Ага! Яшчэ, значыцца, Беларусь жыве... Гэта якраз сцвярджае мае перакананні.

Пасля маіх кароткіх заўваг Аляксандр Іванавіч расказаў аб сабе.

— Я прывезены сюды з-пад Краснаўфімска, куды я быў высланы ў 1931 годзе як нацдэм, як адзін з удзельнікаў БНР (Беларускае Народнае Рады), як чалавек, які змагаўся за незалежнасць Беларусі. Пераганяючы з месца на месца на працягу шасці гадоў, НКУС такім чынам не даваў мне нідзе пусціць карэнняў. Больш за ўсё ад гэтага пакутавала мая сям'я. Маё жыццё, як высланага, складвалася выключна з выпадковасцей. Хлеб зведаць прыйшлося ўсялякі. У высылцы калі-нікалі прыходзілася бачыць Аркадзя Смоліча, Язэпа Пушчу. У 1937 годзе мяне паклікалі, як і заўсёды, у НКУС. Адчуваючы нешта нядобрае, я развітаўся з жонкай, дзецьмі і ўзяў чамусьці некалькі шакаладных цукерак (Аляксандр Іванавіч запусціў пад падушку руку і



паказаў мне адну з іх, і слёзы паказаліся на яго вачах). З НКУС мяне дахаты не адпусцілі. Праз тры дні я быў накіраваны сюды, у Менск.

Аляксандр Іванавіч скончыў.

— Прабачце, а скуль вы паходзіце? — зацікавіўся я.

— О, гэта вялікая гісторыя. Скажу зараз коротка: дзяцінства правёў у Брэст-Літоўшчыне, тут скончыў гімназію, потым у Санкт-Пецярбургу скончыў універсітэт.

З гэтага часу ў мяне пачалася вялікая дружба з Аляксандрам Іванавічам. Ён быў для мяне бацькам ува ўсіх адносінах. Яго мужнасць падтрымлівала мяне ў час майго падзення. У такім выпадку ён гаварыў:

— Усё добра. Дрэнна толькі тое, што беларусы не маюць зубоў, не маюць моцнага кулака. У нашай душы шмат пачуцця, толькі не навучыліся біцца за сваё.

На допыты Аляксандра Іванавіча выклікалі рэдка. Усё чагосьці чакалі. Сам ён гаварыў, што гэта зацішша перад бураю. У той час следчыя білі на допытах арыштаваных, але Аляксандра Іванавіча пакуль што не чапалі.

Помню, прыйшоўшы ўначы з допыту, Аляксандр Іванавіч моўчкі сядзеў на сваім ложку і думаў.

— Аб чым думаеце, Аляксандр Іванавіч? — асцярожна спытаўся я.

— Будуць біць... Я думаю, як усё гэта вытрымаць. Прывезлі з Чэхаславаччыны савецкага торгпрэда Ульянава. Відаць, хочуць зрабіць вялікі судовы працэс. Калі раней у 1930 годзе мне гаварылі ў НКУС, што, «пабачыце, на вуліцах Менску вы не пачуеце другой мовы, акрамя беларускай», дык сягоння мне даюць зразумець зусім адваротнае. Ну, нічога!

17. Зак. 5347.

Тры месяцы мы жылі разам з Аляксандрам Іванавічам, тры месяцы дзялілі гора і радасць. У дзень яго імянінаў мы з'елі яго адзіную цукерку, адзначыўшы гэтым самым дату яго нараджэння.

Хутка мяне паклікалі на суд, і я развітаўся з Аляксандрам Іванавічам. Гэтае развітанне назаўсёды застанецца ў маёй памяці. Пазней я больш нічога не чуў аб Аляксандру Іванавічу.

## *ТОДАР КЛЯШТОРНЫ*

Няма, здаецца, у беларускай літаратуры больш трагічнае асобы, чым Тодар Кляшторны. Ён прыйшоў у беларускую паэзію з асаблівасцямі, якія не маглі атрымаць свайго поўнага развіцця. Тыя надзеі, якімі жыў паэт, не спраўдзіліся. Жыццё вымагала ад яго таго, чаго ён не мог даць. Кляшторны прыйшоў у супярэчнасць з «сацыялістычным рэалізмам», якога вымагалі бальшавікі ў літаратуры. Прытрымліваючыся такога рэалізму, трэба было ісці супроць аб'ектыўнай рэчаіснасці, трэба было адважыцца ашукваць самога сябе, трэба было проста ілгаць, чаго шчыра і сапраўды паэт не хацеў.

Адгэтуль трагізм Кляшторнага як паэта і чалавека.

Ужо першы зборнік вершаў Кляшторнага гаворыць аб творчай раздвоенасці паэта. Сам назоў яго «Светацені» сведчыць аб гэтым. Потым з'яўляецца другі зборнік вершаў «Кляновыя завеі». Звонкія вершы гэтае кніжкі не затушоўваюць сапраўднага твару паэта. У «кляновых завеях» жыцця ён далей ідзе сваёй дарогай. Але паэт чуе, што яго творчасць прыходзіць у разлад з наказамі савецкае казённае



крытыкі. Таму зусім зразумела жаданне Кляшторнага «некуды пайсці», пайсці ад таго, што яму абрыдла і нецікава, пайсці абы куды — толькі б не бачыць «сонечнай радзімы», толькі б заглушыць боль па Ей.

Пайсці бы ў ноч,
пайсці далінай,
пайсці б чорт ведае куды.
Не ўсе пратоптаны пуціны,
не ўсе стаптаны гарады.

Але ж ад жорсткай сапраўднасці нікуды не дзенешся. За кожным такім ідэйным хістаннем паэта сочыць НКУС, дарма што ім на першы погляд ніхто не цікавіцца. Але ж паэт добра разумее сваё становішча, хоць ён «не ўмее ні плакаць, ні каяцца за няпэўна пастаўлены крок». Яго не надта палохае, што:

Ходзім мы пад месяцам высокім,
а яшчэ пад ГПУ...—

як трапна ахарактарызаваў ён стан рэчаў у Савецкім Саюзе. Гэтае двухрадкоўе зрабілася гістарычным афарызмам, які не сходзіў з вуснаў чытацкай публікі. Тодар Кляшторны ішоў ужо па шляху, супрацьлеглым таму, па якім ішлі так званыя савецкія паэты. Затое гэты шлях не з'яўляецца ганебным. Гэта шлях сумленнага і адданага свайму народу паэта. Гэта шлях свядомай самаахвярнасці.

У беларускай літаратуры Тодар Кляшторны лічыўся афіцыйна мяшчанскім, канарэечным, хоць і таленавітым паэтам. Чаму? Таму што ён не пісаў аб «шчаслівым і радасным жыцці» народаў СССР, аб «мудрым бацьку Сталіне». У адказ на тое, што паэта называлі «мяшчанскім, канарэечным», ён, напіўшыся за апошнія грошы, часта купляў канарэйку, заходзіў у Дом пісьменніка ў Менску, садзіўся за стол і прымушаў яе спяваць, пасля чаго,

аблакаціўшыся на стол, у такім выпадку ён заўсёды плакаў.

— Чаго ты плачаш, Тодарка? — пыталіся сябры.

— Канарэйка здохла...

Кляшторны пакуль што быў нікому не патрэбны і ўсімі занядбаны. Паэт жыў у вялікай беднасці, хадзіў вельмі дрэнна апранутым і нават галодным. Але творчай дзейнасці ён не пакідаў.

Выходзіць наступная кніга вершаў — «Ветразі». Паэт дарэмна імкнецца заплыць на ветразях у сонечную краіну.

«Нікуды не заплывеш! — думала НКУС.— Мы заўсёды ў час зловім цябе «за паруса».

І сапраўды, каб пазбавіць магчымасці плысці далей на гэтых ветразях у краіну мар і летуценняў, у 1937 годзе Тодара Кляшторнага арыштавалі слаўныя органы НКУС («І здохла ў клетцы канарэйка»... — правільна спрарочыў сабе паэт). Дарэмна ён дбаў аб тым, каб «праз шторм трапіць на штурм» (яго кніга «Праз шторм на штурм»). Савецкі шторм разбіў ушчэнт «ветразі» лірычнага паэта. Дарэмна ён заліваўся салаўіным голасам у падзямеллі НКУС — свет яго, на жаль, больш не пачуў.

## АЛЕСЬ ДУДАР

Алесь Дудар, як і многія іншыя «маладнякоўцы», з'явіўся ў беларускай паэзіі з «бунтарнымі» вершамі, з вераю ў светлае будучае, з душою «нарасхліст». Малады запал характэрны для ўсяго яго першага зборніка «Беларусь бунтарская». Як і для



многіх другіх, слова Беларусь для Алеся Дудара з'ўлялася жыватворчаю крыніцаю. Ёю прасякнута, калі можна так сказаць, амаль уся творчасць маладнякоўцаў (назва паходзіць ад часопіса «Маладняк»). Беларусь была для іх тым агеньчыкам, на які ішлі яны ўпэўненым поступам, але, трэба сказаць, на якім яны і апякліся. Юнацкая наіўнасць не магла разглядзець сапраўднага аблічча савецкай улады, якую яны ўхвалялі з усімі яе атрыбутамі. Сэрца паэта імкнулася ў «мяцежную даль», светлую і радасную.

Хто прайшоў — галаву павесіў,
Міліёны пудоў у гадах.
Ну, а я — малады, мне весела
Разагнацца ў мяцежную даль.

Аднак хутка гэтая наіўнасць праходзіць, і паэт пачынае глядзець на свет цвярозымі вачыма. Алесь Дудар больш не рвецца ў «мяцежную даль». Гэтая «мяцежная даль» зацьмілася і нічога не гаварыла яго сэрцу. Тое, што было для яго «і залацістым і сталёвым (зборнік вершаў «І залацісцей і сталёвей»), аказалася фальшывым, фікцыяй.

Былі гады калектывізацыі сельскай гаспадаркі, былі гады разбурэння вёскі. Алесь Дудар, паходзячы з сялянскай сям'і, адчуў боль за гэтае знішчэнне, як быццам бы раны былі прычынены на яго целе. У выніку — Алесь Дудар піша антыбальшавіцкую паэму «Пасеклі наш край», якая распаўсюджвалася ў рукапісах без подпісу аўтара. Але хутка НКУС гэтую справу разнюхаў. Паэт быў высланы за межы Беларусі на тры гады. У параўнанні з тымі рэпрэсіямі, на якія здольны НКУС, гэта кара была зусім яшчэ невялікай. Пасля праз тры гады паэт вяртаецца на Беларусь. У гэты час Алесь Дудар працуе над перакладамі класікаў сусветнай літаратуры на беларускую мову. Ён пераклаў «Яўген

Анегін» Пушкіна, «Фаўст» Гётэ, «Вільгельм Тэль» Шылера, Бамаршэ і г. д. У гэтым вялікая заслуга нашага паэта.

Нягледзячы, здавалася б, на такую «апалітычную» працу Алеся Дудара, яго ў 1937 годзе арыштоўвае НКУС, робіць адным з кіраўнікоў нацдэмаўскай арганізацыі ў Менску.

Так абарвалася дзейнасць аднаго з культурнейшых беларускіх паэтаў.

Засценкі менскай унутранай турмы хаваюць таямніцу аб лёсе Алеся Дудара.

# БЕЛАСТОЦКІ СШЫТАК

## *МАЯ ПЕРШАЯ ПРАПІСКА НА ЗАХАДЗЕ*

### 1

Пасля Любліна, Роўны, Брэста наш транспарт спыніўся ў Беластоку на таварнай. Сказалі, будзе стаяць чатыры гадзіны. У мяне ў руках адрас Беларускага аб'яднання ў Беластоку. Я хачу пайсці ў горад, знайсці тое аб'яднанне, але мяне не пушчае канваір. Я бяру тады, як і жанчыны з нашага транспарту, вядро — быццам іду да калонкі па ваду,— але канваір крычыць на мяне: «Zurück!» Жанчын пушчае, а мяне — не. Ды змяняецца канваір. Бяру зноў вядро — іду па ваду, і канваір гэтым разам нічога не гаворыць — пушчае. Як мага спяшаюся ў горад: цягнік можа пайсці хоць калі, а ў мяне ж на ім бацька і сястра, і я магу разлучыцца з імі.

Насустрач нейкі пан. Пытаюся ў яго, дзе такая і такая вуліца. Той адказвае мне — няма такой вуліцы ў Беластоку. Паказваю яму адрас, назву арганізацыі, а ён па-польску: «To było, a teraz nie ma». У роспачы бягу далей. Пытаюся ў чалавека ў зашмальцаванай у мазут куртцы. Той скіроўвае мяне па адрасу. Яшчэ колькі разоў пытаюся ў сустрэчных. Нарэшце я каля мураванага пабеленага двухпавярховага будынка (дальбог, не памятаю ўжо, якая гэта вуліца). Заходжу ў браму на двор. Бачу старога чалавека — вартаўніка. Той кажа мне, няма цяпер нікога «ў кумітэці». Кажа, *яны* пайшлі на абед. Ашаломлены няўдачай, пытаюся, дзе *яны*



жывуць, на якой вуліцы? Кажа, не ведаю. Глядзіць на мяне падазрона. Потым: «Старшыня вунь там...» (паказвае мне рукой на ліпы, што ўзняліся недалёка над дамамі), але вуліцы не называе, дзе жыве той «старшыня». Неверагодна, але я бягу на тыя ліпы. Бачу — ідуць насустрач мне два панкі ў капелюшах і размаўляюць, як здалося мне, па-беларуску. У мяне не хапіла адвагі супыніць іх: я не ўпэўнены быў яшчэ, што яны гавораць па-беларуску. Не зачапіўшы іх, прайшоў паўз іх. Але, апынуўшыся ззаду іх, каб пераканацца, што яны гавораць не на якой іншай мове, а па-беларуску, я забег ім наперад і, пачуўшы, што яны гавораць панашаму, прывітаўся з імі — гэта былі паэт Хведар Ільяшэвіч, старшыня аб'яднання, і Тамашчык, ягоны заступнік. Я бясконца быў рады гэтай сустрэчы. Зразумела, я тут жа сказаў, хто я і што са мною. Ільяшэвіч, ухапіўшыся за мяне, узбуджаны, пацягнуў мяне ў будынак Беларускага аб'яднання. Другі ж джэнтльмен не выявіў асаблівых эмоцый. І гэтак — мы ў камітэце. Паспешна расказваю, што я — беларускі паэт, быў асуджаны, адбываў кару на Калыме, што цяпер мяне з бацькам і сястрою вязуць у нейкі лагер, што наш транспарт стаіць у Беластоку на таварнай і што я прашу ратунку. Пан Тамашчык гаворыць Ільяшэвічу, каб я з лагера напісаў ім, і толькі адтуль яны будуць старацца мяне вызваліць і «эвентуальна» тады змогуць узяць мяне на працу ў газеце. Ільяшэвіч жа, наадварот, ухапіўся пісаць на машынцы па-нямецку зварот-просьбу да «фюрэра» транспарту, каб мяне, як цэннага чалавека, той адпусціў для працы ў газеце «Новая дарога», рэдактарам якой ён, Ільяшэвіч, з'яўляецца. З такой паперчынай і табакай, што мне напхаў Ільяшэвіч у кішэні, я стрымгалоў пабег назад на таварную ў страху, што цягнік той, можа, ужо

18. Зак. 5347.

ад'ехаў і я болей не пабачуся са сваімі пакутлівымі бацькам і сястрою. Ды цягнік, слава Богу, усё стаяў і, як выявілася, будзе стаяць усю ноч. «Урлябісты» (нямецкія салдаты, што едуць дахаты на пабыўку, ва «урляўб», на тым жа самым транспарце) сцерагуць нас і змяняюцца што дзве гадзіны. Аднаму з іх даю зварот-просьбу ад Беларускага аб'яднання ў Беластоку, каб ён яе занёс «фюрэру», што знаходзіўся недзе ў галаве цягніка. Праз некалькі хвілін «урлябіст» вяртаецца і гаворыць мне: нікс. Аддае мне назад паперку. Тым не менш, ужо ўначы, калі транспарт «заснуў», я паказваю іншаму «урлябісту» сваю неўшанаваную паперчыну. Той прачытаў яе і нічога не сказаў. Мне падалося, што яму ўсё абыякава на свеце, што мая асоба абсалютна не цікавіць яго. І я пачаў дзейнічаць — выкідваць з вагона на рампу нашыя транты. Канваір не звяртаў ніякае ўвагі на маю работу — сонны, хадзіў туды і назад. Ды тыя, што не спалі ў маім вагоне, паднялі вэрхал: ён уцякае, а нас павязуць. Як найхутчэй я за бацьку і за сястру і — пад вагоны, што шчыльна запаўнялі ўсю таварную.

Надраніцу, калі цягнік адышоў, мы вынырнулі з-пад вагонаў. Нашыя транты, за якія турбаваўся бацька, ляжалі незачэпленымі на рампе. Смутак скалынуў нашыя сэрцы — рэчы дыхнулі на нас нечым хатнім.

Бацьку і сястру я пакінуў з рэчамі на таварнай, а сам пабег ужо знаёмай мне дарогай у камітэт. Там я сказаў, што мяне не адпусцілі і што я ўцёк. Такі ход справы не спадабаўся не толькі Тамашчыку, а і Ільяшэвічу. Тамашчык турбаваўся за мяне, нелегальнага, казаў, што як уцякач афіцыйна я не магу працаваць у газеце. Абодва яны — і Тамашчык, і Ільяшэвіч — пачалі некуды званіць, і толькі па нейкім часе Ільяшэвіч загадаў вартаўніку паехаць са мной на таварную — забраць рэчы, бацьку і сястру. Па дарозе вартаўнік разгаварыўся: «Старшыня добры чалавек, толькі мае слабы характар — п'е. Не бачыць, што ўкруг яго дзеецца, і ўсе з гэтага карыстаюць. Ды ён вам паможа. Толькі дзе ён вас памесціць? Дый неспакойна ў нас».

Ды я не зважаў, што гаворыць вартаўнік.

Усклалі на калёсы наша рахубалле. Прывезлі. Скінулі на двары. Я пайшоў да Ільяшэвіча ў ягоны кабінет. Прасторны, вялікі пакой. Ён сядзіць за сталом на крэсле і, бачу — нямоцна круціцца на ім. Да яго прыходзяць, нешта пытаюцца, але, як здаецца мне, найбольш — каб глядзець на «бежанца». Аднаго са сваіх супрацоўнікаў ён просіць завесці мяне ў Магістрат афарміцца. У Магістраце мяне зарэгістравалі, выдалі польскую харчовую картку «Р» і, здаецца, яшчэ нейкі дакумент. Пасялілі нас у нейкай прыземленай хібарцы, што адзінока стаяла ў зруйнаваным квартале горада.

Гэтак вось упершыню я быў прапісаны на Захадзе. Чакаў заўтрашняга дня, шырэйшай сустрэчы з беларусамі, той працы, якую мне дадуць.

## 2

Я сяджу ў Ільяшэвіча, у ягоным кабінеце на другім паверсе. Унізе нехта грае на піяніна, і гэта перашкаджае Ільяшэвічу. Ён некаму звоніць, і музыка змаўкае. Ільяшэвіч яшчэ ні з кім мяне не знаёміў — ён спяшаецца мяне «абсмактаць», выпытаць усё, што я ведаю і чаго не ведаю: пра «нацдэмаў», пра арыштаваных беларускіх дзеячаў у Беларусі, пра паэтаў і пісьменнікаў, якіх я ведаю асабіста і з якімі сустракаўся на выгнанні, у тым ліку на Калыме. Просіць расказаць пра сябе — як мяне

арыштоўвалі, дапытвалі ў НКУС, у чым абвінавачвалі; выціскаў з мяне ўсё да найменшай драбніцы, спяшаючыся занатаваць тое, што я гавару (у ягоны артыкул у «Новай дарозе» трапіць і тое, чаго я не гаварыў). Ды, зрэшты, гэта не ягоная віна — я сам ахвотна яму паддаваўся. Я разумеў ужо і тады «страсці» журналіста.

Пасля «допыту» Хведар Ільяшэвіч павёў мяне да «інжынера Тамашчыка», і мы ўтрох спусціліся наніз, у залу. Там нейкая настаўніца вучыла танцаваць малых дзяўчынак. Зайшлі ў бухгалтэрыю — там мне выпісалі аванс з маёй будучай зарплаты карэктара (Ільяшэвіч ужо мне сказаў, што я буду працаваць карэктарам). Зайшлі ў школьны аддзел — мяне пазнаёмілі з акруговым інспектарам і метадыстам. Зайшлі ў аддзел прапаганды — у мяне запыталіся, ці я красамоўны. Нарэшце ў гаспадарчым аддзеле мне прызначылі два ложкі, стол, крэсла, матрацы — абсталяванне для маёй хаціны. Усюды мяне прадстаўлялі як паэта, вязня, і мне было ніякавата, асабліва я саромеўся свайго «гарнітура» — усюды, дзе мы былі, сядзелі маладыя жанчыны, дзяўчаты, і той «абход» для мяне быў найбольшай пакутай.

Але не меншая пакута чакала мяне ўвечары таго ж дня. Мае адбыцца ў камітэце нейкае прынящце. На яго запрошаныя госці з розных аддзелаў Беларускага аб'яднання, у тым ліку — як я пачуў — з Гайнаўкі. Гэтая назва прагучала для мяне проста нейкай прыгожай музыкай. Ільяшэвіч просіць мяне зайсці да яго на кватэру. Аказваецца, кватэра ягоная знаходзілася ў доме, насупраць якога высіліся тыя ліпы, на якія я ішоў учора ў надзеі адшукаць старшыню Беларускага аб'яднання. Ільяшэвіч пазнаёміў мяне са сваёй жонкай Надзейкай, як ён яе назваў, і дачушкай-падлеткам Марыськай. Прыняты быў я сардэчна. Мілая, па-мяшчанску інтэлігентная сям'я. Ільяшэвіч пашаптаўся з жонкай, і тая неўзабаве выносіць мне Хведараў касцюм. Кажа, адпрасую, будзе, выбачайце, добры для вас на вечар. Але я не быў гатовы прыняць яго, і гэта пакрыўдзіла гаспадыню.



На «прыняцце» я прыйшоў з хаты ў тым, у чым быў. Адчуваў сябе няпэўным сярод вялікай колькасці гасцей, што расселіся ў зале за доўгімі сталамі. Я апынуўся ў іншым, незнаёмым мне свеце: паважныя, з вусікамі, у бізнесовых гарнітурах мужчыны, па-заходняму прыгожа адзетыя ўсмешлівыя жанчыны, ярка асветленыя сталы з пітвом і ежай. Здавалася, я знаходжуся ў краіне, выключанай з вайны.

Узняўся Хведар Ільяшэвіч. Прывітаў гасцей, у тым ліку нейкага чыноўніка, немца. Адразу перайшоў на жарт. Сказаў, што акруговая нарада прадстаўнікоў з аддзелаў Беларускага аб'яднання, прысвечаная школьнаму пытанню ў Беласточчыне, закончылася паспяхова, хоць і трывала доўга, а пастановы прымаліся з немалымі цяжкасцямі. Не зашкодзіць дзеля гэтага прагаласіць тост, прагнаць смагу. За сталамі дружна падтрымалі Ільяшэвічаў тост. «Слова цяпер хоча забраць інжынер Тамашчык»,— сказаў Ільяшэвіч (падражніла маё вуха нячутае дасюль «трывала доўга», «прагаласіць», «забраць слова». Як гэта, думаў я, «забраць слова»).

Інжынер Тамашчык аказаўся надта красамоўным чалавекам — мова лілася ў яго няспынна, здавалася, быццам ён гаворыць не думаючы. У сваёй прамове ён закрануў вялікі круг пытанняў: ад месца Беларусі ў новай Еўропе да такіх пытанняў, як сяброўства ў аб'яднанні, што дасягнула, паводле ягонай статыстыкі, паўсотні тысяч, як пытанне друку, самаахвовы, нават пытанне хору пры аб'яднанні. Ён гаварыў таксама аб патрэбе большага ўдзелу бе-

ларусаў у палітычным жыцці Беласточчыны. Ягоная прамова была перасыпаная нязвычнымі, а то і незразумелымі для мяне словамі і зваротамі накшталт «высілкі», «дэцыдаваць», «эвэнтуальна», «згары можна ўжо сказаць», «залежыць на...», «штораз болей» і шмат іншымі. Псіхалагічна ён здаўся мне чужым чалавекам, не беларусам, як, зрэшты, і некаторыя іншыя прамоўцы. Зрусіфікаванаму, яны мне выдаваліся не то палякамі, не то беларусамі, нейкай іншай нацыяй. Я адчуў усю розніцу паміж Усходняй і Заходняй Беларуссю. Цяпер я ўжо сам такі: гавару і пішу на прыблізна такой жа мове, на якой гаварылі мае суродзічы-беластачане, але тады... тады, чытаючы «Новую дарогу», асабліва перадавіцы ў ёй, якія пісаў, як я потым даведаўся, інжынер Тамашчык, шмат чаго было мне ў ёй, у гэтай газеце, цьмяным, а то і незразумелым, перш за ўсё дзеля неўласцівых беларускай мове сінтаксічных зваротаў, пакуль я не абцёрся, не пазнаёміўся трохі з польскай мовай. Было б, магчыма, тое самае і з «Нівай», каб я не быў ужо перавыхаваны. Сёння мне ўжо мова «Нівы» добра лажыцца на сэрца як родная і зразумелая. Наадварот, я ўжо не мірыся з мовай былой Усходняй Беларусі. Бачыце, такая метамарфоза. Але я адхіліўся ад нашай тэмы.

Прамаўлялі старшыні розных аддзелаў Беларускага аб'яднання. Звярталі на сябе ўвагу старшыні з Бельска, Гародні, Свіслачы. Але прамовы скончыліся, пачалі налягаць на пітво і закусь, дайшло да таго градуса весялосці, калі нельга абысціся без песні. Упершыню пачуў я і сумна-цягучую «Люблю наш край, старонку гэту». Ды нечакана захацеў выступіць немец — яго назваў Тамашчык Гофманам. Ён нядрэнна валодаў расейскай мовай, але, п'яны, гаварыў нешта прыкрае, і інжынер Тамашчык перапыніў яго, штосьці ціха сказаўшы яму панямецку. Гэты Гофман сядзеў з Тамашчыкам насупраць Ільяшэвіча і ўсё пыхцеў з сваёй люлькі. Ільяшэвіч паклікаў мяне (я сядзеў за іншым сталом), усадзіў каля сябе і папрасіў, каб і я прамовіў. Ды немец, расчырванелы, злосна ўтаропіўся ў мяне сваімі чырвонымі вачыма і з бухты-барахты выпаліў: «Партызан?»

Я збянтэжыўся, прамовы не гаварыў, пагадзіўся прачытаць колькі сваіх вершаў. Пляскалі мне ахвотна, і мая ўкveленасць, спрычыненая немцам, уляглася.

З задніх дзвярэй у залу ўвайшлі два жаўнеры, гучна прывіталіся сваім «Жыве Беларусь!». Мы адказалі дружным «Жыве!».

Гэта было для мяне надзвычайнай падзеяй. Іхняе вітанне скалынула мяне да глыбіні — упершыню я пабачыў, пачуў беларускіх жаўнераў. Забягаючы наперад, скажу — хіба адсюль пачалася мая Беларусь, у гэтую часіну яна прайшла праз маё сэрца. Усвядомленая, яна не давала мне ўжо быць раўнадушным. Неверагодна, людзі, якія толькі што здаваліся мне не сваімі, умомант сталіся сваімі, зразумелымі, роднымі.

Ільяшэвіч мне сказаў, што тыя два жаўнеры — гэта беларускія хлопцы з самааховы ў Беластоку. Дадаў, што беларусы троху не апанавалі Беластокам — нейкі, хоць і кароткі час ягоным камендантам быў беларус.

### 3

Прасторны, двухпавярховы будынак Беларускага аб'яднання ў Беластоку быў, трэба сказаць, густа заселены рознымі рэфератамі. Некаторыя працаўнікі гэтых рэфератаў проста жылі тут, хоць часта вы-

язджалі па службовых справах у розныя аддзелы аб'яднання. Жылі тут і прыватныя асобы, сваякі ці знаёмыя працаўнікоў камітэта. Апрача таго, спыняліся тут часта госці. Так што жыццё не спынялася тут да позняй ночы.

Што ж тычыцца маёй сціплай асобы, дык быў я тут хутчэй нібы пабочнай асобай, хоць Ільяшэвіч усяляк стараўся зрабіць мяне складовай часткай камітэцкай супольнасці. Але быў я замкнуты ў самім сабе, пакутліва перажываў яшчэ свежыя тады трагічныя вынікі вайны, што абрынуліся і на маю сям'ю ў далёкай ужо цяпер і недаступнай мне Магілёўшчыне. Сталага месца, свайго кабінета я не меў, а пра свае «этапы» мусіў, хоць і не хацеў, пісаць у газету — вымагаў рэдактар, дый я ж не забываў, што гэта і мой абавязак. Бывала, Ільяшэвіч гаварыў: лянуешся, дык дыктуй. Ён сядаў за машынку, і я дыктаваў. Гэтак узніклі мае інфантыльныя замалёўкі пра беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, якіх я асабіста ведаў і з якімі быў разам у зняволенні. Гэта былі Язэп Пушча, Тодар Кляшторны, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Сымон Баранавых, сябра рады БНР Аляксандр Цвікевіч. Між іншым, нейкі сваяк Цвікевіча (ці не брат?), прачытаўшы мой опус у газеце, прыязджаў у Беласток, каб даведацца ад мяне, ці не ведаю я больш чаго пра Цвікевіча, чымся тое, што напісаў пра яго ў газеце.

Ільяшэвіч быў зацікаўлены мной як чалавекам, што сам падпаў пад энкэвэдаўскую чыстку «нацдэмаў», і як сведкам, што можа расказаць пра іншых ахвяр гэтых чыстак. Імпанаваў я Ільяшэвічу хіба і тым сумным фактам, што я, як і ён, паэт. Я ведаў яго як паэта яшчэ па часопісу «Калосьсе», што выдаваўся ў Заходняй Беларусі. А цяпер пазнаёміўся і з цэлым зборнікам ягоных вершаў «Зафарбаваныя



вершы», выдадзеным у Вільні за кошт ягонай сястры. Літаратурныя зацікаўленні збліжалі нас, і інжынер Тамашчык разглядаў нашу «цесную» дружбу як кааліцыю супраць яго. Асабліва не падабаўся яму мой верш «Сустрэча», прысвечаны Ільяшэвічу. Дазволю сабе працытаваць яго тут:

Мы прывіталіся ў той поўны
шчасця вечар,
я чуў, як цяплынёй гарэла
вашая рука.
Я быў расчулены
сяброўскаю сустрэчай
і некалькі падобны быў на хлапчука.

Спяшаўся гаварыць. І думак было многа,
ды неяк у пару мне словы не ішлі.
Здавалася, плыла кудысь падлога,
і нібы я стаяў зусім не на зямлі.

І сорамна было мне ў гэты час уздыму
за тое, што тады я не прамовіў вам:
— За Беларусь, маю радзіму,
за Бацькаўшчыну я жыццё аддам.

Тамашчык смяяўся: «Напіліся, дык і не дзіва, што падлога кудысь плыла».

Публіцыстыка зусім не цікавіла мяне, дый быў я няздатны на яе. Я зацікаўлены быў публікацыяй у газеце маіх вершаў, складзеных у памяці пад час майго зняволення. І яны з'яўляліся бадай ці не ў кожным нумары тыднёвай газеты. Я ўпершыню бачыў іх надрукаванымі і цешыўся невядома як: прыглядаўся да кожнага радка і, канешне, любаваўся сваім прозвішчам.

Інжынер Тамашчык сцвярджаў, што я «не службовая асоба». Але быў да мяне часамі і спагадлівым: мучыў мяне сваімі перакладамі з нямецкай мовы. Сам аграном, ён перакладаў розныя сельскагаспадарчыя брашуры на беларускую мову і адсы-

лаў іх для друку ў Кёнігсберг. Ён перакладаў кожны сказ літаральна, найбольш дакладна, не маючы змогі пераадолець сінтаксічную структуру нямецкай фразы, і лексічна брашура атрымлівалася беларускай, але па духу заставалася нямецкай. І мне трэба было выганяць гэты нямецкі дух. Чытач уяўляе, якая гэта пякельная праца. Затое быў я забяспечаны табакаю — за «карэкту» інжынер Тамашчык плаціў мне менавіта гэтым прадуктам.

Паступова я ўрастаў усё ж у камітэцкую супольнасць, рабіўся калі не складовай ейнай часткай, дык, прынамсі, і не такім ужо пабочным чалавекам.

У камітэце заўсёды тлумілася шмат прыезджых людзей, я знаёміўся з імі, людзьмі з новага для мяне свету, пазнаваў іх, нарэшце пабачыў, якія яны сімпатычныя, свае, блізкія, яны пачалі запрашаць мяне, ад кантактаў з імі я ачуньваў, душэўна дужэў. Можа, асаблівую ўвагу і чуласць я сустрэў з жаночага боку. Няма нідзе больш прыродных беларусак, як на Беласточчыне — прыгожых, дбайных, далікатных, шляхетных.

Але мо занадта ўжо я адхіліўся ад тэмы ў жаночы бок. Могуць прыпісаць мне жаночы ўхіл. Ды асобна пра іх будзе ў іншым месцы. Цяпер жа закончым нашу гутарку насельнікамі нашага дому, з якога я было і пачаў. Будынак жа, дзе месцілася кіраўніцтва Беларускага аб'яднання ў Беластоку, быў не толькі афіцыйнай установай, а ў пэўным сэнсе менавіта домам, беларускай хатай, у якой і я, бяздомны, знайшоў сабе прыстанішча. У гэтай беларускай хаце я пазнаў людзей, што сталіся мне блізкімі. Я адчуў, менавіта адчуў у іх — смешна пра гэта гаварыць — беларусаў, . а разам — Бацькаўшчыну.



## 4

Газета «Новая дарога», якую выдавала Беларускае аб'яднанне ў Беластоку, мела, я сказаў бы, нямала сваіх дапісчыкаў. Гэта былі не журналісты-прафесіяналы, а актывісты беларускага жыцця на Беласточчыне: кіраўнікі аддзелаў аб'яднання, настаўнікі, людзі, што спрабавалі сваё пяро ў мастацкай літаратуры, іншыя грамадскія дзеячы. Мела газета і сваіх замежных карэспандэнтаў. Я назваў бы «Новую дарогу» масавай газетай, стымулянтам беларускага — назавём яго так — руху на Беласточчыне падчас другой сусветнай вайны. Яна была жывой газетай, жыла на энтузіязме найбольш адданых беларускай справе людзей. Яна была беларускай газетай па сваёй сутнасці і не толькі дэкларацыйна-«прафашысцкай», як цяпер ахрышчаны ўсе беларускія газеты і часопісы, што выдаваліся пад час вайны за мяжой. Дый тая дэкларацыйнасць, думаецца, была вымушанай, была данінай часу. «Новая дарога» была, урэшце, сялянскай газетай: у ёй знаходзіў так ці інакш свой адбітак быт селяніна Беласточчыны.

Душой газеты, трэба сказаць, быў усё-такі ейны рэдактар, паэт Хведар Ільяшэвіч. Ён дбаў пра яе найбольш. Нямала і сам пісаў у яе, і як гэта часта даводзіцца рэдактару — нярэдка пісаў паспешліва, на каленку, недастаткова ўдумліва, шаблонна, што магло даходзіць і да абсурду. За гэтую паспешлівасць яму, бывала, і пападала, напрыклад, з боку берлінскай «вышэйшай» газеты «Раніца». Ільяшэвіч падпісваў свае рэчы, як М. Дальны. Яму і ўсыпаў нехта Бліжні. Гэты Бліжні надрукаваў у «Раніцы» досыць з'едлівы артыкул пад назвай «Пугай па вадзе».

М. Дальны страшна перажываў, але рук не апушчаў.

Ці быў цэнзар у «Новай дарогі»? Быў. Не хто іншы, як ужо знаёмы нам Гофман. Той прасіў чытаць яму асноўныя матэрыялы, падрыхтаваныя ў нумар. Слухаў іх. Калі што было яму незразумелае, прасіў перакласці па-нямецку. Я не ведаю, ці што-небудзь ён не пушчаў: я ніколі не хадзіў да яго чытаць яму матэрыял — хадзілі толькі тыя, хто ведаў нямецкую мову. Мяне ён усё называў «партызанам», пытаўся часамі ў тых, хто прыходзіў да яго на цэнзуру, ці скончылася ў газеце «сяднёўшчына». Я, відаць, яму назаляў сваімі бясконцымі вершамі і опусамі пра рэпрэсіраваных беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Яму нават не падабаўся мой вонкавы выгляд. Не любіў ён «беларускага патрыятызму» ў газеце, але цярпеў. А ўвогуле, тыя, хто хадзіў да яго на цэнзуру, гаварылі, што ён рэдка калі слухаў уважліва, пераважна драмаў, асабліва — калі быў выпіўшы.

Ільяшэвіч лічыў газету сваім творам і радаваўся, калі ейны тыраж узрастаў. Ён любіў назіраць доўгую чаргу па газету ў Беластоку. Любаваўся, калі бачыў, што па беларускую газету большая чарга, чымся па польскую. Цешыўся, як малое дзіця, калі бачыў, як зімой прыязджаюць на санёх сяляне купляць газету ў Беласток. А вось якім тыражом выходзіла газета, я і не ведаю. Досыць таго, што газета ў выніку павелічэння тыражу пачала нават выплачваць ганарар некаторым аўтарам.

Ладна падскочыў тыраж газеты дзякуючы сатырычным творам аднаго ананімнага аўтара — нейкага Шэршаня. Ён прыдбаў для газеты шмат дадатковых падпісчыкаў. Хто хаваўся пад псеўданімам Шэршань, Ільяшэвічу так і не ўдалося высветліць. Думаў, што, можа, Міхась Васілёк, але тут жа і адкідаў такое прыпушчэнне: не той стыль. Дарэчы, усе спробы Ільяшэвіча здабыць Міхася Васілька для працы ў газеце не мелі поспеху: Васілёк вагаўся, сімпатызаваў беларускаму абуджэнню ў Беласточчыне, але на супрацоўніцтва не ішоў. У камітэце я ўпершыню і пабачыў проста легендарнага для мяне Міхася Васілька: кожная згадка пра яго ў прэсе савецкай Беларусі выклікала ў мяне, паэта-пачаткоўца, нейкі асаблівы інтарэс да яго. Памятаю, менская «Звязда» пісала аднойчы, што Міхась Васілёк, нават ідучы за плугам, складаў вершы і, каб запісаць той ці іншы ўзніклы верш, спыняў дзеля гэтага свайго каня. Гэта страшна імпанавала мне. Я зайздросціў яму: ён усё-такі ў панскай Польшчы выдаў свой зборнік, а я ў Савецкай Беларусі не магу. Скажу мімаходам — мой следчы на допыце ўпікаў мяне за тое, быццам я хацеў уцячы ў Польшчу дзеля большых там магчымасцей друкавацца.

І вось цяпер бачу ў камітэце жывога Міхася Васілька. Ільяшэвіч гаворыць з ім, а я не зводжу вачэй з Васілька.

Ды я не забыў пра нашага загадкавага Шэршаня. Падамо тут колькі «ўзораў» ягонага творства, творства, што так упадабаў чытач «Новай дарогі». Колішні чытач газеты, што жыве цяпер у ЗША, трымае і цяпер у памяці вершы Шэршаня. Ад гэтага паклонніка таленту Шэршаня я і запісаў ягоную досыць-такі адкрытую, яхідную сатыру.

### *ТАНЕЦ*

Танцавалі два бандыты:
адзін — Соса, другі — Ціта.
Адзін — грузін, другі — серб,
а ў руках у іх — молат і серп.

Як пайшлі гуляць ў прысуды,
пралілася кроў усюды.
— Даеш месца! Шырай круг!—
мала з іх не выйдзе дух.
Чэрчыль хлопае ў ладошы,
Рузвельт сыпле ў шапку грошы.
А Соса глядзіць коса—
яны ў ботах, а ён — босы.
Бочкам, бочкам, незнарочкам
падкраўся да іх з сярпочкам:
— Гэй, купцы, знімайце боты!
Ускіпеў Чэрчыль:
— Што ты? Што ты?
Рузвельт крычыць:
— Што за мус?
То ж у нас з табой саюз!
— Замаўчы, кульгавы чорт ты,
бо сцягну яшчэ і порты.
Я — бандыт, вы — гандляры.
Такі саюз — да пары.

### *ПАДАРУНАК АНГЕЛЬСКАГА КАРАЛЯ*

Ангельскі кароль Георгі
прыслаў Сталіну свой меч.
А Сталін яму ватовік
са сваіх уласных плеч.

Калі гэтак пойдзе далей,
скончыцца анархія:
будуць ў Англіі саветы,
а ў Саюзе — манархія.

### *ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА*

Раз ў Іране, ў Тэгеране,
сабраліся тры драні:
Сталін, Чэрчыль і Рузвельт.



Папілі сабе, паелі,
у выходку пасядзелі.
Атлантыцкую ту карту
ці з няўвагі, ці для жарту—
добра ж такі жэрлі—
на шматкі парвалі
і... падцерлі.

Даруйце, гучыць гэта не надта эстэтычна, але ж з песні слова не выкінеш. Паважаны чытач бачыць, як аўтар «гістарычных» частушак успрымаў саюз аліянтаў са Сталінам, як ён турбаваўся за гэты саюз: «бандыт» Сталін нязводна абхітрыць, ашукае «няўклюдных» Чэрчыля і Рузвельта. Ільяшэвіч ухапіўся за сатыру Шэршаня, як за нейкі ратунак. Шэршань ускалыхнуў чытача, ажывіў газету. Шэршаняў твор «Цар літар», змешчаны ў газеце, хадзіў па руках, яго завучвалі на памяць. Праз сатыру Шэршаня газета набыла, я сказаў бы, папулярнасць.

## 5

Найбольшае дасягненне Беларускага аб’яднання ў Беластоку гэта без сумлеву — школьніцтва. Школьніцтвам, як тады мне здавалася, квітнела ўся Беласточчына. У гэтым рэгіёне працавала вялікая колькасць беларускіх школ. На жаль, па маёй няўцямнасці, не магу сказаць, колькі іх было. Досыць таго, што ў сваёй большасці дзятва была ахоплена школай. Грамадства гарнулася да справы наладжвання школьніцтва, нягледзячы на цяжкасці ваеннага часу, няпэўнасць у заўтрашнім дні. Канешне, шмат чаго не хапала — памяшканняў, падручнікаў, настаўнікаў і г. д., але ўсё гэта нейк перамагалася ахвотай і энтузіязмам як саміх кіраўнікоў асветай, гэтак і высілкамі самога грамадства, і

адна па адной паўставалі школы. Палякі не мелі сваіх школ, і гэта — дыялектычна — як бы паскарала працэс фарміравання беларускага школьніцтва. Можна было сцвярджаць, што паўстала беларускае настаўніцтва як гэткае — у яго ўліліся і былыя выкладчыкі ў польскіх школах. Беларуская школа з'явілася ў нейкай ступені і паратункам ад вывазу моладзі на працу ў Нямеччыну, хоць, канешне, не магла быць поўнай гарантыяй ад такога вывазу. Але і гэты фактар, думаю, спрыяў пашырэнню беларускага школьніцтва. Як бы там ні было, адчувалася адраджэнне беларускай школы, было нешта накшталт маленькага, кароткага рэнесансіку. Прынамсі, я адчуваў уздым беларускасці і сам быў падагрэты ім. Я ўжо неяк казаў, што ў Беласточчыне я адчуў жывую Беларусь. Гатовы быў прызнаць яе маёй другой радзімай. Досыць было пабываць толькі на настаўніцкім з'ездзе або на курсах па падрыхтоўцы настаўнікаў, каб вас ахапіла адчуванне беларускага духу.

У беларускім настаўніцтве на Беласточчыне бралі самы актыўны ўдзел жанчыны. У вялікай ступені гэтай іхняй ахвярнасці абавязана адраджэнне беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Пакарыла маё сэрца беларуская школа ў Гайнаўцы. Быў я там на каляднай ялінцы першы раз у маім жыцці — у савецкай жа школе яе не ладзілі. Вучнёўская самадзейнасць захапіла мяне зладжаным, артыстычным выкананнем праграмы, дзіцячаюнацкім уздымам, святочным настроем і не ў меншай ступені — выхаваўчым клопатам саміх настаўнікаў, жаночай дбайнасцю. Прысвячаў свой верш вучням беларускай школы ў Нараўцы, ды ў ім мне, на жаль, не ўдалося выказаць у паўнаце свайго захаплення. Падам яго тут толькі як факт, а не як мастацкі твор.



Забыўшыся на ўсё: на смутак і на гора,
ушчулены, глядзеў на сцэну я,
і некуды у зорныя прасторы
узносілася ўміг душа мая.

Нібы не існаваў ніхто у зале,
і толькі чуў я дотык цеплыні.
У памяці зноў ярка расцвіталі
майго маленства дні.

Глядзеў на вас на сцэне, ўсхваляваны,
зіхцела ўсё, нібы вясною сенажаць.
Падняўся я і, як зачараваны,
хацеў пайсці да вас спяваць і танцаваць.

Не думаць аб жыцці пакутлівым, у зморы,
насіць ў вачох празрыстасць сінявы,
узняцца ўсплёскам сінім мора,
як узняліся сёння вы.

Я ўжо гаварыў, што сярод настаўніцтва Беласточчыны былі і настаўнікі, што раней выкладалі ў польскіх школах. Але траплялiся і настаўніцы-расейкі. Напрыклад, адна маладая масквічка, апынуўшыся ў Беласточчыне, вывучыла настолькі беларускую мову, што ўжо магла выкладаць — і выкладала — у беларускай школе. Ведала нават на памяць урыўкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».

Мне можна зрабіць закід, што перабольшваю дасягненні беларускага школьніцтва ў Беласточчыне, недаацэньваю тыя цяжкасці і перашкоды, з якімі сутыкалася яно ў сваёй практычнай дзейнасці, што падаю ўсё ў ружовых фарбах, ідэалізую. Але пасля пакут, якія я перад тым зазнаў у сваёй Магілёўшчыне, беларуская Беласточчына здалася мне раем. Адносна мірнае жыццё ў ёй, пагатоў стваральная праца ў выглядзе хоць бы таго ж настаўніцтва ўздзейнічалі на мяне дадатна, і я, чалавек з Усходняй Беларусі, захоплены ўсім новым,

«заходнім», трацій здольнасць крытычнага падыходу. У маёй памяці засталіся толькі прыгожыя моманты з майго нядоўгага побыту ў Беластоцкім краі. Я заплюшчваў вочы на ўсё тое, што магло параніць параненую ўжо душу. Я засланяўся прыгожым, хоць за яго, за ціхамірнасць і даверлівасць да свету я плаціў і ўсё яшчэ плачу вялікую цану.

Вітанне «Жыве Беларусь» і адказ на яго «Жыве», беларуская газета з маімі ў ёй вершамі, саліднае настаўніцтва з прыгожымі настаўніцамі ў ім, беларускае вучнёўства, культурны мяшчанскі быт заходніх беларусаў, беларуская гаворка абуджалі ў мяне прыгожае адчуванне, што і ты — чалавек, абуджалі няўпрыкмець у маёй душы беларуса.

Я згадаў тут мову. О, які гэта фактар! Здзіўлю, калі скажу, што жывую, народную, не літаратурную беларускую мову я ўпершыню пачуў у Менскай турме ад падлетка-школьніка з заходняй, прыгранічнай Беларусі. У крыўдзе на бацьку ён перайшоў мяжу. Бацька за нейкае непаслушэнства даў яму дзягі, і хлапчына, закасаўшы свае штонікі, уквелены, перайшоў рэчку і няўзнак апынуўся ў Саветах. Быў я здзіўлены ягонай чысцюсенькай, прыгожай беларускай мовай. Сам я паходжу з паўднёва-ўсходняга кутка Беларусі, і гаворка там мяшаная, не тыпова беларуская, пераходная. Я ведаў толькі беларускую літаратурную мову і быў абрадаваны, калі пачуў ад перабежчыка сапраўдную беларускую мову.

Вось жа і Беласточчына з'явілася для мяне своеасаблівай моўнай рэзервацыяй: прыехаўшы з русіфікаванай Усходняй Беларусі, я пачуў у Беласточчыне сапраўдную беларускую мову, як тады ў турме.

Заканчваючы гутарку пра школьніцтва ў Беласточчыне, нельга не прыгадаць такога адданага



працаўніка на гэтай ніве, як Аляксей Грыцук. На ягоным абавязку ляжала арганізацыя, заснаванне школьніцтва, практычнае ажыццяўленне школьнай палітыкі Беларускага аб'яднання. Ды не толькі Грыцук. Сярод педагогаў Беласточчыны былі і іншыя спрактыкаваныя, дасведчаныя, прафесійна добра падкаваныя людзі. Да ліку такіх педагогаў-метадыстаў залічваўся і кіраўнік беларускай школы ў самім Беластоку, старэйшы ўжо чалавек — не магу прыгадаць ягонага прозвішча. Канешне, цягнуў школьную лямку і сам старшыня аб'яднання Хведар Ільяшэвіч, былы выкладчык беларускай гімназіі ў Вільні. Не было таго дня, каб нехта не сядзеў у яго па школьнай справе — кіраўнік школы, настаўнік, настаўніца, старшыня аддзела аб'яднання. Усе яны чагосьці дамагаліся, прасілі ягонага заступніцтва, інтэрвенцыі. Не стаяў убаку і Тамашчык. Ягонае красамоўства, добрая нямецкая мова, нарэшце імпазантная фігура часам дадатна ўплывалі на вырашэнне таго ці іншага пытання на «вярхох», значыцца — у немцаў-акупантаў.

## 6

Вернемся зноў да самога, так бы мовіць, цэнтра-штаба беларускага руху на Беласточчыне пад час вайны — да Беларускага аб'яднання ў Беластоку. Загляньма яшчэ раз у самое нутро гэтае ўстановы, у кухню, у якой беларуская справа, гаворачы вобразна, варылася, пераварвалася, пяклася. Установа ж гэтая станавіла сабой пэўны арганізм, і ён мусіў так ці інакш функцыянаваць — то зладжана, то з перабоямі.

Каб трымаць гэтую ўстанову ў строгіх руках, у ейнага кіраўніка, Хведара Ільяшэвіча, не хапала

для гэтага моцнага характару. Ільяшэвіч быў добрым, інтэлігентным, але не валявым чалавекам.

На працу ён стараўся прыходзіць у час і рэгулярна, хоць гэта рэгулярнасць часамі парушалася, і тады пачыналася нараканне на старшыню, на непарадкі. Ішлі да ягонага заступніка, Тамашчыка. Але той не заўсёды хацеў пастанаўляць, і справа кульгала. Зрэшты, ніякая ўстанова не мога пахваліцца поўнай зладжанасцю. Ільяшэвіч быў абцяжаны шматлікімі абавязкамі — газетай, гаспадарчымі справамі, раздутым камітэцкім персаналам, рознымі просьбамі, сямейнымі справамі. У яго не было вольнага часу, і ён усё рабіў паспешліва. Наўзверх яму трэба было пісаць штотыднёвы Stimmungbericht (апісанне настрою сярод насельніцтва ў дачыненні да немцаў) — як ён тады лаяўся! Ішоў па дапамогу да Тамашчыка: страшэнна не любіў таго «бэрыхта», але мусіў яго рабіць. Мяне ён не крыўдзіў, стараўся, чым можна, мне дапамагчы. Але ён нічым не мог дапамагчы майму бацьку і сястры. Гаротныя, яны нудзіліся па маці, перажывалі, сядзелі ў хібарцы без сталай працы. Часам бацька рабіў нешта таму-сяму прыватна. Сястру Ільяшэвіч уладзіў быў у немцаў прыбіральшчыцай, але праз некалькі дзён яе звольнілі: каб выцерці люстэрка, яна плюнула на яго. Такая, казалі, была прычына для ейнага звальнення. Іхнае пакутніцтва дзеяла на мяне, я пачуваў сябе вінаватым перад імі за сваю бездапаможнасць і мо недастатковы клопат пра іх. Гэта клалася на маю душу грэхам.

Прадуктаў на маю польскую харчкартку давалі мала, а да нямецкай не даслужыўся. Толькі перад самым канцом, калі я мусіў пакідаць Беласток, Ляля Стаўбунік, высокаадукаваная, інтэлігентная асоба, што працавала недзе ў «вышэйшых» немцаў, дамаглася для мяне, «партызана», нямецкай карткі.



Ейны «шэф», казала яна, дзівіўся, як гэта Weissruthenische Dichter сядзеў дасюль на польскай картцы. Але скарыстаць з той нямецкай карткі нам так і не давялося: я пакідаў ужо Беласток. У Лялі Стаўбунік мне з Ільяшэвічам давялося пабываць у гасцях. Жыла яна адна з маці ў нейкай маленькай, цеснай кватэры. Расказвала мне пра Максіма Танка, творчасць якога высока цаніла. Паказвала ягоны зборнік «На этапах» са слядамі польскай цэнзуры.

Нярэдка я чуўся пакрыўджаным, лічыў сябе абыдзеным увагай. Але гэта хутчэй ад маёй перачуленасці. З боку Тамашчыка вычуваў нават нейкую пагарду. У выніку ўзнік у мяне, пакрыўджанага, палемічны, гнеўны верш «Сябрам» (у двукоссі). Верш уключаны ў маю кнігу «Патушаныя зоры».

На нейкім вялікім і шумным прыняцці ў камітэце прысутнічала і адна гранд-дама са «сваім» панам немцам. Гэта была спявачка са Смаленска, нехта Мілёнушкіна — гордая, пыхлівая, занослівая, адзетая ўва ўсё моднае. З беларусамі, як з ніжэйшымі істотамі, яна не размаўляла — тыя не ведалі, як яна, расейскай мовы. І я абурыўся на «паноў» і «дам» — напісаў верш «Жабраку» з прысвятай Мілёнушкінай. Але Ільяшэвіч змясціў яго ў «Новай дарозе» без прысвячэння. Вось той верш:

### *ЖАБРАКУ*

Як сон нянджаны на яву,  
стаіш схіліўшыся ты каля брамы.  
Падняўшы горда галаву,  
праходзяць паўз цябе паны і дамы.

Анучы на табе — не паліто,  
яны ўсе знатныя ўборам.  
Не даў табе нічога з іх ніхто —  
спыніцца ля цябе ім сорам.

Як быццам тут не чалавек,
а камень нечакана вырас.
«От і дае ж прырода недарэк —
не чалавек, а чалавечы выраз».

Нічога дзіўнага! Яны б
прайшлі і бацьку свайго міма.
Прайшлі б, як непатрэбны грыб,
праходзяць, не спыніўшыся вачыма.

Прабач, жабрача, ім. Як ты,
з табой я стану каля брамы,
каб весялей было табе. «Браты»,—
падумаюць паны і дамы.

На ўсіх прыняццях нязводна прысутнічаў Гофман і не прапушчаў магчымасці назваць мяне партызанам або і бальшавіком. Ільяшэвіч угаворваў яго не крыўдзіць мяне, але той не зважаў. Замацаваўся за мной гэты «партызан» асабліва, калі Гофман даведаўся, што на маё імя ў рэдакцыю прыйшоў з лесу ліст. У газеце друкаваўся мой верш, у якім я выказваў сваю гатовасць «аддаць сваё жыццё за волю Беларусі». Назваў я гэты верш «Пайду...». Дык у тым лісце мяне і заклікалі: «Хадзі!» У рэдакцыі прыпушчалі, што ліст пісалі партызаны.

У камітэт часта прыязджалі з паляндвіцамі і гарэлкай важныя, як князькі, старшыні аддзелаў аб'яднання. Ільяшэвіч іх ахвотна прымаў. Часам перападала і мне ад тых паляндвіцаў. Прыязджалі часам і жонкі старшыняў ці якіх іншых грамадскіх дзеячаў. З маёй Гайнаўкі прыязджала да жонкі Ільяшэвіча спадарыня Кабаць, мілая, сімпатычная, добра выхаваная жанчына, з далікатных рук якой — калі быў у іх у гасцях на вялікдзень — прыняў, як падарунак, запасны гарнітур ейнага мужа — на жаль, быў я занадта шчуплы і гарнітур той вісеў на мне. Пры сустрэчы са мной сам Кабаць крычаў, канешне, жартліва: «Вітай, Пушкін».



У «Новай дарозе» я выдрукаваў шмат сваіх вершаў і стаўся ўжо бадай вядомым паэтам. Калі мы аднойчы ў Белавежы пад час снегападу ішлі са станцыі ў госці да Грыцука, ягоны бацька, стоячы на ганку, падаў голас: «Сняжнёў прыехаў!». Але я ўжо, здаецца, пушчаюся ў драбніцы, праслаўляючы сябе самога. Нягожа.

Меў я ў камітэце і нейкую дружбу — прыйшоўся мне па душы малады таленавіты паэт Янка Богдан. Ён увесь час тырчаў у бухгалтэрыі — там працавала ягоная прыгожая Ірка. Было люба глядзець на іхнюю замілаванасць, на іхняе, як у добрыя часы, рамантычнае каханне.

Калі мяне агортваў сум, я ўцякаў у Бацечкі, што каля Беластока. Там быў у мяне знаёмы, ніштаваты гаспадар. У яго я слыў не як паэт, а як касец. Як узнагароды за касьбу мне хапала аднаго прыхільнага позірку прыгожых вачэй ягонай дачкі.

Але я мушу вылазіць з бытавізму — праўды ў ім няма. Час нам закрануць і іншае, так бы сказаць, палітычнае пытанне — пытанне беларуска-нямецкіх дачыненняў у Беласточчыне. Дачыненні гэтыя можна было б коратка ахарактарызаваць гэтак: нягледзячы на тое, што немцы «супрацоўнічалі» з Беларускім аб'яднаннем у Беластоку, у Амтскамісараў, у якіх сакратаркамі працавалі полькі, беларусы найчасцей прайгравалі. З меркаванняў палітычнага характару немцы аднойчы наважыліся было зрабіць стаўку на беларусаў: наладзіць моцную, энергічную антыбальшавіцкую маніфестацыю беларусаў (Kundbegung). Камітэт запусціў ужо было сваю прапагандную машыну, заклікаючы беларусаў узяць удзел у маніфестацыі, як немцы — не з бухты-барахты — раптам спынілі падрыхтоўку да яе: відавочна, не паверылі ў беларускі характар. Вось вам і дачыненні.

А раніцай, як заўсёды, прыходжу ў камітэт — там перапалох: выбухам бомбы пашкоджаны кабінет Ільяшэвіча. Выбух адбыўся позна ўвечары. Той, хто кідаў бомбу ў акно, відавочна, меркаваў, што старшыня Беларускага аб'яднання ў Беластоку па звычцы яшчэ працуе. Нерэгулярнасць Ільяшэвіча выратавала яго і тут.

## 7

Варушыць мінулае нялёгка, але, відаць, патрэбна. Паварушыў і я сваё мінулае, «беластоцкае». Не хацелася яго зачапляць — яно ўсё-такі пакутнае, і я, прызнацца, не меў на думцы чапляць яго, тым больш што яно затушавалася ўжо, зацерлася напластаваннямі пазнейшага часу. І ўзяўся я адкрываць яго толькі пасля паўторнай просьбы паважанага рэдактара «Нівы», спадара Лубы. Гэтак во і ўзніклі мае беластоцкія ўспаміны, мой «Беластоцкі сшытак». Сваёй згодай напісаць успаміны я ўзяў, магчыма, на сваю душу грэх: мае ўспаміны суб'ектыўныя і могуць выклікаць у каго-небудзь пярэчанні, а то і непрыхільнасць да іхняга аўтара. Вось дзеля чаго я ўхіліўся ад ацэнак і толькі ў некаторых выпадках спрабаваў асэнсаваць свой прадмет. У астатнім жа я падыходзіў эмацыянальна. Даць нейкую аб'ектыўную ацэнку дзейнасці Беларускага аб'яднання ў Беластоку падчас другой сусветнай вайны — гэта заданне гісторыка, а не паэта. Ды ўсё ж я цешу сябе думкай, што чытач на падставе гэтых успамінаў зможа ўявіць хоць у нейкай ступені атмасферу, адчуць характары людзей, што дзеялі тады. Бо як бы мы ні ставіліся да дзейнасці Беларускага аб'яднання ў Беластоку, гэта ўсё-такі наша, беларуская гісторыя, і падыходзіць да яе трэба менавіта гістарычна.



...Час у Беластоку гарачы. Разам з Ільяшэвічам я толькі што вярнуўся з Другога ўсебеларускага кангрэса ў Менску. Былі са мной і іншыя дэлегаты ад Беласточчыны на той кангрэс. Быў сонечны, гарачы дзень. Гляджу — шашою паўз Беласток пруць немцы, адступаюць. Паніка пачынае дзеяць. Праца камітэта заціхае, калі не спыняецца зусім. Людзі ў момант сталі не тыя. Ты ўжо не ведаеш, што ў каго наўме. Канчаецца нават прыязнь. Ужо не да яе. Ты ўжо бачыш цяпер людзей сапраўднымі. Для кожнага настаў час вырашаць. І кожны вырашае па-свойму. Ільяшэвіч збіраецца пакідаць Беласток. Ягоная жонка Надзейка едзе з дзецьмі ў ейныя Тапаляны. А куды мне? Яны ўсе мясцовыя, ім лацвей. А як мне, прыблуднаму?

У Беласток у міжчассе прыязджае з Рыгі паэт Алесь Салавей, з якім я інтэнсіўна карэспандаваў, але асабіста быў яшчэ не знаёмы з ім. Радасць сустрэчы была азмрочана шалёным пульсам трывожнага часу. Алесь на развітанне падараваў мне са свае рукі гадзіннік у знак нашага сяброўства. Шкада — той гадзіннік я згубіў.

Бацька і сястра гавораць: яны нікуды не паедуць, застаюцца, а мне... мне нельга заставацца.

Я іду з бацькам і сястрой у Бацечкі. Там я пакіну іх. На вуліцы ў Беластоку я сустрэў святара, таго самага святара, які пад час божай службы ў беластоцкай царкве строга загадаў мне ўкленчыць, як і іншыя вернікі, а не стаяць сярод іх адзінокай тычкай. І я ўкленчыў. Святар падараваў мне на дарогу іконку Божай Маці, з якой, пад ейнай аховай, вандрую па сённяшні дзень.

У Бацечках расстанне з бацькам і сястрой было балючае, невымоўна чуллівае. Яны яшчэ працавалі некалькі тыдняў у ксяндза, каб пракарміцца, а потым вярнуліся дахаты.

Успамінаючы сёння пра тое расстанне назаўсёды — бацьку і сястру я так болей і не пабачыў — не магу стрымаць сябе ад усведамлення сваёй віны перад імі, свайго грэху.

Закончу згадкай пра лёс «дзеючых асобаў» у маіх успамінах: Хведар Ільяшэвіч загінуў у аўтамабільнай аварыі ў Нямеччыне, інжынер Тамашчык ужо ў якасці епіскапа Васіля памёр у Брукліне (належаў да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы), Аляксей Грыцук пакінуў свой прысак у Канадзе, Ляля Стаўбунік, паводле чутак, загінула недзе ў Нямеччыне пад час бамбардзіроўкі, лёс іншых «дзеючых асобаў» аўтару гэтых успамінаў невядомы.

Смерць, канешне — заканамерная з'ява, калі яна не гвалтоўная. У беларускіх дзеячаў, на жаль, пераважае хіба смерць гвалтоўная. Але памятайма: сваёй смерцю яны спрычыніліся да несмяротнасці беларускай справы.

*1991*

# ЛІСТЫ

*Дружа мой!*[1]

Сяньня мы атрымалі 5 экзэмпляраў 6-га нумару «Новае дарогі». Урэшце, я змог прачытаць газэту на мейсцы, не хадзіць да «вялікіх чалавекаў» з паклонамі, ня выпрашваць ад «оного высочества» ласкі даць мне пачытаць «Новую дарогу». І гэта, напэўна, дзякуючы табе. Шчыра дзякую і прашу прабачэньня за ўчыненыя мною клопаты...

Шчыра дзякую табе за ліст, за фатаграфію. Пры надрукаваньні ў «Новым шляху» артыкула пра цябе выкарыстаем і фатаграфію.

А ў сваіх вершах ты ўздымаешся вышэй і вышэй... Чытаючы верш «Зманлівасьць», я страціў раўнавагу, ускочыў на стол, голасна зачытаў на ўвесь рэдакцыйны пакой. Шкада, што каля мяне не было каралеўны, а толькі... калега-карэктар. І, дзівак, падумаў, што я звар'яцеў. (Ён у нас працуе ня так даўно, добра мяне яшчэ ня ведае). А можа ён і не памыліўся... Часамі мне здаецца, што я запраўды чалавек ненармальны. Нармальныя людзі заўсёды застаюцца нармальнымі...

І, ведаеш, неяк ня хочацца верыць, што гэтыя вершы пісаліся колькі год таму. Каб яны былі напісаныя на катарзе або ў турме мікалаеўскіх часоў (хоць і ня жыў тады, але мне апавядалі), дык я тады-б даў веры. А вось як можна напісаць такія вершы на савецкай катарзе — я ніяк не магу ўявіць. Мне здаецца, што яны пісаліся цяпер. І кожны новы верш — усё новыя й новыя поступы наперад, незалежна ад таго, якая стаіць пад вершам дата. Гэта сьведчыць аб вялізарным творчым росьце — не па днях, а па гадзінах.

Я вельмі рад падтрымліваць лучнасьць з чалавекам, які піша гэткія цудоўныя вершы. Гэта кажу я шчыра, ад чыстага сэрца, без ніякіх намераў трапіць у ласку. Я ніколі не крывіў душой і не зьбіраюся крывіць. Пасьля тваіх вершаў я адчуваю сябе мізэрненькім вершаплёцікам, і ў мяне пачынаюць зьяўляцца думкі, ці не надакучаю я табе і ці добра, што я зьвяртаюся такім тонам, хоць ты нічога супроць ня маеш у апошнім лісьце.

Ты пытаешся — адкуль я паходжу? Што-ж — будзем заводзіць больш шчыльнейшае знаёмства.

Я зьявіўся на сьвет 1-га траўня 1922 года ў вёсцы Крыгава, у 7-мі кілёмэтрах ад Койданава, у 33-х кілёмэтрах ад Менску. На вёсцы давялося жыць толькі да аднагадовага ўзросту. Потым лёс кідаў мяне, спачатку з бацькамі, а пазьней і аднаго, па розных мястэчках і гарадох Беларусі. Бацька мой — спачатку земляроб, потым — інтэлігент. У 1929 годзе атрымаў вышэйшую сельскагаспадарскую асьвету. У 1938 годзе памёр у менскай турме. Маці ў гэтым-жа годзе была асуджаная і высланая на 10 гадоў у Нова-Сібірскую акругу. Ня ведаю, што зь ёй цяпер, але, напэўна, не жыве, бо мела вельмі дрэннае здароўе.

А я — іхны старэйшы сын. Сын «ворагаў народу»... Маю незакончаную сярэднюю асьвету.

Ты памыляешся — я ня моцна складзены. Рост мой — ніжэйшы сярэдняга. Сам я — тонкі, як цьвік, крыху гарбаваты. Можна лёгка ўзяць мяне аднэй рукой, як матыля, і ня толькі мой верш,

[1] Правапіс захаваны (*рэд.*).

але і мяне самога бяз цяжкасьцяў выкінуць у кошык.

Здароўе... Здаецца, увогуле нядрэннае. Толькі вельмі слабое сэрца. Не магу нармальна ўзьняцца на трэці паверх. Не магу мыцца ў лазьні, не магу хутка хадзіць. Ледзь ня так дыхне на мяне вецер — і даводзіцца пасьля адлежвацца ў пасьцелі. Але я на гэта мала бяру ўвагі. Нядаўна мне давялося чуць, што людзі з хворым сэрцам вельмі жывучыя. Як каты...

Гэта табе, відавочна, нецікава... Дык ласкава прашу прабачыць.

Колькі дзён таму вярнуўся зь Менску наш галоўны рэдактар. Блізу два месяцы быў ён там. Мне аднаму тут было цяжкавата. Дзеля гэтага другі і трэці нумар выходзіць са спазьненьнем. Са спазьненьнем быў выпушчаны і першы нумар. Другі нумар сяньня друкуецца. Заўтра вышлю. Там зьмешчаны твой верш «Дзяцінства». (Дарэчы, па-мойму, лепш было-б «Маленства»; дзяцінства бывае ў старасьці, калі чалавек дзяціняе. І чаму «ўзнаў», а не «пазнаў»? Прашу прабачыць за гэту заўвагу.) У трэцім нумары будзе надрукаваны «Домік у Менску». У чацвёрты нумар пастараюся даць верш «Маім бацькам», у пяты — «Зманлівасьць».

Я прашу прабачыць мне за гэткую хаатычнасьць майго ліста, за ягоную несур'ёзнасьць. Нешта ня клеюцца думкі. Дрэнны настрой. Віна ўсяму гэтаму — «Уражаньні», «Дарога на Парнас», якія кагадзе давялося прачытаць у «Новай дарозе». Зьдзіўляюся, як-жа ў газэце, якую выпускаюць літаратары, і нядрэнныя літаратары, магла зьявіцца такая бесталковая, неразумная рэч. Горшай дурніны (прабач, калі ласка), мабыць, нідзе нельга знайсьці. З такой некультурнасьцяй (апрача дурніны) варта было-б Чаславу Будзьку не вылазіць з «зажабленага балота» на пасьмешышча людзкое. Запраўды, ніяк, ну ніяк не магу ўявіць, як да старонак газэты магло быць дапушчанае жабае кваканьне... Жаба горш усякай скаціны. (Сам ён бесталковая скаціна!) ...Прашу даравацъ за лаянку. Але, мне здаецца, ты разумееш, што мне ад гэтага лягчэй...

Артыкул М. Дальнага ў абарону маладых паэтаў — кашаль для хворага чалавека. «Раніца» вельмі добра зрабіла і вельмі правільна.

Ад чалавека, які мае дараваньне, толькі і трэба вымагаць і вымагаць. Ніякія «аглоблі» і ніякія каменьні не заглушаць такога чалавека, а яшчэ больш загартуюць яго, гэтым самым дапамогуць яму праз усе цяжкасьці выбіцца, казаў той, у людзі. Калі-ж той, хто ня мае дараваньня і спалохаецца «аглаблі», дык ня шкода. Усё адно зь яго нічога ня выйдзе. А розныя «абароны» на ягоны адрас даюць яму падставы думаць, што ён усё-ж, казаў той, ня лыкам шыты. І што горш усяго, такія абароны робяць маладога паэту вечным калекам. Толькі суровае вымаганьне і бязьлітасная крытыка можа дапамагчы паэту, які ня мае апоры пад нагамі, знайсьці яе.

Ня дай Божа стаць за лекара чалавеку, які знойдзе на дарозе паўвоза лекаў. «Такія дактары вымуць душу без пары»,— справядліва кажа народ. За апошнія словы я цалкам адказваю.

У першых чыслах сакавіка паеду ў Менск. Буду там мала ня месяц. Пасьля, вяртаючыся назад, затрымаюся крыху ў Вільні.

На тым я і кончу. Няма часу больш пісаць.

Рэдакцыя чакае ад цябе новых вершаў.

Жадаю ўсяго найлепшага!

З прывітаньнем *Алесь Салавей*

*Рыга, 14 лістапада 1944 года*

*Дружа Масей!*

Даўно меўся напісаць да цябе, а яно ўсё неяк так і так... Відаць, гэтакі ўжо лёс першых лістоў, калі яны так марудна пішуцца? От я, напрыклад, таксама даўно чакаю гэтых першых лістоў ад сяброў і добрых знаёмых і, безумоўна, маю надзею, што ўсё-ж калі-небудзь дапішуцца яны і ўсе давядзецца чытаць адразу...

Шчыра прызнаюся, што быў вельмі ўсьцешаны, калі дачуўся, што ўсё абыйшлося добра і што Ты апынуўся ў сваім беларускім асяродзьдзі... У мяне, дарэчы, выйшла наадварот: спачатку не было нікога, і толькі крыху пазьней пачалі зьбірацца, як кажуць, па адным на месяц; адны прыйшлі і пайшлі далей, не пакінуўшы нават і сьледу, а іншыя засталіся; гэтак прыйшоў і застаўся і Алесь Салавей і іншыя. Так пачалі выдаваць і газэтку «Зь беларускага жыцьця», і «Пагоню». Пакуль-што жывем (праўда, ня ўсе разам) і, трэба сказаць, ладзім. З інтэлігенцыі амаль няма нікога, а тыя, што і ёсьць,— ня хочуць ні з кім і знацца: жывуць сабе і не варушацца, асабліва тыя, што «мешкаюць на тэране польскага абозу», і тыя, што «кое-как приютились в русских лагерях». Гэта, аднак, між іншым. Што да ўмоў — сам ведаеш: чуць ня так, як той лекар раіць — «ногі ў холадзе, а жывот у голадзе», або як у той старой беларускай казцы: «рад каменьня, рад паленьня і жалезная ступа пад галаву». *Дзякаваць Богу, што мінулася нямецкая няволя і ўсьміхнулася дэмакратыя!* Адным словам, сам сабе гаспадар чалавек, хоць на ўсе чатыры бакі, і ніхто цябе і пальцам не кране!.. Гэта таксама між іншым.

Колькі слоў пра літаратурныя справы. Чытаў вашыя часапісы: «Шыпшыну», «Зьвіняць званы сьвятой Сафіі» і «Ведамкі» (цікавы і добры назоў...); уражаньне добрае, не благое, гаворачы пра часапісы, а «Ведамак» усіх ня ведаю. Бачыў і «Беларускія навіны» — тры нумары за два гады. Слабаватыя навіны, хацелася-б, каб былі лепшымі. Бачыў і свой верш «Маем сілу і край свой» на «заднім» пляне ў «Шыпшыне». Цікава, чаму скарацілі і няправільна ўставілі адно слова? Трэба сказаць, што разьдзел вершаў пасьля «Курапачага вывадку» С. Хмары вельмі нагадвае знаёмы назоў «Ударнікі ў літаратуры». Падабаецца твой «Помнік» — верш на сваім месцы, і калі *нехта нешта* і гаворыць...— глупства.

Вельмі непрыемна слухаць пра раздвояньне беларускае думкі ў Нямеччыне, аднак-жа гэта старая справа, і мяне яна зусім ня дзівіць: караеды былі і будуць, шкада, што ня час далёка заходзіць і прававаца, але і маўчаць ня можна. Аднак, ува ўсіх справах трэба, як кажуць, мець халодную галаву. Паглядзім, што будзе далей.

Чуў і тое, што нехта забараняе «Шыпшыну» і «Зьвіняць званы сьвятой Сафіі». Таксама не дзіўлюся: ад гэтага кроку недалёка, відаць, да вар'яцтва забаронцам. Уяўляю, які часапіс выдадуць тыя, каму не падабаюцца гэтыя! Калі гэта так — не перайма́йся вельмі: калі будзем жывы, дык будуць яшчэ і часапісы.

Колькі слоў і пра Віцьбіча. Калі чутае мною зьяўляецца праўдай (маю на ўвазе дурныя падкопы караедаў), дык застаецца сказаць, што некаму надта хочацца апаганіць сапраўднага пісьменьніка, які мае для нас, беларусаў, для беларускае літаратуры большае значэньне, чым тыя, якія расьпінаюцца сяньня ў любасьці да Бацькаўшчыны. Я ніяк ня веру, што Юрка Віцьбіч зрабіў што-небудзь благое, а каб нават і так, то не тапіць трэба чалавека, а трэ-

ба памагчы. Адным словам, шкада слоў на гаворку: новы Віцьбіч у таборы не народзіцца, а гэтага трэба шанаваць! Гэтакая мая думка і маё пераконаньне. Трымайцеся!

Пра сябе. Скончыў новую паэму «Зьвер двуногі» і казку «Казка пра князя Аскала і дзяржаву Сьветаславу». Пішу аповесьць «Голас крыві». Гэта асноўнае. Спадзяюся, што добрым выйдзе цыкль вершаў «Да блізкіх і далёкіх».

От, бадай, і ўсё, пра што даўно ўжо меўся напісаць. Пра большае — іншым разам. Прывітаньне маім блізкім і добра знаёмым: Юрку Віцьбічу, Аўгену Кавалеўскаму, Уладзімеру Сядуру ды іншым пісьменнікам. Прывітаньне ўсім гэтым і ад Алеся Салаўя.

З пашанай *Уладзімер Дудзіцкі*

P.S: Калі атрымаеш гэты ліст — пішы, не лянуйся. Хочацца ведаць, што ў вас робіцца і што думаеш рабіць. Ці думаеш пра які-небудзь выезд «у акіян начы», як сам пісаў у вершы на гэту тэму. Дзе рэшта пісьменьнікаў? Можа-б і Юрка што-небудзь напісаў?

Адным словам, чакаю лістоў. *У. Д.*

*Зальцбург, 2 лютага 1947 года*

*Даражэнькі Масей!*

Мае аўтарскія паасобнікі зборніка «Сіла гневу», высланыя на мой адрас, пошта вярнула назад. Каб выслаць іх у купэртах (як звычайныя лісты), выдавецтва ня мае грошай. І дзе іх узяць, хоць на перасланьне якіх-небудзь 10-ці паас.,— проста-ткі ня ведаю. Напачатку я атрымаў толькі пару паасобнікаў свайго зборніка; адзін паас. аддаў І. Качуроўскаму, адзін паслаў за акіян (навет ня памятаю каму, можа й Гуцьку) — і ў мяне самога нічога не засталося. Ты ўжо прабач мне, даражэнькі Масей,— я табе пашлю зборнік, абы ён толькі надышоў на мой адрас.

Б. Олександрыў выехаў у Канаду. Цяпер я тут — круглая сірата. Праўда, зь Вены пераехаў у наш табар мастак П. Мірановіч. Але зы старэйшымі людзьмі не магу быць у найбліжэйшых дачыненьнях, бо несымпатычны я ды йшчэ й ўсходнік.

2-га нум. «Сакавіка» таксама не атрымаў, а таму й ня бачыў. Зборнік-жа мой навет з тэхнічнага вонкавага боку — макулятура, брак. Ці выйшаў наступны нумар «Шыпшыны»? Ці прышляцё мне яго? Да Юркі Віцьбіча баюся пісаць, каб не пасварыцца бяз дай прычыны. Я-ж не вінаваты, што ў Вашых мясьцінах — атмасфэра напружаная.

Па-ранейшаму працую, радуюся «капейцы й рублю». Толькі не над зёлаю гну сьпіну, а над... Пэўна-ж без рукавіцы ўжо не прывітаўся-б зы мной, а то й зусім не прывітаўся-б, бо й рукавіцу можна забрудзіць. Мабыць, я нешчасьлівы. А пісаць — не пішу, бо не магу пісаць. Навет напісанага на «ўпраўскім» хлебе йшчэ ўсяго не ўпарадкаваў (сцэнічны абраз «Дух праўдны, духу зла непадуладны», нізка санэтаў «Падарожжа на Шафбэрг»).

Выехаць нікуды йшчэ ня змог і не змагу, мабыць, і тут заставацца не змагу. А ў Бразылію й Вэнэцуэлю сілком яшчэ не пагналі. Аб гэтых выездах абрыдла слухаць, але пішу, бо ты пытаешся. Наагул не пісаць магу, але табе не пісаць не магу.

Даруй-жа, што так мала пішу. Настрой нешта нецікавы, баюся ўдацца ў трызну, як гэта ўжо ці раз здаралася ў маіх лістох да цябе.

Моцна цісну руку тваю, адданы табе

*Алесь Салавей*

*22 верасьня 1948 года*

*Добры дзень, Масей!*

Сваім калядным павіншаваньнем зрабіў ты мне вялізарную неспадзяванку і вельмі-вельмі абрадаваў, дапісаўшы на ім свой адрас. Кажу «неспадзяванку», бо я ўжо не спадзяваўся атрымаць ад цябе хоць што-небудзь. Сам-жа я пісаць да цябе ня мог, бо, нягледзячы на ўсе мае стараньні, ня мог дастаць твайго адрасу. З просьбаю аб прысылцы твайго адрасу я зьвяртаўся да сп. Віцьбіча, але ён чамусьці мае просьбы ня выканаў. Прасіў я аб гэтым і Кавыля, але і ён яшчэ не адказаў на мой ліст. Прасіў я аб гэтым і Людмілу, але і яна забыла пра маю просьбу. Таму, пасьля стольких няўдачаў, ты можаш уявіць сабе, якая была мая радасьць, атрымаўшы твой адрас ад цябе самога.

Няўдачы дастаць твой адрас наштырхнулі мяне, грэшнага, на думку, што ты наагул ня хочаш ужо мець са мною ніякіх сувязяў, нават лістоўных. Але, дзякуй Богу, што гэтая думка цяпер зьнікла, як зьнікае начная цемра пад праменьнямі раньшняга сонца.

Шмат часу прайшло ад таго, як мы з табою апошні раз бачыліся і гутарылі. Шмат чаго зьмянілася за гэты час у нашым жыцьці, асабліва ў тваім (я маю на ўвеце тваю жаніцьбу і сямейнасьць). Аб гэтым я ведаю толькі з чутак, таму я прасіў-бы цябе напісаць, колькі Сяднёвых жыве ў ЗША, бо ў Нямеччыне я ведаў толькі аднаго.

Дайшлі да мяне чуткі і аб зьмене ў тваім грамадзкім шляху. Тут я маю на ўвеце тое, што ты стаўся сябрам БЦР, нават ейнае Калегіі. Ці ня можаш ты мне напісаць, якія функцыі ты ў ёй выконваеш і ці працуеш у гэтай галіне наагул, ці толькі тваё сяброўства намінальнае, для падтрымкі аўтарытэту БЦР?



Пра сябе мне няма чаго асабліва распісвацца. Мінула ўжо два гады з часу майго прыезду ў ЗША (ня буду пісаць аб тым, што мне з сям'ёю давялося пераажыць, пакуль удалося прыехаць у ЗША). За гэты час я ўжо трошкі прывык да новае краіны.

Прыехаў я ў Бастон (Нью-Ёрк у той час баставаў і не прыняў нашага карабля). З Бастону па чыгунцы даехаў да Онайды, адкуль быў забраны сваім спонзарам на фэрму каля Мунсвіл (якіх 14 міль ад Онайды). Аднак пражыў я ў свайго спонзара толькі 10 дзён (да часу майго прыезду ён ужо ўзяў іншага работніка, які пажадаў там астацца і пасьля майго прыезду). За гэтыя 10 дзён спонзар знайшоў мне кватэру ў Онайдзе і вывез мяне сюды. Онайда мела са мною клопат на першых пачатках, бо не магла даць мне работы. Нарэшце, прыблізна праз месяц, работа для мяне знайшлася ў анучніка. Я рад быў і гэтай рабоце. Пабыў я на гэтай рабоце з паўгода, пасьля чаго «бізнэс» трошкі замарозіўся і гаспадар звольніў мяне. Праз які тыдзень пасьля гэтага, з дапамогаю аднаго латыша, я прыстроіўся на работу ў гараж, а яшчэ праз некаторы час перайшоў на працу на чыгунцы. Тут я працаваў паўтара года. Пішу — працаваў, бо цяпер не працую: з 4 сьнежня, па прычыне скарачэньня штатаў на зіму, я звольнены з працы і цяпер жыву на палажэньні беспрацоўнага. Праўда, яшчэ ня ведаю, колькі мне будуць плаціць як беспрацоўнаму.

Людміла-ж, амаль адразу пасьля прыезду ў Онайду, дастала працу ў шпіталі, а праз некаторы час перайшла на фабрыку, якая выпякае «крэкерсы». Там яна працавала аж да часу, пакуль пайшла ў «каледж».

Адыходзячы на вучобу, Людміла дапамагла маццы прыстроіцца на працу ў той фабрыцы, з якое

яна адыходзіла. З таго часу і аж да сёньня мая жонка працуе на гэтай фабрыцы.

Алег адразу-ж пайшоў у школу, і цяпер ён ужо вучыцца ў 6 клясе пачатковае школы, а на наступны год пойдзе ў «гай скул».

Леаніла-ж, пры дапамозе грамадзкіх дабрачынных арганізацыяў, была пасланая ў шпіталь на лячэньне. Паўгода побыту ў шпіталі дало ёй тое, што яна цяпер можа трохі хадзіць на кастылях (раней яна зусім не магла хадзіць). Цяпер яна вучыцца завочна — праходзіць курс «гай скул».

За гэты час (вярней, за першы год жыцьця ў Онайдзе) мне давялося двойчы мяняць кватэру. Але ў чэрвені мінулага (1952) году маёй жонцы (яна тады яшчэ не працавала) удалося знайсьці домік, які прадаваўся. З дапамогаю новых знаёмых — амэрыканцаў — нам пашчасьціла гэты дом купіць, даўшы задатку ўсяго 400 дал. (болей мы ня мелі). Рэшту-ж гаспадар згадзіўся на выплату, па 50 дал. у месяц на тэрмін 6 гадоў. Такім чынам, дзякуючы стараньням жонкі, мы цяпер жывём у собскім доме.

Перасяліўшыся ў собскі дом, я пачаў падумляць і аб уласным «бізнэсе». А паколькі мяне заўсёды цягнула да друкарскай справы, дык я і скіраваў свае высілкі ў гэтым кірунку. І вось у ліпені гэтага году я пачаў абсталёўваць сваю друкарню. Справа ішла павольі, бо ўпіралася ў грошы. Цяпер-жа ўжо я маю невялічкую друкарню (праўда, прымітыўную, але друкарню), у якой магу друкаваць рэчы фармату часапісу.

Калі абсталяваньне друкарні было ўжо амаль у палове, я запрапанаваў сп. Віцьбічу выдаваць друкам «Шыпшыну». Аднак ён чамусьці нават не адказаў на мой ліст у гэтай справе. Мая прапанова ў гэтым кірунку зводзілася да наступнага. Я згаджаўся друкаваць «Шыпшыну» па 100 дал. друкаваны аркуш. Каб сабраць гэтыя 100 ці 200 даляраў на першы нумар, я прапанаваў яму зьвярнуцца да сяброў «Шыпшыны» з просьбаю аб аднаразовай ахвяры ў ліку 10—15 дал. ад чалавека. Сродкі-ж на наступны нумар, я лічыў (і лічу), што атрымаліся-б ужо ад продажу першага друкаванага нумару. Як-ніяк, а «Шыпшына» папулярны часапіс і, мне здаецца, яго куплялі-б ахвотна, калі-б ён выходзіў друкам. Чаму сп. Віцьбіч ня прыняў мае прапановы, я ня ведаю.

А як ты заглядаешся на гэтакую думку? Ці ўважаеш ты яе рэальнай ці немагчымай да зьдзяйсьненьня?

Хацелася-б мне яшчэ раз зьвярнуцца да сп. Віцьбіча і да ўсіх «шыпшынаўцаў» з падобнай прапановай аб выданьні часапісу друкам, але, не атрымаўшы адказу на сваю першую прапанову, я не магу гэтага зрабіць. А тым часам сп. Змагар з Францыі піша мне, што ён з Кавалеўскім задумалі выдаваць друкаваны літаратурна-мастацкі часапіс і для гэтае мэты ашчадзяць грошы, каб набыць друкарню. Мне-б хацелася, пакуль хтось іншы пачне выдаваць друкаваны літаратурны часапіс, каб ініцыятыва засталася ў руках «Шыпшыны». Можа-б ты, пры нагодзе, пагаварыў з сп. Віцьбічам на гэтую тэму і можа-б прыйшлі да якога рашэньня. А не, дык хоць напісаў-бы мне, што думае адносна гэтага сп. Віцьбіч і што думаеш ты.

На гэтым закончу. Прымі найлепшыя пажаданьні і найшчырэйшыя прывітаньні для цябе і твае сям'і ад мяне і мае сям'і.

Твой *Янка Золак*

*28 сьнежня 1953 года*

*Даражэнькі Масею!*

Атрымаў ліст і зь «вершамі» ды адразу-ж хачу павіншаваць Цябе з тым, што адкрыўся ў Табе першарадны, дасканальны перакладчык паэзіі далёкае ў часе й прасторы — найвышэйшы, хіба, чын перакладчыка — паэты-перакладчыка, а мо й паэты наагул (дасюль, здаецца, Ты крыху практыкаўся адно ў перакладах паэзіі бліжэйшае да Твае і ў часе і ў прасторы). Твае пераклады з Рыльке й Гайнэ проста дасканальныя, бо на ўзроўні арыгіналаў дакладна перадаюць і ўвесь мастацкі, як тут кажуць, «патэрн» (слова вельмі добрае ў іх, але траціць у перакладах, асабліва калі перадаваць яго, сьледам за расейцамі, словам «шаблён», што мае пагардлівае значэньне, чаго ў гэтым слове ані няма; паходзіць яно ад лацінскага «патэр» — айцец, бацька; у нас было-б добрае слова «почат», ёсьць і ў слоўніку Насовіча — зрабіць боты на той-жа почат — але-ж у нас так баяцца кажнага слова, якога яшчэ не ўжывалі ў друку).

Для мяне наагул той «патэрн», ці почат, у паэзіі — вельмі важная мо нат першарадна важная рэч. Я не люблю, калі яго называюць «тэхнікай», бо гэта зьніжае, або «формай», бо гэта рве твор на непарыўныя «форму» й «зьмест». Для мяне ён тое, што Гэгель называў «якасьцяй», азначаючы яе як «найпрасьцейшую азначанасьць рэчы, пры якой рэч застаецца тым, чым яна ёсьць, і безь якой яна перастае быць тым, чым яна ёсьць» (гэтае Гэгелева азначэньне, як і іншыя ягоныя, мне асабліва ўрэзаліся ў памяць, мо таму, што чыталіся якраз на самюсенькім пярэдадні майго арышту ў 1930 г. ды прадумваліся ў падвале ГПУ).

Але-ж, без захаваньня «патэрну» ў перакладзе верш перастае быць тым, чым ён ёсьць у арыгінале. Калісь нябожчык Жылка на адным з нашых чацьвяргоў зрабіў засьцярогу, што перакладаць верш, пісаны дакладнымі рыфмамі, вершам асанавана-рыфмаваным — дрэнь, зь ім спрачаліся, але бяз рацыі. Але-ж, «патэрн» рыфмы мусіць быць захаваны, і ў Цябе гэта зроблена дасканальна (для мяне «рыфма» — не нейкая бразготка, а істотная якасьць у гэгелеўскім сэньсе, ня менш важная за тую «ідэю», якую некаторыя нізкавокі вызнаюць за адзінаважную). Для мяне верш, дзе арыгінальнае «клясычнае» дакладнае рыфмаваньне ў перакладзе перададзенае сучасным асанансавым, выглядае не на пераклад, а на насьледаваньне (гэткі, прыкладам, пушкінскі «Анчар» у перакладзе Танка, дзе наагул больш Танка, як Пушкіна, хоць нашыя «заходнія» браты вельмі пышаюцца гэтым перакладам, ня знаючы арыгіналу). У Цябе з гэтага гледзішча пераклады выйшлі паўнацэннымі, а не насьледаваньнямі.

З таго, што я гэтак захапляюся тут Тваймі перакладамі, не падумай, што арыгінальны Твой верш, прысланы разам зь імі,— «Простымі словамі» — мне не спадабаўся. Не, і ён на тым-жа высокім узроўні, але пераклады захапілі мяне больш, як новая й шматабяцаючая для Цябе галіна.

Ну, «Конадні» — не кажам толькі зноў «гоп» — маюць зрушыцца зь мёртвага пункту ад пачатку траўня, калі й вазьмуся за іх, за Твайго «Корзюка» першым чынам. Да таго часу якраз будзе наскрэбленая саматугам сума, патрэбная на задатак друкарні й магчымасьць здаваць ёй матар'ялы, а, з другога боку, у мяне вызваліцца час, цяпер запханы да горла.

Я не «сварыўся» зь нікім больш, як было, а на гэным юбілеі ня быў ня дзеля «сваркі», а якраз наадварот — каб ня даць людзям магчымасьці сва-

рыцца, а насаладзіцца тым, чым яны, бедныя, баяліся, я ня дам ім (але-ж, рэфэрат той рабіў Тумаш і так гарэў жаданьнем рабіць яго, што баяўся, што яму нехта — я — ня ўступіць гэтага шчасьця, тымчасам як я й ня думаў за яго змагацца, нат не было ні ў галаве, ні ў супрацьлежным полюсе). Ты таксама дармам падазраеш мяне ў магчымасьці «зазлаваць» на Цябе — у лістох для мяне гэта проста немагчыма, я ўмею «злавацца» ці «сварыцца», адно імпульсыўна, беспасярэдня, стоячы, казаў той, а ўжо калі сяду, ды наагул, калі час міне й астыгне — ані «злосьці», ані «сваркі» быць ня можа. А «злаваць» на Цябе ці на некага наагул, за тое, што лістоў доўга няма — было-б проста несумленна, бо й сам-жа я часьценька на лісты адпісваю з такой-жа акуратнасьцяй валовае пошты.

Дзякуй за камплімэнт пра «Каханы горад», нат захацелася перачытаць, што там такое. Для мяне гэта быў проста экспэрымэнт, як і шмат чаго іншага, а можа й усё, чым даводзілася ў жыцьці псаваць паперу. Часам карціць і цяпер на падобныя экспэрымэнты, але часу ня ўрвеш. Нядаўна хлопцы з часапісіку «Беларуская моладзь» згвалцілі мяне на ўспаміны пра Равенскага. Думаў адчапіцца ад іх параю балонаў, а як улез, як пачаў разварушваць памяць, што й у мяне ўжо здае пазыцыі, дык выйшла ўжо два працягі й яшчэ будзе гэтулькі, калі ня больш. А галоўнае — пацягнула на ўспаміны, дый хіба-ж ужо й пара... За жыцьцё пабачылася й крыху людзей і абставінаў, на Равенскім пераканаўся, што ўжо зьнікаюць яны ў памяці, але яшчэ, добра разварушыўшы яе, можна адтуль шмат павыцягаць ды ўратаваць ад забудзі. Дык каб меў час, насеўся-б на ўспаміны. Ужо той часапісік па Равенскім нагаворвае на Белпэдтэхнікум, а там-жа й «Узвышша», і турмы, і ссылкі. Каб адно толькі час!



Ня думай, што адзін Ты пачуваешся, як Глен у капсуле. Ня думай, што калі «зямля» й людзі, якіх Ты называеш «маймі», у абсягу сабвэйнае дасягальнасьці, дык ужо іх і дасягаеш хаця-б нат фізычна. Апошняга майго — без двукосьсяў — чалавека, дасягальнага ў сэньсе беспасярэдняга кантакту думкі й гаворкі — я страціў у асобе Адама Бабарэкі, разлучаны зь ім у 1937 г. Пасьля гэтага маіх у мяне й не было, а тыя «свае», пра якіх Ты ўспамінаеш мне, надаюцца адно на тое, каб зь імі «сварыцца», дый «свае» яны найбольш, як таму вышу спомненаму задняму полюсу дубец.

Праўда, штодня я «общаюсь» з Запруднікам, а цяпер яшчэ й з Гуцькам. Першы шмат у чым мог-бы быць сваім, каб ня розьніца веку, а гэтага не пераскочыш. Гуцька-ж, браце, так пастарэў, проста аж як не сапсеў, проста жах (мне ўсё ўспамінаецца ясенінскае «осыпает мозги алкоголь»). Ня толькі вонкава-фізычна, але й ува ўсім чыста, нат гаварыць зь ім пакута — пляце адно й тое па сто разоў, нек зайкаецца, пераскоквае з аднаго на другое, прост дзеіць на нэрвы часам, а часьцей агартае такі жаль, шкада й яго, як чалавека проста, дый сябе, калі ўздумаеш, што й сам мо гэткім неўзабаве будзеш, а мо й ужо робішся, ды толькі не спасьцерагаеш, таму што сам.

Жалю годная й доля ягоная. Тут яму перасьцераглі, што трымаюць толькі да ліпеня. Заміж трох скрыптаў на тыдзень, мінімум двух, ледзь выцягвае адзін (праўда, апошнімі днямі нек як-бы пачаў выцягвацца). Хоча ехаць у Партарыку, а што там? А дзяцей-жа — «хвалебное число»... А ў Мюнхэне «жоньдзіць» Цьвірка.

Табе я нат часам зайздрошчу, з такой настальгіяй прыпамінаючы сваю калішнюю настаўніцкую працу. Часам нат падумваю й самому перакінуцца

на нешта такое — усё-ж больш «общения» з жывымі людзьмі, з жывым патокам іх, а ня ўсё з тымі самымі, як у мяне. Дый калі навучыў каго хоць крышачку — успамінаю, якая гэта была прыемнасьць. А калі яшчэ й вакацыі да таго (ня ведаю, мо ў Цябе іх і не бывае, але-ж нармальная пэдагогіка мае гэтую прынаду) — дык папраўдзе, якое гэта хараство! А Ты яшчэ «скулишь» (ведаю, што з Твайго гледзішча «скулю» я, а ня Ты, а фактычна, «скулим» мы абодва, дый ці толькі мы — «шукаем, не згубіўшы, усё чагосьці», як той пісаў калісь).

Ну, дык мне й пара ўжо «адскуліць» на гэтым кавалку паперы — перадаць слова Табе.

Пішы, ці «скулячы», ці не, а ўсё роўна — пішы!!!

Вітаю й Цябе й усю Тваю грамадку,

Твой *Антон Адамовіч*

*23 сакавіка 1962 года*

*Дарагі Масей.*

Прызнаюся адразу — добра паказытаў аўтарава самалюбства Ваш ліст, сяньня атрымаў. Яго саладжавы тон можна зразумець адно тады, калі даць ськідку і на вялікі голад мастацкае прозы ў беларускай літаратуры і на вынятковасьць сырца, што ўвайшоў у шпень «Змагарных дарог», дый — здаецца ці не самае галоўнае — на чульлівую да мастацтва душу самога аўтара, каторая разам з тым баліць і пераЖывае тое, што ў нас вось амаль няма майстроў, каторыя бяруцца парадкаваць і апрацоўваць у літаратуры нашу гістарычную спадчыну.

«Змагарныя дарогі», відаць, доўга яшчэ чакаць будуць на аб'ектыўнага крытыка. Да гэтага часу найбольш пахлебную ацэнку кнізе далі якраз масkоўска-завяртанскія лататуны. У сваіх «суайчынных» ворганах скланялі маё цяперашняе й мінулае прозьвішча на розны лады ня ведаю ўжо колькі раз, а сам наўчоны навуковец Раманоўскі ў такой-жа навуковай працы «Саўдзельнікі ў злачынствах» далучыў мяне, маленькага, да нашых самых больших і заслужаных «крыміналістых». Праўда, не хапіла ў іх нахабства (маюць-жа й сабакі нейкае сваё эквілібрум) ткнуць у мае рукі стрэльбу й дамалёваць згодна з партыйнымі рацэптамі твар народнага злачынцы, што выстраляў і спаліў шмат рознае масьці «савецкіх патрыётаў».

Цяперака дужаюся із тэмай, якую, як Вам ужо раней прыгадваў, апрацоўваю ў ангельскай мове. Над ёй працую ад паловы лета, дагнаў да двухсот бачын у першай апрацоўцы. Перад вясной маю намер скончыць. Аповесьць называецца «Помста адкінутай». Праз галоўную гэраіню Марыю Каравай, настаўніцу зь Віцебшчыны, хачу паказаць трагэдыю й цярпеньні міліёнаў іншых жанчын і матак, што, падкапаныя чужымі хіжакамі з роднай глебы, цярпелі й трывалі дый пробавалі шукаць жыцьця й справядлівасьці на чужыне. Гэтая аповесьць мае быць маей візытоўкай для дэбюту ў англамоўнай літаратуры. Хоць, здаецца, даволі ў мяне назапашанага мастацкага пораху, адылі тут нельга ігнараваць шмат іншых элемэнтаў, каторыя, быццам на фінансавай біржы, рэгулююць пульсам рынку англамоўных чытачоў. Калі мець нейкі посьпех, трэба гэты рынак мець наўвеце, бо ніякі выдавец ня возьмецца друкаваць вашае аповесьці, калі ня бачыць перад носам запэўненай прынады фінансавай нажывы. З другога-ж боку нікому з нас не сакрэт, што Беларусы, як народ із усімі ягонымі апрычонасьцямі, у чужым, асабліва-ж у англамоўным сьвеце, у літаратуры яшчэ не паказаны.

За апошнія два дні, галоўнае па дарозе на працу й з працы, прачытаў і стравіў палову кнігі Бальзаковай біяграфіі, напісанай Сьцяпанам Цвайгам. Біёграф гэты мне й раней імпанаваў. Сам-жа тытан Бальзак, якому так зайздросьціў скованы па руках і нагах наш Кузьма Чорны, можа многа чаго навучыць амбітных пачынальнікаў у літаратурным творстве. Мне проста галаву закружылі ягоная самадысцыпліна й паводная плынь твораў, што на працягу нейкіх дваццаці год плылі з-пад рукі незмардаванага майстры... Калі зірнеш, як вялікія майстры ўзьбіраліся на шчыты людзкой культуры із творанымі імі-ж скарбамі, дык мімаволі шкадуеш, што ніводнаму з нашых волатаў да сяньняшняга часу не пашанцавала тварыць на волі так, як нам; мы-ж гэтага цяпер недацэньваем і часта-густа марнуем залаты час.

Будзьце ласкавы, калі здарыцца нагода й жаданьне, падзяліцца са мной Вашымі думкамі пра рознае, цікавячае нас. Што робіце, як жывяце, над чым цяпер працуеце?

Цісну Вашу руку *К. Акула*

*Таронта, 18 сьнежня 1965 года*

*Даражэнькі Масей,*

толькі сёньня сабралася Табе адказаць. Перш — была на вакацыях (езьдзіла да Влодка на два тыдні, у Рачэстэр), а пасьля праца не давала думаць і займацца чым-небудзь па-за ёй. Але цяпер крыху палягчэла, ды і «бос» — Запруднік — неўзабаве вернецца із сваіх даўгіх вакацыяў. Тваё ўпаўнаважаньне на зьезд Інстытуту спазьнілася, але яго далучылі да іншых упаўнаважаньняў, да пратаколаў, і ўсё ў парадку. Зьезд прайшоў добра. «Конадні» будуць друкавацца, як толькі зьбярэцца матар'ял. Ты пішаш, што ў цябе нічога няма. Няма і ў мяне, але ёсьць колькі пачатых вершаў і агульная думка, так што, думаю, нейкі невялікі цыклік склеіць удасца. Хутка вазьмуся за іх. Ведаеш сам, як цяжка пісаць, калі штодзённасьць забірае ўвесь час і ўсе думкі. Каб напісаць што добрае, трэба запраўды, як гэта рабіў Пушкін, замкнуцца недзе ў глушы, каб нішто ня рупіла й не замінала. А ў нашых варунках гэта абсалютна немагчыма. Трэба зарабляць на кавалак хлеба. Муж ужо год, як на пэнсіі. Пэнсія «Сошыял Сэкюрыты» вельмі малая, дык зарабляю на нашае жыцьцё я адна. І аб паэзіі думаць няма калі. А калі й не працуеш, дык розныя надзённыя справы блытаюцца й забіраюць і час, і думкі, і ўсё. Не, раней паэтам усё-ж куды лепш жылося. А мо гэта толькі беларускім паэтам не спрые лёс? Ну, але рады няма, трэба, як кажуць, «жыць, як набяжыць», нічога не параіш. Дарагі Масейка, чыркані мне калі слоўка, як будзеш мець час і ахвоту, гэта нейк падбадзёрвае мяне, не дае зусім закінуць пісаньне. А так навокал чужыя, якім заўсёды ўсё роўна, ці паэт я, ці не, ці напішу я што яшчэ, ці не напішу. І гэткае раўнадушша, гэткая абыякавасьць — найгоршае «заахвочваньне» для мяне. Адно слова, як казаў калісь, даўно ўжо, Шчаглоў-Куліковіч: «стымулу няма»!

Твая *Н. Арсеньнева*

*Нью-Ёрк, 11 жніўня 1966 года*

*Даражэнькі Масею!*

Даўно ўжо ляжыць Твой ліст без адказу... Каб гэта знацьцё, што Ты будзеш на тэй сустрэчы ў Кліўленьдзе, дык нек мо вырваўся-б туды, але й гэта ня выйшла. Запруднік кажа, што інфармаваў Цябе пра мае цяжкасьці,— навал працы ў Камітэце, унівэрсытэт на носе, а галоўнае — бацькаў склероз; дык пра гэтыя невясёлыя рэчы расьпісвацца ня варта...

Пэўна-ж, калі трэба які «рэфэрэнс» — сьмела заўсёды падавай мяне, пасьветчу заўсёды, ані пытацца наперад, ані выбачацца пасьля няма ніякае патрэбы, абы толькі памагала! Пра ліквідацыю Тваё школкі чуў ужо ці раз. Плацяць тут усюды, нат у нашай Калюмбіі, ня вельмі каб, хіба мо ў якіх кутках, куды ніхто ня едзе, а мо й якраз наадварот, хто яго тут разьбярэцца. Дык глядзі добра, каб не зьмяняць быка на індыка, паколькі ход аб заплату. А вучобы ўсё-ж ня кідай, хоць «цераз не магу».

У Мюнхэне сёлета канфэрэнцыя ў канцы кастрычніка, і карціць мне звычайным тропам махнуць, але, відаць, гэтым разам не давядзецца, і дзеля бацькі і дзеля ўнівэрсытэту. Першая лекцыя ў мяне ўжо зусім на носе — 30-га гэтага месяца, калі-б адлучыцца, давялося-б па звароце даваць больш гадзінаў, што пры навале працы ў Камітэце вылезла-б ня толькі бокам, але й горлам. Сёлета маю толькі курс крытыкі XIX в., той самы, што летась слухаў той хлопец Лопец. «Уводзіны ў савецкую паэзію» далікатна папрасілі гэты год прапусьціць быццам-бы дзеля бюджэтных меркаваньняў, але я падазраю, што тут больш меркаваньні палітычныя цяперашняга лагодна-падлабунскага курсу ў дачыненьні да Саветаў.



Я хацеў, каб у «Конаднях» твой «Корзюк» ішоў далей, як нічога не было, ніякае «Бацькаўшчыны». Але іншыя не даюць з увагі на абмежаныя магчымасьці друку, пры якіх дубляваньне было-б задарагім, і прапануюць, каб «Корзюк» усё-ж ішоў, але ад таго месца, на якім спыніцца ў «Бацькаўшчыне», пэўна-ж, з адпаведнай зацемкай і кароткім рэзюмэ таго, што пройдзе ў «Б-не». Як Ты на гэта? Пішы па магчымасьці не адкладаючы, бо пачынаем ужо зьбіраць матар'ялы (праўда, апрача абяцанак, яшчэ няма аніводнага жывога радка, хоць, пэўна-ж, будзе, падсыплюць).

На гэтым, на жаль, мушу скончыць. Пішы пра «Корзюка» й наагул, чакаю! А тымчасам вітай усю сваю сямейку-сяднейку й сам трымайся. Прывітаньне й ад майго старога (часам помніць Цябе), і ад мяне ўсё найшчырэйшае.

Заўсёды Твой *Антон Адамовіч*

*15 верасьня 1966 года*

*Дарагі Масей Ларыёнавіч!*

Удзячны за Ваш ветлівы ліст ад 4.1.70 г. Спадзяюся, што Вы атрымалі мой ліст ад 3.1.70 г. разам з плянам маіх наступных скрыптаў на бліжэйшы час.

Займеў я тут вымушаны тыднёвы «адпачынак», які ўзгадніў з сп. Бурбелям — дасылаю Вам копію майго ліста да яго па гэтай справе. Не дасылаючы скрыптаў у Нью-Ёрк, я разам з тым працягваў працу над імі. Заўтра кідаю ў паштовую скрынку свой 12-ы скрыпт «Уладарка Беларусі, што сьвеціць у Жыровіцах» з разьлікам, каб бухгальтэр «Свабоды» зарэгістраваў яго на люты месяц. Скрыпт гэты прысьвечаны слаўнаму Жыровіцкаму манастыру,

якога 500-годзьдзе прыпадае на сёлета, ягоны назоў узяты з малітвы. А наступны 13-ы скрыпт прызначаю помнікам Нясьвіжу.

Дазвольце перайсьці цяпер да Чырвонага моста ў Полацку («Змоўклі званы сьвятой Сафіі») і да Язэпаўскага сабору ў Магілёве («Чаму плакаў Зьмітрок Бядуля»). Вы прыпушчаеце, што друкарка тут памылілася, але яна тут не прычым, бо гэтак і мелася ў арыгінале. Хоць у расейскіх выданьнях гэты мост называецца «Красным», але там жа ўсюды дадаецца, што ён атрымаў свой назоў ад крыві, а не ад свае прыгажосьці, як, напрыклад, Красная плошча ў Маскве. Вось чаму я й пераклаў ягоны назоў. Што датычыць Язэпаўскага сабору, дык, магчыма, ужо лепей — Восіпаўскі, маючы на ўвазе нашую калядку:

«Стары Восіп, барадаты»,

але толькі ня Іесіфаўскі, бо тады адразу прыгадваецца не сьвяты Язэп, Восіп, а аўстрыйскі імпэратар Іесіф 2-гі, у гонар спатканьня зь якім Кацярына 2-ая й пабудавала гэты сабор.

Цешуся, што паводля Вашае думкі я адразу знайшоў патрэбны для скрыптаў «тон», якога звычайна не прытрымліваюся ў сваіх фэльетонах для друку, на ўзор «Выкрунтасы фэльчара Абэвэгэдарава», «Жыве пагарджаны тэрсіт», «Тамтэйшыя нашчадкі Герастрата» і г. д. Тут, карыстаючыся вайсковай мовай, патрабуецца іншая тактыка, але... Мы-ж не «ўцекачы» і не «выгнанцы», а тым болей ня «ворагі народа». Мы — палітычная эміграцыя — крэўная частка свайго паняволенага народу. Адсюль мы зьяўляемся таксама законнымі гаспадарамі помнікаў рэлігіі, гісторыі й мастацтва на Беларусі. Нашыя продкі, дзяды ды бацькі іх стварылі, а таму мы арганічна ня ў стане ня рупіцца аб іхнім цяперашнім становішчы, не праймацца зь іхняга разбурэньня ды ня цешыцца зь іхняе аховы. Карацей кажучы, мусім удзельнічаць у дыскусыі аб помніках, як роўныя з роўнымі, не пытаючыся у іх (БССР-аўскіх калябарантаў) дазволу на гэтае. Аднак Вам усё гэтае, не сумняваюся, і без маіх меркаваньняў добра вядомае.

Калі працую над скрыптамі, дык імкнуся да таго, каб, нягледзячы на іншую тактыку, захаваць сваю літаратарскую апрычонасьць, свой сьветапогляд, свой стыль. Для апошняга, як мне здаецца, характэрна ягоная эмацыянальная афарбоўка, узьдзеяньне ня толькі на розум, але й, фігуральна кажучы, на сэрца. Адсюль і хачу, каб непазьбежныя ў маёй сэрыі факты, падзеі, даты, лічбы і г. д. арганічна спалучаліся з эмацыянальным, а часта-густа й падпарадкаваліся яму.

Аднак наразе патрэбна й кропка.

Шчыра зычу Вам і Вашай сям'і ўсяго найлепшага ад мяне й мае сям'і.

Пішэце, калі ласка, пры наяве часу й ахвоты.

Моцна цісну руку.

З пашанай да Вас

Ваш *Юрка Віцьбіч*

*Саўт Рывер, 28 студзеня 1970 года*

## ЗМЕСТ

**Сяднёў М.**

С 99 Масеева кніга: Успаміны, старонкі дзённіка, эсэ.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 318 с.

ISBN 5-340-01314-6.

Беларускаму чытачу імя Масея Сяднёва знаёмае па кнігах «Патушаныя зоры» і «Туга па радзіме», дзе апублікаваны празаічныя і паэтычныя творы пісьменніка, якому выпала ў свой час развітацца з Бацькаўшчынай і знайсці прыстанак у Злучаных Штатах Амерыкі. Новая кніга пісьменніка-эмігранта – усхваляваная споведзь пра скрушны выгнанніцкі лёс, расказ пра сустрэчы з дарагімі сэрцу мясцінамі праз дзесяцігоддзіростані, развагі пра творчасць беларускіх пісьменнікаў, старонкі перапіскі з літаратарамі эміграцыі і Беларусі.

С $\frac{8820600000 - 074}{М 302(03) - 93}$ 137—94

ББК 84 (4Бен)6

Літаратурна-мастацкае выданне

*Сяднёў Масей Ларывонавіч*

*МАСЕЕВА КНІГА*

*Успаміны, старонкі дзённіка, эсэ*

Рэдактар М. М. Мятліцкі
Мастак П. І. Іонаў
Мастацкі рэдактар А. І. Цароў
Тэхнічны рэдактар Г. Г. Федарук
Карэктар К. У. Дзмітрыенка
Аператар В. І. Барута

Падп. да друку 03.05.94.
Фармат 70x100 1/32. Папера афс. № 2. Афс. друк.
Ум. друк. арк. 13,0. Ум. фарб.-адб. 13,0. Ул.-выд. арк. 11,72.
Тыраж 5200 экз. Зак. 5347.

Набрана на настольна-выдавецкай сістэме.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.